# Маладосць

2

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**(675) ЛЮТЫ, 2010**

**Выдаецца з 1953 года**



**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Літаратура і Мастацтва», г. Мінск**

## У НУМАРЫ:



***ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ «МАЛАДОСЦІ»!***
***На І паўгоддзе 2010 года працягваецца падпіска.***

***Упершыню індывідуальная льготная — для настаўнікаў.***
***Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 5820 руб.***

***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731;***
***падпісная цана на 1 месяц — 9120 руб.***
***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 8150 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 11470 руб.***

Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютэрная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Яна ЯВІЧ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 10.02.2010. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 13,95. Тыраж 2730 экз. Заказ 388.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**



# «Фантаст» вернецца да чытачоў

***І** не толькі таму, што ў рэдакцыю да гэтага часу прыходзяць лісты ад чытачоў, прыхільнікаў прыгодніцкіх жанраў з пытаннямі: «Чаму перапыніўся выпуск “Фантаста”?» Самае галоўнае, напэўна, тое, што ў рэдакцыйным партфелі назбіралася шмат твораў — аповесцей і апавяданняў, напісаных у стылі «фэнтэзі» з самымі рознымі фантастычнымі сюжэтамі. Сярод аўтараў і Андрэй Паўлухін, і Алесь Бычкоўскі, і Сяргей Белаяр, і Генадзь Ануфрыеў, ды і зусім маладыя творцы, якія не стрымліваюць сваю фантазію. Зразумела, мастацка-літаратурныя фантастычныя творы можна друкаваць і асобна, не ў межах «часопіса ў часопісе», што мы і робім у гэтым нумары, друкуючы аповесць Сержа Мінскевіча «Рок @ нат». Але калі быў аднойчы заяўлены «Фантаст», дык не хочацца парушаць традыцыю, якая склалася ў мінулыя гады. Навука, і айчынная, і сусветная, робіць шмат адкрыццяў на мяжы фантастыкі, у што нярэдка нават цяжка паверыць, але факты застаюцца фактамі. Таму літаратурныя матэрыялы хочацца дапоўніць і навуковымі дасягненнямі, што можа стаць падказкай для пісьменнікаў у напісанні новых твораў.*

*Выпуск «Фантаста» рэдакцыя плануе на чацвёрты нумар. У ім жа будуць прэзентавацца творы, якія часткова складуць унікальную «Касмічную кнігу ў творах беларускіх пісьменнікаў», якая будзе выдавацца сёлета ў нашай Рэдакцыйна-выдавецкай установе «Літаратура і Мастацтва». Мяркуем, што выпускаў «Фантаста» будзе некалькі. Яны і складуць першую кніжку ў серыі «Фантаст», якая сваім выхадам адновіць часова перапыненую «Бібліятэчку «Маладосці». Ва ўсялякім выпадку, такія намеры ў нас ёсць. Усё астатняе будзе залежаць ад чытачоў, дакладней, ад іх заказаў на кніжку, з якіх і складзецца наклад.*

*Усё вышэйнапісанае — гэта наша будзённае рэдакцыйнае жыццё, дзе шмат планаў, задум, праектаў. Тое, што ўдасца здзейсніць, радуе. Але ў жыцці, на вялікі жаль, здараюцца і дні жалю. Такое крохкае і непрадказальнае жыццё чалавечае. Бачыш штодня чалавека ў гэтым жыцці, яшчэ сёння размаўляеш, нешта абмяркоўваеш, жартуеш... І раптам... Раптам жыццё абрываецца...*

**Дваццаць трэцяга студзеня заўчасна пайшоў з жыцця цудоўны паэт, тонкі лірык-філосаф, які ўмеў чуць слова і вельмі таленавіта працаваў з ім, Уладзімір Марук, да каго прыемна было звяртацца проста Валодзя, працавалі ж у адных калідорах, штодня бачыліся. У дванаццатым нумары «Маладосці» мы надрукавалі апавяданні Ганада Чарказяна ў яго перакладзе і чакалі ягоных вершаў, якія ён абяцаў прапанаваць рэдакцыі ў гэтым годзе. Заўжды спакойны, мудраразважлівы, ён быў надзвычай руплівы намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Полымя» і вельмі добры сябра ўсім, хто да яго цягнуўся душою. Глыбока смуткуем мы, смуткуюць усе супрацоўнікі нашай установы, а таксама аўтары, каму яшчэ зусім нядаўна ён даваў парады, з кім дзяліўся і сваім літаратурным майстэрствам, і вопытам, і талентам, смуткуюць сябры... Засталіся самотнымі яго кніжкі, якія недзе стаяць на бібліятэчных паліцах...**

**Нарадзіўся Валодзя Марук у вёсцы Гута Ганцавіцкага раёна ў 1954 годзе. У трыццацігадовым узросце стаў членам пісьменніцкага творчага Саюза, працаваў і настаўнікам, і карэспандэнтам, і загадчыкам рэдакцыі выдавецтва «Юнацтва». Не адну кніжку напісаў ён для дзяцей, маючы светлы позірк на жыццё і добрае сэрца, якое раптам не вытрымала таго самага жыцця...**

**Рэдакцыя «Маладосці» смуткуе і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім Уладзіміра Антонавіча Марука. А аўтарам і чытачам хочам нагадаць вельмі простую ісціну, што жыццё рэч няпростая і аказваецца такім кароткім. Трэба пра гэта помніць і, наколькі гэта магчыма, любіць, як сябе, бліжняга.**

З найлепшымі пажаданнямі—

Ф. Баравікова.



*Наста Грышчук нарадзілася ў 1991 г. у вёсцы Стаі Лепельскага раёна Віцебскай вобласці. Вучыцца ў Інстытуце журналістыкі БДУ. Друкавалася ў газетах «Лепельскі край», «Віцебскі рабочы», часопісе «Дзеяслоў». У «Маладосці» — упершыню.*

Наста ГРЫШЧУК

# АНЁЛЫ ВУЧАЦЦА ЛЯТАЦЬ

## АРЭЛІ...

Арэлі... Сонныя арэлі
Пад ветрам восеньскім рыпяць.
А мы з табою так хацелі
Ў далонях вечнасць затрымаць.

А мы не ведалі, што восень
Не стане пад дажджом чакаць.
Як дзіўна:
ў хмарах — неба просінь.

Арэлі сонныя рыпяць...

* * *

У ноч калядную Дзяды
Збіраюць зорныя пасевы,
Каб не пабілі халады,
Каб не астужылі залевы.
Збіраюць у льняны хатуль,
Нясуць за казачную Прыпяць,
Каб потым вызваліць адтуль
Ды ў ноч Купальскую рассыпаць.
Рассыпаць і чакаць,
Калі,
Калядныя пачуўшы спевы,
На Перуновае раллі
Узыдуць зорныя пасевы.

## АНЁЛЫ ВУЧАЦЦА ЛЯТАЦЬ...

Анёлы вучацца лятаць:
Нясмела распраўляюць крылы,
Упершыню спрабуюць сілы,
Уніз спалохана глядзяць.

Бяруць з аблокаў свой разбег —
І проста ў зорнае бязмер'е;
Зрывае вецер з крылаў пер'е.

А на зямлю злятае... снег.

* * *

Вёска. Лёгкі дым над камінамі.
Слота. Памірае першы снег.
Лістапад. Вятры нябачна скралі
Рэшткі сонца з пасівелых стрэх.

Вечар. Будзем мы паліць у печы.
Бэз у шыбы сінія шкрабе,
Патанае ў скрусе і сінечы,
Патанае ў восеньскай журбе.

Толькі ў хаце цёпла так і ўтульна.
Ціша. Пах вясковы. Абразы.
Нешта напяваючы, бабуля
Грабянцом прычэша валасы.

У бабулі — маладыя вочы,
А ў вачах — такі яскравы смех!..
Ды скарыцца зморшчынкі не хочуць,
І на скронях серабрыцца снег.

Як шкада, што гэты — не растане,
Не саступіць ніякім дажджам...
Вёска. Лёгкі дым над камінамі.
Дым, які нікому не аддам.

**ФЕНІКС**

Мяне ўва мне ты бязлітасна знішчыў.
Мой голас няскораны шэптам зрабіў.
А я... уваскрэсла!
Ты проста забыў:
Я – Фенікс, які узляцеў з папялішча.

* * *

Пазбегчы болю немагчыма,
Калі не камень у грудзях,
І носяць людзі за плячыма
І боль, і гнеў, і грэх, і жах.

Цяжар зноў ціsне, долу цягне,
Згінае плечы да зямлі...
Нам застаюцца толькі здані
Тых мар, што здзейсніць не змаглі.





*Дар'я Максімава нарадзілася ў 1987 годзе ў Мінску. Студэнтка Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (факультэт філасофіі і сацыяльных навук). У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.*

Дар'я МАКСІМАВА

# ДВА КАРОТКІЯ АПАВЯДАННІ

## СЛУХАЧ

Золкая восень... Сапсаваная...

Ад палёгкі і нават ад агіды, а зусім не ад раптоўнага надыходу зімы, скінулі клёны лісце. Яно, як у казцы пра Папялушку, ператварылася з прыгожых лапікаў з карункавымі бакамі ў бурыя лахманы з набраклымі, загрубелымі атожылкамі замест тонкіх, гнуткіх галінак. У такое надвор’е, кажуць, гаспадар сабаку з хаты не выганіць. Затое, сцяўшы зубы ды раскрыўшы парасон, вымушаны выгульваць таго ж сабаку ў няўтульным парку.

Жанчына цяжка апусцілася на мокрую лаўку. Натужліва перавяла дыханне і заплюшчыла вочы. Недзе ўдалечыні брахаў сабака — яе Чарлі.

Са-пса-ваная... Можа, і са-Пса... Хто разбярэ...

Па сцежцы павольна ішоў чалавек з непакрытай галавой. Цёмныя акуляры, запалыя шчокі пад тыднёвым шчаціннем, доўгі нос. Ён нікога не выводзіў гуляць — проста крочыў сабе кудысьці.

Ён спачатку хацеў прайсці міма: жанчына ўсё роўна яго не бачыла, сядзела, схіліўшы галаву, нібы нежывая. Але ў канцы лаўкі чалавек спыніўся, уздыхнуў і прысеў. Ён не павітаўся з жанчынай, яны не былі знаёмыя, а пабачыцца яшчэ раз, пэўна, і не здарыцца.

— Ну, расказвайце ўжо, што там у вас, — раздражнёна загадаў ён.

Жанчына ўздрыгнула і з жахам паглядзела на незнаёмца. Але той нават не павярнуўся да яе. Ён слепа ўглядаўся ў золак праз акуляры.

— Я слухаю, — варожа, з націскам паўтарыў ён.

Праігнараваць? Мо гэта проста п’яны? Ці ветліва адказаць, што расказваць ёй няма аб чым, і спакойна пайсці? І куды гэта, цікава, знік яе Чарлі?!

Позіркам шукаючы сабаку, жанчына разгублена маўчала — і раптам слёзы пырснулі з вачэй. Яна загаварыла хутка-хутка, усхліпваючы і шморгаючы носам, захлынаючыся канчаткамі слоў. Той, хто сядзеў побач, ведаў, што плача яна вельмі непрыгожа, зусім па-бабску, хоць і не глядзеў на яе.

Ды не дзеля таго, каб на яе глядзець, ён прыйшоў сюды. Не дзеля таго ён увогуле прывык хадзіць вечарамі і начамі і насіць чорныя акуляры ў любое надвор'е, псуючы зрок.

Ад яго патрабавалася толькі адно: слухаць. Пра мужа-алкаголіка, які ўжо год не працуе, пра маці пасля інсульту, пра сына, які залез у даўгі, пра сцяну ў большым пакоі, што цячэ, пра тое, што пачынаецца артрыт... Доўга і горача гаварыла жанчына, ламаючы рукі і ўвесь час папраўляючы паліто. Яна гаварыла і плакала ўсё гэтак жа непрыгожа, не хапала дыхання, але яна не магла спыніцца.

Ужо прыйшоў кудлаты згублены Чарлі і, пераняўшы хваляванне гаспадыні, тужліва завыў.

Чалавек цыкнуў на яго — сабака прыцішэў і забіўся пад лаўку. А жанчына ніяк не змаўкала, нібы баялася не паспець вывернуць душу.

Нарэшце, да вялікай палёгкі мужчыны ў акулярах, яна абмякла, нібыта паветраны шарык, з якога выпусцілі дух. Увесь твар і рукі ў яе былі мокрыя ад слёз.

— Дзякую вам, што выслухалі! – такім нечакана маладым і шчаслівым голасам лісліва падзякавала яна. Ён ведаў, што цяпер яна адчувае не проста палёгку, а шчасце. Выказаныя ёю праблемы яе ўжо не датычыліся. — Сапраўды, вельмі дзякую! Можа, я магу нешта для вас зрабіць?

Не адказваючы, мужчына ўстаў і хутка, амаль бегма, кінуўся прэч.

У наступную хвіліну яго ўжо ванітавала. Яго ванітавала чужым горам, бедамі гэтай жанчыны. Новыя і новыя хвалі накатвалі адна на адну, быццам гулялі ў квача…

Атрасаючы рукі ад бруднай пажухлай лістоты, што некалі была гонарам клёнаў, Слухач перажываў.

Вось дык собіла яму… Зрэшты, добра, што цяпер, пасля ванітаў, ён не памятаў ні слова з гэтай выпадковай сустрэчы: і жанчына, і яе надакучлівы сабака засталіся на восеньскім подсціле бруднай плямай. Гэта быў своеасаблівы механізм самаачышчэння атручанага арганізма. Інакш бы ён, Слухач, доўга не працягнуў… Яго справа — слухаць, а не хваляваціца. Хопіць з яго, што даводзіцца прапускаць праз сябе бясконцыя чужыя бядоты. А яны сапраўды бясконцыя! Ён бы з радасцю пагадзіўся, каб ніхто ў свеце не пакутаваў і каб ён, Слухач, застаўся без працы. Нязбытная мара…

Вось добра Дарадцу! Яму не трэба слухаць скаргі і словы адчаю, ён абрывае гэта ў пачатку і сам пачынае вярзці рознае глупства, накшталт: «Мацуйцеся! Трымайцеся! Менавіта так і рабіце!» Яму не так цяжка, як Слухачу, не так брыдка на душы, ён не адчувае сябе вядром для смецця, у якое звальваюць розную дрэнь… Яго не ванітуе потым чужым горам. У Дарадцы, праўда, потым камяні з нырак ідуць, але ўсё ж такі… Альбо Скаржніку таксама нічога! Яму наогул слухаць не трэба, наадварот, сам рві на сабе валасы ды расказвай людзям на хаду прыдуманыя гісторыі, каб ім свае беды дзіцячымі здаваліся. Праўда, потым, успамінаючы, што наплёў, Скаржніку ў запой даводзіцца сыходзіць. Таму што сорамна за хлусню, за выдуманае гора. І хутка ў яго будзе цыроз….

Затое не язва! Слухач дастаў з кішэні паўбутэлькі мінеральнай вады без газу і прагна да яе прыпаў... А Дарадца са Скаржнікам зайздросцяць яму, лічачы, што выслухоўваць лягчэй. Ні халеры яны не разумеюць!

Пустая бутэлька паляцела ў сметніцу.

Пачуліся цяжкія крокі. Нейкі стары ледзь рухаўся па сцежцы, абапіраючыся на кіёк.

Слухач правёў яго доўгім, не бачным за акулярамі позіркам. Хворы зусім…

Значыць, ізноў жоўцю ванітаваць будзе. Старэчае гора — яно такое непрагляднае… Слухач асуджана ўздыхнуў, здагнаў старога і падладкаваўся пад ягоную дрыготкую ходу.

— …Расказвайце, я слухаю…

## БЕССАНЬ

Мізансцэна: Акно — адно. Файна — «Віра!» ды «Майна!». Яна — ля акна. Вышыня — цішыня.

Бессань… Яна ні з чым не рыфмуецца. Прыходзіць, калі надумаецца, вымотвае душу і сыходзіць, без развітання, пакінуўшы замест падарунка чырвоныя, нібы збітыя, вочы.

Бессань, калі б яна была жанчынай, абавязкова фарбавалася б у істэрычны сіне-чорны колер. Каб рэзаць вачыма! Як бывае раніцай пасля знясільваючай, бессэнсоўнай усяночнай дзеля аднаго чалавека. Адной свечкі цалкам хапае для храма велічынёй з хатні пакойчык. Для маналога.

— Чаму ты маўчыш?

Знадворку халадэча ды слота, а ўсярэдзіне белы пялёстак агеньчыка раскідвае мяккія блікі на яе твары.

— Нешта здарылася?

За акном быў цэлы вялікі свет: з акіянамі, гарадамі і чужымі праблемамі, але цяпер яна бачыла ў ім толькі сябе, свой цёплы, амаль выпуклы адбітак на люстры шкла.

— Ты не хочаш са мной размаўляць?

Раздражнёныя недасягальнай блізкасцю сну, яе вочы станавіліся ўсё больш трывожнымі, і ўжо нават далікатнае мігценне свечкі здавалася цяжарам.

Але — яна зразумела гэта толькі зараз — патушыць свечку было страшна. Тады маленькі, але ўтульны свет яе мітрэнгаў раптам з хуткасцю знікаючага золку апынецца дробнай, згубленай часцінкай агіднага свету, дзе нікому няма да яе справы.

— Ты слухаеш?

Усхліп — і свечка згасла. Яна не змагла далей бачыць, як павольна набягаюць слёзы. І як нехта малюе гэтыя гаротныя зморшчыны ля ўласных вуснаў. Павольна, як на старой фотастужцы, праступае свет, змерзлы, абыякавы да чужой бессані. Няўжо не толькі ён?

— Я для цябе больш нічога не значу?!

Знясілены адсутнасцю сну і адказу мозг лёгка ды жалобна праваліўся ў бездань роспачы. На плечы націснуў невыносны цяжар, згорбіўшы і без таго скалiёзную спіну.

У гэты раз яна доўга маўчала, потым з рашучасцю падняла сухія ад невымоўнага болю вочы, што марацць аб адпачынку, да мутных, камякаватых аблокаў:

— ТЫ МЯНЕ БОЛЬШ НЕ ЛЮБІШ???

Бог маўчаў. Можа быць, у Яго проста не было бессані?..

Андрэй СУЗІНЬ



Андрэй Сузінь нарадзіўся ў 1987 годзе ў в. Лазы Талачынскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў гімназію № 1 г. Віцебска, пасля — геаграфічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Друкаваўся ў часопісе «Маладосць».

# ГОРАД

* * *

Без трох хвілін дванаццаць
Адчыняю вакно
(Холад сціскае горла).
Паветра рэжа
Бяздушным лязом
Карніз.
Колькі словаў
І думак
У гэтым годзе памерла!
Выкідаю
Яго праз акно
І гляджу ўніз.
А за годам
Ляцяць
Каханне,
Надзея
І тое,
Чым я дыхаў, — усё ў адзін
Вынішчальны экстаз…
Часам
Са смеццем
Выносіцца
Нешта святое,
Каб нашчадкі знайшлі
І не звалі
Бязбожнымі
Нас.

* * *

Жывеш — жыві не каб памерці,
Не для прыдуманых асноў,
Не для таго, каб страхам смерці
Асцерагацца ўласных слоў,
Не чадам дыхаць у нябёсы

І не разлічваць кожны крок,
А каб імчаць насустрач лёсу,
Хаця ў вачах цянюе змрок,
Не ў цішыні, не ў адзіноце,
Жыві апошняю крывёй,
Апошні дзень, з апошняй моцы,
З апошняй дзеўчынай тваёй,
Бо можа заўтра смерць атруціць
Апошні ўздых, апошні раз…
А хто не згодны — то даруйце,
Бо я жыву не дзеля вас!

**ВЕРАСЕНЬ**

Заўтра лета
З зімой сустракаецца.
Дрэвы
Жоўтую трывогу
Ўздымуць.
Неба будзе
Жалобна каяцца
Слязамі
Са смутку і дыму.
А каляндарны
Забыты цень
Прадасць нам
Лісты з нябыту —
За кожны
Забіты дзень —
Мільёны
Забітых літар!

**ВАЙНА**

Ты змагаешся
З горадам
За месца для жыцця,
Але горад
Колькі разоў
Перамог.
Ён кідае
Табе ў вочы
Абгарэлы сцяг,
Рэжа грукатам вушы,
Ты нібыта
Ван Гог.
Вежы касцёлаў —
Ваяўнічыя здані,
Ад якіх
Цягне
Гатычным дымам,
Як толькі яны
Нахіляюцца над вамі
З непадробным
Гарадскім
Інтымам.
Горад б’е цябе
Чэргамі,
Трамваямі,
Рэкламамі,
Хамамі,
Канцом свету,
Ты — абараняешся,
Але ён апранае
Жалезабетонныя
Бронежылеты.
Легчы — лягчэй,
Цяжэй — цягнуць,
Інячай
Станеш
Бяззубым сабакам.
Ёсць хвіліна.
Прысядзь адпачыць.
Да наступнай атакі.

Серж МІНСКЕВІЧ

# РОК @ НАТ*

***Фэнтэзі ++***

* * *

...*Сог і Свант* знешне былі падобныя, як браты-блізняты, і *некалі* яны былі блізкія духам. Браты-сябры. Выхоўваліся аднолькава. Рабілі адну справу. Але паступова гэтае *некалі* з кожнай іх чарговай, невядома ўжо якой па ліку, сустрэчай напаўнялася хвілінамі пагарды і непрыязі. Націск непрыкметна пераходзіў з «не» на «калі», і неўзабаве паводле падсвядомых законаў гэтае *некалі* цалкам пераўтварылася ў *ніколі*.

Бясконца доўга яны жылі ў адной абмежаванай прасторы, дзялілі свой замкнуты мікрасвет. І аднойчы адчулі, што зусім не сябры і, здавалася, ніколі імі не былі. Змяніліся паводзіны. З лексікону зніклі, нібы не было, словы вітання і ўдзячнасці, дый самі размовы сталі кароткімі, халоднымі і датычыліся толькі агульнай працы. Невядома, з чаго ўсё пачалося. Невядома, хто першы адчуў укол антыпатыі і хто вінаваты. Можа — час бясконцы, марудны, што прыкрай мухай, якая, як ні адганяй, усё роўна падлятае, казыча, раздражняе — непрыкметна накопліваў у душах абодвух кроплі нянавісці, якая прывяла ў рэшце рэшт да трагедыі...

* * *

...Тым часам жыў народ па берагах ракі ў даліне пладароднай. Баранчыкаў ён пасвіў, і скальных коз лавіў, і рыбу здабываў у моры Цэнтраземным. І вёскам — расквітаць, і святы быць маглі. Але штораз у год накатваліся навалай зграі варажнечы — падгорных ваяроў. Былі цяжкія бітвы, былі цяжкія страты. Забіты быў герой героем чужакоў.

Трывожны час настаў, вялікая даніна... І вось рыбак заўважыў, што мора чалавека на бераг вынесла. Ён быў высокі ростам, і гостры меч ён меў.

Стаў Мечнік для народа даліны пладароднай за новага героя.

І будзе зноўку бітва!

І новая гісторыя разгорнецца...

---

* Часопісны варыянт



*Серж Мінскевіч нарадзіўся ў 1969 годзе ў Мінску. Скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Працаваў у газеце «Культура», часопісе «Першацвет», цяпер малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры НАН Беларусі. Аўтар вершаваных зборнікаў «Праз Галерэю», «Мінскія санеты». Пераклаў на беларускую мову паэму А. Міцкевіча «Дзяды».*

* * *

Гэта здарылася ў далёкай-далёкай планетарнай сістэме...

Кожная далёкая населеная планета чакае гэтага здарэння, чакае як прадказанай і доўгачаканай сенсацыі. І прыходзіць чаканая сенсацыя нечакана, раптоўна, будзіць уяўленне, бянтэжыць розумы разумных істот.

Таму што будучыня сыходзіцца з цяперашнім...

Планета можа называцца па-рознаму, тым больш на розных мовах гукавы склад назвы гучыць неаднолькава, дый і сонца — таксама ў розных народаў мае розныя назвы...

На афіцыйна прынятай міжнароднай мове планета называлася Зея. Яе сонца — Тарлюс. Вакол планеты кружляў не адзін месяц, а два: вялікшы Сэнта — пылавая пустэльня аранжавага колеру, меншая Керменда — заледзянелы, амаль безатмасферны свет.

Сенсацыйная навіна, што віхурай пранеслася па Зеі і запоўніла ўсю яе інфапрастору, была прыкладна наступнага зместу.

...Аўтаматычны зонд «Арно-V» выявіў на паверхні другога спадарожніка — Керменды — дзіўную скалу, якая формай нагадвала гіганцкі арэх. Скала знаходзілася на дне ўпадзіны, напалову «ўрослая» ў адвечны лёд. Таўшчыня лёднага панцыра каля яе была значна меншая, чым паўсюль на Кермендзе, а добра бачныя «сплывы» сведчылі пра тое, што скала нейкім чынам растапляла вакол сябе лёд. Амаль ідэальная авальная форма і ўнутраная цеплыня Рок-ната — Скалы-арэха, як яе ахрысцілі журналісты, давалі падставы дапускаць, што гэта была пабудова альбо касмічны карабель невядомай цывілізацыі...

Праўда, скептыкі сцвярджалі, быццам такім чынам магла выступіць на паверхню лава вулкана, тым больш рэнтгенаўскі аналіз не мог выявіць унутранай будовы скалы. Але пасля таго як касманаўтамі Хартані і Корсам была знойдзена шчыліна, падобная на прыадкрыты ўваход — сумненні рассеяліся. Рок-нат — штучны аб’ект.

* * *

Важкія дзверы кабінета з шыльдай «праф. Глос» з лёгкім шыпеннем ад’ехалі ўбок.

— Прафесар, вы толькі паглядзіце! — шатэнка гадоў дваццаці ў лабараторным халаце, у пластыкавым капялюшыку хутка зайшла, амаль забегла ў кабінет і ўзняла над прафесарскім сталом сваю далонь.

З пярсцёнка на яе безыменным пальцы вырваліся промні святла і ўтварылі на стале экран, на якім высвецілася першая паласа газеты «Новы час».

Прафесар Глос сядзеў на анатамічным фатэлі і разглядваў складаныя малюнкі біясхем. Ён нават уздрыгнуў, калі ў полі зроку нечакана з’явіліся друкаваныя літары. Сівыя бровы, што бухматым снегам навісалі над масіўнымі акулярамі, зварухнуліся, позірк неахвотна адарваўся ад паперыны на стале і, міжволі замарудзіўшыся на ладных ножках дзяўчыны, што бачыліся з-пад фалдаў расхрыстанага ад хуткай хады халата, строга ўзняўся на саму лабарантку.

— Зноў Рок-нат, спадарыня Тасіч?

— Так! Сёння выкінуты робат «Ірконта»! А гэта не проста робат! Гэта думаючая машына пятнаццатага пакалення! — горача сказала дзяўчына.

Прафесар жэстам спыніў яе:

— Я ўжо казаў, што мы лабараторыя біясінтэзу, а не КБ новых робатаў. І вам, здаецца, растлумачылі, што ваша ідэя не можа мець практычнага ўвасаблення. Навука пакуль не ў стане аб’яднаць жывы альбо сінтэзаваны мозг чалавека і любы нежывы апарат, які б падпарадкоўваўся яму. Мозг, добры жывы мозг, не здатны існаваць без усяго арганізма.

— Вось менавіта! Без арганізма нельга!

— Што вы маеце на ўвазе? — прафесар развёў бухматыя бровы. — Вы хочаце сказаць... Паслаць жывы арганізм?

— Так!

Прафесар Глос адкінуўся на фатэлі: «Столькі людзей закідвае ўрад просьбамі дазволіць ім пайсці ў Рок-нат, і яна туды ж, моладзь неразумная і проста хворая на Рок-нат».

— Я сабрала дадзеныя па ўсіх трыццаці васьмі робатах, што выкінуў Рок-нат, — працягвала дзяўчына, — некалькі разоў супастаўляла расшыфроўкі рэштказў іх памяці і прыйшла да высновы, што нежывая машына не здольная прайсці.

— Урад Зеі не можа рызыкаваць жыццём чалавека...

— Вось мае разважанні, — лабарантка, няветліва перапыніўшы прафесара, націснула каменьчык на пярсцёнку, узнік іншы экран.— Глядзіце, далей за ўсіх прайшлі робаты трынаццатага пакалення, і вось «Ірконта» — пятнаццатае пакаленне. Гэта робаты, у якіх ёсць мадэлятар эмоцый! «Альтрус», трынаццатае пакаленне, самы капрызны, па меркаванню журналістаў, першы дайшоў да галерэйных ростаняў і больш упэўнена дайшоў да гэтых жа ростаняў «Ірконта». А робаты чатырнаццатага пакалення, іх канструктары ўвогуле адмовіліся ад эмацыянальнай функцыі, як і большасць астатніх, спыніліся на першых трох паваротах. Вось вам першая заканамернасць. Другая: ва ўсіх вышэйшых робатах, як бы іх ні хавалі пад вогнетрывалыя панцыры, у псіхаімітатарах пашкоджаны асноўныя элементы. І чаму Рок-нат прапускае іх строга «па аднаму»? Іх правяралі на псіхічную дзейнасць! Ёсць яшчэ шмат фактаў, якія паказваюць, — яна тонам вылучыла гэтую фразу, — робатаў падвяргалі аналізу на жыццё!

Прафесар змяніў на сваім даволі маршчыністым твары скептычную маску на зацікаўленую і ўважліва глянуў на экран.

— А потым, атрымаўшы адмоўны вынік, проста выкідвалі! — завяршыла лабарантка.

— Калі гэта і так, я ўсё роўна не магу паслаць нават сінтэзаванага сабаку, — сказаў прафесар. — Закон не дазваляе, а пакуль парламент разгледзіць... Лепей ужо няхай тэхнікі зробяць робатаў шаснаццатага ці дваццатага пакалення.

— Ні сабака... Ні тым больш робат! Ніякі робат, які б ён ні быў дасканалы — не пройдуць, яны не могуць параўнацца з разумным, багатым на эмоцыі чалавекам!

— І хто, па-вашаму, спадарыня Тасіч, акрамя сектантаў фанатыкаў, — тон прафесара стаў сур’ёзным, — пагодзіцца пайсці на смерць?

— Я!

— Вы не падыходзіце.

— Чаму?

— Таму што, па-першае, вы ведаеце нашую працу і эксперымент будзе не чысты, а па другое, мілая мая, — ён усміхнуўся, — які ў вас вопыт у практычнай спелеалогіі?

— Я, шчыра, не баюся! І я змагу патрэніравацца!

— Не.

— Я, я знайду добраахвотніка.

— Калі знойдзеце, тады і пагаворым! — прафесар усім сваім выглядам паказаў, што размова скончана. — ...Хаця вашыя матэрыялы перакіньце мне, я падумаю над шанцамі.

* * *

На спадарожніку Керменда была пабудавана вайскова-навуковая база, над Рок-натам у космасе павісла станцыя назірання.

Неўзабаве выявілася, што абшыўка іншапланетнага карабля створана з невядомага звышцвёрдага матэрыялу, які меў уласцівасць актыўнага антыдзеяння механічнаму пашкоджанню (ён выштурхоўваў накіраваныя ў яго буры), адлюстроўваў лазерныя промні, часткова паглынаючы іх энергію.

Стала зразумелым — сістэмы карабля працягваюць функцыяніраваць, што, само сабой, патрабуе ад навукоўцаў большай асцярожнасці.

Паўадкрыты ўваход стаў галоўным аб’ектам даследаванняў.

Робат, што накіроўваўся ўнутр, знікаў з радыёэфіру і праз пэўны час выкідаўся праз той самы ўваход у вельмі пашкоджаным выглядзе.

Якія толькі прыдумкі не складаліся пра Рок-нат! Шматлікія рэлігійныя секты, былыя і новастворaныя, дэкларавалі яго то карай Боскай і прызначалі, праўда, кожная ў свой дзень, канец свету, то абвяшчалі «брамаю раю», якая раскрываецца толькі перад душою праведнага чалавека. Касмічная патрульная служба ўвяла строгі кантроль палётаў, каб агарадзіць вайскова-навуковую базу ад рэлігійных фанатыкаў ці самагубцаў-аматараў.

Усе канструктарскія бюро і прыватныя вынаходнікі ўключыліся ў гонку па распрацоўцы звышустойлівых і «звышхітрых» робатаў, што здолелі б пранікнуць у нетры Рок-ната.

* * *

Элон Тасіч, узняўшы рукі, упала на мяккі ложак у сваёй спальні, некалькі хвілін папесцілася на пушыстай коўдры.

Яна крыўдзілася на прафесара, таму дазволіла сабе раскрыць шакаладку, хоць па раскладу прыгажунь часопіса «Ружа» сёння не быў салодкі дзень. Потым яна пачала перабіраць у галаве сваіх знаёмых, хто мог бы добраахвотна пагадзіцца пайсці ў небяспечную пячору, але хутка пераканалася — ва ўсіх яе сяброў, якія яны ні былі б адчайныя, не ставала той дзёрзкасці і мэтанакіраванасці, што, як лічыла Элон, меліся ў яе. Паступова, адкідаючы адзін за адным шляхі «заахвочвання добраахвотнікаў», яна прыйшла да самай натуральнай для яе натуры высновы — толькі сапраўднае каханне здольна абудзіць у чалавеку патрэбную адвагу.

Яна ўспомніла забаўнага акулярніка, які заўсёды корпаўся з прабіркамі, мензуркамі, мікраскопамі; узгадала, як ён глядзеў на яе ў тыя хвіліны, калі ў яго пад рукой не было аніякага лабараторнага прыстасавання, як ён праводзіў яе дадому і так жарсна распавядаў пра нейкіх аранжавых слімакоў.

Элон адключыла на відэафоне перадатчык выявы і набрала нумар.

— Флін?

— Так. Хто гаворыць?

— Ніхто.

— А чым магу...

— Нічым, — Элон націснула кнопку відэафона.

Яна па інтанацыі слоў зразумела, што Флін не падыходзіць, яго не адарвеш ад аранжавых слімакоў, ды які з яго спелеолаг.

Спелеолаг! Гэта было ключавое слова.

Закахаць у сябе, да вар'яцтва, спелеолага-адзіночку і цвёрда сказаць... Яна ўстала на ложку ў пastаве міфічнай каралевы Крэонды, паглядзела на сябе ў люстэрка і ўрачыста прамовіла:

— Я буду тваёй толькі пасля таго, як ты адолееш Рок-нат!

Яна засмяялася свайму жарту, але адклала недаедзеную шакаладку — трэба ўсё ж не расслабляцца і трымаць форму.

Элон увяла ў камп'ютэр праграму пошуку інфармацыі пра жывых, да 60 гадоў, спелеолагаў (бо пасля гэтага ўзросту яна не магла даць сабе гарантыі, што хтосьці пагодзіцца на такую даволі авантурную справу — пакахаць яе).

Пакуль яна чытала ў часопісе «Ружа» правілы паводзін падчас першай сустрэчы — «што рабіць, каб заваражыць і зачараваць», камп'ютэр выдаў інфармацыю.

Шэсць трохмерных фота спелеолагаў-адзіночак засвяціліся над ложкам. Трох Элон адкінула адразу — яны ўжо паспелі ажаніцца, а жанатых, хоць іх і неабавязкова зусім спісваць з рахунку, давялося б даўжэй апрацоўваць, а верагоднасць станоўчага выніку невялікая. Дый жонкі завішчаць, не пусцяць у Рок-нат. Пасля яе ўвагу прывабіў усмешлівы прыгажун, нібыта фільмавы суперагент Трымес. Спелеолаг быў сфатаграфаваны на пляжы ў вясёлай кампаніі маладых жанчын. На імгненне нарадзілася вострае жаданне: «Эх, як добра было б прымусіць гэтага сэрцаеда пабегаць за мною». Але раптам інтуіцыя электрычнай іскрай кальнула свядомасць, Элон убачыла суворы і пануры твар, пад якім стаяла: «Ял Днеж, прафесійны псеўданім Смоўж. 32 гады». Можа, каламбурна-біялагічная сувязь з тым акулярнікам дала той імпульс. Яна ўважліва ўгледзелася ў твар і адчула — выбар зроблены.

* * *

Рэстаран, пра які гаварыў Смоўж, аказаўся звычайным прыбярэжным барам на курортнай паўвыспе Карсіта, хаця даволі ўтульным, і Элон у крэмавым гарнітуры, што чароўна падкрэсліваў прыцягальнасць яе карых вачэй, выглядала занадта фешэнебельна. Яна адмыслова, у межах ветлівасці, спазнілася на дзесяць хвілін, але, агледзеўшы невялікую залу, не заўважыла ні за адным столікам Смаўжа. Яна надзьмула губкі — было шкада, што эфект з'яўлення зрабіў ураженне не на спелеолага-адзіночку, а на лысавата-таўставатага бармена, які нават без пэўнай патрэбы паправіў каўнер на кашулі.

Яна прысела за столік, адкуль добра было відаць мора.

— Што закажаце, спадарыня?

— Тонік. Адзін пакуль.

За шклом кубка далягляд рабіўся сферычным, што надавала мору трансвізуальны зменлівы выгляд. Скрозь хвалістыя відзяжы мора і неба Элон убачыла, як да пірса падышла беласнежная яхта і на прычал саскочыў Смоўж, загорнуты ў чорны марскі плашч. Спелеолаг здаваўся містычным ваяром.

Элон пазваніла яму ў той жа вечар, калі спыніла на ім свой выбар. Нагоду сустрэцца прыдумала, як кажуць, з ходу, хаця банальней не знойдзеш, аднак дзейнічае безадказна, — кожны «неда-азораны» спартсмен ці «неда-супергерой» прагне інтарэсу да сваёй персоны, — сказала, што яна карэспандэнт аднаго навуковага часопіса, а назву ўзяла з інстытуцкага бюлетэня «Сінтэз-неа»...

Смоўж пругкай хадой зайшоў у бар. Яго шыракаплечая постаць, праўда, ён не быў вельмі высокі, у чорным плашчы, нагадвала марскі ўцёс.

Ён кіўком галавы павітаўся з барменам, убачыў Элон, падышоў:

— Я інтэрв’ю не даю, — адразу і рэзка прамовіў.

— Але гэта не інтэрв’ю, — знайшлася Элон, — калі так можна сказаць, кансультацыя ў вас як спецыяліста. Чыста навуковая праца, бо вы ў адзіночку прайшлі грот Свімкенча ў Клоцкіх гарах на Сэнце...

— Даруйце, сёння на моры вецер, вялікія хвалі, — прамовіў ён глухім голасам.

Ял Смоўж быў сапраўды як на тым фотаздымку, пануры і відавочна няслова-ахвотлівы чалавек.

— Можна хвілін дзесяць?

— Роўна сем, да пачатку адліву...

Элон, нібы праз шчыльны калючнік, праціскалася праз аднаскладовыя адказы, цяжка выцягваючы словы пра яго дасягненні. Больш за ўсё злавала, што Смоўж зусім не звяртае ўвагі на яе прыгажосць. Яна таямніча заглядвала ў яго цёмна-сталёвага колеру вочы, прымушаючы адводзіць позірк, спецыяльна запаволеным рухам перакладвала адну нагу на другую, каб іх стрункасць прыцягнула яго ўвагу, некалькі разоў незнарок дакранулася да яго рукі, калі ён перадаваў ёй кубкі. Да роспачы Элон, Смоўж заставаўся халодным.

— Час ісці, — ён хутка падняўся і накіраваўся да выйсця.

Элон таксама падскочыла і, забыўшыся на жаноча-мужчынскі этыкет, пайшла за ім.

— Мне ўсё ж хацелася б ведаць вас бліжэй, — сказала яна, каб пакінуць нагоду для будучай сустрэчы.

— Паплылі! — бялкі яго вачэй бліснулі ў сутонні вечара.

Элон разгубілася, імгненна пачырванела, праўда, заход сонца схаваў гэта; ёсць жа правілы прыстойнасці — той далікатнай і часта бессэнсоўнай гульні, у якую ведаем, што гуляем, але цалкам не адкідаем...

— Не!

Смоўж моцна схапіў Элон за руку і літаральна пацягнуў на пірс, на яхту. Яна чамусьці не магла ні закрычаць, ні супраціўляцца, яе вострыя абцасы дробна тупалі за ім, правальваючыся ў пясок пляжа.

Потым Элон ляжала на тахце ў замкнёнай каюце і гадала, за каго ён яе прыняў. Страшны чалавек, калі ён да яе дакранецца... яна хацела адагнаць ад сябе гэтую думку, але жахлівая думка зноў і зноў узнікала. А тады... Было так крыўдна... Тады ўсё, усё прапала! Ён не будзе тым супергероем, здольным на подзвіг, на пакарэнне Рок-ната! Звычайны мужлан, маньяк-гвалтоўнік... Садыст... Як крыўдна! — грубай сілай... Хіба пасля ён пагодзіцца ісці ў Рок-нат?

* * *

Дом-замак, які ўзвышаўся над скалістым востравам, звонку нагадваў ракавіну малюска, з характэрным закручаным купалам, а знутры — бярлогу мядзведзя-пячорніка ці ў лепшым выпадку дзікуна-прачалавека. Шкуры драпежнікаў засцілалі падлогу, разяўленыя пашчы вялізных рыб выступалі з гранітных сцен. Пасярод залы гарэла вогнішча. Было незразумела, стылізацыя гэта ці ўсё натуральнае. Вось толькі кнігі, што стосамі там-сям ляжалі на шкурах, былі сапраўднымі, старымі, у тоўстых пераплётах, дый масіўныя пясочныя гадзіннікі паабапал вогнішча, над якім дыміліся духмянасці, таксама былі зробленыя ў даўно мінулыя эпохі.

— Размяшчайцеся, зараз будзе гарбата.

Элон акуратна прылегла бліжэй да вогнішча.

— Гэты замак — мадэль адной з вашых пройдзеных пячор? — спытала яна, каб трохі аслабіць цяжар прадчуванняў.

— Не. Гэта створаны мной ідэальны «Грот Духа». Зрэдку я тут займаюся медытацыяй. Глядзіце, — ён паказаў на столь — за паўпразрыстай сферай праступала вяршыня роўнабаковага тэтраэдра. — Мы з вамі якраз у цэнтры. Эфект піраміды. Там, дзе мы з вамі цяпер знаходзімся, канцэнтруюцца сілы прыроды.

Пасля гэтых слоў стомная санлівасць ахапіла Элон.

— А спіральны купал, — працягваў Смоўж, — вы напэўна паспелі яго заўважыць, улоўлівае і ўзмацняе сакральныя сілы Зямлі і космасу: магнітныя, гравітацыйныя, тарсіённыя, псіхічныя чалавека, жывёл, біяэнергетычныя раслін...

Элон адчула, што з усіх бакоў невідочныя лініі прыродных сіл абціснулі яе цела.

— Нічога, зараз будзе моцная гарбата.

У сцяне стварыўся прахон, вялікі пелікан, штурхаючы дзюбай, падкаціў да яе сервіраваны столік на колцах.

Забаўны выгляд пелікана трохі падбадзёрыў яе.

— Робат?

— Не, жывы, — Смоўж сказаў ці жартам, ці ўсур’ёз. — Частуйцеся, — ён узяў сваю філіжанку.

Напой быў салодкі і прыемны. Пасля трох глыткоў Элон адчула неверагодную лёгкасць.

— Цяпер вы ўбачыце тое, што бачыў я, прасягаючы нетры Зеі дый іншых планет.

«Грот Духа» знік, а перад Элон паўсталі выявы велічных падзямелляў. Яна ішла па бліскучым лёху, паўзла, караскалася, плыла, саслізвала па застылых ручаях і сталактытах. Пячоры пераходзілі адна ў адну: Зея, Сэнта, зноў Зея, падводны грот, трэцяя планета Аерс...

Элон цалкам знемагла.

— Адпачывайце. Ад-па-чы-вай-це, — голас з высокага рабіўся нізкім, працяглым.

Хоць не было моцы анічым паварушыць, яна не магла заснуць, ляжала на мяккай шкуры леапарда і шырока адкрытымі вачыма глядзела на вогнішча, за якім узвышаўся Ял Днеж, напружаны, моцны...

— Нетры планет хаваюць вялікія сілы. Я ўвабраў іх... Я перанасычаны імі... Я валодаю імі...

«А чаму вы адзін?» — не прамаўляла, думала Элон.

— Адзін?

— Самотны.

— Я не самотны… І зусім не адзін, я сам-насам з падзямеллем.

— А жанчына?..

— Жанчына... — яго вочы ўзбуджана ўспыхнулі. — Вы будзеце маёй...

Чыста рэфлексійна Элон хацела сцяцца, скурчыцца, стаць такім вожыкам, да якога не дакранешся...

— Але не цяпер... Пасля таго як я прайду Рок-нат.

— Рок-нат! — ад здзіўлення ў Элон як рукой зняло ўсе наркатычныя і гіпнатычныя міражы. — Я, я... шукаю чалавека, які згодны быў бы пайсці ў Рок-нат! Вы згодны!

— Я не згодны, я мушу! І я адзіны, хто можа гэта зрабіць!

Яна ўскочыла, паправіла свой гарнітур:

— О’кей!.. І выкіньце з галавы, што я буду вашай! Мне пара, у мяне праца ў лабараторыі.

Яна рванулася ісці туды, дзе, як думала, было выйсце. Ён жэстам спыніў яе.

— Забудзьце пра ўсё астатняе, — роўным і яшчэ больш глухім, як падалося Элон, голасам сказаў Смоўж, — вы будзеце жыць у гэтым замку і чакаць, калі я прайду Рок-нат.

— Вы звар'яцелі!

— Не. Ты сама знайшла мяне!

Яна страпянулася ад гэтага нечаканага «ты» і адышла на бяспечную адлегласць.

Ён не зварухнуўся і, амаль не гледзячы на яе, сказаў:

— Я разумею не толькі падзямелле, але і неба, спалучэнне сіл нябесных з сіламі зямлі дае шанц на адчуванне будучыні. Як толькі ўва мне нарадзілася жаданне прайсці Рок-нат, я атрымаў веды. Я адчуў, што сёння ў час адліву я знайду жанчыну, якая... — ён так паглядзеў на Элон, што яна пачала вачыма шукаць якую-небудзь зброю для абароны.

— Якая дасць мне апошняе...

— Не трэба, — ёй хацелася крычаць і плакаць адначасова, яна задрыжэла.

Смоўж, быццам нічога не пачуў, зрабіў крок да яе:

— Дасць мне апошняе ўзмацненне. Ты сказала праўду, маёй жанчыны ў мяне няма. Інтуіцыя жанчын апісана старажытнымі, — ён далонню паказаў на стос кніг, — чаканне і перажыванне жанчыны ў сваю чаргу дапамагае інтуіцыі мужчыны і ахоўвае яго ад небяспекі. Мне неабходна на гэты перыяд такая жанчына, і ты станеш ёй. Будзеш у мяне, у «Гроце Духа», маёй...

У вачах Смаўжа адлюстроўвалася полымя, нібыта зрэнкі гарэлі знутры, яны цалкам пачырванелі, ён узняў насустрач ёй рукі.

Апошнія кроплі спадзявання, што перад ёй не вар'ят і не маньяк, ашалелы ад містыкі, а звычайны, няхай трошкі своеасаблівы чалавек, пакінулі яе. І здавалася, што прытомнасць таксама вось-вось пакіне. Толькі сілай волі яна адганяла роспач і мярзотную да колікаў у жываце боязь. Яна адна сам-насам з фізічна дужым ненармальным мужчынам на невядомым востраве. А хопяцца яе не раней чым за дваццаць дзён — калі скончыцца адпачынак.

Ён ціхутка набліжаўся, яна адступала з вачамі-келіхамі, поўнымі атруты нянавісці. Гэтай атрутай яна хацела, як кобра, асляпіць яго і спыніць.

А потым яна спінай адчула гранітны мур.

Смоўж, сур'ёзны, з каменным тварам, ушчыльную падышоў да яе. Элон пачула яго дыханне. Але не смуроднае, як, яна чытала, бывае ў маньякаў, а даволі свежае, магчыма, ён перад тым, даволі разумна, з'еў пігулку адсвежача... Але гэтым яе не возьмеш! «Буду драпацца, кусацца, біцца з усёй моцы!» Яна ўжо адчула тонкі мускусны пах яго мускулаў, яны прагляділіся з-пад абцягнутай майкі. Гэты пах, выгляд іх, і страх, і нянавісць з прычыны такога бесцырымоннага прымусу хвалявалі і нават п'янілі яе.

Раптам сцяна, у якую яна ўткнулася спінай, ад'ехала ўверх. Элон упала ў іншы пакой.

У тую ж хвіліну сцяна апусцілася, але цяпер яна зрабілася празрыстай, так што Элон магла бачыць, як Смоўж прыціснуў да паверхні свае шырокія далоні. На левай, як Элон незнарок заўважыла, маленькай рэчкай бегла доўгая лінія жыцця.

— Вы ўвесь гэты час будзеце тут, — сказаў Смоўж. — Пелікан, ён загіпнатызаваны мною, прынясе вам ежу. Там ёсць аднабаковая сувязь — гэта значыць, вы будзеце ведаць, што адбываецца ў свеце, але перадаваць інфармацыю не зможаце.

Тое, што яна ў бяспецы, што нічога з ёй не зробяць, яна зразумела адразу, нават на міг адчулася драбнюткая шкадоба і прабудзілася вялікая цікавасць да чалавека насупраць.

— Гэта мая спальня, — сказаў Смоўж.

Яе зноў кальнуў спалох.

— Ложак новазасланы. Вам будзе добра...

Хіба яшчэ не ўсё? Хіба ноччу будзе працяг гэтай сцэны?

Але не...

— Гэтай ноччу я спаць там не буду, увогуле мяне тут не будзе, — сказаў ён, трошкі ўсміхнуўшыся.

Цяпер можна, цяпер яна адчула, што можна.

— Ды як вы смееце! — крыкнула яна. — Як вы смееце мяне трымаць у замкненні?! Мяне, журналістку вядомага навуковага выдання! Мяне, лабарантку вядомага прафесара! Мяне, якая мае столькі адкрыццяў! Выпусціце зараз жа!..

— Гэта зойме дзён дваццаць, — ён нават не ўслухоўваўся, сказаў такім чынам, быццам бы ведаў яе планы, ведаў пра ўзяты ёй адпачынак, — мне неабходна, каб мяне хтосьці чакаў... Жанчына.

І яна зразумела ўсю яго адзіноту, усяго яго, яго нутро — «валодаю сіламі зямлі і неба» — блеф, казка, прыдуманая ім, каб падмануць самога сябе. Ён ішоў на вялікую рызыку і як прафесіянал ведаў, што такое Рок-нат, ведаў, што гэта найвялікшае выпрабаванне ў ягоным жыцці. А тут — ніхто, аніхто яго не будзе ані чакаць, ані хвалявацца за яго, бо экспедыцыя будзе таемнай і незаконнай, хто ж яго туды дапусціць! Яму трэба спагада і спачуванне.

Яна крыкнула з усёй моцы:

— Выпусціце мяне! — а потым цішэй, і ўсё ж такі з мікраспачувальным тонам дадала, — а раптам вы не вернецеся?

— Маліцеся за мяне.

— Я не хачу быць тут! Я...

— У 3.00 за мной прыляціць Чынгро — вядомы між кантрабандыстаў капітан. Забяспечвае Сэнту і Аерс патрэбнымі таварамі... Калі хочаш, пабачыш наш адлёт, на піку майго замка я сяду ў яго зоркалёт. Памахаю табе рукой. Праз відэа, зразумела...

«Яшчэ 40 хвілін, каб быць на свабодзе, — падумала яна, — бо ён сапраўды паляціць на Керменду. А там яшчэ загіне, а я застануся тут...»

— Слухай, Смоўж, я дапамагу табе патрапіць у Рок-нат. Я маю сувязі і здабуду дазвол для цябе. Афіцыйны.

— Што ж вы, біёлагі, можаце?

— Уладкую цябе ў адну з нашых экспедыцый на Керменду, там павінен быць біяматэрыял.

Смоўж скептычна ўсміхнуўся:

— Трэба быць таксама абазнаным біёлагам, а я маю толькі досвед рэзанансу бія- і гравітацыйных хваляў... на ўласным арганізме.

— Ну вось, значыць, можна паспрабаваць, — у яе ўсмешцы прытойвалася ліслівасць.

— Не хачу казаць, бо прапусцяць навукоўца і са ступенню. Месцы абмежаваныя. Я разумею твае намаганні павысіць сваю значнасць як прыдатнага для экспедыцыі чалавека, але я ўжо сам вызначыў, што ты будзеш для мяне рабіць, — на апошнія словы ён зрабіў акцэнт.

— Добра, я раскажу, ты дарэмна гэтак думаеш. Я знаю, як абысці забарону… — яна пачала казаць хутка, як быццам бы знаходзілася ў сваёй лабараторыі, — мы

можам рабіць клоны, а закон забараняе ісці ў Рок-нат чалавеку, але не яго клону... Калі мы зробім твой клон, аднак ніхто не будзе ведаць, дзе клон, а дзе ты. Клон застанецца на Зеі, а ты пойдзеш у Рок-нат. Пройдзеш, вернешся пераможцам — ніхто цябе не асудзіць!

— А дзе розніца паміж клонам і чалавекам? Клон такая ж жывая істота, як іншы чалавек.

— Так, але закон Зеі як маланаселенай планеты разглядае жывы арганізм як прыродны банк унікальнага генетычнага матэрыялу і рэпрадуктыўны запас. Калі ў нас будзе твой клон, то кімсьці з вас дваіх можна будзе рызыкнуць...

Ён задумаўся, а можа, яго каменны твар прыняў звычайны для яго выгляд. Ён адказаў:

— Я не хачу і не люблю верыць людзям, звязаным з афіцыйнымі дазволамі. Сёння я палячу з Чынгро... Прабач, мне трэба падрыхтавацца.

У пячорнай зале адкрыўся лёх, Смоўж пайшоў у яго.

— Калі ты не выпусціш мяне, я буду праклінаць цябе. Наадварот, я буду думаць супраць цябе! Супраць таго, каб ты прайшоў Рок-нат!

— Адмоўнае пачуццё нашмат мацней станоўчага, яго сілы пройдуць праз любыя сцены. Ты ж будзеш думаць пра мяне...

— Не! Не!

Яна абхапіла галаву рукамі, быццам не пускала з яе свае думкі...

— Не буду!

Ён нават не азірнуўся і знік у паўзмроку лёху.

Элон нічога не заставалася, як прылегчы на «новазасланы» ложак.

Неўзабаве яна, напэўна, праз сон, убачыла, як ад піка «закручанай» гары адлятае вялізны касмічны карабель. «Мабыць, мае вялікую хуткасць» — апошняе, што падумала яна, пакуль сон цалкам не авалодаў ёю.

А раніцай наступнага дня яе малітвы спраўдзіліся.

Яна пабачыла на відэаэкране, як да той жа «закручанай гары» прышвартавалася маленькая касмічная шлюпка...

У залу ўвайшоў Смоўж, стомлены да такой ступені, што ледзьве трымаўся на нагах.

— Яны... — ён лаяўся апошнімі словамі, — настолькі ўзмацнілі арбітальны кантроль, што прарвацца было амаль немагчыма! «Жэнжора» — найлепшы карабель кантрабандыстаў — у палоне. Я ж не мог трапіць у палон!..

Потым Смоўж, здаровы чалавек, упаў на мядзведжую шкуру і праспаў чатырнаццаць гадзін.

Элон ненавідзела гэтыя гадзіны, яна ўвогуле ненавідзела абмежаванне яе ўласнае свабоды.

* * *

Прафесар Глос сядзеў за сталом у сваім кабінеце, прыкладна таксама, як і тыдзень таму, праўда, на гэты раз ён разглядаў на стале-экране матэрыялы, падрыхтаваныя Элон. У яго, відавочна, наспявала выснова — жывая разумная істота мае шанцы прайсці.

Дзверы кабінета расчыніліся.

— Добры дзень, прафесар. Знаёмцеся...

Прафесар адарваўся ад экрана, і яго акуляры адлюстравалі пануры, чэрствы пагляд Смаўжа.

— Фетрыян Глос, — ён прыўстаў і працягнуў руку.
— Смоўж, Ял Смоўж.
— Вельмі прыемна. Значыць, вы згодныя?
— Так.
— Добра. Тады вы спачатку павінны падпісаць паперу аб адказнасці за выдаванне сакрэтнай інфармацыі. А затым пройдзеце невялікі медагляд.
— Як пажадаеце.
Бюракратычныя фармальнасці занялі некалькі хвілін, і Элон правяла Смаўжа ў баракамеру.
Прафесар Глос сачыў за дадзенымі, што пасупалі на экран камп'ютэра. Усё, здаецца, ішло добра, бо ён кожны раз папраўляў сівы чуб і прыгаворваў:
— Выдатна. Проста выдатна.
Праз дваццаць гадзін медагляду і восем аднаўленчага сну Элон зноў прывяла Смаўжа ў кабінет прафесара.
— Ну што ж, малойца... Даруйце, спадар Смоўж. Вы ў выдатнай фізічнай форме, проста зайздросна. Віншую! — дабрадушнай усмешкай свяціўся твар прафесара.
Ледзь прыкметнай ухмылкай узняліся куткі вуснаў Смаўжа.
— Але, на жаль, прыміце нашыя прабачэнні, толькі што паведамілі: служба бяспекі прыпыніла правядзенне эксперыменту з жывой істотай, яны хочуць прыняць папраўку да закону.
Для Смаўжа гэта было нечаканасцю, аднак ён не падаў выгляду:
— Адкуль да іх прасачылася інфармацыя? — у глыбіні пытання Смаўжа адчуваўся недавер.
— Мы законапаслухмяныя грамадзяне, — спакойна адказаў прафесар.
— А пакуль папраўка не прынята, мы можам паспець?
— Не можам!
— Вы хлусіце, — Смоўж унікліва зірнуў на прафесара.
— Добра, калі хочаце... — бровы прафесара страпянуліся, — вы нам не падыходзіце.
— Як? — усклікнула Элон і трывожна глянула на паўпразрысты экран, што лунаў у паветры.
— Вы што? — гнеўна прамовіў Смоўж.
— Вы не падыходзіце паводле пэўных псіхічных паказчыкаў. Вось так. Ваша кандыдатура, на жаль, не праходзіць.
Прафесар Глос выявіў на сваім твары выраз непранікальнай праваты.
Смоўж зірнуў на прафесара з непрыхаванай пагардай:
— Ніхто, акрамя мяне, не пройдзе Рок-нат… — ён без развітанняў і не зірнуўшы на Элон выйшаў з кабінета.
— Вас ахоўнікі праводзяць, — сказаў яму наўздагон прафесар. — Не адчайвайцеся, калі ласка. Гэта для вас, для вашай жа бяспекі...
— Навошта вы чалавека пакрыўдзілі? — спытала Элон, калі за Смаўжом зачыніліся дзверы кабінета.
— Несумненна, ён мае экстрасенсорныя задаткі. Нават шкельцы звонку запацелі, — прафесар зняў акуляры і пачаў выціраць іх чыстай аксаміткай з футарала. — А псіхіка ў яго, нягледзячы на ўсю знешнюю хмурнасць, даволі неўраўнаважаная.
— Магчыма, гэта і лепей.
— Паглядзім. Заўтра пачынаем.

* * *

Ял Днеж Смоўж І у лёгкім скафандры асцярожна ступаў па глыбах, якія нагадвалі моцна адпаліраваны базальт. Ён з дапамогай інфрачырвонага бачання мог добра арыентавацца ў цёмных галерэях Рок-ната. У руцэ на ўсякі выпадак трымаў бластэр. Лазерны промень прыцэла абмацваў сценкі наперадзе. Боты былі на прысмочках і пакідалі за сабой люмінісцэнтныя маячкі, па якіх, ледзь што, можна было адшукаць дарогу назад.

Ён прайшоў тры павароты і ўбачыў ростані. Адзін калідор вёў налева, другі направа. Раптам з левага калідора выкульгаў пелікан — прамень бластэра адлюстраваўся ў яго зрэнцы, Смоўж І ледзь машынальна не націснуў на цынгель бластэра. Пелікан весела заківаў дзюбай.

— А, Кікі, прывітанне, — Смоўж І паспрабаваў уласным голасам супакоіць сябе — зняць нервовае напружанне.

Хвіліну ён не ведаў, на што адважыцца — ісці за прывідам-пеліканам ці не?

Пелікан міргаў сваімі вялікімі вачыма і ўвогуле выглядаў занадта ліслівым. Смоўж І шпарка пайшоў ад яго ў правы калідор. Уваход пераўтварыўся ў вялізную пашчу акулы, вострыя сталактыты, пераліваючыся рознымі колерамі, нібы паўночнае ззянне, засвяціліся ў паўзмроку. У любы момант гэтыя зубы маглі працяць таго, хто праходзіць пад імі. Смоўж І, не азіраючыся, прабег пад пашчаю. Апынуўся на вузкім каменным пераходзе — грэбні падземных гор, ланцуг розных — вострых ці пляскатых, нібыта «зрэзаных», вяршынь, якія ўзнімаліся прыкладна на адным узроўні ў адлегласці некалькіх крокаў адна за адной, абапал іх — стромкія каменныя схілы, што знікалі ў чорнай бездані. Грэбень падземных гор вёў у глыбіню велізарнай пячоры і губляўся ў далёкай дымцы светлага далягляду.

На адной з такіх «зрэзаных» вяршынь, падобнай на авальную скалістую пляцоўку, з чорнай цемры, якая клубамі напаўзала на скалы, матэрыялізаваўся волат, на галаву вышэйшы за Яла Днежа, чорныя даспехі пакрывалі яго магутнае цела.

— Я Архатор.

Смоўж І адчуў, як яго скафандр таксама пераўтварыўся ў рыцарскія даспехі. А бластэр у яго руках выцягнуўся ў сталёвы меч з двухбаковавострым лязом сіняга адліву:

— Я ведаю цябе, валадар цемры, я прымаю твой выклік! — Смоўж І моцна сціснуў рукою металічнае дзяржальна.

Гэта быў прыгожы двубой! Са звонам скрыжоўваліся мячы, россыпамі ўспыхвалі іскры. Ваяры збліжаліся і разыходзіліся, цяжкія крокі аддаваліся ў пропадні, і цемра напружана гула.

Смоўж І амаль не саступаў Архатору, хаця яго ўдары і не былі такімі магутнымі, ён пераўзыходзіў свайго ворага па лоўкасці. І вось Смоўж І хуткім выпадам падмануў волата і абрушыў страшэнны меч на яго плячо. Але меч прайшоў скрозь цела Архатора, не прычыняючы аніякай шкоды рыцару цемры, зазвінеў на камені.

Смоўж І разгубіўся і ў той жа момант прапусціў стрэчны ўдар. Меч Архатора глыбока ўвагнаў рассечаныя латы ў цягліцы сцягна Смаўжа І. Той упаў на адно калена.

Другі ўдар працяў торс Смаўжа І.

Архатор узнёс рукі ўгору, яго пераможны крык рэхам разляцеўся па падземнай зале.

Апошнім адчайным размахам мяча Смоўж І рассек панцыр Архатора, а вастрыё мяча глыбокай драпінай перакрэсліла малюнак чорнага трохкутніка, што прагалам самае цямнечы зеўраў на латах ворага. Архатор так, з узнесенай над галавой зброяй,

усёй сваёй постаццю замільгацеў, як чорнае полымя свечкі, пераўтварыўся ў клубок цемры, які з хрыплаватым шыпеннем, паступова змяншаючыся, знік у прасторы.

Смоўж І доўга-доўга ляжаў на камені, глядзеў туды, дзе ў бялёсай усеахопнай смузе паступова губляўся грэбень падземных гор.

Са смугі паўстаў міраж — маладая панна ў белым строі...

* * *

Ял Смоўж ІІ падышоў да ростаняў. З левага калідора выступіў пелікан і заківаў дзюбай.

— Кікі!

Аднак Смоўж ІІ не прыняў запрашэнне пелікана і хутка пайшоў у правы калідор, не паспеўшы заўважыць, як з’явілася над галавою пашча акулы.

Ён ледзь спыніўся перад чорнай безданню і застыў ад дзівоснай карціны.

Проста перад яго вачыма размерана, адна за адной, узнімаліся з цемры вяршыні падземных гор. Ланцуг іх цягнуўся далёка за далягляд, здавалася, імкнуўся дасягнуць далёкага бірузовага воблака, што паступова набліжалася. Але замест клубоў пары ўнутры воблака павольна перакульваліся, разварочваліся твары людзей. Воблака плыве, напаўзае на вяршыні скал, не спыняецца, плыве далей, павялічваецца. Твары людзей то ўсміхаюцца, то плачуць, нібыта жывыя тэатральныя маскі. Твары старых, твары маладых, твары дзяцей. Стогн, крык, плач, смех, енкі...

Твар старой жабрачкі, у цэнтры, прашаптаў невядомы яму заклён.

Смоўж ІІ збянтэжыўся, адступіў.

Воблака ўспыхнула зыркім полымем, ён убачыў постаць дзяўчыны ў белым, што прайшла праз воблака і знікла за ім.

Неўсвядомлены жах ахапіў Смаўжа ІІ, ён падаўся назад... Пашча гіганцкай акулы самкнулася...

* * *

Ял Смоўж ІІІ прайшоў тры павароты і апынуўся на ростанях. З левага калідора выступіў пелікан і заківаў дзюбай.

— А, Кікі...

Смоўж ІІІ не ведаў, на што адважыцца — ісці за пеліканам ці не?

Ён падышоў да правага калідора, але яго ўваход пераўтварыўся ў пячорную арку, з якой звісалі вострыя ледзяшы.

— Кік-кік-кік, — завішчаў пелікан.

— Добра, іду.

Смоўж ІІІ пайшоў за пеліканам. Той ішоў вельмі хутка і неўзабаве знік за паваротам. Калідор спіральна ўзнімаўся, як купал «Грота Духа». Зрэдку ён звужаўся так, што спелеолагу даводзілася паўзці, потым зноў пашыраўся.

Знянацку ў сцяне з цёмнай плямы ўзнік твар яго маці.

— Ідзі назад, сынок! Назад!

Яна пачала плакаць. Слёзы, якія павольна цяклі па яе шчаках, пацямнелі і пачалі выядаць, нібы кіслатой, скуру…

— Хадзі назад! Сынок!

Смоўж ІІІ адчуваў, што назад нельга! Назад — значыць адступіцца. Не азіраючыся, ён пасоўваўся наперад, але прывід з той жа хуткасцю плыў па сцяне за ім.

У другой сцяне паўстаў ва ўвесь рост яго бацька. У руцэ ён трымаў пугу.

— Я сказаў, ідзі дамоў! Чуеш?!— ён пагражаў вялікім кулаком.

Затым замахнуўся. Смоўж ІІІ адчуў, як па скафандры хвоснула. Ён міжволі адхінуўся да супрацьлеглай сценкі.

— Ідзі назад!

— Дамоў!

Потым ён убачыў сваю стрыечную сястру, якая шмат гадоў таму загінула ў аўтакатастрофе. А затым яго прывітаў сябра-спелеолаг, што знік без вестак у Прорве Мёртвых Ваўкоў.

Сябра гучна крыкнуў:

— Стой!

— СТОЙ! Стой! ..ой!— паўтарыла рэха.

З рэхам зніклі прывіды.

Ненадоўга.

За паваротам замест валуна ўзнікла старая жабрачка, якая рыпучым голасам прапанавала паваражыць яму. Ён не спыняўся, тады яна ўхапілася за яго нагу і павісла на ёй.

Смоўж ІІІ, не спыняючыся, стараўся атрэсці яе. Быццам трохмерная мазаіка, яе выява мігатліва, рознавялікімі кавалкамі адпадала і пераўтваралася ў сінія размывы ценю.

Ён пабег.

Бег, пакуль праз некалькі ўзроўняў у спіральнай пячоры не з’явілася белая панна.

Смоўж ІІІ спыніўся.

Панна цалкам перакрывала лёх, а за спінай Смаўжа ІІІ апусцілася гранітная сцяна, замураваўшы дарогу назад. Ён падаўся наперад, спатыкнуўся аб каменны парог і нечакана прайшоў скрозь панну.

Насамрэч Смоўж ІІІ дасягнуў апошняга ўзроўню пад’ёму. Але затрымаўся на ім толькі на секунду, бо, як яму падалося, каменная спіраль крутнулася, правалілася, пераўтварылася ў прасторавую ўлонку, ён на імгненне ўбачыў бела-ружовы хвост Кікі.

Пелікан хутка ляцеў уніз, у светлую бездань, над ім павольна кружляла вялікае пяро: струмень паветра вырваў яго з хваста птушкі. Смоўж ІІІ згубіў раўнавагу і пачаў падаць. Як распалены цвік, кінуты ў кавалак масла, ён імкліва прасякаў паветра. Пяро пелікана пераўтварылася ў белую яхту, падхапіла Смаўжа ІІІ, перакулілася, і дзіўным чынам дагары кілем яхта паплыла насустрач святлу.

Прыціснуты спінай да палубы, ён бачыў пад сабой далёкія вобразы... Горы, рэкі, акіяны, азёры, гарады...

Яхта ўдарылася ў рыф-сталактыт, перакулілася і распасцерлася ў мядзведжую шкуру, па якой споўз на падлогу Смоўж ІІІ.

Ён пазнаў свой «Грот Духа». Праз імгненне грот рассыпаўся і, перад тым як распыліцца ў цемры, успыхнуў тысячамі іскрынак...

* * *

У біялабараторыі прафесара Глоса панаваў смутак. Супрацоўнікі не маглі глядзець адно аднаму ў вочы, яны адчувалі цяжар віны — тры смерці! Хаця юрыдычна ніхто не мог абвінаваціць іх. Чалавек сам вырашыў ісці на смяротную рызыку. А яго клон, на лабараторным слэнгу — дубль, таксама чалавек, толькі не народжаны жанчынай, а створаны ў пэўны момант свайго лёсу рукамі біёлагаў, быў амаль што ідэнтычнай копіяй арыгінала і, як паўнавартасная асоба, меў права адмовіцца, не

ісці. Праўда, для чысціні эксперыменту дублю не паведамлялі пра яго папярэдніка — кожны з іх адчуваў сябе сапраўдным Ялам Днежам з прафесійным псеўданімам Смоўж.

Безумоўна, тут была доля несправядлівасці як адносна самога Яла Смаўжа, які не ведаў пра копіі і яўна не захацеў бы ні з кім дзяліцца сваім мінулым, так і адносна яго дубляў, якія прэтэндавалі на ўсё гэта. Але важнасць эксперыменту адкладала ўсе пытанні на час яго заканчэння, тым больш служба бяспекі, пад кантролем якой знаходзіліся аперацыі па Рок-нату, заручыла лабараторыю, што кампенсуе прэтэнзіі пакрыўджаных бакоў.

Тым не менш, калі Рок-нат выкінуў растурзаны, аплаўлены скафандр Смаўжа III, а вылічэнні пераканаўча паказвалі, што яго здзіралі з мёртвага цела, якое, мабыць, з-за арганікі было пакінута ў чэраве аб’екта, з Элон здарыўся нервовы зрыў, і дактары настойліва парэкамендавалі ёй адпачынак.

Эксперымент спынілі, адмоўныя вынікі лічыліся доказам, што чалавек таксама не можа пранікнуць у гэты аб’ект чужой цывілізацыі. Усе сакрэтныя матэрыялы па ім былі перададзены ў вышэйшую камісію даследаванняў Рок-ната.

Дзіўным чынам павёў сябе прафесар Глос, ён тайна сабраў усю здабытую падчас эксперыменту інфармацыю, таксама ўзяў адпачынак і з’ехаў у свой загарадны дом, у цішу хвойнае пушчы.

* * *

Элон прыехала на адпачынак да сваіх бацькоў. Яна старалася не думаць пра трагедыю, якую міжволі справакавала, пагарджаючы высокай ступенню рызыкі для выпрабавальніка.

Элон з ахвотай займалася з маці ў кветкавых аранжарэях, рассаджвала, сачыла за тэмпературай, апыляла расліны. Кветкі супакойвалі яе.

У цэнтры маленькага ўласнага парку пры доме яна зрабіла земляны пагорак і пасадзіла тры клёны. Гэта было яе прабачэнне і помнік тым, хто быў створаны людзьмі і загінуў за іх.

Маці і бацька песцілі яе, быццам маленькую, хаця яна і была маленькай — толькі 23 гады. Як у дзяцінстве, Элон з бацькам хадзіла на рыбалку і нават злавіла вялікага залатога карася, каталася з падлеткамі на роварах па гарадку, а ўвечары маці расказвала прыцішаным, таму страшна важным, голасам наіўныя апавяданні пра мясцовае жыццё.

І вось калі да яе вярнуўся спакойны настрой і першае дарослае перакананне, што на свеце няма нічога лепшага за родны дом і родных людзей, салодка прамурлыкаў відэафон.

— Элон, гэта цябе, — сказала маці.

На экране з’явілася сур’ёзная фізіяномія прафесара Глоса.

— Элон, тэрмінова прыязджайце да мяне, у мой лясны спрат. Мне трэба з вамі нешта вельмі важнае абмеркаваць.

* * *

Прафесар Глос неяк сутаргава правёў Элон у сталовую, наліў кавы.

— Я праседзеў некалькі бяссонных начэй за камп’ютэрам, правяраючы сваю гіпотэзу. Мы на парозе значнага адкрыцця. І я думаю, вы мне дапаможаце, таму я запрасіў вас сюды.

Элон не першы раз бачыла прафесара апантаным ідэяй, але цяперашні выгляд яго красамоўна сведчыў, што яе навуковы кіраўнік насамрэч ведае ці, прынамсі, стаіць на парозе ведання чагосьці вельмі значнага.

— Перадусім я хачу, каб вы мне адказалі, ці можаце вы яшчэ раз вытрымаць псіхалагічнае выпрабаванне, накшталт таго, што вы мелі зусім нядаўна.

Трывога закралася ў яе сэрца, але яна адказала:

— Так.

— Не, вы добра падумайце, бо мы абавязаны будзем патаемна зрабіць чацвёрты дубль і паслаць яго ў Рок-нат!

Зноў!..

Цяпер яна завагалася.

— А наколькі гэта рызыкоўна для яго?

— Рызыка застаецца, але гэта апошні шанц, бо я здагадваюся, што вырашаць на вышэйшай радзе.

Яна насцярожана паглядзела на прафесара.

— Добра, я буду вам дапамагаць.

— Я ведаў, што вы пагодзіцеся. А цяпер прашу вас. Прашу. — Ён так настойліва гэта прамовіў, што Элон сорамна было дапіваць сваю каву.

Яны прайшлі ў кабінет, які нагадваў інфармацыйна-вылічальны цэнтр. На экране ўзніклі рознакаляровыя ломаныя лініі са стрэлкамі.

— Што гэта?

— Гэта маршруты дубляў унутры Рок-ната.

— Як вы іх зрабілі?

— Ну, гэта было не вельмі цяжка, трэба падзякаваць майму старому сябру Эду Журану. Ён спецыяліст па кібергеалогіі, мадэліруе планетарныя працэсы: сейсмалагічныя, тэктанічныя, вулканічныя і гэтак далей, няважна... Падэшва ботаў дубля была створана са слаёў адчувальных крышталёў, якія мяняюць сваю мікраструктуру ў залежнасці ад характарыстыкі паверхні, па якой ступае чалавек.

— І вы іх расшыфравалі.

— Не, іх расшыфравалі ў лабараторыі прафесара Журана, а я іх супаставіў з псіхалагічным станам дубля.

— З псіхалагічным станам?

— Рэч у тым, што з падобных крышталікаў былі зроблены і пальчаткі. Мы атрымалі пачасавыя адбіткі стану яго далоняў — тэмпературу, ціск...

— Падобна да дэтэктара падману?

— Так. Карацей кажучы, паводле гэтых дадзеных, — працягваў прафесар Глос, — мы можам аднавіць карціну паводзін чалавека і растлумачыць іх псіхічным станам. На маршрутах дубляў можна вылучыць некалькі месцаў анамальных фізічных і псіхалагічных рэакцый.

На лініях і стрэлках, што былі на экране прафесара, загарэліся чырвоныя кружкі.

— Можна дапусціць, што дубль у гэтых месцах падпадаў пад псіхічнае ўздзеянне. Яно было настолькі моцным, як, напрыклад, на гэтых ростанях, — прафесар паказаў на зыркі чырвоны авал, — тут Смоўж II відавочна хацеў павярнуць налева, але ўсё роўна па невядомай нам прычыне павярнуў направа. У некаторых месцах дублі пачыналі скакаць, круціцца на месцы… Хутчэй яны гэта рабілі пад уздзеяннем гіпнатычных галюцынацый.

Чалавечак, што ўзнік на экране, паўтарыў паводзіны спачатку Смаўжа I, потым — II і III.

— Другі амаль паўтарае першага, — адзначыла Элон.

— Я таксама гэта заўважыў. Нават характар смерці першага і другога падобны — моцныя канвульсіі, нібы іх праціналі. Падрабязны аналіз навёў мяне на думку, што Рок-нат падбірае псіхалагічныя ключы да свайго госця, іншымі словамі, выпрацоўвае імунітэт, а потым, як звычайны арганізм, распраўляецца з іншародным целам.

— Пачакайце, вось чаму ён пакідае ў сабе арганіку... Гэта жывы арганізм?

— Я спачатку таксама падумаў, як і вы, але, здаецца, усё больш складана. Калі б гэта быў жывы арганізм, навошта яму тэсціраваць прышэльца? Ён бы адразу з'еў ці выплюнуў, як рабіў гэта з ніжэйшымі робатамі, хаця гэткую версію таксама нельга выключаць, я думаю, праўдападобней, што Рок-нат можа прапусціць у сябе, і, мусіць, падпарадкавацца не проста жывой ці разумнай істоце, а той, якая валодае здольнасцю хуткай псіхалагічнай зменлівасці і моцным інтэлектам. Здаецца, што Рок-нат, нібыта пёс, шукае сабе гаспадара...

— Ваша тэорыя гучыць даволі цікава, але трэці дубль прайшоў іншым шляхам і, як бачым, нашмат далей, чым першыя два. А загінуў ён, быццам абарваўся ў прападню. Зусім па-іншаму, хаця ён таксама зроблены з таго ж самага інфармацыйнагенетычнага адпаведніка.

— Я думаў над гэтым пытаннем, і мне было цяжка знайсці тлумачэнне. Рэч у тым, што дублі ніколі не бываюць цалкам ідэнтычныя, заўсёды ёсць сотыя долі пагрэшнасці. А чалавек вельмі складаная біялагічная сістэма. Смоўж III да ростаняў паўтараў I і II, і на саміх ростанях ён спачатку павярнуў направа, а потым пайшоў налева. І вось тут мяняецца сам прынцып псіхічнага ўздзеяння, — прафесар Глос зрабіў паўзу, каб перавесці дыханне, — дубль усё часцей і часцей кудысьці ўзіраецца, глядзіць на падлогу, сцены, відавочна, ён бачыць відзяжы — што гэта? Галюцынацыі? Успаміны? Рок-нат прабраўся ў яго свядомасць і падбірае ключ! Але ён не падыходзіць... Трэба знаходзіць новы і гэтак далей... Пакуль, нарэшце, псіхалагічна цалкам не адкрые госця і не авалодае ім... Мы абавязаны пасласць Смаўжа IV!

— Прафесар, але не здаецца вам, што туды трэба паслаць іншага, бо Рок-нат усё ж выпрацаваў імунітэт на Смаўжа?

— Не, новы чалавек можа не вытрымаць барацьбы. А схема барацьбы Рок-ната супраць Смаўжа нам ужо даволі вядомая, і мы можам падрыхтавацца да супрацьдзеяння, зрабіць новаму дублю, як сапраўднаму смаўжу, псіхалагічны схоў, у які ён заўжды можа схавацца. Акрамя таго, наш дубль не павінен быць, вобразна кажучы, грубай бактэрыяй, а павінен болей нагадваць зменлівы вірус і падпарадкоўваць Рокнат свайму розуму. Безумоўна, калі чацвёрты дубль будзе больш ідэнтычны арыгінальнаму Смаўжу ці першым дублям, на які ў Рок-ната выпрацаваны вельмі моцны імунітэт, то нам не прамінуць правалу. Але мы зробім чацвёрты дубль не з дадзеных самога арыгінала, а непасрэдна з дадзеных III дубля, дадамо псіхалагічныя вартасці папярэднікаў і тым самым значна павялічым верагоднасць не толькі выжывання, але і шанцаў на перамогу...

* * *

На наступны дзень прафесар Глос і Элон выйшлі на працу.

Прафесар увесь тыдзень рыхтаваў заключны даклад па эксперыменту для вышэйшай навуковай рады, а Элон дапамагала яму, правяраючы ўсе вылічэнні, рэдагавала тэкст. Спасылаючыся на тое, што ім неабходна завяршыць сваю працу своечасова, яны працавалі і пасля рабочага дня, але калі ў будынку біялабараторыі

нікога не заставалася, акрамя вартаўнікоў, яны, нібы змоўшчыкі, ціха пракрадваліся ў цэх сінтэзу і рыхтавалі матэрыял для Смаўжа IV.

Аднойчы вечарам яны занялі свае месцы за пультам кіравання.

У вялікай авальнай зале стаяла шкляная капсула, падобная да верацяна, запоўненая алейнай вадкасцю. Цьмянае святло месяца, што пранікала праз адзіны ілюмінатар, мякка разлівалася па глянцавай паверхні яе корпуса.

— Ну што, гатова? — прашаптаў прафесар.

— Так.

— Увага, запускаем... — ён уключыў падачу энергіі.

Капсула засвяцілася.

— Пайшлі дадзеныя!

— Даю! — пальцы Элон хутка прабеглі па клавіятуры.

Капсулу працялі тонкія блакітныя промні ў выглядзе літары «Х», вадкасць марудна, а потым усё хутчэй і хутчэй пачала пераварочвацца, завіхрацца вакол промняў.

— Пайшоў матэрыял!

Вадкасць пабарвавела. А праз хвілю на промневым каркасе пачалі стужкамі выкладвацца клеткі будучага арганізма, што ўтвараліся ў вадкасці, неўзабаве можна было распазнаць косткі шкілета, потым на іх пачалі намывацца мяккія тканкі.

Пад раніцу наступнага дня ў капсуле ляжаў аголены мужчына — блізня Яла Днежа па мянушцы Смоўж. На экране было бачна, як пульсуе сэрца, як кроўю амываюцца органы.

Калі ўсе праграмы тэстаў былі завершаны, узровень вадкасці паціху пачаў ападаць і мужчына, яшчэ слаба, першы раз сам удыхнуў сваімі лёгкімі...

Пад вечар наступнага дня прафесар Глос сказаў толькі адно слова:

— Усё, — што азначала «ўсё прайшло добра», аднак выгляд прафесара напалохаў бы супрацоўнікаў — узлахмачаныя валасы і чырвоныя ад бяссонніцы вочы.

Элон напалохала б іх не менш: растрапаная, сінія кругі пад вачыма.

Але абое былі шчаслівыя, бо задаволеныя сваёй працай.

Прафесар уласным ключом закрыў цэх біясінтэзу:

— Праз дваццаць чатыры гадзіны ён прачнецца. Чалавек ёсць, і факт яго жыцця ніхто не адменіць. Сёння асістэнты зоймуцца ім. Да заўтра.

* * *

— Ну што ж, малойца... Даруйце, спадар Смоўж. Вы ў выдатнай форме... Вы прайшлі наш медагляд, праўда, ён заняў даволі шмат часу. Нам трэба было дасканала вывучыць ваш арганізм. Віншую... — прафесар Глос працягнуў руку Ялу Смаўжу IV.

Уся сцэна, уся мэбліроўка кабінета прафесара была ідэнтычна паўтораная, як пры сустрэчы з Ялам Смаўжом аўтэнтычным, толькі даты на календары былі іншыя.

Смоўж IV маўчаў, ён быў цалкам пагружаны ў свае разважанні.

— Спадарыня Элон правядзе вас у вашыя апартаменты, а заўтра мы з вамі выступім на вышэйшай навуковай радзе, дзе вы атрымаеце ўсе падрабязнасці задання.

Здавалася, Смоўж IV не слухаў яго.

— Мы з вамі выступім на вышэйшай навуковай радзе, — паўтарыў прафесар.

— Не.

— Што не?

— Я не пайду ў Рок-нат...

— Вы не пойдзеце? — прафесар спачатку не зразумеў.

— Я не пайду ў Рок-нат, — больш цвёрда паўтарыў Смоўж IV.

— Вы ж самі хацелі! — усклікнула Элон.

Аніхто з пасвечаных у тайну эксперыменту не мог нават дапусціць, што Смоўж IV адмовіцца.

— Чаму? — Элон падышла да яго.

— Не ведаю! Але я адчуваю...

— Што адчуваеце? — сур'ёзна спытаў прафесар.

— Гэта не страх, не адчуванне небяспекі... Але гэта задача яшчэ не мая!

— Як — не ваша?.. Што значыць яшчэ не ваша? Вы самі ў сваім «Гроце Духа» прасілі мяне пра гэта, — сказала Элон.

— Як вы гэта адчуваеце? — спытаў прафесар.

— Не ведаю.

— Вы стаміліся. На вас дрэнна падзейнічаў медагляд. Вам трэба адпачыць. Спадарыня Элон, правядзіце яго ў апартаменты і паглядзіце за ім, — ён зрабіў ледзь прыкметны акцэнт на апошніх словах, — пасля інтэнсіўнага тэсціравання трэба адпачыць.

Гэта была катастрофа! Мала таго, што няма каго прадстаўляць на вышэйшай радзе, трэба было неяк псіхічна падрыхтаваць Смаўжа IV да праўды. І як сябе павядзе Смоўж-аўтэнтык? Галава ў прафесара Глоса ішла кругам.

* * *

— Спадар прафесар, — бесцырымонна адкрыліся дзверы, і Элон у свабоднай сіняга колеру кашулі і чорнай спадніцы ўвайшла ў кабінет.

— Вы заўсёды робіце з кабінета прахадны двор, — незадаволена прабурчаў прафесар Глос.

— Я яму ўвяла снатворнае, — не звяртаючы ўвагі на словы прафесара, прамовіла Элон, — і трошкі пасядзела з ім.

— Не турбуйцеся, Элон, я прадам свой лясны дом і калекцыю плоскіх чарвякоў, мы кампенсуем яму яго з'яўленне.

— Прафесар, паслухайце, калі ласка. Вось, глядзіце, — яна паказала яму лазерны дыск. — Я запісала яго трызненне і зрабіла тапаграму галаўнога мозгу! Гэта цікава.

— Якое трызненне?

— Я думаю, гэта інфармацыя пра Рок-нат!

Увесь вечар яны перапрацоўвалі здабытую інфармацыю, пераўтваралі яе ў больш зручныя відэавобразы.

І вось бліжэй да ночы на экране замільгацелі размытыя твары людзей на базальтавых мурах, яны плакалі, стагналі, а потым выразна бачылі невядомую зямлю з гарамі і лясамі, палямі і вёскамі.

Здагадка ўсхапіла Элон:

— Першая палова вобразаў — псіхічнае ўздзеянне Рок-ната, а другая палова — тое, што яго папярэднікі паспелі заўважыць там.

— Дзе там?

— Унутры Рок-ната.

— Але гэтага не можа быць. Якім чынам інфармацыя трапіла ў мозг, які ствараўся на нашых вачах? Пасланне з таго свету?

— Прафесар, людзі павінны прайсці Рок-нат!

Раптам на экране паміж іншых вобразаў замільгаў твар дзяўчыны, і Элон пазнала сябе.

— Што гэта значыць? — здзівіўся прафесар.

— Гэта значыць, што Рок-нат ведае пра мяне і я абавязана туды ісці!

А тым часам твар Элон на экране прафесарскага стала пераўтварыўся ў дыктарку ўрадавых навін. Яна перадавала тэрміновае паведамленне:

— У сувязі з тым, што пранікненне ў невядомы аб'ект, які быў выяўлены на Кермендзе, не прынесла станоўчых вынікаў, а знаходжанне на другім спадарожніку нашай планеты такога аб'екта непасрэдна пагражае нашай цывілізацыі, вышэйшай радай бяспекі была прынята праграма новай аперацыі «Рок-нат», згодна з якой вырашана ўскрыць аб'ект накіраваным ядзерным выбухам, а пры неабходнасці цалкам знішчыць. Усім навуковым лабараторыям загадваецца пакінуць Керменду ў шасцімесячны тэрмін. Адлік часу пачынаецца з нуля гадзін сённяшняга дня.

— Гэта вар'яцтва. Іх трэба спыніць! — усклікнула Элон. — Там жа могуць быць жывыя істоты!

— Як яны не разумеюць, — абурыўся прафесар. — Рок-нат — унікальная магчымасць, каб чалавек змог авалодаць тэлепатыяй.

— Прафесар! Я пайду ў Рок-нат! — рашуча сказала Элон.

— Не! — глухі голас спыніў іх.

Прафесар Глос і Элон азірнуліся.

У дзвярах стаяў Смоўж IV.

— Вашы асістэнты вельмі здзівіліся. Снатворнае раптам перастала дзейнічаць... Я папрасіў, каб мяне правялі да вас.

— Я слухаю вас.

— Я пайду ў Рок-нат.

Прафесар узняў бровы.

— Цікава, што ж нейтралізавала снатворнае... — прамармытаў ён. — А што, як вы адчуваеце, прымусіла вас змяніць сваё рашэнне?

— Не ведаю. Цяпер я адчуваю, што я магу пайсці ў Рок-нат.

— Што ж, гэта вельмі своечасова, — сказала Элон. — Магчыма, праз шэсць месяцаў Рок-ната не будзе.

— Та-ак, — працягнуў прафесар Глос, — трэба падумаць, як даставіць спадара Яла Днежа на Керменду, — ён сеў бліжэй да экрана, пагартаў старонкі лабараторных паведамленняў.

— Для нашай лабараторыі зарэзервавана два месцы на навуковым караблі, але іх могуць заняць толькі нашы супрацоўнікі, таму што будзе строгі кантроль, і я думаю, паляціце вы, Элон, і... спадар Днеж, мы падрыхтуем для вас дакументы.

Раніцай прыйшло паведамленне, што адно месца біялабараторыі зойме вайсковы спецыяліст.

— Алё, прафесара Журана, калі ласка,— прафесар Глос крычаў у самы мікрафон відэатэлефона.

— Глос, здароў, сябра,— на экране ўзнікла вясёлая фізіяномія Эда. Ён быў такога ж узросту, як і Глос, толькі яшчэ не такі сівы.

— Слухай, не можаш пазычыць адно месца на караблі?

— Пазычыць не магу, — сказаў прафесар Журан, было відаць, што паведамленне пра эвакуацыю з Керменды яго таксама вельмі турбуе, — магу толькі падзяліцца багажнай квотай на рэйс туды, але не назад, шмат абсталявання.

Прафесар Глос хутка гартаў старонкі лабараторнага сайта.

— Выдатна, — нарэшце прамовіў ён, — спадар Днеж, вы паляціце ў кантэйнеры з індыкатарным газам.

— Я ў любым выпадку павінен трапіць на Керменду.

— Не хвалюйцеся, мы створым усе ўмовы, каб вы вытрымалі доўгі пералёт. На базе Элон выпусціць вас.

— А можа, прафесар, — сказала Элон, — усё ж такі паспрабаваць выступіць на навуковай радзе з усімі доказамі і выкладкамі і апошні раз прапанаваць накіраваць у Рок-нат чалавека?

— Я думаю, што цяпер усё ў руках вайскоўцаў. Наўрад ці яны будуць слухаць. Тым больш столькі было ў нас, навукоўцаў, правалаў...

* * *

Тры месяцы пайшло на збор і наладку неабходнага навуковага абсталявання, а Элон і Смоўж IV у гэты час праходзілі курс фізпадрыхтоўкі для касмічных палётаў.

Цяпер прафесар Глос і Элон ішлі па касмапорце, грузчыкі кацілі на вялікіх электракарах скрыні, бочкі, скруткі матэрыялаў, складвалі ўсё пад днішча касмалёта. Сярод гэтых рэчаў ляжала агромністая васьмігранная труба, з двух бакоў шчыльна залітаваная. На ёй быў намаляваны зялёны парастак, што прабіваецца з зямлі — эмблема біялабараторыі. Вакол панавала неймаверная мітусня. Сноўдалі людзі, апранутыя ў форму розных колераў і фасонаў. Пастанова ўрада аб новай аперацыі «Рок-нат» шмат для каго была нечаканасцю.

— Эй, біёлагі, — штурман карабля ўбачыў прыгожую дзяўчыну і вырашыў трошкі пафліртаваць, — вы што, хочаце ўвесь Рок-нат пакласці ў гэты кантэйнер?

— Не, толькі большую палову...

— Што ў вас? — строга спытаў кантралёр.

— Газ — індыкатар біяактыўных рэчываў, — усміхнулася Элон. — Спадзяюся, назад я яго не павязу.

— Ускрываць кантэйнер, — сур’ёзна сказаў прафесар Глос, — не рэкамендую, дый увогуле забаронена.

— Сярод біёлагаў фанатыкаў няма, — пажартаваў штурман.

— Вага? — афіцыйным тонам прамовіў кантралёр.

— Кілаграмаў пяцьсот, разам з кантэйнерам.

— Добра, левы адсек.

Праз дзве гадзіны передпалётнай мітрэнгі міжпланетны карабель, як звычайны самалёт, адарваўся ад паверхні планеты. Элон убачыла, як аддаляюцца пабудовы касмадрома, вуліцы, горад. Потым яна ўбачыла Зею — блакітны шар, ахутаны ватай аблокаў.

На арбіце пасажыры любаваліся першым месяцам Зеі — аранжавым, падобным да апельсіна шарам Сэнты, а за ім, наводдаль, зіхцеў белы сярпок Керменды. Да яе трэба было ляцець дваццаць тры дні. Усе пасажыры былі размеркаваны па каютах, азнаёмлены з распарадкам палёту. Карабель набраў крэйсерскую хуткасць і прамым курсам паляцеў у кірунку другога месяца Зеі.

* * *

На Кермендзе Элон сустрэў доктар Сторк, сярэдніх гадоў чалавек, лысаваты, з жывымі карымі вачыма.

— Рады вас бачыць. Як там прафесар Глос, мабыць вельмі пакрыўдзіўся, што

яму не дазволілі залезці ў нашую штуку? — пры размове доктар Сторк паміж словамі забаўна хіхікаў.

— Так, бурчыць патрошку.

— А навошта вам, хэ-хэ, столькі індыкатарнага газу? Усю Керменду праверыць можна.

— Прабачце, — усміхнулася Элон, — гэта маё персанальнае заданне.

— Ну, нічога, у вас, хэ-хэ, часу яшчэ шмат. Працуйце. Да нашай эвакуацыі прыкладна месяц.

— Як месяц? — здзівілася Элон. — Канец эвакуацыі праз месяцы два, як нам паведамлялі.

— Гэта вайсковым і афіцыйным чыноўнікам, а нам, навукоўцам, хэ-хэ, за месяц трэба адсюль прыбрацца...

Элон, не даслухаўшы весельчака Сторка, накіравалася ў штаб базы. Яе настойлівасць дапамагла ёй дабіцца персанальнага прыёму ў каменданта Керменды.

Генерал Партан доўга аднекваўся. Казаў, што ўсё размеркавана, што месца на апошнім вайсковым караблі для яе і яе абсталявання няма. Аднак яна была ўпартая як ніколі, пераконвала, што галоўная мэта яе навуковай працы на Кермендзе — выяўленне біялагічнай актыўнасці Рок-ната, а прысутнасць столькіх жывых істот перашкаджае чысціні эксперыменту, і таму самыя каштоўныя для навукі будуць гадзіны, нават хвіліны, перад самым выбухам, калі побач людзей не будзе. І раптам Рок-нат назірае за іх дзеяннямі і праявіць сябе ў самы апошні момант?!

Камендант нарэшце здаўся, выдаў ёй пропуск на ўсе падыходы да Рок-ната і даў дазвол на правядзенне работ у самыя апошнія дні перад эвакуацыяй.

— Але дамоў, спадарыня, будзеце ляцець сярод маіх бравых байцоў і на агульных умовах.

Элон вылучылі маленькае памяшканне пад лабараторыю ў тунелі падземных камунікацый, што вёў да самога Рок-ната. Раней там туліліся касмахімікі.

Яна сапраўды ставіла свой эксперымент і ў глыбіні душы спадзявалася знайсці пацверджанне вобразаў, народжаных мозгам Смаўжа IV, — што ў Рок-наце ёсць жыццё. Тады адменяць выбух. Але індыкатарны газ, закачаны пад блакітную цырату на паверхні Рок-ната, не змяняў колер, дый доктар Сторк, прыхільнік тэорыі «Пакінутага заваднога механізма», які сам правёў год на Кермендзе і лічыўся спецыялістам па біялогіі Рок-ната — на жаль, быў пераканаы, што гэтая штука — біялагічная пустэльня, а загадку знікнення арганікі трэцяга дубля тлумачыў механічнымі працэсамі, што адбываюцца ўнутры іншапланетнага карабля. «А любы пашкоджаны механізм можна адрамантаваць», — жартаваў ён. Доктар Сторк прыхільна ставіўся да «ўскрывання» Рок-ната, бо бачыў на ўласныя вочы, як гэтая штука распраўлялася з робатамі, добра ведаў яе недаступнасць і небяспеку.

Асабіста доктар Сторк пільна сачыў за ходам эксперымента Элон і сваёй залішняй адданасцю навуцы перашкаджаў ёй. Таму Смоўж IV большую частку часу праводзіў у сваім кантэйнеры. Ён і Элон чакалі добрага моманту, калі з увахода ў Рок-нат здымуць апошнюю наземную варту, а доктар Сторк зоймецца неадкладнай працай па загрузцы біялабараторыі.

За два дні да тэрміну эвакуацыі навукоўцаў такі момант надышоў. На базе стварылася неверагодная мітусня. Усе спешна збіралі свае рэчы. Як заўсёды, шмат якія справы былі пакінуты на потым, а цяпер не хапала рук, таму да навукоўцаў былі далучаны жаўнеры. Яны клялі навуковых недарэкаў, але дапамагалі ім цягаць іхнія рэчы. А людзі ля караблёў, пад караблямі, на караблях сварыліся, даказвалі, што ў іх больш каштоўны груз, лаяліся...

У тунелі не было аніводнай жывой душы. Элон выпусціла з затачэння Смаўжа IV, і яны, апрануўшы скафандры, накіраваліся да ўвахода ў Рок-нат.

Чорная скала са шнарамі вузкіх пасечын сапраўды нагадвала велічэзны грэцкі арэх. Вострыя крупінкі сухога лёду час ад часу дробна ўдараліся аб яе сцены і градам асыпаліся долу. На паверхні Керменды было каля -120° С, таму над цёплым выйсцем з шахты крупінкі імгненна расплываліся ў маленькія хмурынкі газу і рассейваліся ў вельмі разрэджанай атмасферы.

Прамёрзлая мёртвая прастора. Сонца сістэмы — Тарлюс — было з іншага боку Керменды, і толькі аранжавы месяц Сэнты, на якім можна было заўважыць воспіны кратэраў, цьмяна асвятляў заледзянелае і заснежанае сухім снегам пласкагор’е.

Элон і Смоўж IV выйшлі на дно ўпадзіны, над імі навісаў Рок-нат, што гіганцкім наканечнікам старажытнай крэмневай дзіды ўпіўся ў вока неба. Ля самай паверхні ў сярэдзіне скалы зеўраў, як выбіты сколак у шкарлупіне агромністага арэха, трохкутны ўваход. Па слупках пары Элон і Смоўж IV здагадаліся, дзе былі схаваны камеры сачэння. Камеры цяплейшыя за асяроддзе, таму выклікалі вакол сябе сапраўдную вясну з ручаямі і чорнымі, нежывымі, накшталт антарктычных, аазісамі грунту.

Перад адным такім слупком Элон, быццам незнарок, выпусціла з рук ліст цыраты, вецер падхапіў яго і закрыў ім аб’ектыў камеры.

— Эй, — яна прагаварыла ў мікрафон, што быў у яе шлеме, — хто на пасту № 1?

— Тонан Мак.

— Прывітанне, Тонан, гэта Элон Тасіч. Скразняк са шлюза вырваў з рук біяіндыкатарную цырату і закрыў ёю другую камеру. Не хвалюйся, зараз дабяруся і прыбяру.

— Можа, вам дапамагчы?

— Не трэба. Ледзь што — я паведамлю, — яна адключыла перадатчык.

Элон разлічыла, што калі прыкрыць менавіта другую камеру, то на ўваходзе злева застанецца нябачны для назіральнікаў сектар.

Цяпер шлях быў адкрыты...

— Вы гэта хітра зрабілі, — чалавек у скафандры выступіў з-за абломка скалы, у руцэ ён трымаў вайсковы бластэр — металічны стрыжань ствала калоў замерзлую прастору. — Хітра і, галоўнае, зручна. Зручна для мяне, не будзе сведкаў, спадарыня Элон.

За шклом шлема Элон пазнала хмурную фізіяномію. Гэта быў Ял Днеж з вядомай сярод прафесійных спелеолагаў мянушкай Смоўж.

— Калісьці я вам казаў, што Рок-нат падпарадкуецца толькі мне, — сказаў ён і прыўзняў зброю.

Лазерны промень прыцэла марудна папоўз па скафандры Элон.

Смоўж IV, які стаяў побач з дзяўчынай, рэзка падаўся наперад, каб збіць увагу праціўніка ці перакрыць стрэл.

— Стой! — крыкнуў Смоўж. — Адзіны рух — і яе няма!

Смоўж IV спыніўся, бо адчуваў, што відавочна не паспявае.

— Вось так... Ціха...

Сітуацыя была недарэчная — Элон і Смоўж IV застылі ў нязграбных паставах, не адважваючыся паварухнуцца. Дастаць свой бластэр, што быў прымацаваны ў спецыяльным футарале на спіне скафандра, у Смаўжа IV не было аніякіх шанцаў. А Элон была бяззбройная.

Аднак Смоўж марудзіў.

— Паслухай, Ял, мы шукалі цябе, хацелі ўсё расказаць... — парушыла паўзу Элон.

— Няпраўда, вы сачылі за мной. Аднак я змог падмануць вашых шпегаў.

Не апускаючы бластэр, ён падышоў да іх.

— Ну, паглядзім, які вы мне жывы помнік зрабілі.

Ён перавёў прыцэл з Элон на Смаўжа IV і з цікавасцю разглядаў яго твар.

— Ён нічога не ведае, — сказала Элон, стараючыся захінуць таго.

— Я ведаю... — прамовіў Смоўж IV. — Мне заўсёды здаецца — усё, што я раблю, хтосьці ўжо рабіў да мяне. І нават мае ўласныя думкі супадаюць з думкамі кагосьці нябачнага...

— Твае ўласныя думкі... Ты проста іх не можаш мець! Ты — копія. Нежаданая копія. Непрыгожая копія — ці бывае копія лепшая за арыгінал? — глуха сказаў Смоўж. — І што, цяпер ты ўсё жыццё будзеш даказваць мне, што ты лепшы, што варты быць падобным да мяне... Хто вам, — Смоўж зірнуў на Элон, лазерны прыцэл бластэра зноўку заблішчэў на яе скафандры, — даваў права выкарыстоўваць мой уласны генетычны матэрыял, хто вам даваў дазвол на гэта?! Я не прасіў сабе ні канкурэнта, ні жывую копію!

Ён рэзка перанаправіў прыцэл з Элон на Смаўжа IV і стрэліў. Аднак Смоўж IV падсвядома ўлавіў яго намер і адхіліўся на імгненне раней, чым адбыўся стрэл. Прамень прашыў рукаво яго скафандра каля локця, з дзіркі пайшоў струмень пары, аўтаматычна спрацавалі пераборкі, яны зацягнулі прабоіну, а прамень упіўся за спінай Смаўжа IV у павярховы лёд, чым выклікаў вялікія клубы пары. Белае воблака на міг схавала Элон і Смаўжа IV. Гэтага было дастаткова, каб Элон перакацілася за сумёт, а Смоўж IV адштурхнуўся ад грунту і літаральна пераляцеў, дзякуючы малой сіле вагі на Кермендзе, на метраў шэсць да свайго ворага. Смоўж стрэліў яшчэ, пара амаль цалкам ахутала ўпадзіну перад Рок-натам.

Калі воблака рассеялася, Смоўж-аўтэнтык нечакана ўбачыў проста перад сабой свайго двайніка і зноў націснуў на цынгель. Але промні сышлі ў космас. Ад удару нагі бластэр упаў у сумёт метраў за пяць, яго распалены ствол выклікаў чарговую паравую буру. Смоўж IV і Смоўж-аўтэнтык пакаціліся па зыбучым снезе.

— Ты не пойдзеш у Рок-нат! — рыкнуў скрозь зубы Смоўж IV, абхапіўшы рукамі свайго ворага.

Той толькі брудна лаяўся. Ён здолеў перакуліцца разам са сваім клонам і падмяць таго пад сябе.

— Элон! — закрычаў Смоўж IV.

Яна зрабіла вялікі крок у той бок, дзе ляжаў бластэр.

Смоўж-аўтэнтык зразумеў пагрозу, адпіхнуўся рукамі ад свайго двайніка і, зрабіўшы ў прасторы неверагоднае сальта, прызямліўся каля зброі. Элон не паспела схапіць бластэр, таму, каб не трапіць пад стрэлы, сама адскочыла ўбок.

Смоўж-аўтэнтык ішоў спінай да Рок-ната, трымаючы напагатове бластэр. З-за белага воблака ён не бачыў сваіх праціўнікаў.

Раптам пікнуў перадатчык, схаваны каля камеры назірання.

Смоўж стрэліў у той бок і адступіў у кірунку Рок-ната. Завіруха пары ахутала яго сілуэт.

— Эй,— крыкнула Элон,— не хадзі туды! Табе нельга! Чуеш?!

— Вам пашанцавала, што ў мяне няма часу! — злосна выціснуў з сябе Смоўж-аўтэнтык.

Ён на хвіліну затрымаўся ля ўвахода.

— Паспрабуй падняць яго і адвесці з зоны выбуху! — крыкнуў Смоўж IV.

Постаць у скафандры паглынуў чорны трохкутнік.

— Спадарыня Элон Тасіч... Элон Тасіч, — зноў уключыўся перадатчык.

— Так.

— Гэта Тонан. Што там у вас?.. Калі вы здымеце цырату?

— Зараз, хвіліну, я побач ужо,— яна кіўнула Смаўжу IV, і ён сарваў цырату з камеры, устаючы за яе штучным вокам.

— Тонан, я вяртаюся ў лабараторыю.

— Добра.

Элон адключыла шлемны перадатчык ад сувязі з базай.

— Я іду за ім, — сказаў Смоўж IV.

— Рок-нат разлучае... Кожны ідзе па шляху, вызначаным толькі для яго, і невядома, ці ўбачыш ты свайго прататыпа яшчэ раз...

— Я іду за ім. Яго шлях — мой шлях.

— Тады і я іду з табой!

— Не, ты не зможаш прайсці, калі застанешся адна, — ён павярнуўся і пайшоў хуткаю хадой да ўвахода ў Рок-нат.

— Пачакай! Мы будзем, наколькі зможам, ісці разам! — яна пабегла за ім.

Ён хацеў быў яшчэ раз запярэчыць, але яе рашучы выгляд і дэфіцыт часу не даў гэтага зрабіць.

Смоўж IV і яна, трымаючыся за рукі, амаль адначасова пераступілі парог няроўнага трохкутнага прахона. Перад тым як зрабіць гэта, яны, каб не згубіць адно аднаго, абвязаліся доўгім, тонкім і даволі трывалым відэакабелем.

* * *

Зблізу Рок-нат насамрэч нагадваў жалезакаменную вялізную глыбу, падобную на невялікі астэроід, які ўпаў на Керменду. Але адчуванне яго штучнасці адразу ўзнікае, калі азіраеш яго блізка. Выкрывала гэта, як ён ляжаў на паверхні — відавочна, гэтае касмічнае цела не ўрэзалася ў паверхню другога спадарожніка Зеі, а нейкім чынам, запаволіўшы палёт, прызямлілася і застыла ў нерухомасці. А чорны трохкутны ўваход паказваў, што Рок-нат мае ў сабе поласці.

Элон і Смоўж IV апынуліся ў цёмнай галерэі. Яны ўключылі інфрачырвонае бачанне і пайшлі ўздоўж сценкі, што няроўнымі выступамі цягнулася ў глыбіню. Датчыкі на скафандрах фіксавалі ўсплёскі электрамагнітнай актыўнасці. Нечакана кароткія іскры, як блакітныя матылькі, ударыліся ў край шлема Элон. Яна адчула, што ёй цяжэй і цяжэй даецца новы крок, а Смоўж IV, наадварот, павялічваў хаду.

— Не спяшайся!

Аднак ён не пачуў.

Яна сціснула мацней яго далонь. Ён спыніўся, азірнуўся.

— Ідзем!

Па падлозе галерэі, са спіны Элон, папаўзла трэшчына, яна пашыралася. Проста пад яе нагамі падлога раптоўна рассунулася, і Элон сарвалася ўніз.

— Трымайся! Я зараз цябе выцягну, — крыкнуў Смоўж IV, ён упаў на край праймы. Паспеў схапіць Элон адной рукой.

Аднак кромы трэшчыны пачалі хутка змыкацца. Ён рэзка, з усёй моцы рвануў дзяўчыну на сябе.

— Хутчэй!

Элон некалькі секунд ляцела ў прасторы чорнага правала, — фігура Смаўжа IV, абмаляваная зеленаватым свячэннем — эфект начнога бачання скафандра — імкліва аддалялася.

— Ты зможаш прайсці! Ты не такі, як ён, ты найлепшы з магчымых, — крычала яна яму.

Ён таксама ёй нешта крычаў, але ў перадатчыку яго словы пераўтвараліся ў хрыплы шум.

Праз імгненне чорная столь закрыла яго, настала цішыня.

Элон сама адпусціла руку, бо бачыла, што вострыя зломы трэшчыны могуць ампутаваць руку Смаўжу IV, а ён сам спрабаваў бы выцягнуць яе да апошняга.

Яна ўпала на груд каменных абломкаў. Тут жа, побач, тонкай змейкай скруціўся відэакабель. Элон зразумела, што цяпер цалкам апынулася ў адзіноце.

Але страху, які, бывала, ахопліваў яе, калі яна заставалася адна ў незнаёмым месцы, не было. Прага пазнання займала большую частку яе душы.

Элон устала, на шчасце, яе падзенне абышлося толькі нязначнымі выцятасцямі. Азірнуўшыся, яна зразумела, што знаходзіцца ў не вельмі вялікай зале. У супрацьлеглай сценцы было выйсце. Гэта яшчэ болей яе ўсцешыла. Замкнутая прастора выклікае адчай, таму што пазбаўляе магчымасці адысці хоць на крок далей ад таго месца, дзе ты ўжо быў. Прастора і час, дзве неразлучныя катэгорыі, сціскаюцца ў адну — час... Толькі добраахвотная замкнёнасць, калі затачэнец думкамі набліжаецца да сваёй мэты, не мае жалю і роспачы.

Лёх, па якім ішла Элон, рэзка пайшоў угору. Ён то звужаўся, то пашыраўся. Муры яго, здавалася, пачыналі пакрывацца рознакаляровымі размытымі плямамі.

Потым яна ўбачыла маці.

— Дзе ты? — пыталася яна. — Трэба нарваць салаты.

— Можа, хто-небудзь палье аранжарэю? — пытаўся бацька.

За апошнія некалькі месяцаў, якія выдаліся надзвычай напружанымі, Элон змагла толькі некалькі разоў пазваніць дадому. Але яна ведала, што бацькі яе вельмі любяць і даруюць усё, таму яна ўсміхалася іх выявам і смела ішла далей. Хаця сэрцам яна адчувала, што Рок-нат выпрабоўвае яе, падбірае ключы. Пасля яна ўзгадала той дзень, калі пазнаёмілася з Ялам Днежам, яна ўзгадала яго грубую, нехлямяжую спробу прымусіць яе думаць і перажываць за яго ў час, калі ён пойдзе ў Рок-нат. «Божа, цяпер ён тут... І, напэўна, такі ж хмуры і самотны. Яму нашмат цяжэй, чым чацвёртаму. Уся лабараторыя хвалюецца за свайго стварэнца, спадзяецца. Прафесар да яго ставіцца як да ўнука... А сам Смоўж так і застаецца адвергнутым самотнікам. Як добра, што ў мяне ёсць свой родны дом…» Цяпер яна прабачала грубаму і страшнаму Смаўжу-аўтэнтыку. Прабачала нават пагрозы яе жыццю. «Мы ж самі парушылі і выкарысталі яго прыродныя правы».

Потым яна ўбачыла сваіх аднакласніц, якія няньчылі ружовашчокіх дзіцянят, вазілі іх па парках у рознакаляровых калясках, прасавалі мужчынскія штаны і кашулі, займаліся каханнем з мужамі, гатавалі ежу на сямейнае свята, пляткарылі з сяброўкамі пра сваіх знаёмых...

«Нічога, я яшчэ паспею», — думала яна, караскаючыся па стромкім шляху.

Электрамагнітныя віхры цалкам разладзілі навігацыйнае абсталяванне скафандра. А зрок запаўнялі прывіды з яе жыцця.

Яна дасягнула вяршыні пад'ёма, цяпер лёх, пятляючы, ішоў уніз.

Бліснулі акуляры Фліна. Заолаг-эксперыментатар быў здзіўлены, валасы стаялі шчэццю... «Прабач, я не магла цябе кахаць...» З-за спіны Фліна выпаўзалі жабы, чарвякі, выскоквалі кузуркі, а потым усю прастору запоўнілі ружовыя слімакі. Шырокім фронтам яны насоўваліся на Элон. Яна проста патанала ў іх колькасці. Бачыла сябе без скафандра, без адзення, слімакі сотнямі поўзалі па яе целе, падэшвачка іх адной нагі была мокрая, слізкая, яна скурай адчувала салодкую агіду...

Лёх стаў стромкі, каменная падлога, сцены былі вадкімі, яна, набіраючы хуткасць, нібыта з ледзяной горкі, паляцела долу...

* * *

Лейтэнант Тонан і два вайскоўцы беглі па тунелі, які вёў да ўвахода ў Рок-нат. На маніторах паста № 1 яны бачылі, як Рок-нат выкінуў чалавека ў пакамечаным скафандры. Перакульваючыся ў прасторы, быццам бы падкінутая марыянетка, чалавек праляцеў метраў пятнаццаць — дваццаць і ўпаў у сумёт сухога снегу.

На паверхні Керменды лейтэнант Тонан на хвіліну страціў арыентацыю. Снег і лёд асляплялі, прастора злівалася ў адну зіхоткую сферу. Аўтаматычна спрацавалі светлафільтры, і вочы вайскоўцаў паступова пачалі вылучаць дэталі краявіду. На аддаленым пагорку яны заўважылі слупкі пары, якія ішлі з-пад гарачага для наваколля скафандра, выкінутага з Рок-ната. Яны пабеглі наўпрост. Але вайсковец, які ішоў першы, ледзь не праваліўся ў засыпаную снегам расколіну. Давялося рабіць крук. Яны разумелі, што ў скафандры могуць быць пашкоджанні, таму беглі на мяжы фізічных магчымасцей.

Гэта была Элон. Жывая. Усе пашкоджанні, што выглядалі як шнары, скафандр не здолеў закрыць пераборкамі, жудасны холад праз іх мог пранікнуць унутр. Аднак шлем быў цэлым і захоўваў герметычнасць, спраўна працавала ўстаноўка рэгенерацыі паветра. Вайскоўцы надзьмулі вялізны ратавальны кокан, паклалі ў яго Элон і пацягнулі назад, на базу.

Прытомнасць вярнулася да яе ў шпіталі. Яна амаль нічога не магла ўзгадаць, што адбылося пасля таго, як яна зайшла ў Рок-нат. Дактары адзначалі на яе целе шматлікія выцятасці, гематомы, левая рука была зламаная, і сама яна вельмі схуднела, хаця ў Рок-наце па ўсіх падліках яна правяла няшмат часу. Ёй прапісалі пасцельны рэжым. Аднак яна магла сачыць за тым, што адбываецца на базе, праз інфасетку з найвышэйшым доступам, які быў дазволены яе пропускам.

Элон наведаў доктар Сторк. Прынёс садавіну, спачувальна хехекаў і сур'ёзна раіў не аддаваць сябе цалкам працы, але знаходзіць час для сябе.

— Папраўляйся. А той запакаваны гадзіннік мы адкрыем, хе-хе.

Яна ў зашыфраваным выглядзе перадала прафесару Глосу на Зею, што адбылося, перад тым, як зайшла ў Рок-нат. Яго вельмі занепакоіла, што цяпер два чалавекі, двое, фактычна, блізнят, спрабуюць прайсці яго.

— Мы з прафесарам Журанам паспрабуем аблічыць прагнозы.

Генерал Партан падарыў ёй кветкі ў гаршку. Панаракаў за яе свавольства. Яна прызналася, што ў Рок-нат пранікла два чалавекі, і, можа быць, неабходна прыпаволіць правядзенне аперацыі. Генерал папрасіў трымаць гэтую інфармацыю ў канфідэнцыяльнасці, аднак цвёрдым тонам адказаў:

— Калі з Рок-ната не будзе аніякіх звестак, не будзе аніякіх перамен, час «Х» мы пераносіць не будзем...

Праз тыдзень — Элон была яшчэ ў шпіталі — Рок-нат выкінуў акрываўлены скафандр. Па тым, што на яго рукаве не было прастрэлу, яна здагадалася, чый гэта скафандр.

Насамрэч усім сваім юным сэрцам Элон адчувала жаль і смутак. Яна спачувала і думала пра Смаўжа-аўтэнтыка, бо прабачыла яму, аднак яна ведала, што ў яго, нягледзячы на ўсю самаўпэўненасць, не было аніякіх шанцаў. Гэта быў прадказальны сумны вынік.

Прафесар Глос і прафесар Журан прасілі яе дастаць дадзеныя падрабязнага агляду скафандра і ўсіх экспертыз, але яна не змагла гэтага зрабіць. Вайсковыя засакрэцілі іх, яе допуску не ставала, а генерал Партан не жадаў яе прымаць.

Набліжаўся час поўнай эвакуацыі. Элон з гіпсам на левай руцэ — дактары вырашылі не паскараць працэс зрошчвання костак, абраўшы натуральны шлях для яе

маладога арганізма — працавала ў лабараторыі, дакладней, збірала яе, пакідаючы толькі абсталяванне для збору аналізаў на біялагічную актыўнасць вакол Рок-ната перад самым адлётам. Доктар Сторк і дзве шчабятлівыя яго асістэнткі, што дапамагалі ёй у падрыхтоўцы да эвакуацыі, раздражнялі яе сваім адмыслова-ашчадным і салодка-чулым да яе стаўленнем. Яна часта замыкалася ў сваім адсеку, доўга азірала з усіх бакоў Рок-нат і чакала, з трапятаннем чакала якіх-небудзь перамен. Але аднастайны пейзаж паверхні скалы, падобнай да агромністага арэха, з кожным днём прыносіў ёй большую трывогу.

За дзень да пачатку поўнай эвакуацыі Рок-нат выкінуў другі скафандр. У ім таксама былі сляды крыві. Адно рукаво, вышэй локця, было прапалена стрэлам бластэра.

Цяпер направлены ядзерны выбух быў непазбежны...

* * *

«Адпусці яе. Чуеш?! Адпусці!» — у думках прасіў Смоўж IV. Ён агледзеў падлогу, дзе нядаўна была расколіна. Ані следу трэшчыны, дзве глыбы шчыльна сышліся, толькі абрывак відэакабеля, што тырчаў з амаль роўнай падлогі, сведчыў пра нядаўняе здарэнне. Рок-нат, як і прадказвала Элон, іх разлучыў.

Смоўж IV асцярожна пайшоў цёмнай галерэяй у глыбіню скалы-арэха. Але ён адчуваў, што ідзе наканаваным уласна яму шляхам. І ён перадавераў свой лёс гэтаму адчуванню, нават не стаў даставаць з футарала зброю.

На ростанях, дзе галерэя разгаліноўвалася, каля левага прахону стаяў пелікан. Ён махаў дзюбай, запрашаў.

— Здароў, Кікі.

Смоўж IV ведаў — гэтым шляхам ён не пойдзе, бо ўзнікла перакананне, што там, куды яго запрашае пелікан, ён калісьці ўжо быў і што гэты кірунак, які Смоўж IV сам сабе акрэсліў, — кірунак замкнёнага вяртання.

Ён павярнуў направа. Вострыя сталактыты, нібыта зубы вялікай акулы, бліснулі над ім. Ён прабег пад імі і выйшаў на скалісты выступ. Перад ім адкрылася вялікая падземная зала і на ўзроўні выступа ўзнімаўся ланцуг падземных горных вяршынь. Пяшчотна-ружовым святлом зарэў далягляд.

Ён пайшоў па вяршынях.

На плоскай, зрэзанай гары перад ім узнік, нібы вырас з зямлі, чорны рыцар.

Смоўж IV адчуў, як яго скафандр пераўтварыўся ў жоўта-чорныя — золата й жалеза — рыцарскія латы. Ён дастаў з пахваў, што віселі за спінай на скураным пасе, меч.

Гэта быў прыгожы двубой! З кожным новым размахам мяча Смоўж IV адчуваў, што ўсё лепей і ўпэўненей фяхтуе, быццам яму вяртаюцца забытыя навыкі і веды. І ўсё ж такі ён прапусціў удар — лязо ворага рассекла латы на сцягне і паласнула па цяглiцах.

З вуснаў Архатора вырваўся пераможны крык. Але Смоўж IV прадчуваў, што той уздыме рукі, стане безабаронным, рэзкім выпадам хацеў быў ударыць у сэрца, аднак узняў лязо вышэй і праццяў шыю ворага, дакладна ў чорны з-за адмысловай трохкутнай татуіроўкі кадык. Меч прайшоў праз яго, як праз цемру, не робячы Архатору аніякай шкоды, але крык, той заўчасны, падобны на рык драпежніка крык пераўтварыўся ў хрып, а потым абарваўся. Дакладней, гукавыя хвалі гэтага крыку адбіліся ад унутранай паверхні Рок-ната, вярнуліся назад і праз меч Смаўжа IV хлынулі зноў у горла Архатора. У гэта імгненне меч Смаўжа IV затрапятаў, трапіўшы ў

моцны рэзананс, і нібыта завяз у шыі ворага. Смоўж IV з моцай пацягнуў зброю на сябе, але лязо намёртва засела ў горле Архатора. Той задрыжаў усім целам, выпусціў з рук свой меч і, разрываючыся, растрэскваючыся на акраўкі і аскепкі, пасыпаўся ў пропадню. За ім тонкім шэрым струменем паляцелі жалезныя дробкі — усё, што засталася са зброяй Смаўжа IV.

Сам Смоўж IV некаторы час стаяў ашаломлены. Глядзеў на жалезную пальчатку, з якой праз пальцы цёк металічны пыл, у які пад уздзеяннем сіл рэзанансу пераўтварылася дзяржальна яго мяча. Потым ён, каб не быць у чужой краіне безабаронным, падняў меч валадара цемры. Лязо зіхцела цёмна-жоўтымі, як вочы тыгра, святлінамі. І чым бліжай гэты меч быў да зямлі, тым мацней ён пачынаў свяціцца, нібыта зямля Рок-ната налівала яго сваёй моцай.

Смоўж IV, спачатку трохі кульгаючы, а потым, як боль праходзіў, усё больш упэўнена крочыў па горным хрыбце. Латы раз-пораз палымнелі ад святла далягляду. На іх ззяла дзевяціканцовая зорка — сімвал Тарлюса, сонца сістэмы. Латы, лёгкія і зручныя, аддалена захоўвалі абрысы і малюнак скафандра.

Ён кіраваў на ружовы далягляд.

На адной з вяршынь туліліся чорныя мярзотныя, падобныя да людзей, але з ікластымі зубамі і вострымі калматымі вушамі, істоты. Іх было некалькі дзесяткаў, яны сядзелі, прыціснуўшыся спінай адно да аднаго, і дрыжэлі. У руках самых моцных і страшных былі бліскучыя молаты, на канцы дзяржальна было, як у дзіды, зырклівае, нібыта зробленае з дыямента, вастрыё.

Абысці гэту вяршыню, з-за абсыпаных грудоў камення, было немагчыма.

— Гэй, расступіся! — гучна прамовіў Смоўж IV, узняўшы меч Архатора.

Істоты ўсе адначасова глянулі, але не на чалавека, а на яго зброю. Праз хвілю адзін, самы вялікі і агідны з гэтых чалавекападобных стварэнняў, падняў свой найвялікшы молат, прыставіў вастрыём дзяржальна да скалы, іншыя, хто таксама мелі бліскучыя малаткі, пачалі хутка-хутка біць па ім. Скала трэснула, істоты працягвалі калаціць па краях — пашыралі яе. Па падземнай прасторы разнеслася неймаверная траскатня, расколіна раздалася і ўсе стварэнні па чарзе, адна за адной, нібыта былі мяккія, пластылінавыя, уціснуліся ў яе. Яны, напалоханыя, з уздыбленай рэдкай поўсцю на хрыбце, імкліва хаваліся ад яго ў нетрах гары.

Смоўж IV ступіў на пустую ўжо, пакалечаную шырокай трэшчынай вяршыню.

Горны ланцуг вёў да стромкай скалы, якая, падобна да прыроднай стэлы, імкнулася ў вышыню. Там, на самай вышыні, скаліўся зубчастымі сценамі белы замак.

Смоўж IV ведаў — гэта мэта яго падарожжа.

Пад падножжам замкавай скалы ён, не без жалю, скінуў з сябе латы, пакінуў толькі меч, у похвах на спіне. Ён мог на адных толькі пальцах рук вісець і падцягвацца — навыкі выбітнага альпініста і спелеолага.

А перад тым Смоўж IV некалькі разоў абышоў скалу, распрацоўваючы маршрут узыходжання, адзначаў для сябе месцы адпачынку.

Узыходжанне было фантастычным. На фоне ружовага далягляду — мускулістае, натрэніраванае цела, налітыя жылы, упэўненыя рухі. Вышыня ўверсе, вышыня ўнізе...

Ён дасягнуў выступа, дзе далей, угору, ішла не прыродная скала, а штучныя муры, якія па перыметры ўтваралі вялікі замкнуты трохкутнік.

Але яны, нібыта выцесаныя з цэльнага мармуру, былі цалкам непрыступныя і гладкія, без аніводнай кладкі. Таксама не было ў іх ні ўвахода, ні акна. Толькі тры вежы і зубцы сцен, белыя, як айсбергі, узвышаліся высока над галавой.

Заставалася толькі выбіваць мячом у гэтых мурах выемкі для ног і рук. Мармур быў звыштрывалы і амаль не паддаваўся. А калі Смоўж IV, цалкам змучаны ад

аднастайнай працы, адпачываў, з роспаччу заўважыў, як зроблены ім шнар у мармуры, нібыта ранка на белым целе, пачынае паступова зацягвацца. Каб зрабіць новую выемку для нагі ці рукі, трэба было працаваць у яшчэ большым тэмпе...

Ад першых жа ўдараў Смаўжа IV, што глухім стогнам прайшлі па мурах замка, навастрыў вушы, раскрыў вочы, узняў галаву і паглядзеў у бок, адкуль ішоў гук, крылаты гепард — вартаўнік адной з вежаў. Тое самае ў той жа час паўтарылі яшчэ дзве такія ж самыя істоты, якія дагэтуль мірна спалі ў іншых вежах.

Першы крылаты гепард узляцеў над вежай і, выпусціўшы кіпцюры, стрымгалоў апусціўся на Смаўжа IV. Скура драпежніка блішчэла ад нябеснага святла — яе пакрывала падобная да металічнай луска. Вострыя, як адточаныя лёзы, кіпцюры драпежніка прарвалі кашулю Смаўжа IV і пакінулі неглыбокія, бо той паспеў ухіліцца, разоры шнараў на яго спіне. Уздоўж шнараў выступілі кропелькі крыві. Смоўж IV, бачачы адлюстраванне крылатай коткі ў адпаліраваным муры замка, нават не азірнуўся, працягваў біць мячом па сценцы. Крылаты гепард зрабіў кола ў паветры і зноўку напаў на чалавека. Аднак гэтым разам Смоўж IV чакаў атакі і, рэзка развярнуўшыся, адсек мячом адно гепардава крыло. Вялікая котка рынулася ў бездань.

Тут жа на чалавека напала другая. Яна шыпела, спрабуючы ўдарыць кіпцюрыстай лапай. Яе крылы аглушальна плёскалі ў паветры. Яна выскальвалася, зыркім полымем успыхвалі вогненна-жоўтыя вочы, а пасяродку кожнага, як трэшчына, чарнела палоска зрэнкі. Смоўж IV ухіляўся. Лятучая котка кінулася на яго, амаль абняла масіўнымі лапамі, імкнучыся ўсадзіць іклы ў яго шыю. Тады ж меч Смаўжа IV са скрыгатам прарваўся праз ахоўную луску на бруху крылатага гепарда. Котка абмякла і пацягнула чалавека ў бездань. Кіпцюры мёртвага звера вострымі крукамі зачапіліся за яго плечы. Моцнымі размахамі чароўнага мяча ён здолеў адсекчы гепардавы лапы. Яны, чырвона-чорныя ад крыві, упалі на скальны выступ, а сам драпежнік ценем знік у пропадні.

Смоўж IV толькі адышоў ад краю скальнага выступа — ужо трэці крылаты гепард краўся за ім, нібыта котка, што бачыла перад сабою мыш — і ў тое імгненне, калі драпежнік кінуўся на яго, ён сам падскочыў у паветры і, зрабіўшы пераварот, апусціўся яму на шыю.

Крылаты гепард з чалавекам на спіне ўзнёсся ў паветра. Ён зрабіў некалькі колаў над замкам. Вецер біў у твар Смаўжу IV, далёка ўнізе кружлялі ў зачараваным карагодзе горныя вяршыні — ён некалькі разоў ледзь не саслізнуў з гепардавай лускі. Адной рукой трымаўся за поўсць, што праступала на загрыўку звера, а ў другой трымаў напагатове меч. Чалавек чакаў і вылічваў. Вось гепард імчыць над зубцамі сцяны, вось над галоўнай, што знаходзілася ў цэнтры трохкутнага замка, вежай...

Меч па самае цаўё ўвайшоў пад левую лапатку гепарда. Крылы яго адразу абвіслі, і мёртвы драпежнік абрынуўся на зубцы галоўнай вежы...

Падзенне не было лёгкім. Ад удару аб вежу, які збольшага прыйшоўся на мёртвага звера, Смаўжа IV адкінула на мармуровую пляцоўку, дзе ён страціў прытомнасць.

* * *

На Травяністай даліне ля падножжа Шурпатых гор схліснуліся два войскі, як дзве хвалі — чорная і чырвоная. І чорная хваля, наляцеўшы на чырвоную, адкацілася назад, ударылася аб горы і рассыпалася на брудныя пырскі...

Мечнік і два гмуны — так называўся народ пладароднай даліны — Дэран і Клеба павярнулі ў вузкую расколіну. Бітва закончылася, гвіблы — так называлі

жыхароў падгор'я, — тоўпячыся і топчучы сваіх жа, уцякалі ў скальныя прахоны. Пераможцы забіралі ў забітых ворагаў дыяментавыя молаты і рушылі ў пагоню за ўцекачамі ўглыб гор.

Такую ж зброю ўзялі сабе Дэран і Клеба — абодва адважныя прадстаўнікі свайго племені, таўставаценькія, у сініх безрукаўках, на якіх было з дзесятак кішэняў, дзе захоўваліся ў асноўным зёлкі і адмысловыя прыправы для страў на розныя жыццёвыя выпадкі, над безрукаўкамі віселі металічныя пласцінкі лат — прыкмета ваеннага часу; абодва з рудымі бародкамі, з востраканечнымі чырвонымі капелюшамі на галовах. Яны ростам ледзьве даставалі да пляча Мечніка, але, жылістыя і лоўкія, не саступалі яму ў фізічнай моцы.

У цёмным лёху трафейныя молаты гвіблаў ззялі белым агнём і асвятлялі шлях. Меч жа Мечніка ў цемры зіхцеў, нібыта смаляная паходня, фіялетавым полымем.

Пажылы Клеба ішоў першым, за ім Мечнік, а апошнім — малады Дэран. Такі парадак быў разумны, бо маладыя ногі Дэрана не давалі яму адстаць і ён мог абараніць падарожных з тылу. Гвіблы — сутулыя, даўгарукія, апранутыя ў шкурныя накідкі з касцяной кальчугай, мелі зморшчаныя твары са сплюснутымі насамі, чым нагадвалі вялікагаловых дзікоў. Падабенства дапаўнялі рэдкая поўсць на спіне і крывыя зубы. Яны — жыхары падзямелля, таму натуральна, што нашмат хутчэй перасоўваліся ў лёхах і расколінах гор, чым гмуны. Адступаючы ва ўсе бакі гары пасля бітвы, яны маглі ў любую хвілю нагнаць Мечніка і яго спадарожнікаў.

Аднойчы так і адбылося. Больш за дзесятак гвіблаў рухаліся паралельнай галерэяй падзямелля, яны ўлавілі сваімі чуйнымі вушамі ворагаў і пэўны час за імі сачылі. Неўзабаве гвіблы зразумелі, што тых усяго толькі трое і, калі галерэі скрыжаваліся, рынулі ў атаку. Мечнік і яго спадарожнікі заўсёды былі напагатове, таму вельмі асцярожна падыходзілі да ўсіх падземных ростаняў. Убачыўшы цені атакуючых гвіблаў, Дэран адкінуў молат, выхапіў з-за спіны баявую сякеру і адным размахам назаўсёды спыніў дваіх. Падаспеў Мечнік. Фіялетавы водбліск ад яго мяча высветліўікластыя, скажоныя гневам і страхам мысы гвіблаў. Яны адхінуліся назад. Падобную зброю народы Рок-ната бачылі толькі ў Архатора і забітага ім легендарнага абаронца гмунаў Эргода. Меч лёгка прабіваў шлемы, кальчугу, шчыты гвіблаў. Некаторыя гвіблы шапталіся: «Эргод паўстаў з мёртвых!» Калі гэта вестка разышлася сярод іх народа, яны паслалі ганцоў да Архатора па дапамогу. Але ніхто з таго атрада яшчэ не вярнуўся.

Гвіблы страшэнна выскаляліся, рыкалі, махалі сваімі молатамі. Галерэя была вузкая, толькі чацвёра з першага шэрага маглі несці пагрозу для траіх падарожных. Тады ваяры падзямелля, якія былі ў апошніх шэрагах, пачалі дзяўбаць скалу, робячы абыходны лёх. Пад іх чароўнымі малаткамі лёх, нібыта скала была са шчыльнага пяску, хутка павялічваўся. Клеба разгадаў гэты манеўр. Пакуль Дэран і Мечнік адбіваліся ад пярэдніх, ён адкінуў молат, дастаў сваю сякеру і, прытаіўшыся, чакаў, калі са сценкі ўзнікнуць злавесныя мысы гвіблаў.

Яго сякера рассекла шлем першага, хто з'явіўся са скальнай пароды. І болей гэтым разам яму не давялося яе ўзнімаць. Мечнік і Дэран прымусілі гвіблаў, што атакавалі ў першых шэрагах, кінуцца ва ўцёкі. А тыя ваяры падзямелля, якія зайшлі ў бакавы лёх, проста збаяліся высоўвацца.

Пасля гэтай адносна кароткай сутычкі трое падарожных хутка рушылі далей.

Мечнік, Клеба і Дэран, тры адважныя добраахвотнікі, вызваліся выканаць просьбу князя Монра — адшукаць «цэнтр вайны», той вайны, што разгаралася на берагах Цэнтраземнага, таму ім не варта было ўступаць у бай з атрадамі гвіблаў, лепей таемна іх абыходзіць.

Неўзабаве падарожныя выйшлі ў шырокую падземную залу.

Клеба ўважліва агледзеў пагаслы агмень і месца начлегу падземных жыхароў — вырытыя ў падлозе яміны.

— Тут нядаўна было каля сарака гвіблаў. Яны адпачывалі і елі захопленых у нашых вяскоўцаў коз.

Там-сям у святле дыяментавага молата былі відаць пасмы поўсці. Гвіблы ў сне часаліся аб камяні.

— Яны адчувалі трывогу, — прамовіў Клеба.

— Мо зробім прывал? — сказаў Дэран. — Пара ўжо падсілкавацца.

— Трэба як мага хутчэй адысці ад месца бітвы, каб зноў не напаткаць рэшткі падземнага войска, — адказаў Мечнік.

— Табе не агідна есці ў такім смуродзе? — скрывіўся Клеба.

Яны хуткай хадою пайшлі далей.

— Вы як хочаце, а я ўжо галодны, — Дэран дастаў са свайго меха вяленае мяса, пасыпаў яго памолатымі зёлкамі бадзёрасці і ўвесь час на хаду жаваў…

— Скальныя козы — гэта не лугавыя баранчыкі, мяккія, з ружовым мясцам… — салодка ўсміхаючыся, прамармытаў ён скрозь зубы. — Затое вельмі сытна. Для стомленага чалавека — вельмі дарэчы... Праўда, скальных коз, як гэтыя нечысці выпаўзлі з гор, становіцца ўсё меней і меней...

Па кавалку мяса, абсыпанага тымі ж зёлкамі, з’елі Клеба і Мечнік.

Гэта дало моцы прыкладна на дзень.

* * *

На развілках і ростанях Клеба даставаў са скуранай торбы пергаментную карту і звяраўся з чырвонымі стрэлкамі, нанесенымі на ёй.

— Зараз будзе грушападобны грот — якраз палова нашага шляху, — сказаў Клеба. — Пасля яго нам трэба будзе ісці наўгад — трымаючыся кірунку на поўнач.

— Далей гмуны яшчэ не заходзілі, — пацвердзіў Дэран. — Кажуць, што гэты грот — ліхое месца.

Яны выйшлі на бераг падземнага круглага азярка.

На іншым беразе ў каменнай нішы ляжаў чорны валун. Абрысы берагоў возера, якія плаўна пераходзілі ў гэтую нішу, утваралі сілуэт вялікай грушы.

— Гэта той грот, — напружана сказаў Дэран.

— Вось тут, напэўна, і адпачнём, — сказаў Мечнік. — І, можа быць, — працягнуў ён, трохі падумаўшы, — нам спатрэбіцца захапіць праваднікa.

Над чорным валуном былі відавочна адмыслова пабеленыя муры. Святло молатаў, якія трымалі гмуны, выхапіла з цемры груба прамаляваныя чырвонай фарбай малюнкі — постаці звязаных людзей, — а іншыя пахілыя фігуркі танчылі вакол іх з занесенымі над галавой малаткамі.

У водах возера зіхцелі белым, нібыта мармуровыя гладышы, чарапы і абшкрэбаныя вострымі камянямі косткі людзей.

— Ідзем адсюль! — злосна прамовіў Дэран. — Гвіблы забіраюць нашу жывёлу, а калі яе ім не стае, забіраюць з сабой нашых пасялян.

— Што гэта? — спытаў Мечнік — ён ніколі не бачыў ні такіх злавесных фрэсак, ні такой колькасці рэшткаў.

— Гэта месца ахвяраў… Яны былі тут нядаўна, — сказаў Клеба. — Відаць, той жа самы атрад, — ён у свеце молата разглядаў месца нядаўняй стаянкі гвіблаў.

— Адпачнём проста ў галерэі! — сказаў Мечнік.

Лёх, які ішоў ад грушападобнага грота, рэзка пайшоў угору.

Праз трыццаць-сорак крокаў пад'ём стаў настолькі стромкі, што зняможаныя падарожныя не маглі ўжо ісці. Дэран ледзьве перастаўляў свае масіўныя ногі, абапіраўся, як кульгавец, на молат.

— Прывал, — сказаў Клеба.

— Прывал, — пагадзіўся Мечнік.

Дэран моўчкі апусціўся на зямлю. Праз хвілю ён ужо спаў.

— Пэўна, атрад гвіблаў ідзе тым жа кірункам, што і мы, — сказаў Клеба.

— Спадзяюся, мэты падарожжа іншыя.

Мечнік абапёрся на камень, задрамаў. Аднак спаў нядоўга.

— Уставайце! Уставайце! — закрычаў Клеба і пачаў трэсці вельмі соннага Дэрана.

Мечнік, адкрыўшы вочы, адразу праверыў похвы. Меч быў на месцы.

— Гара гудзе, — сказаў Клеба.

— Колькі мы спалі?

— Гадзіны дзве.

— Мала, далёка не пройдзем... Трэба хаця б яшчэ дзве гадзіны, — прамовіў Дэран. — Ён ледзьве ўзняў на ногі сваё квадратнае цела.

— Выкараскаемся з падзямелляў, тады адпачнём на адкрытым паветры, — Клеба прыклаў вуха да сценкі галерэі.

— Хутчэй адсюль. Там, над намі, штосьці адбываецца!

Яны кінуліся ўверх па схіле, тут жа за імі абвалілася столь і цалкам перакрыла лёх.

Штомоцы трое падарожных беглі ўгору, а на іх зверху стрымгалоў нёсся дзесятак гвіблаў. Тыя збілі з ног гмунаў, і ўсе адзінай масай пакаціліся ўніз. Гара над імі распаролася, на галовы і гвіблам, і падарожным яшчэ пасыпаліся гвіблы.

Расколіна, што на вачах утваралася ў гары, ішла глыбока ў дол, а яе, падаючы зверху, як рой вялікай жамяры, адразу запаўнялі гвіблы. У самым віры іх, шчыльна заціснутыя слізкімі і смуроднымі целамі, боўталіся і ляцелі ўніз Клеба, Дэран і Мечнік.

Яны ўпалі ў даволі вялізную падземную залу. Ва ўсе напрамкі ад яе адыходзілі вялікія і маленькія пячорныя галерэі. Гвіблы, якія змаглі ўзняцца на ногі пасля падзення, разбягаліся, лезучы, хто куды, у гэтыя лёхі. У іх рыклівых словах чуліся два імя: «Ар-р-р-р-хатор-р-р і Эр-р-р-годр-р-р». А калі яны азіраліся і бачылі перад сабой Мечніка, больш гучна выкрыквалі апошняе імя.

Мечнік выхапіў з похваў сваю зброю:

— Лавіце іх. Злавіце хоць аднаго мярзотніка!

Невялікага росту гвібл азірнуўся. Ён глянуў на меч, які ўзнёс Мечнік.

— Іншы! — завішчаў гвібл.

Але астатнія падземныя ваяры не чулі яго, уцякалі, ратаваліся.

Клеба і Дэран абступілі гвібла, схапілі за рукі. На скуры падземнага жыхара выступіў густы пот, поўсць стала вільготнай, яго рукі выслізнулі, ён ужо наважыўся ўцякаць у суседні лёх, але фіялетавае лязо Мечнікавай зброі спыніла яго.

Гвібл злосна глянуў у твар чалавеку і штосьці прарыкаў на сваёй гаворцы.

— Рукі! — крыкнуў яму Дэран і паказаў вяровачную пятлю.

Гвібл скарыўся, ён тросся ўсім сваім лядачым целам.

Падарожныя спешна пакідалі залу, дзе засталіся ляжаць некалькі гвіблаў, затаптаных натоўпам сваіх жа родзічаў. На вяроўцы, што звязвала запясці, Дэран цягнуў маларослага падземнага жыхара.

— Як цябе завуць? — спытаў Мечнік у гвібла.

— Крумаррг.

— Раскажы нам, што здарылася наверсе?

— Эрргодрр зноў паўстаў і забіў Аррхаторра. Мы думалі, што Эрргодрр — гэта ты, а ты не Эрргодрр, там на вышыні Эрргодрр.

— Архатор мёртвы? — перапытаў Мечнік.

— Хіба? — здзівіліся Дэран і Клеба.

— Так, пррацяты мячом Эрргодра, ён па кавалках асыпаўся ў Цэнтрраземнае морра... Бяда пррыйшрла на гвіблаў, — у вачах Крумарга адлюстроўвалася белае святло гвіблаўскіх молатаў, яго зялёныя зрэнкі нібыта трымцелі ад страху. — Ай-ай-ай, адно патаемныя спрраты захаваюць некаторрых з насс. Астатнія стануць пррахам горр...

— Ты насамрэч бачыў Эргода? — спытаў Клеба.

— Белы ффэрлн забіў Чорнага ффэрлна і забрраў жоўты меч... Я сам бачыў, як свеціцца ў рруках Эрргоддра жоўты меч...

Знячэўку Крумарг заспяваў:

*Жылі Тхог і Тванш,*
*Меў кожны свой народ:*
*Гвіблы й Архатор,*
*Гмуны і Эргод...*

— Ціха, — сказаў Дэран і пагразіў сякерай, — ты ж ведаеш канец гэтай старажытнай песні, — ён узняў вочы да пячорнай столі, набраў у лёгкія паветра і нечакана прыгожым барытонам зацягнуў:

*Не будзе больш параз —*
*Герой ідзе й Герой!*
*Настане годны час...*

— Адна перамога на Пладароднай даліне, якую нам прынёс Мечнік і князь Монра, — прамовіў Клеба, — у нас ужо ёсць.

— Гэты канец песні вы пррыдумалі нядаўна, каб вашыя баязлівыя ваярры не ўцякалі перрад намі!

— Маўчы! — яго за плечы трос раззлаваны Дэран. — Гэтую песню нашыя мудрацы падслухалі ў лістоце векавечных дрэваў!

— Колькі б у вас ні было герояў — два, як у песні, ці болей, — Тхога ніхто не перраможа!

— Якраз мы ідзём да Тхога, — сказаў Клеба.

— Адпусціце мяне, — узмаліўся Крумарг, — мне не можна...

— Адпусцім, калі ты правядзеш нас да яго замка, — адказаў яму Мечнік.

* * *

Некалькі дзён Мечнік, Клеба і Дэран з палонным гвіблам блукалі па падземных лабірынтах. Аднойчы натрапілі на невялікае паселішча падземнікаў. Усе жыхары спалі непрабудным сном.

— Не ррабіце ім ліха, — прасіў Крумарг.

Але Дэран ужо ўздумаў абрушыць на іх сценкі гары, каб ніколі гэтая зграя не прачнулася і не прыносіла няшчасцяў працавітым гмунам.

— Стой, — спыніў яго Мечнік, — нам трэба рабіць сваё.

— Напэўна, Эргод зараз збірае войска для экспедыцыі ўглыб гор, цяпер жа самы час, калі на паверхні гвіблы разбітыя, — сказаў Клеба. — Наш князь Монра — разумны і смелы ваяр, ён падкажа яму, што рабіць.

— Эргодрра ап’яніла перрамога над Аррхаторрам. Мы бачылі, што ён наўпррост, надгоррным шляхам, кірраваўся да замка Тхога. Адзін. Даррэмна. Чарры Тхога наймацнейшыя...

— Аднак Тхог не здолеў ні вам, ні Архатору дапамагчы, — прамовіў стары Клеба.

— Ваш Белы ффэрлн ужо тррэці рраз паўстае з Цэнтрраземнага морра, тррэці раз выходзіць на бітву, і Аррхаторр прраз некалькі сонных цыклаў таксама можа паўстаць, — адказаў яму гвібл.

— З даўніх часоў мы ведаем, што Цэнтраземнае мора будзе прысылаць нам фэлнаў, абаронцаў народа, — сказаў Клеба. — Вось і Мечнік цяпер з намі...

— А пра тое, што з Цэнтраземнага мора будуць паўставаць фэлны гвіблаў, ніхто ніколі не чуў, — дадаў Дэран.

— Мы ў гэта веррым, — падкрэслена расцягваючы словы, прамовіў Крумарг. — Архаторра нельга да канца забіць...

— Падымайся, — рэзка перапыніў яго Мечнік, — і ты таксама, — ён звярнуўся да Дэрана. — Пара ісці.

Малады гмун рашуча падняў молат і скіраваў у лёх. Астатнія пайшлі за ім.

Праз дзень Крумарг прывёў іх у тупіковую галерэю.

— Тут, за гэтай сценкай, будзе замак Тхога, — паказаў звязанымі рукамі Крумарг.

— Штосьці я не бачу аніякай розніцы, — сказаў Дэран. — Звычайная гара.

— Тррэба тррошкі прракапаць, — растлумачыў Крумарг.

— Развяжы яго, — папрасіў Мечнік.

— Вы майстры па такой працы, — сказаў Клеба. Працягнуў Крумаргу свой гвіблаўскі молат.

— Мы ніколі не смелі капаць у той бок, — узмаліўся той.

— А цяпер прыйшла пара паспрабаваць, — Крумарга напаткаў сталёвы позірк Мечніка.

— Дай і твой, — Крумарг звярнуўся да Дэрана.

Ён уставіў адзін молат вострым дзяржальнам у зямлю, другім пачаў біць зверху. Молаты ў яго руках асляпляльна засвяціліся. Гвібл вельмі ціха нешта замармытаў. У гары атрымалася расколіна.

— Дапамагай, — ён даў свой молат Дэрану, а сам узяў камень і пачаў ім біць па тым молаце, які тырчаў у расколіне скалы.

Горная парода пад уздзеяннем невядомай сілы разыходзілася, нібыта расплаўлялася, але плаўленне было халодным. Так ці інакш, гвіблы валодалі магічным майстэрствам, бо ў Дэрана, як ён ні стараўся, нічога самастойна не выходзіла, дакладней, неяк атрымлівалася рассунуць краі створанага прахону толькі тады, калі яго ўдары супадалі з рытмам дзіўнага мармытання Крумарга.

Лёх, які вырабляў гвібл, даволі хутка пасоўваўся наперад.

За спінай працуючага Крумарга стаяў з аголенай сякерай — чаго б там ні выйшла — Клеба. Мечнік таксама дастаў з похваў свой доўгі фіялетавы клінок.

Дзейства, якое дэманстраваў гвібл, заварожвала. Схіленая мокрая спіна blішчэла ад поту, рукі, напружаныя, спрытна ўзмахвалі молатам. Здавалася, гвібл не мае стомы ад такой працы.

Прайшло некалькі гадзін, і Крумарг у жаху адскочыў. Молат выпаў з яго рук.

— Вось ён! Коррань замка!

Белы мур ішоў уверх і ў дол. Бясконца, у самыя глыбокія нетры.

— Нам трэба прабіць яго! — рашучасць Мечніка не дала гвіблу магчымасці запярэчыць.

Ён зноў узяў молат у Дэрана.

На гэты раз так лёгка і прыгожа не атрымалася. Молат адскочыў, зрабіўшы ў белым муры невялікую выемку. Рукі Крумарга задрыжалі — ці ад нечаканай стомы, ці ад страху.

— Давай яшчэ!

Яны бачылі, як на вачах шнар, нанесены замкаваму муру, зарастае новым белым каменем.

Гвібл з шалёнай сілай наносіў удары молатам па молату. Тупы бразгат далёка разносіўся па падземных галерэях. Абудзіў не адно паселішча гвіблаў і не адну зграю кажаноў.

Дзяржальна молата пад ударамі пранікла на даўжыню далоні. Там, за белым мурам, быў слой ружовага мармуру. І як толькі вастрыё дзяржальна молата дакранулася да ружовага слоя, раздаўся выбух, вылецеў сноп агню. Лёх, які пракапаў Кумарг, стрэліў усімі чатырма падарожнікамі, як з гарматы...

У тую хвіліну яшчэ больш паселішчаў гвіблаў абудзілася, яшчэ больш зграяў кажаноў вылецела з пячор. І абуджаныя галодныя гвіблы ў падземных залах пачалі збірацца ў моцнае войска.

Блізіўся час рашучай бітвы.

Ужо авангард гмунаў сустрэўся з перадавымі атрадамі гвіблаў, ужо першыя выведнікі данеслі князю Монру, што падземных ваяроў дадалося, ужо гмуны адступілі, каб на адкрытай мясцовасці сустрэць ворага. Але ніколі яшчэ столькі падземнікаў адначасова не прачыналася, ніколі столькі галодных, раз’юшаных ваяроў падзямелля не збіралася для нападу на мірных пасялян.

Мечнік прыйшоў у прытомнасць і тут жа заўважыў узнесены над сабою бліскучы молат. Пазасвядомая сіла зберагла яго, ён паспеў перакуліцца. Молат гвібла выбіў даволі вялікую яміну ў падлозе падземнай галерэі. Мечнік, пнуўшы нагой у жывот Крумарга, ускочыў на ногі, дастаючы з похваў меч.

— Усё, не трэба, — заскуголіў гвібл.

Падняліся гмуны. У Дэрана была лёгкая кантузія, а ў Клеба быццам бы ўсё абышлося.

— Капай уздоўж мура, выходзім на паверхню, — загадаў Мечнік.

* * *

Смоўж IV не ведаў, колькі ён праляжаў,— гадзіну, дзве, дзень, тры дні, пяць, а можа, тыдзень. Мёртвага гепарда на зубцах вежы не было. Можа, вецер, які шалеў над вежай, скінуў яго долу. А сляды падзення змыў дождж. Смоўж IV бачыў далёка ўнізе мора, бачыў, як над ім збіраюцца аблокі. Цяпер жа ён адчуваў слабасць, але лёс спрыяў яму, ён застаўся жывы, мэта блізка.

Прыступкі бясконцымі квадратамі збягалі долу. Смоўж IV, з мячом у руцэ, спускаўся асцярожнымі крокамі. На ўзроўні, ніжэйшым за ўзровень зямлі, была арка, ружовае паветра вісела ў яе перыметры. Смоўж IV ступіў у арку. Спачатку ружовае паветра зрабілася вязкім, спыніла ўсе яго рухі, а пасля растала. Смоўж IV трапіў у залу — вялікую сферу, нібыта зробленую з крышталю, залітую белым матавым святлом.

— Ты прайшоў?!

Перад ім стаяла Элон — у белай сукенцы, такой жа самай, як пры першым спатканні са Смаўжом.

— Ты?! Як?

Яны падышлі адно да аднаго і па-прыяцельску абняліся.

— Ты змог, — казала яна, — я ведала, што ты гэта зробіш!

Ён бачыў яе захопленыя, радасныя вочы, яе прывабны твар. Ён адчуваў яе далоні на сваіх плячах. Ён сам, ужо з пяшчотнай моцай, абняў яе, было прыемна адчуваць яе стрункую паставу.

Святло сферы з вельмі малым інтэрвалам замігцела, уся зала пачала абарочвацца вакол цэнтра, дзе яны стаялі.

Калі рух абарачэння павялічваўся, іх адкінула да крыштальнай сценкі. У гэты момант цела дзяўчыны пачало ўтанчацца, быццам пераўтваралася ў белую змяю, абвівала яго, моцна сціскала.

Потым сферычная зала перастала абарочвацца, зноў мерна заззяла белае святло. Смоўж IV быў, нібыта ў кокане шаўкапрада, абвіты тонкай трубкаю, зробленай з невядомага матэрыялу. Сам кокан знаходзіўся ў шкляной капсуле. Скурай ён адчуваў, што на трубцы былі шматлікія тонкія іголачкі, якія небалюча праціналі амаль усё яго цела. Праз шчыліну паміж віткамі трубкі ён бачыў перад сабой сферычную залу.

У цэнтры яе на фатэлі сядзеў вельмі стары чалавек. Ад яго галавы ва ўсе бакі крыштальнай залы адыходзілі тонкія рознакаляровыя, быццам лазерныя, промні.

— Нарэшце яна цябе прапусціла, — Смоўж IV пачуў голас старога.

Па лазерных промнях прайшлі дробныя вясёлкавыя хвалі.

— Яна, — працягваў голас, — сістэма кантролю карабля. Яна сочыць, каб усе, у тым ліку і капітан, выконвалі прадпісаныя статутам законы. Маю гонар прадставіцца — капітан карвета «Гесма» Сог Свэс. Мой карабель належыць Налокскай зоры. Для вас мы невядомыя іншапланетнікі. Карабель зроблены з прыроднага астэроіда. Хаця форма ў космасе не мае значэння. Для чаго ты мне патрэбны? Спаць... Так, проста спаць. Будзеш спаць, спаць і спаць. Па статуту на караблі павінна быць два капітаны — адзін спіць, другі вядзе карабель і камандуе экіпажам. Кожнага разу пасля анабіёзу, пасля поўнага супакаення свядомасці, трэба нанава суладжваць сябе, свае інтэлектуальныя здольнасці, свае пачуцці і настрой з інфасферай карабля... Другі капітан — брат-блізня ці чалавек, падобны па адпаведных характарыстыках. Стаць камандзірам карабля ў нас можа толькі прадстаўнік саслоўя пілігрымаў. Для будучага капітана з самага зачацця плануецца напарнік, у большасці выпадкаў клон... — тут голас старога зрабіўся больш напружаным, у ім ужо не чуўся тон паведамленняў. — І хоць ён выхаваны як ты, рос разам з табой — па абуджэнні заўжды ўзнікае непрыемнае адчуванне, нібыта ў тваім уласным доме, у наладжаным сімбіёзе з караблём, у тваёй душы хтосьці пабываў, хтосьці заходзіў і інспектаваў тваё запаветнае. А тады была вайна. Памежная вайна з Тэрабегноскай імперыяй. Наш карабель быў вельмі пашкоджаны, я ледзьве вывеў яго з-пад абстрэлу. Мне было патрэбна сыходзіць у анабіёз. З маім братам-напарнікам здарылася неверагоднае, ён лічыў, што я няправільна вёў бой і сваёй рызыкай ледзь не знішчыў наш карвет. Праўда, я здагадаўся пра гэта толькі калі брат сам быў у анабіёзе, у інфасферы карабля заставаліся сляды яго папрокаў у мой адрас. Я адчуваў, што яго непрыязнь нарастае. І аднойчы ён вырашыў пазбавіцца ад мяне. Сістэма паспела вывесці мяне з анабіёзу, і мне давялося пазбавіцца ад яго. Каманды таксама спяць папераменна, праўда ў іх свой адмысловы непаўназменны графік, каб цалкам не гублялі кантактаў між сабой і быў лепшы абмен досведам... Мая каманда, натуральна, падтрымала мяне — яго каманда ўстала за яго. Паміж імі пачалася сапраўдная вайна, я пакінуў іх за пераборкай... Там ідзе свая гісторыя, эвалюцыя, якой, магчыма, неўзабаве настане канец.... Шчыра, мне не хацелася ўжо ніколі аніякага напарніка, але я не змог ускрыць сістэму кантролю. Патрабаванне, каб на караблі быў другі капітан,

хаця б у анабіёзе, я абысці так і не змог. Карвет не можа цалкам мне падпарадкоўвацца і сысці ў далёкі космас. Ён можа толькі адправіцца на базу нашай Налокскай зорыі, на якой я па вядомых прычынах пакуль не хачу з’яўляцца... Яна пагадзілася апусціць мой карабель каля вашай планеты. І выбрала цябе. Цяпер ты будзеш спаць і вучыцца, як кіраваць караблём. Вучоба будзе тэарэтычнай і вечнай... Сыходзіць у анабіёз я болей не жадаю. З гэтага моманту я не лічу сябе падданым аніякай дзяржавы, імперыі, зорыі, мой карвет — мая ўласнасць, мой дом, які цяпер зможа адправіцца ў любы куток Сусвету.

Промні, што ішлі ад яго галавы, пачалі пералівацца роўнымі колерамі. Сог тэсціраваў сістэмы карабля.

— Цяпер карвет можа цалкам выконваць мае загады. І спачатку трэба папярэдзіць стрэл вашых вайскоўцаў. Мы стрэлім першымі.

Прытомнасць паступова пакідала Смаўжа IV, яе нібыта выпампоўвалі з яго, і на вызваленае месца пакуль яшчэ цёмнай плынню ўліваліся не вядомыя яму сімвалы.

* * *

Молат, якім спрытна працаваў Крумарг, раптам праваліўся ў пустэчу. У падземны лёх ударыў струмень святла і свежага паветра.

Дэран адштурхнуў Крумарга і першы выйшаў на паверхню.

Роўным ружовым святлом зіхацела далёка-высокая столь неба. Цішыня і спакой.

— Давайце сюды, можна! — крыкнуў Дэран.

Па чарзе на паверхню выйшлі Клеба, затым Мечнік. Апошні за каршэнь выцягнуў гвібла. Усе энергічна лавілі ротам вецер і ачышчалі адзенне ад шматдзённага пылу Шурпатых гор.

Гмуны пакармілі палоннага мясам горных коз. Пасля цяжкай працы, якую ён выконваў у выкліканым самім сабой трансе, гвібл заснуў. Мечнік і Клеба пакінулі сачыць за ім Дэрана, а самі пайшлі прагуляцца вакол замка — магчыма, знойдуць які-небудзь уваход.

— Глядзі, не дай яму перайсці ў глыбокую спячку. Потым не разбудзіш.

— Яны летаргуюць толькі ў сваіх цёмных норах, — адказаў з разуменнем справы Дэран.

Мечнік і Клеба, уважліва азіраючы мясцовасць, пайшлі ўздоўж замка. Аднак ні моста, ні брамы не было відаць. Голыя стромкія, адпаліраваныя сцены.

Сам замак — правільнай трохкутнай формы. Муры вышынёй локцяў сто. Тры вежы па кутах, і галоўная, што ўзвышалася над астатнімі, была ў яго сярэдзіне. Зрэдчас з вострага піка галоўнай вежы вырываўся тонкі, ледзь прыкметны прамень ружовага святла. Ён біў у нябесную столь, якая зіхцела ад яго такім жа ружовым колерам. Далёка ўнізе, пад скаламі, на якіх стаяў замак, плёскаліся хвалі Цэнтраземнага мора. У наваколлі не было прыкмет жыцця — аніводнай жывой істоты, нават немагчыма было заўважыць птушак. Нібыта жывое абыходзіла гэты замак.

Прыкладна праз тры гадзіны яны вярнуліся да таго месца, дзе пакінулі Дэрана і Крумарга. Яны ўбачылі карціну неверагодную: гмун, прытуліўшыся да гвібла, мірна пасапваў.

Мечнік і Клеба выбралі сабе месца начлегу бліжэй да мураў замка.

* * *

— Ну што? — спытаў назаўтра Дэран.

Ён абмыўся вадой з біклагі, дапіў рэшту.

— Ураджанне, што замак цалкам непрыступны, — сказаў Мечнік.

— Так, ні брамы, ні вокнаў, — пацвердзіў Клеба.

— Навокал ані дрэва, няма з чаго зрабіць драбіны, пляцоўка перад мурамі невялікая, насып з каменняў наўрад ці ўтрымаецца. Дый учатырох мы б яе рабілі, пэўна, з месяц.

— Так, выбіваць са скалы глыбы, уздымаць да муроў замка, складваць — цяжкая праца, — пацвердзіў Клеба, — але калі нічога не прыдумаем — будзем пачынаць, бо гвіблы могуць адправіцца па нашых слядах.

— Пакуль мы не пачалі, нам трэба спусціцца да мора, бо канчаецца вада, — паведаміў Дэран.

Фактычна гэта было не мора, а вялікае прэснае возера, самааднаўляльны рэзервуар вады — усе рэкі і ручаі, якія сілкаваліся дажджамі, зноўку сцякалі ў яго.

Замкавая скала стромка ішла ўніз, там, далёка, аб яе біліся белымі чубамі хвалі.

— Няхай Крумарг папрацуе сваімі прыладамі і зробіць спуск, ты прасачы, — сказаў Мечнік, — а мы з Клебам яшчэ паходзім каля замка.

Аднак як пранікнуць у замак больш лёгкім спосабам, яны так і не змаглі прыдумаць.

Вярнуліся Дэран і Крумарг, несучы поўныя гарбузовыя біклагі вады.

— Нічога да галавы не прыходзіць, — прамовіў Клеба.

— Што гэта за муры, — здзіўляўся Мечнік — ні яго зброя, ні зброя падземнікаў іх не брала, — і як гэты ваш Тхог з іх выходзіць?

— Чарры Тхога моцныя, — сказаў Крумарг і раптам паўшэптам дадаў: — але я ведаю, як прранікнуць у замак.

Усе глянулі на крыватварага гвібла.

— Калі я вам скажу, вы мяне адпусціце?

Мечнік, зірнуўшы ў зялёныя, як у змяі, вочы падземніка, адказаў:

— Калі гэта будзе дзейны спосаб — адпусцім. Слова ваяра.

— Глядзіце, — Крумарг дастаў са сваёй торбы вялікага смаўжа. Яго домік займаў дзве далоні. А нага смаўжа расцягвалася аж на локаць у даўжыню і паўлокця ў шырыню. — Я ледзьве адарваў яго ад цалкам гладкай скалы над морам. Думаю, што два такіх смаўжа вытрымаюць вагу чалавека.

— Два для ног, два для рук і яшчэ два — каб перастаўляць вышэй! — усклікнуў Дэран.

— А ці захочуць смаўжы прысмоктвацца да муроў замка? — спытаў Клеба.

Крумарг узяў смаўжа, плёснуў са сваёй біклагі вады.

— Я адмыслова набраў з цвіллю...

Вялікі смоўж праз некалькі хвілін сапраўды вельмі моцна прысмактаўся да гладкіх муроў замка.

* * *

Клеба, Дэран і Мечнік ведалі, што ім належыць ісці да горных вяршынь, да муроў замка, таму кожны нёс з сабою маток тонкай, але трывалай вяроўкі. І ўсё ж такі Клеба прапанаваў ізноў спусціцца да мора і нарабіць з водарасцей яшчэ вяровак, бо сярэдняя вежа была даволі высокая.

Мечнік абматаўся вакол пояса, у чатырох вялікіх смаўжоў зрабілі дзірачкі ў доміках, працягнулі праз іх вяроўку, каб заўсёды была страхоўка і можна было абвіснуць — паадпачываць.

Перастаўляючы смаўжоў, даючы ім як след прысмактацца да мармуровых муроў, Мечнік паступова караскаўся ўгору.

— Адпусціце мяне, адпусціце, — заныў Крумарг. — Вы абяцалі!

— Як толькі я буду паднімацца на мур, ты будзеш вольны, — злосна сказаў яму Дэран.

— Пашкадуйце, адпусціце цяпер, — плакаўся гвібл.

Нарэшце Мечнік устаў на мур. Ён прывязаў вяроўку да зубца, скінуў адзін канец гмунам.

Першым па вяроўцы паднімаўся Клеба.

— Ты вольны, — сказаў Дэран Крумаргу і пачаў абвязвацца вяроўкай.

Калі на трэць ён падняўся, — скінуў гвіблу молат.

Той падняў зброю, пайшоў да таго месца, дзе калісьці сам prакапаў лёх.

Потым развярнуўся і пабег да муроў замка.

— Не, я з вамі! — раптам усклікнуў гвібл.

— Мы ж ідзём да страшнага Тхога! — адказаў яму Дэран.

— У мяне не засталося ані сваякоў, ані сябрроў, а калі натрраплю на вашых, то й не жыць мне. Я толькі пагляджу, што там...

— Давай яго сюды, — крыкнуў Мечнік.

Крумарга цяжка было падымаць. Яго потнае цела ледзь не выслізвала з вяровачнай пятлі.

На зубцах мура гвібл моцна сціснуў молат, чорныя пазногці ўпіліся ў дзяржальна. Ён ступаў так ціха, так асцярожна.

— Чаго ты так напалохаўся? — уважліва гледзячы на Крумарга, спытаў Клеба.

— Паводле нашага падання, — ціха адказаў той, — замак Тхога ахоўваюць тры крылатыя коткі... Я думаў, гэта праўда.

— Ты нас не папярэдзіў! — Дэран схапіў гвібла за загрывак.

— А можа, яны спяць, — перайшоў на шэпт Крумарг.

— Усім трымаць цішыню, — загадаў Мечнік.

Яны бясшумна спусціліся ва ўнутраны двор замка.

Нікога не было відаць. Пустка і бязмоўе.

* * *

Наступным днём яны ўзабраліся на галоўную вежу. Аніякіх крылатых котак яны не пабачылі.

З вежы добра было відаць усю краіну. Хрыбтом дракона цягнуліся ланцуговыя горы, справа ад іх блішчэла Цэнтраземнае мора, на супрацьлеглым беразе карычневым даляглядам разлівалася Бурае балота. Злева ад Ланцуговых гор, уздоўж Срэбнай ракі, ляжала Травяністая ці — як яе яшчэ называюць — Пладародная даліна, прыціснутая Шурпатымі гарамі. За ёй цямнеў Нягнуткі лес. Срэбная рака прабіла пячору пад адной з Ланцуговых гор і збягала бліскучым вадаспадам у Цэнтраземнае мора.

— Вунь там сустрэліся ваш Эрргодрр з Аррхаторрам, — прамовіў Крумарг, захоплена азіраючы непрыгожа змружанымі вачамі краягляд. Нячаста падземнікам даводзілася бываць на вялікіх адкрытых прасторах — ён паказаў на адну з Ланцуговых гор са зрэзанай вяршыняй.

— Ты сам бачыў, як яны біліся? — спытаў Клеба.

— Так, мы глядзелі знізу, а пасля адышлі на суседнюю гарру.

— Як жа вы гэта змаглі? — здзівіўся Дэран. — Вы самі расказваеце, што маланкі б’юць і неба цямнее, калі з ворагамі б’ецца Архатор.

— Я спачатку напалохаўся, але нічога такога не адбылося, блішчэлі іскрры ад мячоў, чуліся звон і кррык... Вельмі моцны, мы нават вушы свае пазатыкалі рукамі… Аррхаторр напачатку перрамагаў, а потым ён урразррассыпаўся... Эрргодрр узяў яго меч і пайшоў пррост на нас...

— Вось так рассыпаўся... І ніякай буры, ні землятрусу?

— Толькі меч Аррхаторра блішчэў, як жоўтая бліскавіца...

— Гвіблам увогуле нельга верыць, вы спачатку кажаце адно, потым іншае.

— Крумарг кажа праўду, — сказаў Мечнік, — я таксама біўся з Архаторам. І ён перамог мяне.

— Ты біўся з Архаторам! Ты нам гэтага не казаў, — усклікнуў Дэран.

— Я ўхіліўся ад апошняга ўдару. Упаў з Ланцуговых гор у Цэнтраземнае мора...

— І паўстаў з яго... — дадаў Клеба, — як і нашыя фэлны.

— Я помню, Клеба, ты выцягнуў мяне, беспрытомнага...

— І такім чынам я, звычайны рыбак, зрабіўся скалалазам.

— Так, Мечнік быццам бы падобны да фэлна, — нечакана ўмяшаўся Крумарг, — толькі не зусім...

— А да каго ён падобны? — усхапіўся Дэран.

Далёка над Травяністай далінай успыхнула і разлілася на паўнеба вогненнае зарава.

— Вайна, — сказаў Крумарг. — Я не хачу болей ваяваць.

— Ах ты, гідкі гвібл... — выкрыкнуў Дэран, выхапіўшы сякеру.

Дэран добра ведаў, што азначае гэта зарава.

Гмуны падпалілі свае дамы, замкі, вёскі. У іх не было такога трывалага мура, каб яго не зруйнаваў бы молат гвібла. Толькі на адкрытай мясцовасці, на рыхлай зямлі альбо ў дрыгве, падалей ад камяністых гор можна было змагацца з гвібламі. Але гмуны палілі дамы. Значыць, войска адступала. Адступала ў лес, пад прыкрыццё дрэў і жывёл, якія не пераносілі паху гвіблаў. А дзеці і жанкі беглі да вадаспада, каб спусціцца па рыбацкіх сходах да мора і на караблях адплысці падалей ад берагоў, па якіх шнырылі зграі галодных гвіблаў.

Гэтым разам здарылася неверагоднае — адначасова прачнуліся ўсе падземнікі...

Клеба ўстаў паміж Дэранам і Крумаргам.

— Пусці мяне! — крычаў раз’юшаны Дэран, — самі сябе жэрці не будуць, бо смярдзяць жахліва...

— Але ён тут, а не там, — глуха сказаў Мечнік. — Нам трэба ўніз, па прыступках. Вайна закончыцца тут.

* * *

Клеба, Мечнік, затым Крумарг і Дэран прыпыніліся перад аркай з ружовым паветрам. Пастаялі хвілю ў нерашучасці, потым, асцярожна азіраючыся, па чарзе зайшлі ў яе. Яны апынуліся пад крыштальнымі скляпеннямі сферычнай залы. Даўжэй за ўсіх пратрымаўся ў арцы Крумарг. Яго цела моцна ўвязла ў ружовым паветры, ён нават быў знерухомеў, цалкам аслабелы, але ў рэшце рэшт ружовае паветра растала, і ён далучыўся да астатніх.

У цэнтры залы, у фатэлі, што паўтарала выгіны цела, сядзеў пажылы чалавек. Яго вочы былі шчыльна змружаныя. Ад галавы ва ўсе напрамкі сферычнай столі ішлі тонкімі рознакаляровымі павуцінамі падобныя да лазерных промні. Чалавек быў засяроджаны сам у сабе.

— Гэта Тхог? — спытаў Мечнік у сваіх спадарожнікаў.

Пажылы ў фатэлі павольна падняў, як быццам яны былі вельмі цяжкімі, зморшчаныя павекі:

— Сог па прозвішчу Свэс. Некаторыя мясцовыя дыялекты пачалі фанетычна няправільна перадаваць маё імя — ці то Цхог, ці то Тхог. А вы, як я разумею, — Ял Днеж са смешнай мянушкай Смоўж.

Сог усміхнуўся.

— Мае калегі мяне так празвалі, — адказаў Мечнік.

Дэран і Клеба здзіўлена пераглянуліся.

— Нічога смешнага я не бачу, — працягваў Мечнік. — Я магу падцягвацца на адным пальцы рукі, таму мне лёгка падымацца па скалах, адна выемка, адна шчыліна ў пародзе дае мне шанцы на ўзыходжанне. Збоку падаецца, што ў мяне прысмочкі на пальцах. А на спіне ў мяне заплечнік... Так што — Смоўж. І смаўжы дапамаглі наведаць вас. Узабрацца на вашыя муры...

Сог, не мяняючы ўсмешку, разглядаў яго — шырокія плечы, цёмна-сталёвага колеру вочы, русыя валасы.

— Значыцца, яна і вас сюды прапусціла. Праходзьце бліжэй да сярэдзіны.

— Нас як бы ніхто не прапускаў. Мы самі хацелі з вамі сустрэцца, — сказаў Дэран.

Стары жэстам рукі прымусіў яго замоўкнуць, сам звярнуўся да Мечніка:

— Смоўж-аўтэнтык, як я дапускаю.

Мечнік на крок адступіў. Поплеч з ім у разгубленых паставах застылі гмуны і гвібл.

— Вы спазніліся, мой цікаўны знаёмца, — працягваў стары. — Як вы разумееце... Хаця да канца вы не можаце зразумець. Я не магу вас трымаць на Рок-наце. Мы ўжо пра ўсё дамовіліся з вашым, хм.., як правільна сказаць, дублікатам.

Ял Днеж па мянушцы Смоўж адчуў, што наліваецца гневам.

— У вас ёсць прычына злавацца, — казаў Сог. — Я магу вас выкінуць назад, да вашай базы. Але гэта вам не дапаможа. Ваш скафандр даўно пашкоджаны. І адлік пайшоў. Засталася гадзіна. Хаця зброя майго карабля знішчыць ваш зарад і заадно ўвесь флот, які кружляе вакол Керменды. І, заўважце, я буду мець на гэта права, бо майму караблю пагражае вялікая небяспека. Пакінуць вас тут, за пераборкай, ці бо для вас гэта — за сценамі замка, як аднаго з начальнікаў маёй каманды, — рызыкоўна. Калі вы сюды прайшлі, значыць, вы адпавядаеце саслоўю пілігрымаў. Яна ж вас прапусціла.

— Але ж я прыйшоў не адзін, — Смоўж адчуваў пагрозу ў словах старога. — Можа, мы з маімі сябрамі...

— Сябрамі? — усклікнуў Сог. — Падыдзі і стань побач са мной, — загадаў ён Крумаргу. — Ахоўвай мяне!

Той паслухмяна падбег да крэсла і прыняў баявую пазіцыю, узняў свой молат.

— Ён з маёй каманды. А тыя з каманды майго былога напарніка, яны яшчэ не да канца падпарадкоўваюцца, але мы іх перапраграміруем...

— Перапраграміруем?

— Гэта інфаробаты.

— А чаму яны гэтак выглядаюць?

— Сістэма кантролю зрабіла іх такімі згодна з тваімі ўяўленнямі. Зараз пагартаем, што яшчэ можа быць цікавым для цябе.

Захваляваліся промні, што ішлі ад галавы Сога.

Тут жа гмуны пераўтварыліся ў двух вуглаватых кібаргаў, узброеных лазернымі карабінамі. Праз секунду побач з Мечнікам ужо стаялі дзве амазонкі з лукамі і поўнымі калчанамі стрэл за спінамі, потым узніклі папугай і пелікан Кікі, потым два тоўстыя аднаногія піраты, потым прафесар Глос і Элон, потым вялікія памідор і яблык.

— За прасторай Рок-ната нашы інфаробаты табе не страшныя, але пакуль ты тут, інфармацыйнае ўздзеянне супадае з псіхічным...

— Вярні іх гмунамі. Я прывык.

Дэран і Клеба зрабілі крок да яго і застылі, як персанальная варта.

— Я ведаю, спадар Днеж, што вам прапанаваць.

Меч у руцэ Смаўжа пераўтварыўся, як калісьці і быў, у зеянскі бластэр.

— Падыдзіце сюды. Бачыце? Ахутаны трубкамі чалавек. Гэта ён, нежаданы ваш дублікат, зроблены без вашай згоды і дазволу. Вы маеце сваю зброю. Знішчыце яго, як калісьці вы ўжо спрабавалі. Вы зоймеце яго месца. Законнае месца, дадзенае вам правам прыроды! Заснуць і спаць з надзеяй на абуджэнне ўсё-ткі лепей, чым знікнуць навечна... Зараз адключыцца сістэма анабіёзу, адкрыецца капсула, можаце страляць.

Смоўж падняў бластэр і прыцэліўся ў тое месца, дзе пад трубкамі павінна быць сэрца Смаўжа IV.

Пальцы намацалі цынгель, напружыліся...

— Я так не магу, — ён апусціў руку.

— Калісьці вось гэтак у мяне прыцэльваўся мой брат-блізня.

— Няпраўда! — нечакана для ўсіх сказаў Клеба, ён выступіў наперад. — Гэта былі толькі вашыя здагадкі.

— Наш капітан так не рабіў, — пацвердзіў Дэран.

— Тут капітан я, — гнеўна сказаў Сог.

Крумарг, што стаяў побач з ім, пераўтварыўся ў шасцірукага металічнага робата, у кожнай руцэ якога заблішчэлі лазерныя пісталеты.

У тую ж хвілю гмуны таксама прынялі воблік такіх монстраў.

Крумарг-робат першы пачаў з усіх рук паліць па іх. Тыя ледзьве паспявалі збіваць яго стрэлы. А Крумарг, не спыняючы агню, вокамгненна мяняў свае воблікі — то ён андроід, узброены шматствольнай гарматай, то самаходная танкетка, як вожык, пакрытая рулямі кулямётаў, то лятаючы сподак, па краях якога бластэрныя соплы — сподак круціўся ў паветры, выпускаючы з кожнай стрэльбы аранжавыя промні, — былі іншыя вайсковыя іпастасі, якія мяняліся настолькі хутка, што іх абрысы немагчыма было ўлавіць вокам. І гэта ўсё страляла ў напрамку, дзе хвілю таму стаялі пажылы і малады гмуны. Хаця з імі таксама адбываліся метамарфозы, у агністых сполахах мільгацелі не менш страшэнныя і не менш узброеныя пачвары.

Нарэшце тое, што было Крумаргам, пераўтварылася ў адзін плазменны шар, які за секунду надзьмуўся, выплюхнуў з сябе шырокі зырка-жоўты пратуберанец. Энергетычны струмень хутка дасягнуў месца, дзе імкліва змянялі свае выявы былыя гмуны. Агромністая кропля густога полымя накрыла іх. Клеба і Дэран — цяпер яны былі такімі, якімі іх прывык бачыць Смоўж, — застылі, нібыта скарпіёны ў яшчэ не да канца зацвярдзелым бурштыне.

Сог паглядзеў на Крумарга, як быццам выказаў падзяку добраму жаўнеру. Той, ужо ў чалавечым вобліку, апрануты ў старадаўнюю парадную форму, з аксельбантамі, з бліскучымі цэшкамі і гузікамі, з карабінам на адной руцэ, стаяў перад ім, выцягнуўшыся ў струнку. На абліччы ён меў бульдожы выраз адданага целаахоўніка.

— Цікава, яны самі ці гэта яна прагаварылася... — услых падумаў Сог. — Ну што ж... Можа, вы паспрабуеце яшчэ, — звярнуўся ён да Смаўжа.

Ял Днеж стараўся не падаць выгляду, як быў збянтэжаны ўбачаным.

— Не, — сказаў ён.

— Я магу вам дапамагчы.

Сог ледзь прыкметна шчоўкнуў пальцамі. Крумарг пераўтварыўся ў спрутападобную істоту, у мацках-адростках ён трымаў рознакаліберныя пісталеты.

— Вы абодва будзеце пад яго наглядам. На выпадак недарэчных подумак. У цябе будзе шанц даказаць, што копія заўсёды горшая за арыгінал.

* * *

Гэта быў найпрыгажэйшы двубой!

Пад крыштальнай сферай у коле святла стаялі адзін супраць аднаго мужныя ваяры, падобныя, як блізняты, роўныя па фізічнай і духоўнай моцы. Адзін трымаў доўгі тонкі меч, клінок якога свяціўся колерам фіялкі, а ў яго спаборніка быў шырокі меч, які час ад часу загараўся жоўтымі святлінамі.

Мячы скрыжоўваліся — рознакаляровыя букеты іскраў рассыпаліся феерверкам.

І не было ўжо сферычнай залы — яны скрыжоўвалі мячы на вышыні галоўнай вежы. Вакол кружыліся бела-мармуровыя зубцы мура, пікі гор, неба, далёкае мора...

І ўжо не было вежы, яны скрыжоўвалі мячы на плоскай вяршыні гары — за іх спінамі аблокі надзімалі ватныя шчокі; сігалі, як цені ад стрэл, птушкі; успыхвалі зарніцы; у далёкія пагоркі білі маланкі...

І ўжо не было плоскай вяршыні — яны скрыжоўвалі мячы на вузкім каменным востраве сярод крывава-чырвонай магмы. Хісталіся і падалі ў вадкі агонь глыбы; гудзелі ад разагрэву і свяціліся белым колерам распаленыя скалы...

І ўжо не было каменнага вострава — яны скрыжоўвалі мячы на травяной паляне. Навокал стаяў густы лес. Высакародныя алені ўзнімалі галінастыя галовы; здалёк назірала за двубоем рысь; прабягалі крукаіклыя дзікі; пераляталі з галіны на галіну малыя і не вельмі птахі; выходзілі з гушчару ўважлівыя ваўкі...

І ўжо не было лясной паляны. Яны скрыжоўвалі мячы на вялікім каменным пляцы. Вакол тоўпіліся гмуны і гвіблы. Яны падбадзёрвалі двубойцаў крыкамі. Крывіліся страшэнныя грымасы гвіблаў... Узмахвалі рознакаляровымі каптурамі гмуны.

І ўжо не было паляны і лесу... Яны скрыжоўвалі мячы ў ільдзістай зале пячоры. Зіхцелі вакол іх вострыя сталактыты, узнімаліся вострымі дзідамі сталагміты.

І ўжо не было ільдзістай пячоры... Яны біліся ў галоўнай зале «Грота Духа»...

Смоўж IV з цягам двубою фехтаваў усё лепей і лепей. Яго выпады і ўдары рабіліся больш дакладнымі і выверанымі. Ужо рассекшы ў некалькіх месцах адзенне Смаўжа, ён нанёс яму лёгкія раны. І яшчэ ён адкрыў для сябе, што за неймаверную долю імгнення прадчувае тое, што хоча і што можа зрабіць яго спаборнік. Гэта ўсведамляў і Смоўж. Можна змагацца са сваім двайнікам, але як спаборнічаць са сваім адлюстраваннем? Твой самы хуткі рух у яго будзе такім жа хуткім. А калі тваё адлюстраванне зможа ацэньваць і асэнсоўваць цябе і нават папярэджваць твае задумкі...

Смоўж ясна зразумеў, што перамагчы Смаўжа IV не можа. Цяпер ён выпрабоўваў сябе — колькі зможа пратрымацца, наколькі ён сам трывалы і наколькі можна

быць моцным і спрытным супраць сябе ж. Пачуццё непрыязі да свайго нежаданага клона, якое з першай сустрэчы ўзнікла ў ім, цяпер змешвалася з зусім новым пачуццём павагі да яго, апрача таго, узнікаў якісьці непадпарадкавальны гонар за самога сябе, як да якаснага ўзору, не марнага, не выпадковага.

Калі Смоўж IV пасля смелага і даволі рызыкоўнага выпаду выбіў меч з яго рук, ён не адчуў страху і нянавісці, наадварот, ледзь не выкрыкнуў «брава», ледзь у думках не запляскаў далонямі, хаця той пагражальна наставіў на яго, ужо безабароннага, вастрыё мяча.

Потым Ял Днеж па мянушцы Смоўж не адразу зразумеў, што бачыць, што чуе:

— ...Гэта ваша прыроджанае права.

Смоўж IV адняў меч ад шыі Смаўжа і накіраваў вастрыём да сябе.

* * *

На базе, што размяшчалася на Кермендзе, не засталося аніводнай жывой душы. Вайсковы карабель «Міон» — апошні з апошніх, якія дагэтуль заставаліся на спадарожніку, — лёгка ўзняўся над плоскай паверхняй. Вогненныя струмені газу, што вырваліся з дзюзаў, распалілі камень, і па краях узлётнай пляцоўкі, дзе заставаліся гурбы снегу, уверх ускінуліся слупы пары. Карабель абагнаў іх і паімчаў у чорную вышыню.

Яго задача была размясціць на арбіце, над самім Рок-натам, некалькі спадарожнікаў сачэння, а потым адысці на бяспечную адлегласць.

Было прынята рашэнне пускаць ракету не з вайсковага карабля, а непасрэдна з самой Керменды, каб не выклікаць супраць яго, у выпадку, калі гэты аб’ект — усё ж такі іншаземны зоркалёт, верагодных адказных дзеянняў. Пад базай была зроблена адпаведная шахта.

Як завяралі вайскоўцы, моц ядзернага зараду невялікая. Трошкі перавышае магутнасць апошняй мадэлі кумулятыўнага снарада, якім ужо спрабавалі ўскрыць Рок-нат. Аднак дакладныя лічбы трымалі ў сакрэце.

Элон на караблі вылучылі асобную каюту. Але сталавацца яна павінна была разам з афіцэрамі. Спартанскія ўмовы, пра якія прыгадваў генерал Партан, не былі такімі ўжо страшнымі. Нават меўся барчык, куды свабодныя ад службы вайскоўцы маглі завітваць.

Праўда, Элон рэдка пакідала каюту. Яна любіла глядзець космас, азіраць Керменду і насцярожана сачыць за Рок-натам.

Яна стала знакамітай. Першы жывы чалавек, які хоць нядоўга, але ж пабываў і вярнуўся з Рок-ната. Ёй давялося запатрабаваць у генерала Партана асобную засакрэчаную інфалінію. Бо яе відэатэлефон разрываўся на малекулы і атамы — уся планета хацела яе бачыць, усе журналісты хацелі з ёй паразмаўляць, утварылася чарга псіхолагаў і псіхааналітыкаў, што хацелі даследаваць яе.

Апрача таго, журналісты дакучалі яе бацькам, яе навуковаму кіраўніку прафесару Глосу, супрацоўнікам лабараторыі. Яе цудоўнае выратаванне спарадзіла ўсеагульнае шаленства, нібыта яна сама была тым жаданым іншапланетнікам.

Паводле абрывачных звестак, якія журналісты ўсё ж такі ў Элон вырвалі з вуснаў падчас першых тэлефонных размоў, Рок-нат ахрысцілі Пячорай кашмараў, Гротам галюцынацый. Гэты аб’ект набыў у масавай свядомасці зеян празмерна злавесныя абрысы, а таму стаў яшчэ больш прыцягальным.

Ні ў чыноўнікаў, ні ў вайскоўцаў не заставалася больш сумненняў у правільнасці абранага рашэння. Загадку Рок-ната трэба было вырашаць тэрмінова, як таго патрабавала ўся грамадзянская супольнасць Зеі.

Два акрываўленыя скафандры, ці, дакладней, як высветлілася пазней, абрыўкі ад скафандраў, настолькі раскруцілі сітуацыю — давялі негатыўнае стаўленне большасці насельнікаў планеты да небяспечнай для грамадскага парадку мяжы.

Нават Элон прымусіла сама сябе прызнацца, што ад Рок-ната зыходзіць вялікая пагроза. У апошнім рапарце, які выпатрабаваў ад яе генерал Партан, яна пераканаўча паказала, што аніякай біялагічнай актыўнасці вакол і ўглыб увахода няма. Толькі псіхафізічнае ўздзеянне, якое адчула на сабе, яна не магла як след растлумачыць.

За яе гэта зрабіў доктар Сторк.

— Матэрыялы Элон Тасіч, — сцвярджаў ён, — толькі пераконваюць мяне ў правільнасці маёй гіпотэзы. Рок-нат — механічная сістэма... Дакладней, аналаг камп’ютэра, яго ўнутраныя працэсы нагадваюць працэсы, што адбываюцца ў вылічальнай машыне. А тое, што адбылося з Элон — гэта падобна да спробы кантакту з незнаёмым інтэрфейсам, нібыта дзіцё села за чужы камп’ютэр, на якім загружана не вядомая яму гульня, і прытым яшчэ на іншай мове. Цікаўнасць прымушае яго паспрабаваць разабрацца, вельмі пагуляць хочацца, ён націскае прывычныя яму клавішы, але гульня не працуе ці выдае зусім не тыя каманды, робіць нечаканыя ім аперацыі... Разумней выйсці з гульні і паспрабаваць перастасаваць камп’ютэр і яго інтэрфейс на свой лад, на сваю мову. А ў выпадку з Рок-натам — разумней яго адключыць ад электрасілкавання і разабрацца, як ён зладжаны...

Элон глядзела ў ілюмінатар.

Вялікая механічная рука выпусціла штучны спадарожнік, формай падобны да конуса. Рука запаволеным рухам схавалася ў адсеку карабля. Спадарожнік расправіў, нібыта жук крыльцы, свае сонечныя батарэі, развярнуўся носам да Зеі, наставіў вусы-антэны. Шырокая сотавая талерка, што знаходзілася ў яго кармавой частцы, скіравалася на Керменду.

«Міон» рушыў, павялічваючы хуткасць, у бок Зеі.

А праз два дні палёту пачалося тармажэнне да поўнага спынення.

— Генерал Партан! Ці магу я змяніць каюту? — званіла Элон па ўнутранай лініі.

— Што ў вас, спадарыня Тасіч? — з ледзь прыхаваным раздражненнем у голасе спытаў генерал.

— «Міон» развярнуўся, і я са сваёй каюты не магу бачыць Керменду.

— Вы дапушчаны да штабнога камп’ютэра, ён будзе трансліраваць ход аперацыі.

— Я хачу... Мне трэба назіраць гэта вачамі...

— Да галоўнай абсерваторыі я вас дапусціць не магу, там працуюць афіцэры, — ужо даволі гнеўна сказаў генерал.

— Мне досыць каютнага тэлескопа ці магу з кім-небудзь памяняцца!

— Я не дазваляю... перад самай аперацыяй... Дысцыпліна на караблі! — генерал кіпеў. — На вас няма болей часу...

Элон была ў роспачы.

Яна вырашыла пазваніць Сторку.

— Прабачце, доктар, дзе вы будзеце падчас аперацыі?

— Што з вамі, Элон? — навуковец на экране відэатэлефона выглядаў маладзейшым за свае гады. Ён сумленна нёс цяжар Элонавых клопатаў, таму быў гатовы выслухаць яе.

— Дзе вы будзеце сачыць за аперацыяй? — з хваляваннем спытала Элон.

— Ля галоўнага камп’ютэра. Буду назіраць за працэсам аблічэння дадзеных.

— Вы не пазычыце вашу каюту, толькі на час выбуху?

— Завітвайце. Мне трэба ісці, але я вас дачакаюся.

— Дзякуй, Доктар Сторк!

Каюта навукоўца была вельмі зручна размешчана, над ёй не было ні антэн, ні крылаў сонечных батарэй.

Доктар сам закрыў вечка ілюмінатара, памяняў шкло, прыставіў да яго тумбу люстранога тэлескопа, зноў адкрыў вечка. Глянуў у тэлескоп, падправіў. У прынцыпе, Элон сама магла гэта рабіць. Ва ўсіх каютах, дзе былі ілюмінатары, яны лёгка перарабляліся ў інструмент для візуальнага назірання за космасам. Яна ўмела карыстацца такім тэлескопам яшчэ з часу заняткаў на Зеі.

— Кірунак якраз на Рок-нат.

— Дзякуй.

— Добра, зараз абвесцяць паўгадзінную гатоўнасць, — ён яшчэ раз агледзеў каюту, памацаў сценкі, закрыў і адкрыў дзверы... — Калідор налева вядзе да выратавальнай шлюпкі.

Яна трывожна глянула на доктара.

— Нічога... Я ж вам казаў... Мы проста адключым яго... — ён выйшаў з каюты.

Пачуцці, як парыўны вецер, захліснулі сэрца Элон. Яна не да канца верыла ў гіпотэзу доктара Сторка, не цалкам прызнавала тэорыю прафесара Глоса, што Рок-нат — жывы арганізм. Але не навуковы бок усёй гэтай аперацыі, усяго гэтага жыццёвага спектакля, які разгортваўся перад ёй, хваляваў яе. І яна дакладна ведала, што гэта не быў непакой за сябе, за карабель, за экіпаж. Можа быць, гэта была трывога за Зею, за ўсю цывілізацыю, у рэшце рэшт. Але што менавіта адчувала яна, не магла сабе растлумачыць.

Элон не заўважыла абвяшчэння іншых гатоўнасцей, акрамя хвіліннай.

Потым пайшоў адлік.

— 10, 9, 8...

Яна прыпала да тэлескопа.

Ёй падалося, што выбух здарыўся раней на секунду...

* * *

Смоўж IV адчуў гарачую вастрыню жоўтага ляза. Ён ужо напружыў цяглiцы рук, каб рух атрымаўся моцны і надзейны. Яшчэ пры першых узмахах мяча ён спакойна вызначыў, чым  закончыцца двубой. Пачуццё «лішняга» безупынна цвяліла яго свядомасць. Ён сам паходзіць з небыцця, з якога яго ўтварылі невядомыя, апантаныя сваімі праблемамі і пошукамі сусветных тлумачэнняў людзі. Ён меў гонар — сваю місію для іх ён выканаў. Ці ж не справядліва, што прыроданароджаны мае больш права заставацца ў сваёй прыродзе?

Ял Днеж-Смоўж IV быў надзвычай спакойны... Народжаны са спакою, ён сыходзіць у спакой...

А Ял Днеж-Смоўж выкрыкнуў:

— Стой!

Успыхнулі белым колерам скляпенні падземнага грота. Успыхнула снежным колерам сферычная зала.

Потым была яшчэ большая ўспышка, нібыта ўзарваўся Сусвет.

* * *

Смоўж і Смоўж IV стаялі адзін супраць аднаго ў цэнтры сферычнай залы. Яны былі ў аднолькавых бірузовых туніках. Падобныя адзін да аднаго, як два браты-блізняты.

Аднак ад галавы Смаўжа IV, ад доўгіх, попельнага колеру валасоў, у сферычную столь адыходзілі markers рознакаляровыя, тонкія, як павуціна, промні. Яны пераліваліся, хваляваліся.

Побач з імі на раскладзенай белай фатэлі, цяпер падобнай да медыцынскага тапчана, у скурчанай позе ляжаў Сог. У яго бірузовай туніцы, такой жа самай, якая была на Смаўжу і Смаўжу IV, была прапалена чорная паласа. Ля ложка з цёплымі ад стрэлаў бластэрамі стаяў Крумарг.

— Яго дзеянні кваліфікуюцца як прымусовае стварэнне сітуацыі, што прывяла да пагрозы жыццю капітана, — ён казаў, нібыта аддаваў рапарт Смаўжу IV. — Былі прыменены крайнія меры. У яго выпадку гэта другі раз. Рэцыдыў ніколі не даруецца. Таму сумненняў не было.

Крумарг адступіў ад ложка, і ложак ахутаў туман.

— Яго цела будзе захоўвацца ў крыакапсуле, пакуль не будзе прадстаўлена судовай экспертызе, — сказаў Крумарг, — потым яму вылічаць параметры аднаўлення.

Калі туман рассеяўся, то з’явілася зусім новая, іншай канфігурацыі, празрыстая фатэля.

— Ваш галоўны пульт, капітан, — паведаміў Крумарг.

— У анабіёзе сістэма кантролю карабля мяне навучала, напэўна, таму яна мяне абрала першым, — Смоўж IV звярнуўся да Смаўжа. — Ты таксама ў свой час будзеш капітанам.

— Магчыма, — скептычна прамовіў той, ён сілай волі стрымліваў вяртанне пачуцця непрыязі і адмыслова адвёў погляд ад павуціннага вянца, што свяціўся над новым капітанам карабля.

Смоўж заўважыў застылых у энергетычнай кроплі Клебу і Дэрана.

— Вызвалі іх, — рыкнуў на Крумарга Смоўж тонам Мечніка.

— Я не магу, хай капітан Ял Днеж-Чатр іх выпусціць.

— Ял Днеж-Чатр?..

— Так на нашай мове гучыць яго імя.

— А як ты будзеш называць мяне?

— Ял Днеж-Мечнік, хаця мы з вамі не будзем так часта сустракацца. Толькі ў невялікі час перазменак.

— Мы будзем з вамі, — сказаў Клеба. Вакол гмунаў не было ўжо энергетычнай кроплі.

Мечнік і Клеба, а затым Мечнік і Дэран абняліся.

— Можа, ты зменіш сваю мысу? — папрасіў Мечнік Крумарга. — Аніяк не магу прывыкнуць да гвіблаўскіх фізіяномій.

— Наш народ па загаду нашага камандзіра, капітана Чатра, будзе выглядаць так, — ён зрабіўся трошачкі ніжэйшы, на ім былі апранутыя кароценькія штонікі, ногі мелі не то мяккія валасы, не то футра. Ён быў цалкам босы, выраз твару — чалавечы, смешны, але сімпатычны.

Капітан Мечнік запытальна паглядзеў на капітана Чатра.

— Не ведаю, чаму я выбраў менавіта гэта, — адказаў той. — Здаецца, калісьці мне ўсё вось так прыснілася.

— А як яны будуць называцца?

— Думаю, топаты. Я ўжо асушыў нежывыя Бурыя балоты на іншым беразе Цэнтраземнага мора. Атрымалася прыгожая краіна. Топаты там будуць гадаваць свойскую жывёлу, будаваць караблі, гандляваць з гмунамі.

— Але ж трэба спыніць вайну... — усхапіўся капітан Мечнік.

— Вайны ўжо няма, — сказаў Крумарг, цяпер ён выглядаў як Архатор, толькі валасы былі доўгія, белыя, вочы блакітныя. Ён быў ладны, высокі. З-за спіны выглядаў дабротны лук.

Ён перахапіў здзіўлены пагляд Мечніка.

— Капітан Чатр папрасіў, каб я быў фэлнам.

— Ты таксама, паводле статута карабля, павінен прызначыць сабе старпама, — сказаў капітан Чатр.

— А колькі я магу мець старпамаў? — ён паглядзеў на гмунаў.

— На дадзеным этапе аднаго... Потым можна будзе стварыць і цэлую каманду. Невялікі народ, але так, каб іх колькасць у цябе і ў мяне супадала… Нават можам завесці сем'і…

— Чаму ты кажаш то каманда, то народ, а не экіпаж? І чаму экіпаж зорнага карабля займаецца жывёлагадоўляй?

— Гэта толькі так выглядае. Насамрэч яны выконваюць патрэбныя для карабля дзеянні — кантралююць прыборы, чысцяць, рамантуюць, калі трэба, дапамагаюць адбіць атакі варожых караблёў. Безумоўна, усё гэта можна падаць у камп'ютэрных кодах, але табе як зеяніну гэта будзе не вельмі даступна. Можам зрабіць, нібыта будуем суперсучасны горад альбо парк атракцыёнаў, альбо нават зорную дзяржаву. Але ж ты жыў сярод гмунаў, добра ведаеш іх побыт, пасябраваў з імі, нарэшце. Іх гарманічнае жыццё — гэта і ёсць добрае функцыянiраванне карабля. А просты, зямны лад жыцця лепей уплывае на касмічнага пілігрыма, — капітан Чатр усміхнуўся, — я шмат чаму з маімі топатамі буду вучыцца ў працавітых гмунаў.

— Значыць, па майму жаданню я магу знішчыць увесь народ? — Смоўж паглядзеў на сваіх сяброў і проста жахнуўся ад сваёй думкі.

— Відазмяніць...

— Ну не... Спадзяюся, ты таксама будзеш са мной заадно.

— Гмуны хоць будуць выконваць мае каманды, але цалкам падпарадкоўвацца мне яны не мусяць, і відазмяняць іх без тваёй згоды я не магу. Такім чынам заўсёды захоўваецца разумны парытэт каманд на караблі, і перадаюцца ад каманды камандзе новаздабытыя веды яго кіраваннем.

— З жывых на караблі толькі ты і я, — змяніў тэму Смоўж, — і мы прызначаны быць касмічнымі пілігрымамі — кіроўцамі-капітанамі зорнага карабля?

— Увогуле, мы павінны быць афіцыйна прыняты ў саслоўе пілігрымаў Налокскай зоры, тады карабель будзе цалкам падпарадкаваны нам, мы зможам накіроўваць яго ва ўсе куткі космасу. І яшчэ мы зможам абіраць сабе, калі захочам, бліжэйшых дарадцаў-намеснікаў.

— Значыць, цяпер наша задача — вярнуць карабель Налокскай зоры?

— Не вярнуць, а, кажучы нашай моваю, перарэгістраваць на сябе.

— Самім ісці да Налокскай базы...

— Да самой сталіцы. Сістэма кантролю ўжо вылічыла курс...

— ...і стаць там закладнікамі? — сумненне і амаль непрыхаванае раздражненне было ў голасе Смаўжа. Пры тым ён зусім не жадаў падпарадкоўвацца свайму дублю, хоць і довады таго былі разумнымі, дый і пра карабель той ведаў нашмат больш. Смоўж з цяжкасцю пераадольваў пачуццё пратэсту.

— Карвет «Рок-нат», цяпер ён так называецца, — казаў капітан Чатр, — можа падпарадкоўвацца толькі нам і нашым абраным намеснікам. Карабель без нас стане нежывым, а знішчаць караблі не мае права нават вышэйшы суд, бо гэта тое самае, як знішчыць кавалак сваёй краіны.

— Але ж мы не налокцы.

— У Налокскай зоры — «звышнезамкнутай» зорнай арганізацыі — тысячы планет, сотні тысяч нацыянальнасцей. Зея на роўных можа ўступіць у Налокскую зорыю, а мы будзем прадстаўнікамі сваёй планеты.

— Ты ў гэта верыш?

— Я гэта ведаю.

— Што ж, у мяне няма выбару, — падумаўшы, сказаў Смоўж, — я змагаўся за Рок-нат, можа, болей за цябе, і я лічу яго таксама сваім, таму трэба выконваць яго статут. Што я павінен зрабіць?

— Перш-наперш прызначыць старпама.

Капітан Мечнік паглядзеў на Клеба.

— Не, — не пытаючыся адказаў гмун, — я ўжо стары, мая памяць не такая ўжо чэпкая.

— Мы ж цябе пераробім, падмаладзім.

— Індывідуальныя рысы заўсёды застаюцца, — сказаў Клеба.

— Ну што ж, Дэран...

Аблічча Дэрана засвяцілася радасцю: ён, відавочна, гэтага вельмі хацеў…

— Але вам, капітан Мечнік, пара, — сказаў фэлн Дэран.

Мечнік пацiснуў яму руку, таксама развітаўся з Клебам і фэлнам Крумаргам. Потым падышоў да капітана Чатра. Ён адчуваў, што пачуццё саперніцтва да свайго клона зараджаецца ў яго душы, бо ніколі ён не хацеў быць другім. Нават цалкам роўным першаму...

— Ведаеш, — прамовіў Смоўж, — не разбі маю пасудзіну, пакуль я буду драмаць. І засынаць я хачу, як гэта было з табой.

Капітан Чатр усміхнуўся, промні над яго галавой пачалі пераліваіцца вясёлкавымі колерамі.

Для Яла Днежа па мянушцы Смоўж, капітана Мечніка, крышталёная зала закружылася...

Ён засынаў у абдымках дзяўчыны ў белай сукенцы.

* * *

Элон падалося, што вогненная ўспышка асляпіла яе. Зыркі шар нарастаў з неймавернай хуткасцю, дасягнуў яе. Яна адхінулася ад тэлескопа, і, страціўшы прытомнасць, упала на ложак.

На «Міоне» была аб’яўлена баявая трывога.

А ў вушах усіх вайскоўцаў, ад радавога да генерала, гучаў толькі адзін загад:

— Адмена пуску! Адмена пуску!

Генерал Партан быў упэўнены, што сам асабіста аддаў такі загад.

Тысячы вачэй на «Міоне» і караблях суправаджэння...

Мільёны вачэй на Зеі назіралі, як за некалькі секунд да пачатку аперацыі Рок-нат хіснуўся і, рэзка адарваўшыся ад паверхні Керменды, трошкі развярнуўшыся, паімчаў у глыб космасу. За хвілю ён знік у вечнай цемрадзі.

Доктар Сторк, які ўважліва сачыў за апрацоўкай дадзеных перад самой аперацыяй, быў упэўнены, што з Рок-ната быў высланы накіраваны інфармацыйны паток, але ён быў настолькі хуткім, што выглядаў на камп’ютэры як невялікая пагрэшнасць. Навуковая інтуіцыя альбо той факт, што Рок-нат павёў сябе не так, як трэба было паводле тэорыі самога доктара Сторка, падказвала яму — тая пагрэшнасць не выпадковая. Аднак камп’ютэршчыкі разводзілі рукамі, не маглі што-небудзь расшыфраваць ці растлумачыць.

Потым доктар Сторк бег у сваю каюту.

Ён абдымаў, гладзіў па валасах Элон, якая на яго руках паступова прыходзіла ў прытомнасць.

— Навошта, навошта так перажываць. Нічога не здарылася. Яго не паспелі ўзарваць. Ён узляцеў... Нічога не здарылася...

Свядомасць вярталася да Элон, але з ёй вярталася і нічым не вытлумачальная трывога.

* * *

Месяцам пазней Элон Тасіч зайшла ў кабінет да свайго навуковага кіраўніка. Але гэта было зусім не так, як калісьці, калі яна ўпырхвала да прафесара Глоса амаль без стуку і папярэджвання.

— Можна, прафесар? — прамовіла яна ветліва, амаль афіцыйна.

Прафесару было шкада той юнай, дзесьці наіўнай дзяўчыны. Ён, безумоўна, заўважыў перамены, якія адбыліся з яго любімай навучэнкай пасля падарожжа на Керменду. Але ён быў мудры і нічога не пытаў. Хаця і чакаў, што калі-небудзь жывасць і жвавасць зноў вернуцца да Элон.

Праўду кажучы, пасля таго як Рок-нат знік у глыбінях космасу, на Зеі запанаваў усеагульны сум. Так, зеяне атрымалі пацверджанне, што яны не адны ў Сусвеце. Але ж і кантакту з іншай цывілізацыяй як такога так і не адбылося. Некаторыя нават схіляліся да думкі, што Рок-нат — жарт якога-небудзь зеянскага мільярдэра, які пабудаваў сабе карабель, замаскіраваўшы яго пад астэроід, а потым уцёк, спалохаўшыся ядзернага выбуху. Прафесар Глос не прымаў гэта на веру, бо тады трэба было прызнаць бязглуздымі тыя ахвяры, што адбыліся падчас даследавання загадкавага аб’екта.

— Я павінна вам паведаміць, — сказала Элон, — толькі не сумнявайцеся, калі ласка, гэта тая праўда, якую трэба прыняць. Проста прыняць. А потым дапамагчы мне. Вы дапаможаце мне?

Прафесар хацеў быў сказаць: «Так, дарагая, супакойцеся, дапамагу». Але, гледзячы на Элон, зразумеў, што словы «супакойцеся» і «дарагая» будуць не да месца, прыняў сур’ёзны, навукова-безапеляцыйны выгляд і прамовіў:

— Так, дапамагу.

— Ён вернецца, — упэўнена сказала Элон. — Я ведаю гэта ад яго. Яны вернуцца! Спадзяюся, паспеюць вярнуцца ўдвух! Тады вы зробіце яшчэ адну мяне. Мы, я і мой клон, пойдзем у Рок-нат...



*Віктар Бубнаў нарадзіўся ў 1953 годзе ў вёсцы Сялец на Гродзеншчыне. Працаваў у рэдакцыі капыльскай раённай газеты «Слава працы», на абутковай фабрыцы «Прамень», у аўтамабільным парку № 1 г. Мінска, мінскай сярэдняй школе № 191, цяпер — у ТДА «Брызант». Друкаваўся ў газеце «Літаратура і мастацтва», часопісе «Маладосць».*

Віктар БУБНАЎ

# ВЫШЫНЯ

## ТРЫЯЛЕТ

Сеў матылёк табе на валасы,
Як быццам бы прыручаны табою.
У міг тваёй задумнасці, спакою
Сеў матылёк табе на валасы.

Ён — нібыта прыколка для красы,
Але ты не кранеш яго рукою...
Сеў матылёк табе на валасы,
Як быццам бы прыручаны табою.

* * *

Ты — дзікая ружа,
Дарэмны спадзеў...
Ні сябра, ні мужа —
Як я зразумеў.

Ці верыць у гэта?
Хоць стрэча наўме,
Убачыш мяне ты —
Як ветрам садзьме...

Ці будзем калі мы?..
А ў сэрцы гучыць:
Няўжо немагчыма
Цябе прыручыць?

* * *

У кожнага свая Ядвіся.
У кожнай — Лабановіч свой.
Перада мной і ты з’явіся
Паненкай, прыгажуняй той...

Я чую ўжо прыемны голас...
Не спыніцца на гэтым час!
Здаецца, сам вялікі Колас
Калісьці напісаў пра нас...

* * *

Адгушкала дзяцінства на арэлях...
Другія справы нашы зналі рукі,
Мы ж праз гады паволі пастарэлі,
І гушканку асвойваюць унукі.

А як сыноў разгойдвалі калісьці!
А ім усё здавалася, што мала,
Як быццам не было ад нас карысці,
Калі іх вышыня так захапляла.

* * *

Зязюля не мае жытла,
Дзяцей падкідае ў чужое...
А тая — за дзетак гарою...
І ёй,
маці добрай,
хвала!
Яна і чужых прыняла,
Сваіх птушанят нібы мала...

А дзесьці зязюля кувала,
Як быццам аб тым шкадавала,
Што ўсё-ткі гнязда не звіла.

* * *

Я без клятвы вернасці
Бы гляджу ў ваду:
Нікуды не дзенуся —
Да цябе прыйду.

Ў гэты дзень асенні
Ўспамінаю зноў
Слоў тваіх цячэнне,
Хвалі валасоў...

Пад блакітам чыстым
У руцэ — рука...
Ты — нібыта прыстань,
А любоў — рака...

... Ля твайго ж парога
Знікне плынь тугі...
Не сысціся могуць
Толькі берагі.






Ян ДЛУГАШ

# ГРУНВАЛЬДСКАЯ БІТВА*

## З «ГІСТОРЫІ ПОЛЬШЧЫ»

### ГОД ГАСПОДНІ 1388

**КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ ДАЕ Ў ЖОНКІ ЗЕМАВІТУ, КНЯЗЮ МАЗОВІІ, СВАЮ СЯСТРУ АЛЯКСАНДРУ, ДАРУЮЧЫ ЯМУ НАВЕЧНА БЕЛЗСКУЮ ЗЯМЛЮ; ТАКСАМА І БРАТА ЯГО, КНЯЗЯ ЯНУША, СПАЛУЧАЕ ШЛЮБАМ З ГАННАЙ, СЯСТРОЙ ВІТАЎТА.**

Адсвяткаваўшы дзень Раства Хрыстова ў новым віленскім кафедральным саборы, кароль польскі Уладзіслаў у суправаджэнні польскіх і літоўскіх князёў і вяльможаў накіраваўся спачатку ў Віцебскую, а затым у Полацкую вобласці Русі, дзе знаходзіўся шмат дзён. За гэты час ён задушыў і загасіў мяцеж, аб узнікненні якога яму было паведамлена, прычым завадатараў мяцяжу пакараў турмой і пазбаўленнем маёмасці[1].

Затым, вярнуўшыся ў літоўскія землі, ён усталяваў парадак іх кіравання і ў якасці вярхоўнага князя Літвы паставіў свайго роднага брата Скіргайлу, загадаўшы ўсім іншым князям падпарадкоўвацца яму. Акрамя таго, ён выдаў замуж родную сястру Аляксандру, якая да хрышчэння насіла імя ...[2], за князя Мазовіі Земавіта. Дануту ж, родную сястру князя Вітаўта, якая па прыняцці веры была названа Ганнай, даў у жонкі Янушу, другому князю Мазовіі, і, зладзіўшы абодва вяселлі ў Вільні, накіраваўся ў Польскае каралеўства. Заехаўшы па дарозе ў Луцк, ён даў ва ўтрыманне Луцкі замак з прыналежнай да яго вобласцю Чэславу з Курозвенк, каштэляну сандомежскаму, каб той кіраваў імі ад яго імя і ад імя каралеўства Польскага. Кароль ведаў, што муж яго сястры Аляксандры, князь Мазовіі Земовіт, меў права на польскі пасад і на каралеўства Польскае па натуральнай пераемнасці і па абранні[3]. Жадаючы прымірыць князя са стратай каралеўства, кароль абавязаўся даць яму ў пасаг, як вечны дарунак, Радомскую зямлю. Зразумеўшы, аднак, што вяльможы і рыцары польскія ніякім чынам не патрываюць такога дарунка, кароль узнагародзіў яго зямлёй Белзскай[4], адпісаўшы яе ў вечнае валоданне князю ў пакрыццё за несправядлівасць і страту Польскага каралеўства. Гэтая вельмі ўрадлівая зямля з

---

* *Працяг. Пачатак у нумары 1 за 2010 г.*

[1] Відавочна, водгукі распачатых тут у 1387 г. хваляванняў.

[2] Язычніцкае імя Аляксандры прапушчана.

[3] Длугаш мае на ўвазе, што, з аднаго боку, Земавіт, як і іншыя мазавецкія князі, быў прадстаўніком старой, кіраваўшай у Польшчы да Уладзіслава-Ягайлы дынастыі Пястаў, з другога — пасля смерці Людовіка Венгерскага і ўступлення на пасад Ядвігі ён быў сярод іншых вылучаны ў якасці прэтэндэнта на яе руку.

[4] Белзская зямля, як і іншыя часткі Валыні, была далучаная да Польшчы каралём Казімірам III у 1349 г. Разам з Холмскай зямлёй яна засталася за Польшчай і пасля таго, як у 1366 г. астатняя Валынь адышла да Літвы.

пашамі, рэкамі і азёрамі, якая ва ўсіх адносінах螺раўзыходзіла Радомскую зямлю, была валоданнем Польскага каралеўства, бо была заваявана палякамі коштам вялікай крыві, нягод і разнастайных страт.

## ГОД ГАСПОДНІ 1389

**ВІТАЎТ, АСЦЕРАГАЮЧЫСЯ МАГУТНАСЦІ СКІРГАЙЛЫ, БЯЖЫЦЬ ДА КНЯЗЁЎ МАЗОВІІ ЯНУША І ЗЕМАВІТА. КЕПСКА ПРЫНЯТЫ ІМІ, ЁН АД'ЯЗДЖАЕ ДА МАГІСТРА ПРУСІІ. КАРЫСТАЮЧЫСЯ ТАМ НА ПРАЦЯГУ ШМАТЛІКІХ ГАДОЎ ДОБРЫМ АБЫХОДЖАННЕМ, ПРЫМАЕ ХРЫСЦІЯНСКУЮ ВЕРУ. ПАД КАНЕЦ ЖА, ЗАХАПІЎШЫ І СПАЛІЎШЫ ТРЫ САМЫЯ МОЦНЫЯ ЗАМКІ КРЫЖАКОЎ, ЁН ВЯРТАЕЦЦА Ў ВІЛЬНЮ З НАДЗЕЯЙ АВАЛОДАЦЬ ЛІТОЎСКІМ КНЯСТВАМ. КАЛІ Ж ВЫПЕСТАВАНАЯ ІМ НАДЗЕЯ НА КНЯЖАННЕ НЕ АПРАЎДАЛАСЯ, ЁН ЗНОЎ ВЯРТАЕЦЦА ДА КРЫЖАКОЎ.**

Парадак і грамадскі лад Літоўскай і Самагіцкай зямель, усталяваны з вялікім стараннем і прадбачлівасцю каралём польскім Уладзіславам, неўзабаве пасля ад'езду апошняга ў Польшчу пачаў расхістваца і бурыцца. Прычынай гэтага была вялікая колькасць князёў, а таксама бесперапыннае саперніцтва паміж братам караля Уладзіслава, Скіргайлам, князем трокскім, з аднаго боку, і стрыечным братам Вітаўтам, князем гарадзенскім, — з другога. Непрыкметна пранікаючы ў іх сэрцы, гэтае саперніцтва настолькі ўзмацнілася, што яны пачалі праследаваць адзін аднаго з найглыбокай нянавісцю, як непрымірымыя і смяротныя ворагі. Скіргайла, князь трокскі, быў па натуры сваёй адважны і люты, хуткі на язык, на руку і на справу і ва ўсіх выклікаў бы страх, калі б сталае п'янства не ператварала яго ў нікчэмнасць і не выклікала да яго пагарды, бо ў п'яным выглядзе ён кідаўся са зброяй на многіх людзей, пераважна на сяброў і блізкіх. Працверазіўшыся, ён лячыў нанесеныя ім раны па правілах цырульнага майстэрства, якім быў адораны ад прыроды. Вітаўт жа, князь гарадзенскі, муж больш умеранага, моцнага і заўсёды цвярозага розуму, асцерагаўся Скіргайлы, падазраючы па шматлікіх прыкметах, што той моцна прагне загубіць яго, яго родных і прыхільнікаў зброяй, ядам і любым спосабам. У гэтым яго падтрымоўвалі рускія, якія вельмі любілі Скіргайлу, таму што ён трымаўся таго ж грэчаскага абраду[1] і з прычыны яго сваяцтва з каралём польскім Уладзіславам. Таму Вітаўт бяжыць з Літвы разам з жонкай Ганнай[2], са ўсімі баярамі, рыцарамі і падпарадкаванай яму чэляддзю, каб захаваць жыццё сабе і сваім блізкім, пакінуўшы ў падуладных яму замках Гародні і Брэсце моцныя ахоўныя атрады. Ён накіроўваецца перш да Януша, князя Мазовіі, мужа сястры сваёй Ганны, інакш Дануты. Убачыўшы, аднак, што Януш дрэнна памятае сваяцтва і больш стрыманы ў ласцы, чым ён разлічваў, ён накіроўваецца да Земавіта, другога князя Мазовіі. Зазначыўшы, што, насуперак надзеі сваёй і сваіх спадарожнікаў, прыём і адносіны да яго з боку таго і другога мала добразычлівыя і ласкавыя (бо князь мазавецкі Януш, на якога ён разлічваў як на блізкага сваяка, выконваў абавязкі гасціннасці да выгнанніка і сябра меней ласкава і гасцінна, чым гэта прыстала стану таго і другога, і нават, гавораць, адняў у яго залатую чару, а такая крыўда ніколі не магла б згладзіцца ў яго сэрцы), Вітаўт, пакінуўшы Мазовію і роднасных князёў, ад'ехаў (як мы паказалі вышэй) да

[1] Скіргайла першым з братоў Уладзіслава-Ягайлы прыняў хрышчэнне ў 1383 або 1384 г. — і пры гэтым пад уплывам маці, цвярской князёўны Юліяніі, — у праваслаўную веру, прыняўшы імя Іван.

[2] Ганна (пам. у 1418 г., пахавана ў Ігумене) — другая жонка Вітаўта, дачка смаленскага князя Святаслава Іванавіча.

магістра Прусіі Конрада Цольнера і крыжакоў, варожых тады каралю польскаму Уладзіславу і літоўцам. Знайшоўшы з іх боку добразычлівыя прыём і абыходжанне і карыстаючыся правам гасціннасці на працягу некалькіх гадоў, ён навучыўся нямецкай мове і засвоіў іх норавы і правілы ўнутранага парадку. Яны ж акружылі яго ласкай і ўвагай ахвотней і звыш чакання, не столькі па абавязку да ізгоя, колькі дзеля ўласнай карысці, бо думалі, што дзеянні супраць літоўцаў пойдуць больш паспяхова, калі будуць зыходзіць ад яго імя і пад яго кіраваннем.

Наступствам уцёку князя Вітаўта з Літвы было тое, што Літва і Самагіція, падзеленыя згубным расколам напалам — на прыхільнікаў караля Уладзіслава і прыхільнікаў Вітаўта, — сталі прыходзіць у заняпад і падвяргацца спусташэнню з-за знешніх і ўнутраных войнаў і шматлікіх бедстваў.

Паміж тым Уладзіслаў, кароль польскі, з асцярогі, што літоўцы і рускія, прыхільнікі Вітаўта, людзі сумнеўнай адданасці, калі-небудзь здадуць галоўны, менавіта — Віленскі замак, Вітаўту і крыжакам, адпраўляе ў Літву падканцлера Польскага каралеўства рыцара Мікалая з Машкажова з бамбардамі, балістамі і вайсковым рыштункам. Кароль дае яму ў кіраванне і трыманне Віленскі замак, адставіўшы князя Скіргайлу і выгнаўшы адтуль некаторых літоўцаў і рускіх, якія лічыліся схільнымі да злачыннай здрады.

Паміж тым пасля свайго ўцёку, знаходзячыся выгнаннікам у крыжакоў, Вітаўт, князь літоўскі, заключыў з магістрам і Ордэнам крыжакоў дамову аб вечным саюзе і яднанні, змацаваўшы яго прысягай і подпісамі; і каб саюз быў больш трывалым, князь разам з некалькімі баярамі, якія былі з ім у выгнанні, прыняў хрышчэнне ў хрысціянскую веру ў Тапееве, прычым яго хроснымі былі Віганд, камандор Рагнеты, і жонка старасты тапееўскага[1]. Затым, адправіўшы з Прусіі таемных паслоў да караля польскага Уладзіслава, князь Вітаўт не толькі дабіваецца міласці караля, але нават мірыцца з ім. Караля страшыла вераломства Вітаўта, здзейсненае ім па ўласнай волі і па падбухторванні крыжакоў, у якіх ён знайшоў прытулак, бо Вітаўт, вядома, моцна дамагаўся Літоўскага княства. Кароль жа асцерагаўся здрады з боку сваіх набліжаных, з-за чаго Вітаўт мог бы дасягнуць сваёй мэты. І вось, абнадзеены каралём, што той паставіць яго на чале Вялікага княства Літоўскага, Вітаўт без ведама крыжакоў выступае з Прусіі таемным паходам у Літву. Затым захоплівае тры замкі Ордэна, куды ён меў доступ і адкуль, як саюзніка і сябра, крыжакі забяспечвалі яго ўсім неабходным, менавіта: Юргенбург, Мергембург[2] і Навандж. Браты Ордэна, якія кіравалі замкамі, былі перабіты і кінуты ў равы, згаданыя ж замкі спалены. Мноства людзей, якіх ён знайшоў у тых замках, Вітаўт адвёў з сабой у Літву палоннымі.

Але калі з цягам часу князь Вітаўт убачыў, што надзеі яго атрымаць вялікае княжанне ў Літве, абяцанае яму каралём, рассейваюцца, ён задумаў падманам завалодаць Віленскім замкам. Прыгатаваўшы шмат калёс, ён размясціў у іх узброеных людзей. Затым, прыкрыўшы калёсы тушамі дзікіх жывёл, адправіў іх у Віленскі замак быццам бы на святкаванне вяселля сваёй сястры, з мэтай захапіць яго. Але калі падман быў раскрыты, Вітаўт у страху за сваю долю разам з жонкай і сябрамі зноў збег у Прусію. Склаўшы з крыжакамі новую дамову і абмяняўшыся з імі граматамі і клятвамі, ён на працягу двух гадоў заставаўся ў трох замках, мена-

---

[1] Віганд фон Бальдэрсгейм быў комтурам Рагнеты ў 1380—1384 гг. Пасля хрышчэння ў 1383 г. Вітаўт яшчэ два разы мяняў веру: у 1384 г. у Літве ён прыняў праваслаўе з імем Аляксандр, у 1386 г. хрысціўся разам з Ягайлам у каталіцтва, захаваўшы тое ж імя.

[2] Мергембург, правільна Марыенбург, — замак, пабудаваны крыжакамі на Нёмане. Не варта змешваць з аднайменным замкам, сталіцай Ордэна, рэзідэнцыяй вялікага магістра (на р. Ногаце, прытоку Віслы).

віта: Рытэрсверздэры, Наўгардзе і Мяцембурзе, пабудаваных для яго Ордэнам на межах Літвы, і з дапамогай войскаў крыжакоў рабаваў літоўцаў і спусташаў іх землі […][1]

## ГОД ГАСПОДНІ 1390

### КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ, КАБ ДАПАМАГЧЫ ЛІТВЕ, АДПРАЎЛЯЕЦЦА ТУДЫ І АВАЛОДВАЕ ЗАМКАМІ КНЯЗЯ ВІТАЎТА — БРЭСТАМ, МАЛЫМ КАМЯНЦОМ І ГАРОДНЯЙ.

Рухомы добрай спагадай да пакутніцы-айчыны, зямлі літоўцаў, якая трывала спусташэнне ад міжусобнай вайны і гінула ад уласнага мяча, бо літоўцы і рускія імкнуліся перасягнуць адзін аднаго ва ўзаемнай нянавісці і падтрымлівалі то адзін, то другі са змагаючыхся бакоў, Уладзіслаў, кароль польскі, каб дапамагчы ёй, набраў войска з польскіх рыцараў і ў пачатку лютага-месяца, калі трэба было б знаходзіцца на зімоўцы, а не ваяваць, вывеў яго супраць замкаў Брэста, Малога Камянца[2] і Гародні, занятых атрадамі князя Вітаўта, якія рабілі з іх напады на літоўскія вобласці, і атачыў аблогай замак Брэст.

Заваяваўшы яго на працягу дзесяці дзён, польскае войска вярнулася па хатах як з-за мізэрнасці і недахопу харчавання, з прычыны чаго яно трывала пазбаўленні, так і з-за мору коней. Ваяры ведалі, што калі б ім прыйшлося ісці далей, то іх чакалі б вялікія пакуты з-за бясплоднасці і неапрацаванасці глебы. Таму з вялікай цяжкасцю ад караля быў атрыманы дазвол вярнуцца дахаты (кароль разумеў, што рыцары пакінуць яго, нават калі ён і не дасць ім такога дазволу). Аднак некаторыя рыцары, пераважна прыдворныя і дасведчаныя ў ратнай справе, усяго лікам сто трыццаць коп'яў[*], засталіся з каралём. Даручыўшы Брэсцкі замак польскаму рыцару Гінчку з Расковіц, кароль Уладзіслаў для выканання сваёй задумы, не лічачыся з малалікасцю атрада, які застаўся з ім, накіроўваецца на прыступ двух астатніх замкаў князя Вітаўта. Бо, рухомы любоўю да айчыны, якую ён жадаў вызваліць, і імкненнем аказаць ёй дапамогу, ён не пахіснуўся ў намеры адправіцца ў Літву нават з малымі і слабымі сіламі, хоць і ведаў, што сярод літоўцаў маецца шмат ненадзейных і сумнеўнай адданасці людзей. Кароль вядзе з сабою рыцараў, якія пайшлі з ім добраахвотна. Праўда, іх меней дзевяцісот, але гэта дасведчаныя, выдатныя, мужныя і моцныя рыцары. Узяўшы замак Камянец пасля лёгкага прыступу і перадаўшы яго ў кіраванне рыцару Зіндраму з Машковіц[3], кароль у пачатку Вялікага поста прыбыў у Гародню. Затым,

[1] У вышэйпададзеным аповедзе Длугаш як быццам аб'яднаў падзеі, якія адносяцца да розных гадоў, а менавіта — уцёкі Вітаўта да крыжакоў пасля смерці Кейстута ў 1382 г., спробу захопу вярхоўнай улады ў Літве і новыя ўцёкі ў Прусію ў 1389 г. Цікава, што, распавядаючы пад 1382 г. аб уцёках Вітаўта да крыжакоў і аб папярэднім наведванні ім князя мазавецкага Януша (аб наведванні Земавіта ён там не гаворыць), Длугаш заве Януша і тады мужам сястры Вітаўта, Дануты, аб шлюбе якой паведамляе правільна пад 1388 г. Такім чынам, і ў сваім аповедзе пад 1382 г. Длугаш не цалкам дакладны. Што сапраўды на старонцы 66 гаворка ідзе аб уцёках Вітаўта не ў 1389 г., а ў 1382 г., гэта відаць з уласнай спасылкі Длугаша («як мы паказалі вышэй») і з паведамлення, што «на працягу некалькіх гадоў свайго знаходжання» ў крыжакоў Вітаўт навучыўся нямецкай мове, і г. д. На гэта ж паказвае паведамленне аб хрышчэнні Вітаўта, якое ў іншых крыніцах датуецца 1383 г.

[2] Маюцца на ўвазе будучыя Брэст-Літоўскі і Камянец-Літоўскі.

[*] *Кап'ё — баявая адзінка, якая складалася з трох вершнікаў: закаванага ў латы цяжкаўзброенага рыцара, лёгкаўзброенага збраяносца і лучніка. Збраяносцаў і лучнікаў магло быць болей, таму лік конных мог даходзіць да сямі.*

[3] Зіндрам з Машковіц — мечнік кракаўскі ў 1389—1412 гг.

пераправіўшыся праз раку Нёман, абклаў замак аблогай. На дапамогу яму пры гэтай аблозе, якая доўжылася ўвесь Вялікі пост, браты яго Скіргайла, Уладзімір і іншыя паслалі літоўскія і рускія атрады. Адзін з каралеўскіх братоў, грэчаскай веры, князь Карыбут Наўгародскі[1], прыбыў асабіста і, відаць, прывёў з сабою рыцараў, прытым з выдатнай зброяй і конямі, больш, чым хто-небудзь з літоўскіх князёў.

Паміж тым князь Вітаўт, добра ведаючы, што Гарадзенскі замак не можа вытрымаць доўгай аблогі, прыбыў з прускімі крыжакамі і іх войскам для вызвалення абложаных. Размясціўшыся лагерам на другім баку Нёмана, насупраць Гарадзенскага замка, ён спрабаваў насыпаць земляны насып і ўзвесці на ім новую крэпасць. Аднак гэтая праца аказалася дарэмнай і не прынесла абложаным ніякага палягчэння, бо з-за таго, што каралеўскімі рыцарамі быў узяты прыступам ніжні замак, а таксама з прычыны бесперапыннага абстрэлу з бамбард, якімі шмат абаронцаў верхняга замка было паранена і забіта, яны, запаўшы ў страх і роспач, заявілі Вітаўту, што не вытрымаюць далей аблогі. Занепакоены гэтым Вітаўт і крыжакі, не быўшы ў стане выканаць галоўнага, працягваюць праз раку Нёман жалезны ланцуг, імкнучыся хаця б пры дапамозе такога ланцуга і прымацаваных да яго лодак пераправіць з замка параненых і хворых, а ўзамен даставіць туды новыя, свежыя сілы і харчаванне, бо і ў гэтым у абложаных адчуваўся недахоп. Але і гэтае хітрае вынаходства Вітаўта і крыжакоў было разладжана каралеўскім войскам, бо польскія рыцары, прыняўшы разумнае рашэнне, ссеклі вышэй па рацэ значную колькасць высокіх хвой з густымі галінамі, спусцілі іх разам з каранямі і сукамі ў раку, і тыя, прыбітыя імклівай плынню да замка, сваім цяжарам разарвалі ланцуг і разбілі некалькі лодак. Гэтак жа патоплены былі і тыя лодкі, якія разам з людзьмі з непрыяцельскага стану спрабавалі дужацца з напорам дрэў. Адзін з непрыяцельскіх ваяроў, каб пазбегнуць пагражаўшай яму смяротнай небяспекі, падплывае да берага, дзе знаходзіўся каралеўскі лагер; і хоць шматлікія рыцары з войска крыжакоў гучнымі і настойлівымі крыкамі па-нямецку пераконвалі яго лепш патануць, чым плыць да варожага лагера, ён, аднак, калі адзін з польскіх рыцараў, Завіша з Рушкова[2], працягнуў яму дзіду, ухапіўся за яе і такім шляхам выратаваўся. Пры гэтым ён адкрыў размяшчэнне сваіх войскаў і распавёў, што яны ў наступную ноч намерваюцца збегчы, пакінуўшы свой лагер. Гэтыя ўцёкі сапраўды адбыліся, як ён і паведамляў.

На пяты дзень свята Вялікадня абложаныя, страціўшы ўсякую надзею, здалі замак каралю Уладзіславу. Падчас гэтай аблогі польскія, літоўскія і рускія рыцары настолькі галадалі, што падтрымлівалі сябе адным толькі чорным хлебам, а сваіх коней — лісцем і галінамі дрэў або старой саломай, якую здымалі са стрэх хат, ды і яе яны ледзь знаходзілі за чатырнаццаць міль ад замка […]

### ВІТАЎТ З ДАПАМОГАЙ МАГІСТРА ПРУСІІ ЎСТУПАЕ Ў ЛІТВУ І, УЗЯЎШЫ НЕКАЛЬКІ ЗАМКАЎ, АБЛОЖВАЕ ВІЛЕНСКІ ЗАМАК; А ПАСЛЯ ЎЗЯЦЦЯ КРЫВОГА ЗАМКА АДСЯКАЕ ГАЛАВУ БРАТУ КАРАЛЯ УЛАДЗІСЛАВА, КАЗІМІРУ, ІНАКШ КАРЫГАЛУ; АДНАК ПАЛЯКІ МУЖНА І ТРЫВАЛА АБАРАНЯЮЦЬ ІНШЫЯ ЗАМКІ.

Жадаючы адпомсціць за страту замкаў Брэста і Гародні і пайсці вайной на Літоўскае княства, князь Вітаўт і крыжакі збіраюць значнае войска з ліку сваіх іншаземных рыцараў (сярод якіх знаходзіўся Ланкастар, старэйшы сын англійскага караля

---

[1] Карыбут — князь наўгарод-северскі.

[2] Завіша з Рушкова, або Завіша з Алясніцы, — адзін з набліжаных каралевы Ядвігі.

Генрыха[1], з англійскімі і французскімі рыцарамі, а таксама маркграф Фрыдрых[2] са шматлікімі нямецкімі графамі) і ўрываюцца каля свята святога Іаана Хрысціцеля ў Літву трыма атрадамі, з якіх адзін вёў магістр Прусіі Конрад Валенрод[3] з іншаземнымі рыцарамі, а менавіта англійскімі, нямецкімі і французскімі, другі — магістр Лівоніі[4], трэці — князь Вітаўт. Наладзіўшы першым чынам з вялікай урачыстасцю рыцарскі баль у Старым Коўне, яны падыходзяць да горада і замка Трокі і спальваюць іх, затым цясняць цяжкай аблогай і віленскія замкі. Князь Вітаўт размяшчае лагер свой і свайго войска, набранага з літоўцаў і рускіх, зблізку Крывога замка. Магістр Прусіі — на баку ракі Вільні, звернутай да Польшчы і да паселішча віленскага капітула Понар. Магістр Лівоніі — за ракой Вільнай, насупраць паселішча Міжэхолы.

Не паспелі яшчэ з варожага стану адкрыць якія-небудзь дзеянні супраць абложаных, як літоўцы і рускія, якія лічыліся адданымі каралю, з-за прыхільнасці да князя Вітаўта і падгавораныя ім, падпальваюць Крывы віленскі замак[5]. Таму, што полымя з-за варожага прыступу нельга было спыніць, князь Казімір, інакш Карыгал, родны брат польскага караля Уладзіслава[6], кідаецца бегчы з самога агню, але трапляе жывым у рукі ворагаў, якія ў вялікім мностве атачалі падпалены замак, і адразу ж падае абезгалоўлены. Насадзіўшы галаву забітага на доўгую дзіду, ворагі паказваюць яе для застрашвання палякам, якія абаранялі Верхні віленскі замак, пераконваючы іх здацца і здаць замак, бо іх кароль забіты. Але палякі, хоць і бачылі, што ў Крывым замку, адданым здрадай, каля чатырнаццаці тысяч палякаў, літоўцаў і рускіх зрабіліся здабычай полымя альбо палі ад варожага мяча, усё ж сустракаюць насмешкамі і пагардлівасцю такога роду пагрозы. Ворагі бесперапынна, уначы і днём, абстрэльваюць замак ядрамі з бамбард, таму яго сцены на адлегласці палёту стрэл хутка былі разбураны і зроўнены з зямлёй. Аднак Клемент, стараста віленскі, каб паказаць ворагам некаторую бачнасць аднаўлення сцен, загадаў развесіць у гэтых месцах шкуры, так што кожны ўдар ядраў, губляючыся ў слаба нацягнутых пазухах шкур, заставаўся дарэмным. З боку крыжакоў тады быў забіты Альгард граф фон Гогенштэйн.

Верхні віленскі замак спасцігла б тая ж доля, што і Крывы, калі б палякі, падзяліўшы паміж сабою ўсе абавязкі абложаных, не забаранілі выконваць іх літоўцам і рускім з-за моцнага супраць іх падазрэння. Пры гэтым палякі выявілі такую бліскучую храбрасць і стойкасць, што на ўсякае месца, аголенае і разбуранае аблогавымі прыладамі, яны днём і ўначы ўставалі сцяной, падстаўляючы свае целы пад ядры бамбард, і перашкаджалі ворагам, якія ўсімі сіламі намагаліся прарвацца да замка праз праломы. На месца кожнага забітага адразу ўступаў іншы, жывы.

Такім чынам, палякі абараняліся больш за ўсё двума спосабамі: па-першае, яны латалі праломы ў знешняй сцяне зямлёй, гноем і шкурамі жывёлін; па-другое, яны ўставалі на месца забітых або рабілі раптоўныя вылазкі на аблогавыя прылады і непрыяцельскую варту і тым наносілі наймоцныя страты ворагам. Праўдзіва, што

---

[1] Гаворка ідзе аб сыне Джона, герцага ланкастарскага, будучым каралю англійскім, Генрыху IV (1399—1413). Аб ім жа згадвае ў гэтым годзе і нямецкі храніст Пасільге (J. Possilge. Chronik, стар. 164, 182).

[2] Фрыдрых — маркграф Мішны.

[3] У гэты час магістрам Ордэна быў яшчэ Конрад Цольнер (пам. у жніўні 1390 г.).

[4] Лівонскім магістрам быў Веннемар фон Бругенэй.

[5] Пад гэтымі літоўцамі і рускімі Длугаш тут і далей мае на ўвазе тыя групы літоўска-рускай знаці, якія, быўшы незадаволеныя уніяй, падтрымлівалі Вітаўта ў яго вайне з Ягайлам.

[6] Карыгал — князь мсціслаўскі.

нястача больш дзейсная, чым усялякае чалавечае майстэрства, бо яна прымушае ўжываць не толькі звыклыя сродкі абароны, але і новыя, напрыклад, латаць разбураныя сцены шкурамі жывёлін, якія без шкоды вытрымліваюць стрэлы і ядры. Так як той і другі бок усімі сіламі дамагаліся перамогі, то падчас гэтай аблогі, якая доўжылася ад свята святога Іаана Хрысціцеля аж да пятніцы пасля свята святога Міхала, наўкол было такое мноства забітых, што хатнія сабакі, адкарміўшыся трупамі забітых людзей, запалі ў ваўчынае шаленства і нават пасля спынення аблогі, абвыкнуўшы хлябтаць чалавечую кроў, бегалі зграямі па спаленых і спустошаных паселішчах і пажыралі шмат людзей, накідваючыся нават на адзінокіх вершнікаў [...]

**КНЯЗЬ СКІРГАЙЛА, БРАТ КАРАЛЯ УЛАДЗІСЛАВА, НАЧНЫМІ ВЫЛАЗКАМІ З ВЕРХНЯГА ВІЛЕНСКАГА ЗАМКА ПРЫЧЫНЯЕ СТРАТЫ ВОЙСКУ ВІТАЎТА. З ПРЫЧЫНЫ ГЭТАГА ВІТАЎТ, ПАВЕСІЎШЫ ЎЗЯТАГА Ў ПАЯДЫНКУ Ў ПАЛОН КНЯЗЯ НАРЫМУТА, ДАБІВАЕ ЯГО СТРЭЛАМІ. ТАЦІВІЛА, БРАТА ВІТАЎТА, ЗАБІВАЮЦЬ СТРЭЛАМ БАМБАРДЫ З ЗАМКА. КАБ ВЫРАШЫЦЬ СПРЭЧКУ ФРАНЦУЗАЎ З ПАЛЯКАМІ АБ РЫЦАРСКІМ ГОНАРЫ, У ЧЭХІЮ, ДА КАРАЛЯ, НАКІРОЎВАЮЦЦА ДЛЯ СПАБОРНІЦТВА ПА ЧАТЫРЫ РЫЦАРЫ З КОЖНАГА БОКУ, АЛЕ КАРОЛЬ НЕ ДАЗВАЛЯЕ ПАЯДЫНКУ, І ЯНЫ ПРЫМІРАЮЦЦА.**

Хаця Мікалай з Машкажова, падканцлер Польскага каралеўства, кіраваў з польскімі рыцарамі Верхнім віленскім замкам, аднак на чале ўлады стаяў князь Скіргайла, родны брат караля. Разам з падпарадкаванымі яму літоўцамі і рускімі князь прычыняў страты варожаму войску таемнымі вылазкамі з ніжніх замкаў[1], часцей начнымі, чым дзённымі, пакідаючы шмат ворагаў забітымі і параненымі і пастаянна вяртаючыся ў свой лагер пераможцам.

Абураны за гэтыя крыўды, Вітаўт забіў кіраваўшага каралеўскімі замкамі князя Нарымута, які быў узяты ў палон пры паядынку, і з большай, чым адпавядала сану таго і другога, жорсткасцю павесіў яго за ногі на дрэве вязе[2] ў полі, дзе стаялі прускія бамбарды. Літоўцы, рускія і татары дабілі яго стрэламі. Жонку яго Юліянію, родную сястру Ганны, жонкі князя Вітаўта[3], з часам узяў у жонкі літовец Манівід[4]. Але і брат Вітаўта, князь Тацівіл, раптам загінуў, забіты бамбардай з замка, і быў пахаваны ў віленскай царкве.

Пакуль доўжылася аблога, паміж рыцарамі абодвух бакоў узнікалі частыя спрэчкі і лаянкі: французы вінавацілі палякаў у тым, што тыя аказваюць дапамогу варварам супраць вернікаў; палякі ж пярэчылі, што паступаюць свята і набожна, бо дзеля веры сталі на абарону новазвернутых супраць манахаў ілжэраўніўцаў веры[5]. І абодва бакі дамовіліся, што ў доказ сваёй правасці як палякі, так і французы ўступяць у рыцарскі паядынак пры двары Венцаслава (у той час караля рымлян і Чэхіі)[6] у Празе ў прызначаны дзень, у роўным ліку: па чатыры рыцары з кожнага боку[1]. З

---

[1] Цяжка выявіць, з якога Віленскага замка рабіліся вылазкі, — з ніжняга, як гаворыць Длугаш тут, або з верхняга, як ён паказвае ў загалоўку раздзела.

[1] На дрэве вязе. У арыгінале Wyansz (wiąz), польск. — вяз.

[1] Юліянія (пам. у 1448 г.) была не роднай, а стрыечнай сястрой Ганны, жонкі Вітаўта.

[4] Можа быць, гэта той Манівід, які потым быў старастам віленскім у 1396—1412 гг., потым ваяводам там жа.

[5] Religiosi perversi — літаральна, «перакручаныя».

[6] Венцаслаў — Вацлаў IV, кароль чэшскі (1378—1419), імператар германскі (Святой Рымскай імперыі германскай нацыі) у 1378—1400 гг.; у тэрміналогіі, прынятай у Длугаша і ў наступнай польскай гістарыяграфіі, — «кароль рымлян», «кароль рымскі».

надыходам гэтага дня абодва бакі выканалі ўмову, а менавіта: калі чатыры рыцары з боку караля Уладзіслава (Ян з Влошчава, каштэлян добжынскі, Мікалай з Вашмунтова, Ян з Здакова і Яраслаў Чэх), чатыры іншыя рыцары з боку французаў з'явіліся ў Прагу, яны адправіліся ў сад пры звярынцы, каб пашукаць шчасця ў паядынку. Аднак па наказу Венцаслава, караля рымлян і Чэхіі, сапернікі былі разведзены і ўтрыманы ад сутычкі. Польскія рыцары — Іаганам, герцагам люксембургскім, братам караля Венцаслава, а французы — Ёдакам, маркграфам мараўскім[2], і прыведзены да каралеўскага стала: француз у пары з палякам і паляк з французам, дзе іх спачатку пышна прынялі і пачаставалі, а затым кароль Венцаслаў, выступіўшы як пасрэднік, памірыў іх і прывёў да згоды.

### КНЯЗЬ ВІТАЎТ І КРЫЖАКІ АДМАЎЛЯЮЦЦА АД АБЛОГІ ВІЛЕНСКАГА ЗАМКА І, УЧЫНІЎШЫ ВЯЛІКІЯ ЖОРСТКАСЦІ, ВЯРТАЮЦЦА Ў ПРУСІЮ, АДКУЛЬ ВІТАЎТ З ДАПАМОГАЙ КРЫЖАКОЎ ЧАСТА ЗДЗЯЙСНЯЕ НАБЕГІ НА ЛІТОЎЦАЎ.

Неяк падчас аблогі, калі палякі і літоўцы былі занятыя ежай, ворагі раптам уварваліся ў ніжні Віленскі замак, дзе знаходзіцца кафедральны сабор святога Станіслава (у тую частку, дзе зараз змяшчаецца дом біскупа), і, калі яны ўжо ўзлезлі на сцяну, амаль атрымаўшы перамогу, адзін з прускіх рыцараў, якія занялі сцяну, стаў крычаць: «Kather er Kather!»[3], але, адразу ж скінуты са сцяны адным з польскіх рыцараў, ён панёс пакаранне за сваю безразважную адвагу. Астатнія ворагі альбо застрашыліся яго прыкладу, альбо таксама былі скінуты са сцяны сіламі палякаў. Тады князь Вітаўт і крыжакі, бачачы, што іх намаганні і спадзевы беспаспяховыя і асуджаны на правал, у пятніцу пасля тыдня святога Міхала знялі аблогу. Спаліўшы нядаўна ўзведзеныя каралём польскім Уладзіславам каталіцкія цэрквы, пасадзіўшы на калы дзяцей, кормячых маці і здзейсніўшы дзеля помсты розныя іншыя жорсткасці, яны вяртаюцца ў Прусію, страціўшы шмат сваіх людзей.

Таму, што князь Вітаўт прасіў дапамогі ў магістра і Ордэна крыжакоў, бо ён ведаў, што яго сілы слабыя, да яго былі далучаны Іаган Рапенгейн, камандор Рагнеты[4], і Конрад фон Ліхтэнштэйн, правіцель Інстэрбурга[5], са шматлікімі нямецкімі і іншаземнымі рыцарамі. Абапіраючыся на іх дапамогу, князь Вітаўт рабіў частыя набегі на літоўскія і самагіцкія землі, забіраючы ў палон і забіваючы мужчын і жанчын, спальваючы паселішчы і здзяйсняючы шмат рабаванняў.

### КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ, ПРЫБЫЎШЫ Ў ЛІТВУ, ПАДНЯЎ УПАДНІЦКІ ДУХ ЛІТОЎЦАЎ, ЯКІЯ АМАЛЬ ПАДДАЛІСЯ РОСПАЧЫ. ПАСЛЯ АДМОВЫ МІКАЛАЯ З МАШКАЖОВА АД ПАСАДЫ ПЕРАДАЎ СТАРАСТВА ВІЛЕНСКАЕ І ЎСЁЙ ЛІТВЫ ЯСЬКУ З АЛЯСНІЦЫ.

Кароль польскі Уладзіслаў, каб дапамагчы бядзе і спыніць спусташэнне Літвы, прычыненае князем Вітаўтам і крыжакамі, прыбыў у Літву ў лістападзе-месяцы, везучы з сабою на вазах вялікую колькасць зброі, бамбард, баліст, стрэл, тканіны,

[1] Па рыцарскіх звычаях паядынкі паміж рыцарамі розных краін праводзіліся пры нейтральным замежным двары.

[2] Ёдак-Ёшт — дзядзька караля Вацлава IV.

[3] Г. зн.: «Ерэтыкі! сюды! ерэтыкі!» (суч. ням. Ketzer — ерэтык, няверны).

[4] Іаган фон Румпенгейм — комтур Рагнеты ў 1384—1392 гг., у 1404 г. — комтур у Эльблонгу.

[5] У 1389—1392 гг. Ліхтэнштэйн быў кіраўніком (фогтам) усёй вобласці Самбія, а не толькі пабудаванага крыжакамі на яе тэрыторыі замка Інстэрбурга. У 1404—1410 гг. — вялікі комтур Ордэна.



*Вялікі князь Літоўскі Вітаўт. Старажытная гравюра.*

вопраткі і харчавання. Сваім прыбыццём, а таксама шчодрасцю і літасцю кароль падняў разладжаныя і амаль знясіленыя сілы літоўцаў і ўмацаваў у вернасці як рускіх, так і літоўцаў, якія былі ў роспачы.

Пасля таго, як Мікалай з Машкажова, з роду Пілява, падканцлер каралеўства Польскага, злажыў з сябе перад каралём кіраванне старастваМ віленскім і Літвой і нельга было ўгаварыць яго працягваць кіраванне, таксама цяжка было даручыць каму-небудзь з польскіх рыцараў прыняць на сябе гэтую пасаду, бо ўсе, каму яна прапаноўвалася, страшыліся магутнасці і лютасці ворагаў, здрады і вераломнасці сваіх і, акрамя таго, самаўладдзя князя Скіргайлы, брата караля. Стараства віленскае і Літвы па просьбе караля пагадзіўся прыняць на сябе рыцар Яська з Алясніцы, з роду, які завецца Дзембна[1]. Для таго каб Яська мог распараджацца больш вольна і слушна, князя Скіргайлу пераводзяць на кіраванне Кіеўскай вобласцю. Згаданаму ж Яську з Алясніцы, старасту Літвы, кароль польскі Уладзіслаў, вярнуўшыся ў Польшчу, паслаў знатных вяльможаў, рыцараў Польскага каралеўства і новых вояроў наўзамен загінуўшых або тых, якія вярнуліся ў Польшчу, а таксама вайсковыя прылады і харчаванне для абароны і ўмацавання замка.

***Каментарыі Л. В. Разумоўскай, Б. В. Казанскага, А. П. Вашчанкі.***
***Пераклад Аляксандра ВАШЧАНКІ.***

***Працяг будзе.***

[1] Яська з Алясніцы — бацька вядомага пасля біскупа кракаўскага Збігнева Алясніцкага.

Кацярына МАКАРЭВІЧ



# ЦЕПЛЫНЯ ТВАІХ РУК

* * *

шэрань пачуццяў і шэрань неба
мадальнасць восені ў мінусе
ламаю хрыбты апаламу лісцю
і шукаю сваё адчуванне цябе
стог за стогам
кішэня за кішэняю
ты даўно з іншага боку поўні
а я так і не магу ў гэта паверыць

* * *

прыкладаю свае далоні
да далоняў клёна
пад пальцамі
яшчэ пульсуе жыццё
не маё
цёпла
цёплае лісце ўспамінаў
ілюзорнасць цеплыні
пакідаю кляновым артэрыям
радасць вызвалення:
я *была* ў цябе закаханая

* * *

***Бабулі***

не магу пацалаваць твой боль
павуціннем успамінаў
ахутваеш свядомасць
марна спрабуючы
сагрэцца
сагрэць
табе баліць жыццё
месца націску так неістотна
як сасмяглы
палову кроплі
коўтаю на языку
мая Мая

*Кацярына Макарэвіч нарадзілася ў 1988 годзе ў Мінску. Студэнтка Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка (аддзяленне беларускай філалогіі і культуры). Друкавалася ў часопісе «Маладосць», газеце «Літаратура і мастацтва».*

* * *

скептычна накінуты шалік
і абсалютна старэчы кашаль
спрасонку трапляю
у вязніцу кропелек
дажджу ды тваёй чэрствасці
нібыта не хлеб
разынкамі эмоцый
можна зламаць зубы
а хатнія практыкаванні
выконваю ж па ўзору
восень засыпала цябе
лісцем з прызнаннямі
а ты абвінавачваеш
у каханні мяне

* * *

зімой без пальчатак няможна
не люблю выкшталцоных метафар
таму мае казкі
звычайна выглядаюць
як завуаліраваныя утопіі
тваёй чэрствасці
вельмі пасуюць
бяскроўныя дотыкі
дык вось
зімой без пальчатак
няможна

* * *

лячуся
запарваю ліпавыя кветкі
і адрасаваныя мне словы
сабраныя з тваіх вуснаў
і прылежна засушаныя
па ўсіх правілах
беларускай граматыкі
ачуньваю
і падбіраю канчатак
для гэтай хваробы
стомленасць пачуцця
ці
стомленасць пачуццём

* * *

абгортка
у якую схаваная
цеплыня тваіх рук
зіхаціць
крыштальнай забаронай
дотыку
табе не падабаюцца
монаспектаклі
а я
не ўмею быць разумнай
рыпяць дзверы самападману
можна зайсці
можна выйсці

* * *

толькі ў дзяцінстве
можна лічыць
колькасць кропак
на спіне багоўкі
і трымаць у кішэні
багацце свету –
некалькі каштанаў
узгадваю гэта
робячы самакрутку
вішнёвы тытунь памылак
заварочваю
у планы на жыццё

Генадзь ПАЦЫЕНКА



# ПАКУЛЬ КУЛЯ ЛЯЦІЦЬ

***Аповесць***

**Окружи счастием душу достойную…**
*М. Ю. Лермонтов*

## Частка першая

### ЗДАРЭННЕ НА ВЫГАНЕ. ВЫБУХІ Ў ЯРЫ

*Дзяўчынка,* з якой упершыню мне давялося пасябраваць, была масквічкай. І звалі яе Інгай. Звяла нас вайна, і не расказаць пра гэта я проста не магу. Абставіны сяброўства, што ўзнікла паміж намі, незвычайныя. Інга прыехала з Масквы на лета ў вёску да сваіх сваякоў, да дзядзькі Косці і цёткі Косціхі. Дзяцей яны не мелі і былі задаволены і рады прыезду пляменніцы. Да заканчэння лета Інгу абяцалі забраць бацькі, але вайна перашкодзіла. У некалькі дзён чыгунку на Маскву немцы перарэзалі, якраз тую частку, якая пралягала непадалёку ад нас. Фронт загрукатаў побач, і пра адпраўку Інгі было нечага і думаць.

І засталася Інга ў трывожнае лета ў нас у вёсцы. А там і на зіму, і на вясну, патрапіўшы ў нечуваны, нябачаны колазварот. Было ёй значна цяжэй, чым нам, мясцовай дзятве. І я вырашыў расказаць аб усім абавязкова ў падрабязнасцях.

Хаты нашы былі побач, раздзеленыя зялёным выганам, і няма чаму дзівіцца, што я першы з хлапчукоў пасябраваў з Інгай. Затым неўзаметку зрабіўся і яе «апекуном».

А інакш як жа? Не магла ж Інга жыць, ні з кім не гуляючы? Такое і ў казцы-то не здараецца.

Дзяўчынка да таго ж яна аказалася паслухмяная, ну не так каб вельмі, прыгод з ёй усё ж хапала, але заканчваліся яны шчасліва, і на Інгу я асабліва не крыўдзіўся.

Пра шматлікія прыгоды я і буду распавядаць, хоць аб усіх распавесці не хапіла б цэлага жыцця. Ніводную з іх я не прыдумляў, яны нібы самі нас знаходзілі. Мне ж заставалася толькі засцерагаць Інгу ад розных неспадзяваных бед.

Бачыць яе ніколі мне не надакучвала. Вясковае жыццё было Інзе ў навіну, калі не ў дзівоцтва, і яна раз-пораз трапляла ў розныя гісторыі.

*Генадзь Пацыенка нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Зубакі Лёзненскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага (Масква). Узначальваў «Раман-газету», працаваў у апараце Міністэрства па справах нацыянальнасцей РФ. Аўтар шматлікіх кніг прозы.*

Першая з іх вось якая. На паляне зялёнага выгану пакінулі пасвіцца казу-ганарліўку з казлянятамі. Інга неяк наблізілася да яе. Частаваць казлянят лічылася абавязковай патрэбай, і яна здзіўлена разглядала дзіцянят, якія ад радасці брыкаліся. Але як толькі Інга казлянят пагладзіла, каза тут жа затэпала абцасавымі ножкамі ёй насустрач і нямоцна баднула яе. Інга паспрабавала бегчы, але ўпала і расплакалася. Каза ж спынілася поруч з ёю і забляяла.

Я сядзеў тым часам на дрэве, на сваім любімым вязе, які рос ля хаты, і, убачыўшы дзяўчынку, якая плакала, саскочыў на зямлю, выдраў з загарадкі лазінку і кінуўся на помач. Адагнаўшы казу, я дапамог масквічцы ўстаць.

— Ды не бойся ты, — сказаў я, — каза толькі палохае. Маленькіх яна не чапае.

— Я — маленькая?! — здзівілася адразу ж Інга, выціраючы слёзы і адводзячы з ілба цемнаватую пасму валасоў.

— Яна не любіць, калі казлянят чапаюць.

— Але я ж гасцінец ім прынесла!

— Яны яе сысункі. Нічога, акрамя малака, не ядуць. Ім рана пакуль даваць хлеб. Бачыш, як маці смокчуць? — растлумачыў я, адцягваючы, як мог, прыезджую ад засмучэнняў і паказваючы на казлянят, якія ад задавальнення прыцмоквалі і памахвалі белымі жвавымі хвосцікамі.

Інга не без увагі і сур'ёзнасці паглядзела на двух дзіцянят і на паслужліва-мірную цяпер казу.

— Яна твая? — спытала Інга, супакойваючыся.

— Бабкі адной.

— А чаму ў яе не карова?

— Ды таму, што карове на зіму шмат сена трэба. Бабцы самой не накасіць.

Па наіўнасці роспытаў я зразумеў, што пра свойскую жывёлу Інзе нічагуткі толкам невядома. Яна і бачыць іх, магчыма, у Маскве не бачыла, і мне захацелася, каб яна хутчэй да іх прывыкла і аніяк не баялася.

— Ты раней у вёску ездзіла? — пацікавіўся я.

— Было не да гэтага, — адказала яна не без важнасці і загадкавасці. — Мяне лічылі дашкольніцай.

— Тады іншая справа, — разважыў я.

— Цяпер я з чацвёртага ў пяты перайшла.

— А я ў сёмы.

Масквічка паглядзела на мяне з павагай. Атрымлівалася, што за некалькі мінут мы ўжо дастаткова адно пра аднаго даведаліся.

— У цябе бацькі хто? — спытаў я, здзіўлены яе амаль поўнай недасведчанасцю пра жывёл.

— Мама англійскую мову ў школе выкладае, а тата — дыпламат, па розных краінах ездзіць. Мы з мамай у яго ў Бразіліі жылі, а твае бацькі хто?

— Маці — птушніца, а бацька — садоўнік. Вунь там, каля ліп у лагчыне, панскі сад.

Але Інзе заняткі маіх бацькоў, як я зразумеў, ні пра што не казалі.

— Скажы, а дыпламат — што гэта? — на ўсякі выпадак адважыўся я ўдакладніць і тут жа ў душы зарокся: даў маху, змарозіў, як кажуць, глупства.

— Ты сур'ёзна ў сёмы клас перайшоў? — спытала яна, дзівячыся маёй недасведчанасці.

— Вось, крыж на пуза! — выклікнуў я, як часам кляліся паміж сабой хлапчукі.

Інга прысела ад рогату. Яна смяялася і незагарэлымі ручкамі адначасова папраўляла шкарпэтачку з блакітнай аблямоўкай па краі, што спаўзла на шчыкалатку.

— Ты што, заўсёды жывот хрысціш? — ашаламіла яна мяне. — Ён у цябе такі худы, што ледзь порткі трымаюцца.

Гэта ўжо было залішне. Штаны спусціліся не ад таго, што я быў худы, я наогул славіўся самым тонкім сярод хлапчукоў. І апроч таго, спяшаючыся ратаваць Інгу, я знарочыста адпусціў для зручнасці ў папружцы дзірачку, што Інга і прыкмеціла, вырашыўшы паяхіднічаць.

— Між іншым, — патлумачыў я спакойна, — ніхто хутчэй за мяне не залазіць на дрэвы. І ніхто хутчэй не плавае, — дадаў я, ківаючы на возера, што сінела непадалёку.

Інга тут жа стала сур'ёзнай — магчыма, мяркуючы, што не такі і вахлак я і не такі просты. Папругу ж на штанах я хуценька зацягнуў, з-за чаго адчуў сябе яшчэ танчэйшым і больш бязважкім.

— А ў вас, кажуць, конь ёсць?

— Франтавы.

— Свой?

— А чый жа яшчэ.

— А ў дзядзькі Косціка чамусьці няма, — прамовіла яна, маючы на ўвазе хворага дзядзьку і цётку Косціху, якая працавала, не ведаючы стомы і перапынку.

— Гэтага каня бацька падабраў, калі адыходзілі нашы. І вылечыў. Бацька ўначы з акружэння камандзіраў выводзіў праз лясы, там і набрыў на параненага каня. Мы завём яго Віцязем.

— Як цудоўна! Вялікі ён?

— Звычайны.

— Цябе вось самога як клічуць?

— Ягор.

— А мяне Інгай.

— Я ведаю.

— А ты на кані мяне павозіш?

— Як-небудзь.

— А цяпер?

— Трэба ж калёсы знайсці.

— Ён у вас не кусаецца?

— Віцязь, каб кусаўся?!

— Можна, я яго пагляджу?

— Ён у яры.

— Ты знарок яго адвёў туды?

— Увогуле, так, каб немцы не адабралі, калі наляцяць.

— А яны могуць наляцець?

— Вядома, вайна ж.

— Як жа ты пасвіш каня, калі са мной размаўляеш?

— Вось так і пасу.

— Гэта як?

— Я спецыяльна хаваюся на дрэве, каб і каня, і ўсё вакол бачыць.

— І навошта?

У пацеркавых вачанятах Інгі бліснула няўрымслівая цікаўнасць. Я прамовіў лішняе, прызнаўшыся, што назіраю з дрэва. Я рассакрэчваў сваю хованку, пра якую лічыў ні з кім з хлапчукоў асабліва не дзяліцца. Але з кім жа, як не з Інгай, падзяліцца? У рэшце рэшт, яна суседка.

— Вяз, вунь той, — наша сямейнае дрэва. Яго калісьці бацька пасадзіў, і зараз яно вышэй за страху.

І мы павярнулі міжволі адначасова да хаты, над якой, раскінуўшы полагам галіны, распасціраўся густалісты, высокі вяз. Ён велічна вабіў да сябе.

— На ім я хаваюся і назіраю.

— І ніхто пра гэта не ведае?

— Увогуле так.

— Амаль ніхто?

— Апроч цябе ведаюць Федзька, брат, яшчэ маці ды бацька. Пра засаду ведаць не трэба.

Я ўздыхнуў ад наіўнасці Інгі. Яна была амаль някемнай.

— Я з дрэва немцаў выглядваю, каб пра іх своечасова вёску папярэдзіць. Іншым назіраць улетку няма калі, а ў мяне час ёсць.

Каза прагна шчыпала траву, не звяртаючы на нас ніякай увагі. Казляняты ўжо згарнуліся абаранкам і драмалі, прыгрэтыя сонцам. Дзень стаяў з чыстым і блакітным небам.

— Так ты на кані пакатаеш мяне?

— Мне цяпер на вяз вяртацца.

— Тады не тлуміў бы галаву. Выдумаў пра каня, а я паверыла. — Інга зірнула на мяне з доляй паблажлівай спагады, вырашыўшы, што чымсьці я ўсё-ткі заслугоўваю яе ўвагі і не такі непатрэбны, нікчэмны, калі гэтулькі часу яна прагаварыла са мной.

— Так і быць, пайшлі.

Я не мог растлумачыць, але штосьці стрымлівала весці яе да Віцязя, штосьці падказвала не спяшацца з катаннем у гэты дзень, што напальваўся спёкай.

— Ты наогул добры, — адазвалася яна нібы ў пахвалу.

Мы пакінулі тут жа выган, абмінулі агародныя праслы і пачалі спускацца ў яр. Там, у цяню альховых кустоў, ляжаў ціхамірна Віцязь. Побач з ім пад густой крапівой і рэзка пахкім аерам да возера прыхавана струменіўся раўчук, які ў багатую вясновую паводку шумна панакідаў пяску і глею.

Віцязь паспеў на зямлі пакачацца, з-за чаго спіна была ў прысохлым пяску. Вакол пахла парэчкавымі кустамі і канём.

Я вырваў некалькі сцеблаў аеру і старанна працёр Віцязю спіну. Інга з асцярогай і нясмеласцю пагладзіла яго пераноссе. Я прымусіў каня падняцца і разблытаў яго. Са старога пня падсадзіў на яго Інгу.

У ружовай сукеначцы і маленечкай белай кофтачцы яна нагадвала вытанчаную ляльку, што прывозілі дзяўчынкам у падарунак з горада.

— Утрымаешся?

— Я кофтачку зняць забылася. Такіх не адшукаеш. Яны вяжуцца толькі ў Андах, з мясцовай шэрсці.

— Здымай хутчэй, — сказаў я, прытрымліваючы каня знізу за шыю.

— Ты, вядома, пра Анды не ведаеш...

— Дзе ўжо нам.

— Гэта высокія-высокія горы ў Паўднёвай Амерыцы, дзе жылі калісьці цікавыя людзі — інкі.

— Чым жа яны цікавыя?

— Я, можа, табе як-небудзь прачытаю пра іх. У мяне з сабой ёсць кніжка, у якой яны апісаны.

— Сама-то ты там была?

— Ну вядома! Я ж казала.

Пра Анды і інкаў, шчыра кажучы, я чуў мімаходзь. І таму знарок не стаў далей распытваць, асцерагаючыся быць абсмяяным. Пра іх у школе штосьці аднойчы

распавядалі, але што іменна – цалкам забылася. Можна б адразу пайсці і адшукаць Анды на школьным глобусе, калі б школа з пачатку вайны не зачынілася. Пра яе зараз зусім забыліся. Можна б знайсці і на карце ў падручніку па геаграфіі, хоць пра кніжкі рэдка хто з дзяцей успамінаў цяпер.

Разблытаны Віцязь абмахваўся хвастом. Інга клапатліва павесіла кофтачку на галінку алешыны.

— Трымайся за карак, — сказаў я, саскокваючы з пня і ледзь дацягваючыся да малюсенькага сандаліка дзяўчынкі на баку Віцязя. З нашай дзятвы ўлетку ніхто звычайна не абуваўся. Звычка Інгі хадзіць абутай была чыста гарадской.

Конь быў без аброці, і я пайшоў побач, ледзь дакранаючыся да яго вуснаў, частымі крокамі па дне яра, якімі толькі магчыма рухацца.

Інга ж сядзела на Віцязю маленькай царэўнай, якая з захапленнем і страхам трымалася за конскую грыву. Так мы прайшлі з ёй па дне яра з кіламетр і вярнуліся назад. Твар прыезджай то ўспыхваў захапленнем, то станавіўся разгубленым ад боязі не ўтрымацца. Яна быццам плыла па зялёным яры, у густой траве якога я натыкаўся крок за крокам на пякучую, маладую яшчэ крапіву. Мы абое нібы патрапілі ў казку.

Што ногі ў мяне гарэлі ад крапівы, Інзе, вядома, і ў галаву не прыходзіла. У няўрымслівых яе вачанятах былі радасць і страх. Я вадзіў Віцязя ўзад-уперад, чакаючы, калі Інзе надакучыць катацца. Яна ж не спяшалася. Дзе яшчэ трапіцца месца з травяным запусценнем, абрывам, ярам і ракітамі, што расшчапіла навальніца?

— Не стамілася?

— Што ты! Я за гэтым і ехала да вас.

— Не зразумеў...

— Каб на кані катацца, мець выправу прыгожую, — адказала яна, адпускаючы карак і наўмысна выпростваючыся.

Ногі мае між тым не на жарт гарэлі ад крапівы, але да гэтага Інзе не было зусім справы. Аднак неўзабаве я забыўся пра крапіўныя апёкі.

Паслабленым слыхам я раптам пачаў улоўліваць нейкі манатонна-натужлівы, гумова-нацягнуты гук. За ўзгоркамі як быццам буксавала машына. Але буксаваць ёй у сухое-то надвор’е і не было дзе. Вёску наводшыбе чырвонаармейскія часці пакінулі ўжо некалькі дзён назад, шасэйная дарога пралягла ўбаку, і гул машын адтуль звычайна не даносіўся.

Гук нарастаў, і я спыніў Віцязя, каб услухацца і агледзецца. У дзіўным гуку трэба было разабрацца. Гудзенне нарастала, і я здагадаўся, што яно даносіцца зверху.

— Ты што? — спытала Інга, як толькі я пачаў узірацца з задранай галавой у сінь неба.

— Не магу зразумець, ці наш, ці нямецкі, але гудзе самалёт. Злазь ты лепш, — разважыў я, пільна назіраючы за небам. І нарэшце ўбачыў, угледзеў цёмную кропку, якая кружыць накшталт ястраба, што набраў вышыню. Самалёт павольна рабіў марудлівыя развароты, старанна вывучаючы зямлю і нешта на ёй вышукваючы.

З вышыні конь у яры бачыўся як на далоні. Над намі якраз самалёт і здзяйсняў цяпер круг за кругам. Мне зрабілася не па сабе. Разане з кулямётаў — і каюк: хана будзе нам усім траім. Віцязь палахліва павёў вушамі. Ён быў конь франтавы і марна не турбаваўся б. Я ўжо распазнаваў здвоены хвост самалёта, нібы злучаны перакладзінай.

— Скачы хутчэй! — амаль загадаў я Інзе, падстаўляючы рукі.

— Ён нас заўважыў? – шэптам і палахліва спытала яна.

— Хто ведае. Відаць, разведчык.

— Ой, страшна як...

— Не бойся. Нам хутчэй трэба сысці адгэтуль.

Я пацягнуў Віцязя ў густыя зараснікі, дзе мы прыселі на кукішкі пад сакавітым лісцем лопухаў. Цурчанне раўчука па суседству стала даносіцца выразней. Я не дазваляў Інзе высоўвацца. Віцязь жа стаяў побач пад альховым полагам, і я нібы чуў яго клапатлівыя ўздыхі.

На небе між тым, на летнім і чыстым небе, як быццам чакаючы, кружыла вялікая драпежная птушка, знарочыста пазначаная крыжамі, што былі бачны пры развароце і зніжэнні. Я ўжо не сумняваўся, што самалёт нямецкі і выляцеў на разведку. Раптам ён выраўняўся, набраў вышыню і паляцеў за возера ў бок горада.

— Ідзі дахаты, — параіў я ўладна Інзе. — Устрывожацца і пойдуць шукаць. Дый стамілася ты, напэўна?

— Ніколечкі. Я б яшчэ каталася.

— Іншым разам.

— А не забудзешся?

Мы вылезлі з зялёных хованак. Інга стала атрасацца. Яе цярплівае сядзенне на кані здзіўляла. Нават хлапчукі без сёдлаў і тыя набівалі, здаралася, ягадзіцы. Ранкі звычайна заўважаліся падчас купання. Але Інга, гарадская дзяўчынка, чамусьці не жалілася. І ўсё вось з-за прамой выпраўкі, якую, як унушылі ёй, яздой на кані толькі і можна набыць.

І раптам, зусім па-свойску, нібы брату ці даўняму сябру, Інга па-прыяцельску прызналася:

— Мне трэба шмат-шмат ездзіць на кані. За гэтым я і прыехала. Ты мяне кожны дзень катай. Мама заплаціць, калі прыедзе.

— Ведаеш што... — Я так на Інгу зірнуў, што і растлумачваць не трэба было. — Калі хоць раз яшчэ скажаш пра гэта, іншага каня шукай.

— Ты, Ягор, жартаў не разумееш.

— Такіх — канечне.

— Ну прабач, калі ласка. — Яна кранула рукой за локаць, і я адразу ж аб усім забыўся, параіўшы ісці хутчэй дахаты. Інга наўздзіў паслухмяна паспяшалася да Косцікаў.

Як бы ні жадалася, ні цягнула і мяне пабегчы, я, тым не менш, не спяшаўся, не рызыкуючы пакідаць Віцязя ў яры. Турбота за яго душыла звыклае дзіцячае жаданне, штосьці падказвала неадкладна адводзіць каня, пераганяць у іншае месца.

Ужо даўно чырвонаармейцы дробнымі і буйнымі групамі адступілі, хоць па лясах і сустракаліся яшчэ заблудныя. У рове ж яны часцей за ўсё перагрупоўваліся, забіраючы з сабой толькі самае патрэбнае — зброю, патроны, гранаты — тэхніку ж і цяжкапараненых пакідалі ў вёсцы, у разліку на хуткае вяртанне.

Ля раўчука ў яры стаяла кінутая павозка для артылерыйскіх снарадаў, з цяжкімі навяснымі дзверцамі. Снарадныя нішы ў ёй пуставалі, дзверцамі хлапчукі пагульвалі, падымалі, наколькі магчыма, угару і тут жа апускалі, выклікаючы металічны гучны ўдар, нібы гарматны стрэл.

Сёння дзятва ў яр не спускалася. Ці то яе напалохала кружэнне самалёта, ці тое, што рух на гасцінцы, які вёў у гарачыя далячыні, падазрона спыніўся, ці што іншае, але ў яры я нікога не бачыў.

З галін вяза, якія разлапіста прасціраліся, я назіраў звычайна не толькі за сваім улюбёнцам-канём, але і за ўсім тым, што загадкава наспявала зблізку і наводдаль.

Я адзначаў асаблівасць, што ўзмацнялася дзень за днём: спалоханасць з пачаткам вайны паступова змянялася чуйным чаканнем невядомасці.

Самалёт дадаў трывогі. Калі б не катанне Інгі, я, напэўна, і не здагадаўся б пераводзіць Віцязя з яра ў поймавыя, прыбярэжныя лазнякі.

Звычайна ў роў па корм прылятaлі буслы. Сёння яны каля раўчука чамусьці не апускаліся. Жылі яны на старой велізарнай ліпе на ўзгорку, поруч з панскай сядзібай. Менавіта адтуль часцей за ўсё і лёталі яны ў вільготны яр па жаб буслянятам. Падгалістыя, чарнахвостыя птушкі бачыліся мне здалёк, яны панура стаялі па краях свайго гнездзішча, верагодна, важдаючыся з дзіцянятамі ў сваёй нікому не даступнай хаце.

Але самае цікавае тое, што Інга амаль не ўлоўлівала, не заўважала тых змен і перамен, якія перадаваліся і пранікалі ў мяне, падахвочваючы да абачлівасці. Лета ёй уяўлялася суцэльнай забавай, якая квітнее весялосцю, дзе трэба цешыцца і ні на што не зважаць. Іншае было неабавязковым. Радасны летні свет абяцаў Інзе адны прыемнасці.

Засмучала, мабыць, адно: з-за вайны надоўга адсоўваўся прыезд бацькоў... Мне, прызнаюся, наадварот, хацелася, каб Інга ў вёсцы заставалася даўжэй. У хаце дзядзькі Косці і цёткі Косціхі ёй літаральна ўсё падабалася.

З лавачкі ля кветніка штовечар былі бачны размашыстыя чырванадзюбыя буслы, якія паважна лятaлі са сваёй дзіўнай песняй-ляскоткай. Інга хутка выбрала для сябе і любімы мясцовы ласунак: малако з хлебам і ягадамі, чарніцамі і суніцамі. Праўда, цётка Косціха пабойвалася хадзіць далёка па ягады, але Інга і сама спяшалася збіраць іх, насуперак забаронам цёткі.

* * *

Інга з цёткай Косціхай кармілі ў двары куранят. Грукат, які раздаўся ў небе, адцягнуў увагу абедзвюх. Над дахамі хат, ледзь не дакранаючыся коламі, з выццём пранесліся да яра два самалёты.

Каза з казлянятамі ад гэтага раздзіраючага гуку рванулася і пабегла. Цётка Косціха пакінула куранят і ўхапіла пляменніцу за руку. Яны перасеклі хуценька двор і нырнулі ў цемнату расчыненага хлява, назіраючы адтуль за небам і асцерагаючыся чарговага гулу і выцця. Тым часам самалёты закружылі над ярам. Косціха прыпала да маленькага вакенца хлява. Ад самалётаў адна за адной пасыпаліся цёмныя тупыя балванкі. У рове ад іх ускінуліся дрэвы, узляцела і паваліліся павозка з-пад снарадаў, хвалі раз’юшаных выбухаў сцебанулі па наваколлях і вёсцы.

Пасля паўторных заходаў самалёты ўсё гэтак жа нізка пранесліся над стрэхамі, узбіваючы кулямётнымі чэргамі фантанчыкі дарожнага пылу. Зніклі яны гэтак жа імкліва, як і з’явіліся.

Услед за змоўклым грукатам да яра пабеглі ад хаты мая маці і брат Федзька. Я закрычаў, замахаў ім, каб не трывожыліся. Яны неўзабаве ўбачылі мяне жывым і цэлым пад ракітамі.

— А конь?! — закрычала маці.

Я паказаў ёй рукой на хмызнякі, даючы зразумець, што ён таксама цэлы.

Сыдучыся, мы ўсе трое вырашылі агледзець яр. Зірнуць на яго хацелася хутчэй. Велізарныя варонкі ўтварыліся на месцы раўчука і хмызнякоў. Па краях іх сцякала павольна тарфяная жыжка, збіраючыся на дне. Пакуль варонкі да краёў не напоўняцца, раўчук наўрад ці пацячэ ў возера.

— Як гэта ты, Ягор, здагадаўся каня перавесці? — дзівіўся Федзька.

— Разведчык, думаеш, навошта прылятаў? Я пасля яго і вырашыў перагнаць адразу Віцязя. Немцы разлічвалі, што тут вайскоўцы хаваюцца, калі павозку відаць. Мы з Інгай якраз былі тут.

— Носіць вас куды не трэба, — заўважыла маці буркліва і незадаволена. — Госпадзі, госпадзі, — паўтарала яна спалохана, праводзячы рукой па маёй віхрастай непастрыжанай галаве. – Дарослы б не дадумаўся. Ты глядзі, далёка ад хаты не сыходзь. І прыезджую не крыўдзі. Яна цяпер без бацькі, без маці...

— Ды хто яе крыўдзіць? Я яе нават на Віцязю пакатаў.

— Гэта я так сказала.

— Мама, а вайна калі скончыцца? — спытаў, хмурачыся, Федзька.

— Хто яе ведае, сынкі. Толькі пачалася. Пэўна, ненадоўга. Апамятаюцца нашы і папруць немцаў назад.

— А калі апамятаюцца?

— Ды пара б ужо... Вы ў бацькі лепш спытайце.

Перагаворваючыся, вярнуліся ў хату. Маці наліла нам з братам па кубку малака і нарэзала хлеба, у двары незласліва забрахаў сабака Цімка. Я выбег паглядзець.

Па выгане наўскасяк да нас спяшаліся цётка Косціха і Інга. Даўжэзная, як шынель, спадніца Косціхі пляскалася ад хуткай хады. Пляменніца тупала следам у сваіх маленечкіх гарадскіх сандаліках і нязменнай пухнатай кофтачцы, адкідваючы раз-пораз на лоб пасму валасоў. Ішлі яны, падобна, для чагосьці сур’ёзнага. Інга брала прыклад з заклапочанай цёткі. Абедзвюм, як высветлілася, хацелася даведацца, навошта і што бамбілі ў рове самалёты.

— Цэлыя вы тут? – спытала Косціха, выціраючы вонкавым бокам далоні спацелы загарэлы лоб. — У нас ажно шыбы забрынкалі, думалі, выпадуць. Маці хоць дома?

— Заходзьце, — запрасіў я, прытрымліваючы Цімку, каб неспадзявана не напалохаў. Сабака прыязна віляў хвастом.

— Можна мне з табой на вяз залезці? — спытала Інга.

Я прамаўчаў.

— Можна ці... не?

— Немцы могуць заўважыць у вось такой кофце.

— Што ж яны, думаеш, каня твайго не бачылі?

— Бачылі, але я іх апярэдзіў. Яны адступаючых высочвалі. Спачатку выглядзяць, а потым бамбяць. Так было ўжо.

Інга прызналася, што бачыла, як я пераводзіў растрыножанага Віцязя да вялікіх ракіт ля возера. І ўжо разумела: калі я вёў каня ў іншае месца, значыць, рабіў гэта нездарма. Пазней яна папрасіла, каб я нікога іншага на Віцязю не вазіў. Я паабяцаў, заўважыўшы, што ніхто больш і не просіцца.

— А праўда, што мы ў акружэнні? — спытала яна, калупаючы сандалікам зямлю.

— Бацька называе гэта інакш...

— Як?

— Акупацыяй. Вядома ж, мы акружаны. Але часова. Я таму і залажу на дрэва, каб і немцаў, і сваіх адтуль убачыць, калі прыйдуць.

— І хутка нашы вернуцца?

— Хутка.

— Значыць, мне на дрэва можна?

— Я гэтага не сказаў.

Інга чакала. Я маўчаў.

— Ну, дзяўчынкі ж па дрэвах не лазяць?

— Вось і няпраўда. Гэта адкуль ты ўзяў?

— Лічыцца непрыстойным.

Маці ў адкрытае акно паклікала нас.

— Ідзём, — пацягнуў я за руку Інгу.

Маці запрасіла да стала і наліла малака.

— Пі, дзетка, пі, — ласкава настаяла і цётка Косціха, апусціўшы на падол навярэджаныя вузлаватыя рукі. Інга не адмаўлялася.

— А ягадак у вас няма? — спахапіўшыся, спытала яна. — Сунічак ці чарнічак?

— Чаго няма, таго няма. Парэчак не жадаеце? — прапанавала маці.

— Парэчкі і ў нас ёсць, — пахвалілася Інга. — Лепш бы сунічак з чарнічкамі.

— Няма, мілая.

— Па ягады лепш не хадзіць пакуль, — перасцерагла цётка Косціха.

— Чаму, цётка?

— Небяспечна. Я збіраць перш любіла, паўкубачка прынясу — і задаволена. Цяпер жа ці свой, ці чужы — не зразумееш. Усё перамяшалася.

Маці і цётка Косціха бачна трывожыліся, як складзецца ваеннае жыццё. Нельга было прадбачыць. І хоць парой і бамбілі як гром з яснага неба, але ў цэлым яшчэ было спакойна.

Я сядзеў за сталом і думаў: «Колькі ж за лета прападзе ягад, асабліва на грудах за возерам! Калі вайна хутка і скончыцца, усё адно ягады пераспеюць, а без іх — якое ж лета... Якое яно без купання і ягад?»

Нас выправадзілі пагуляць у двор. Цётцы з маці хацелася пагаварыць паміж сабой, даабмеркаваць свае трывогі і беды. Федзька, папраўляючы шлейкі, якія спаўзалі з плячэй, быў не супраць пагуляць у што-небудзь. Інга настойвала злазіць на вяз.

— Яго пытай, — адказваў бялявы пульхны брат.

— Ну не сёння ж! — аднекваўся я.

— А калі?

— Сёння цябе ўжо на кані каталі.

— Што табе, цяжка? — дакараў брат, ведаючы, што самога яго ўздымаць на дрэва бацька з маці забаранялі.

— Хай ёй цётка дазволіць. А як сарвецца, я адказваць буду?

Брат соп, і па ўсім адчувалася, што быў на баку прыезджай. На яе баку, атрымлівалася, усе былі, адзін я толькі пярэчыў. Наогул, з кім бы Інга ні пазнаёмілася, усе чамусьці ёй пачыналі спагадаць. Выключэннем аказваўся я... Адзін.

Косціха выйшла з хаты:

— Ты, Ягор, потым прывядзеш яе.

Інга ж не адклікалася, чакаючы, пакуль худая, высокая цётка адыдзе за вароты, лапочучы спадніцай.

— Паслухайся яе, — паўтараў сваё Федзька.

— Ты паглядзі лепш, у чым яна! У такой пухнатай кофце залазіць на дрэва? Туды ж басанож лазяць.

— Вазьмі, — енчыў брат.

— Ну а навошта? На-во-шта?

— Хай паглядзіць.

— У вас да таго хораша, што хочацца ўсё адразу ўбачыць, — распеўна прамовіла Інга, міжволі ліслівячы.

З вяза наўкола і сапраўды бачылася далёка. І калі б дзень працягваўся заўсёды, я ніколі б з дрэва і не злазіў. Жытло б на ім збудаваў.

Інга знарочыста зняла любімую кофту, надзетую ў цёплы дзень, і падала Федзьку. Следам і разулася. Мне нічога не заставалася, як дапамагчы ёй учапіцца за ніжні сук і дапамагаць узбірацца вышэй, падказваючы, дзе зручней паставіць нагу і ўхапіцца за ствол. Галіны раслі амаль паралельна зямлі, на іх я звычайна падцягваўся ці, учапіўшыся нагамі, як малпа, пакалыхваўся ўніз галавой.

Зверху я працягнуў Інзе руку, дапамагаючы такім чынам узбірацца па ствале вышэй, спадзеючыся, што яна спалохаецца вышыні і папросіцца назад на зямлю. Высока залазіць я не спяшаўся, да таго ж ствол дрэва пастунова танчэў, і ўжо адчувалася, як ён пад ветрам хістаецца з боку ў бок.

Інга і не думала ўніз прасіцца. Яна, відаць, і не здагадвалася, што лезці вышэй рабілася ўсё небяспечней. У прагале між сукоў я ўбачыў Федзьку з задранай уверх галавой, які глядзеў на нас, напэўна, не без шкадавання. Інзе я параіў уніз не глядзець, каб галава не кружылася.

— Добра як! — з захапленнем прамовіла яна і спыталася пра дарогу за возерам, якая звалася Старой Кутузаўкай. Я сказаў, што па ёй даўней быццам бы наступаў Кутузаў, а на азёрным паўвостраве ёсць нават французскія пахаванні, іржавыя рэшткі шабель і іншай зброі. Цяпер яно нікому не патрэбна, цяпер зброя валялася іншая дзе хочаш і колькі заўгодна. Цяпер, як заўважыў, яе часцей падбіралі і прыхоўвалі.

— А што там, Ягор, за дом за возерам?

— Гэта не дом. Гэта хутарскія хлявы, па-тутэйшаму — клуні.

— І жывуць у іх?

— У хлявах? Каму ў іх жыць. Лён ды сена захоўваюць...

— А чаму не жывуць?

— У калгасы перасялілі, а ўсіх кулакоў павысылалі.

— Сходзім як-небудзь, добра?

— Не ведаю.

Шчыра сказаць, для мяне хлявы былі немалой загадкай. Назіраючы за імі з верхавіны вяза, я прыкмячаў неаднойчы не толькі вакол іх пустэльнасць, але і нейкіх людзей, што хаваліся там... Іх было няшмат: двое-трое. Яны з’яўляліся часцей пад вечар, у той момант, калі садзілася за далягляд сонца і бок за возерам зацяняўся, у той час як вёска, наадварот, асвятлялася прамянямі заходзячага сонца.

У такі час у хутарскіх хлявах павольным струменьчыкам цягнуўся да неба дымок. Несумненна, у закінутых месцах хтосьці распальваў касцёрчык. Ці духі гэта былі, д’яблы, нячысцікі ці нечыя цені — я ні ў кога не асмельваўся пытаць, будучы ўпэўнены, што калі-небудзь сам разгадаю таямніцу старых хлявоў.

На вязе я стараўся не варушыцца, каб ад хлявоў за возерам мяне не заўважылі ў прамянях, што коса прасочваліся.

Добра бачылася і выразна паўставала вёска толькі перад заходам сонца. Калі ж яно садзілася цалкам, дарога з хлявамі апускалася ў цемрадзь, што, па ўсім відаць, невядомыя і ўлічвалі. І ў гэту пару яны якраз і распальвалі касцёрчык. Ранні месяц над вёскай толькі аблягчаў ім назіранне за хатамі за возерам, калі б хтосьці вырашыў да іх пераплысці. Аб многім сведчыў і брэх сабак па дварах, які то заціхаў, то ўзмацняўся.

Калі чужыя асцярожнічалі, не рызыкавалі паказвацца ў вёсцы, значыць, ім было так выгадна...

Перад заходам сонца я не толькі не варушыўся на вязе, а і дыхаць баяўся, пераканаць, што толькі адзін з усёй вёскі і ведаю таямніцу. Зрэшты, верагодна, яно так і было. Людзі за возерам, здавалася, маглі ў мяне стрэліць, калі б выявілі. Каму ведаць, навошта я назіраю за імі? Прывідныя іх постаці, якія асцярожна рухаюцца, я прымаў часцей за нямецкіх шпіёнаў... Скажы пра гэта прыезджай — чаго добрага, палічыць баязліўцам. Коратка згадаўшы пра хлявы, я ўпотай спадзяваўся, што Інга пра іх забудзецца. Абхапіўшы ручкамі ствол, яна вывучальна аглядала наваколле. Прагіналася, зыбалася жыта, што ўжо каласілася, сенажаці, лугі, у большасці сваёй някошаныя, наліваліся густой сакавітай травой, а на нябачнай у лясных зарасніках

станцыі ўзляталі колцы паравознага дыму, з-за чаго здавалася, што на даляглядзе паляць вялікую люльку. На самой жа справе пыхкалі паравозы, на той самай станцыі, дзе дзядзька Косцік сустракаў нядаўна пляменніцу, якая прыехала на канікулы. Можа, і ўспомнілася Інзе станцыя пад старымі ліпамі па адным і другім баку платформы, з цаглянай вадакачкай і грачынымі гнёздамі на дрэвах.

— А ў іх хтосьці ёсць...

— Дзе?

— У хлявах.

— Здалося табе.

— Не, Ягор, хтосьці выходзіў і схаваўся назад.

— Няма каму там быць.

— Сплавай і паглядзі.

— Добра, — пагадзіўся я і, колькі пасля ні ўзіраўся, нікога за возерам не ўбачыў. Вачаняты Інгі, падобна, былі вастрэйшымі.

— Ну, наглядзелася? Пара спускацца, але паволі.

Інга заварушылася, намацваючы голай ступнёй ніжні сучок. Я палез першым, каб падстрахаваць. Сучкі да адзінага я ведаў і выбіраў сам, Інзе заставалася толькі падпарадкоўвацца маёй камандзе.

Я першым саскочыў на зямлю і падхапіў Інгу. Вышыня, што ні кажы, была ёй у навіну, і тварык збялеў.

Федзька з кофтачкай на руцэ цярпліва чакаў нас. На развітанне Інга падзякавала яму і нават цмокнула ў шчаку, як малога.

— Табе, Ягор, таксама дзякуй, — сказала яна, паспешліва ўцякаючы праз выган да сябе.

## Частка другая

### ГІБЕЛЬ СТАРЭЙШАГА БРАТА. ХАТА БАБКІ ВОЙЦІХІ. ВЫРАТАВАННЕ ІНГІ

Акрамя Федзькі ў мяне быў і старэйшы брат, якога я, як вайна пачалася, амаль не бачыў. Ён ніколі не сядзеў дома, носячыся дзень і ноч па навакольных дарогах, загружаных і забітых адступаючымі. Калі ж патокі іх схлынулі, Васіль, так звалі старэйшага брата, захапіўся збіраннем раскіданай ваеннай зброі і маёмасці.

Захапленням брата і наогул старэйшым хлапчукам я, прызнацца, зайздросціў. То яны трыбушылі нейкія скрыні, то штосьці закопвалі на будучыню, то перахоўвалі вінтоўкі і аўтаматы, і ніводнай задумы сярод падлеткаў без двухжыльнага шаснаццацігадовага брата не абыходзілася.

З сабраных ім трафеяў сёе-тое перапала і мне: гадзіннік з цыферблатам, які свеціцца, лямпачкі ад знятай у машыне радыёстанцыі, сагнуты штык, лапатка і нават бахілы, балотныя непрамакальныя боты з матузамі.

Федзьку старэйшы брат падарыў светлую металічную скрынку з яркім чырвоным крыжом на вечку. Скрынка аказалася ваеннай аптэчкай. Федзька прывязаў да яе аборку і, не расстаючыся, валачыў, цягаў па двары.

Бяда здарылася раней за з’яўленне немцаў. Пазней я зразумеў, што кожнае здарэнне ў вайну абарочваецца ўдзесяцяроным болем, яно як бы прымяраецца на цябе, але гэтаму і зусім мяжы не было.

У сярэдзіне дня я раптам убачыў, як бацька сумятліва пабег запрагаць Віцязя ў пакінутыя на агульным калгасным двары калёсы. Ён з тарахценнем пагнаў каня за

вёску. Маці чамусьці заплакала, адразу ўнурылася і параіла нам пайсці пагуляць у вёску. Усё выглядала нязвыкла і дзіўна. Нас з Федзькам чамусьці вырашылі трымаць ад хаты далей. Толькі з-за нейкай вялікай бяды магла маці галасіць, не заўважаючы нас з Федзькам. Сварыцца бацькі не збіраліся, але ў той дзень ім чамусьці было не да нас з Федзькам.

Я марудзіў сыходзіць, усё чакаючы, калі маці супакоіцца, белы свет, здавалася, пацьмянеў для яе. Былі мы ў некаторай ступені да бед гатовыя, але ніколі не падумалі б, што нам яны выпадуць першым, накрыюць, быццам тое дрэва, што паваліласся ў буру. З расказаў падлеткаў і дарослых я пасля даведаўся, як усё здарылася.

У пакінутым танку, які вядома б пагналі, было б у танкістаў гаручае, Васіль выявіў снарады. Танк, на здзіўленне, стаяў спраўным, залі гаручае і падавайся на ім куды жадаеш.

Танкісты спадзяваліся ў хуткім часе вярнуцца, уяўляючы вайну нядоўгай, калі не кароткай. Прыдатны, спраўны танк спадабаўся падлеткам. Наладжаную тэхніку яны да таго часу навучыліся адрозніваць. Пааблазіўшы і паабмацваўшы, хлапчукі неўзабаве пераканаліся ў поўнай яго баявой гатоўнасці.

Здавалася дзіўным пакідаць танк некранутым, не паспрабаваць стрэльнуць з гарматы і кулямёта.

Усярэдзіне ў дастатку валяліся снарады і патроны, як бы знарок пакінутыя для хлапцоў. Стрэлу з гарматы не атрымалася, ці то адсырэлі снарады, ці то рабілася штосьці не так, і на ўсякі выпадак вырашана было праверыць порах.

У чыю ўзбаламучаную галаву прыйшла думка разраджаць снарады, потым і не памяталі. Іх вынеслі, паклалі на зямлю, і Васіль папрасіў сябрукоў неадкладна схавацца ў танку. Сам ён, паволі пастукваючы, адлучаў галоўку ад гільзы. Да снарада ён спачатку прыглядаўся, як падступіцца лепш, а можа, і вагаўся. Але з танка паглядалі сябрукі, і пасаваць брату было нельга. Сябрукам бы адгаварыць, маўляў, не трэба, ніхто і страляць з гарматы не ўмее, але ўсе, як змовячыся, маўчалі, не падаючы перасцерагальных галасоў. Было цікаўна, ці ў пораху справа, ці ў чымсьці яшчэ, што не ўлічана.

Менавіта маўчанне і распаліла рашучасць брата. У вачах сяброў зваротнага ходу не было.

Ірванула аглушальным рэхам і пранеслася, пракацілася над узгоркамі і касагорамі... Некаторы час падлеткі сядзелі ў танку, чакаючы выбуху паўторнага, потым адзін за адным павылазілі, удыхаючы парахавы гар са смуродам...

Брат ляжаў на возе. Да знявечанага, скрываўленага Васіля паспяшалася бабка Войціха, наша сваячка.

Худзенькая і невысокая, у шарсцяных шкарпэтках з авечай воўны, у галёшах і фланелевым мяккім халаціку, бабка Войціха адразу распарадзілася, каб мы пайшлі з хаты.

— Вось табе, Ягорка, ключ, — сказала яна, — ідзіце начаваць да мяне. Я вас і пакармлю, калі вярнуся.

Я ўзяў за руку Федзьку і павёў па вуліцы з выгляду ціхай летняй вёскі.

Ніхто не ведаў зараз, што прынясе новы дзень, але ў тым, што здарыцца неспадзяванае, ніхто не сумняваўся.

Войцішына хата з краю вуліцы, пафарбаваная ў жоўты колер. У ёй мы з братам і правялі тры дні, пакуль Васіля хавалі. Для нас жа з Федзькам ён назаўжды застаўся жывым.

За гэты час мы ні разу Інгу не наведалі. Але затым з ёй здарылася сур’ёзная прыгода...

Мы толькі што вярнуліся з Федзькам дахаты. У гародзе пахла агурочнікам, кропам, скошанай прывялай травой і даўкасцю нагрэтых парэчкавых кустоў, пад якімі прывольна капашыліся куры.

Пасля пахавання ў хаце стаяла вымерлая цішыня. Маці ляжала хворая, па чарзе абкладваючы галаву бурачным бацвіннем і лопухамі. Яна ледзь магла падаіць карову і давалачыся да ложка. Бацька пасівеў нават вусамі. Ён прасіў нас дапамагаць мацеры і прыглядаць за курамі, каб не заходзілі ў гарод і не раскопвалі градак. Сам жа спяшаўся да сенакосных угоддзяў у старым лесе, які называлі Снегірыным...

Я і Федзька, калі вярнуліся, сядзелі за сталом ля кухоннага акна. Федзька паглядаў на возера, у якім хацеў бы выкупацца. Раптам ён схамянуўся і прыпаў да акна, штосьці яму ўбачылася важнае, кемны брат марна не схамянуўся б. У галінах яблынь пад вокнамі раптам зашумеў вецер, гарачы спачатку дзень пад вечар нахмурыўся, стаў раззлаваным.

— Ягор, яны ж утопяцца!

— Ты пра што?

— А паглядзі. Паглядзі! Ты чаго сядзіш?

Я не адразу зразумеў Федзькаву ўзрушанасць, пакуль не ўбачыў на возеры лодку з дзятвой. Як здараецца перад навальніцай, надвор’е рэзка змянілася, пахмурнела, азвярэла зашамацелі яблыні, паляцела лістота, а ўздоўж раўчука закруціліся кусты маладой ляшчыны. Вяз пад вокнамі глуха пачаў абурацца, нібы сярдуючы на патрывожаны свой супакой. Пад страху паспешліва пабеглі куры за пеўнем следам.

А над далёкімі, намі не выхаджанымі ў гэтае лета лясамі з уладнай рашучасцю загрымеў гром. Неба рэзка пацямнела, абяцаючы лівень. Па возеры, бачным з акна, пранеслася хуткая рабізна, зацягнуўшы дрыжыкамі ваду. І добра бачылася, як вецер пагнаў ад берага лодку-даўбёнку з трыма разгубленымі дзяўчынкамі ў ёй.

Даўбёнка лічылася нічыйнай і звычайна ставілася ў вусце раўчука сярод спічастых сцяблоў аеру. Ёю карысталіся толькі ў выключных выпадках, калі хтосьці вычэрпваў бесперапынна ваду. Таму на дне лодкі ўвесь час ляжаў слоік.

Лодку папросту лічылі падручнай і плавалі на процілеглы бераг, калі нічога іншага пад руку не траплялася. Астатнія лодкі на возеры абавязкова замыкаліся. Пасля бамбёжкі ў яры вада ў раўчуку, які цёк у возера, паднялася да таго, што дзяўчынкі змаглі сапхнуць лодку ў ваду.

Яны ліхаманкава спрабавалі грэбці палкамі да берага, але сілы былі не тыя, і дзяўчынкі прымяраліся ўжо скакаць, разлічваючы на мелкаводдзе. Але яго акурат у тым месцы не было.

Па кофце я вызначыў сярод іх Інгу.

Схапіўшы пад павеццю вясло, я рвануў што было сілы да возера, з пагорка крычучы, каб заставаліся ў лодцы і не спрабавалі апускаць ногі ў ваду. Даўбёнка магла ў любую хвіліну перавярнуцца. Вяслом я для пераканаўчасці размахваў над галавой.

Наша пласкадонка была прымкнута да дубовай калоды. Я ліхаманкава адкрыў замок, пхнуў з высілкам лодку і з усёй сілы пачаў грэбці.

— Не тузайцеся! — папярэджваў я, падвяслоўваючы да даўбёнкі і чапляючы яе ланцугом, як на буксір. — Ну і дурніцы ж! Ну, дурніцы!

Самая маленькая, трымаючыся за падгнілы борт, піскліва захныкала. Яна, як і астатнія, спадзявалася, што я пачну перасаджваць іх да сябе ў лодку. Але я ведаў, што на стромка ўскіпаючай перад навальніцай хвалі рабіць гэта рызыкоўна.

Грэбці і па адкрытым плёсе супраць ветру — губляць толькі час. Куды лепш праплысці па хвалях, прыстаць да берага наўскасяк і потым пачаць высаджвацца. Мысок, на які я гроб, славіўся купальняй. Сцежкай ад яго зручна дабегчы да хат, а за лодкамі можна і пасля прыйсці. Чапаць іх у навальніцу няма каму...

Вады аказалася ў лодцы шмат, і я прапанаваў дзяўчынкам яе паволі вычэрпваць. Усе тры, нібы спаборнічаючы, узяліся за працу, замільгалі ў руках шкляныя слоікі. Але адкуль узяліся ў іх шкляныя слоікі? Ці не загадзя запасліся імі дзяўчынкі? З кожнай хвілінай мы набліжаліся да беражка травяністага невысокага ўзгорка з альховымі хмызнякамі.

Вясло неўзабаве кранула пясчанага дна, і я адразу саскочыў і павёў абедзве лодкі да берага. Дзяўчынкі сыпанулі з іх куранятамі. Гром між тым нарастаў, і возера ад узмоцненага ветру на ўсю моц шалела. Вакол нас усё качалася, хілілася…

Адзін бы я паступіў проста: перачакаў бы навальніцу пад перавернутай пласкадонкай, але ўчацвярых пад ёй не змясціцца. Пакуль не пайшоў лівень, трэба было хутчэй бегчы. Я і вясла не стаў хаваць: хто і навошта папляцецца сюды ў непагадзь?

Мільгаючы пяткамі, мы пабеглі да хат. На вуліцы дзяўчынкі павярнулі да сябе, і лівень ім быў ужо не страшны. Мы з Інгай паспяшаліся да хаты дзядзькі Косціка як да бліжэйшай. Патрапіць Інзе пад дождж значыла б захварэць. Мне дык што, як вымачыць, так і высушыць, не ўпершыню.

Некалькі буйных кропель шаснулі па нашых галовах і тварах. Але мы ўжо былі каля кветніка, паспелі ўхапіцца за дзвярную клямку. І вось тады, нібы адразаючы зваротны шлях, паліў густы лівень, прыбіваючы дарожны пыл і хвошчучы па вокнах. Неба, што насуплена бурчала, пакрылася навальнічнымі прасвіркамі.

У хаце зрабілася змрочна. Цётка Косціха і Косцік былі не ў сабе ад адсутнасці Інгі. Яны не паверылі, калі мы паўсталі, узрадаваныя, на парозе. Пра лодку я прамаўчаў.

— Ой, цёця! Ой, цёця! — залівалася і лапатала Інга. — Як добра, што мы паспелі!

Косціха з дакорам глядзела на нас, радасных і вясёлых. Абхапіўшы рукамі худыя плечы, яна, падобна, не знаходзіла месца, што адпусціла Інгу адну. Косцісе таксама хацелася ўсміхнуцца і ўзрадавацца нашаму з'яўленню, але яна вытрымлівала напускную строгасць.

Дзядзька Косцік, у супрацьлегласць жонцы, тут жа заняўся справай.

Ён прысунуў зэдлік да нацягнутай сеткі, якая краем звісала на падлогу, і латаў драўлянай іголкай буйныя дзіркі. На падаконніку ляжалі прыгатаваныя ніткі, берасцяныя паплаўкі і гаечныя грузілы.

— Ох, трэба б цябе высекчы, ды дубцоў пад рукой няма, — сказала пляменніцы адыходлівая цётка Косціха. — На кані, мабыць, раз'язджалі? Шукала, ды штосьці нідзе вашага Віцязя не ўбачыла.

— А ён зараз у іншым месцы, — растлумачыла Інга.

— Што ж гэта за месца?

— З аднаго боку поле з жытам, а з другога — кусты лазовыя. Віцязя не відаць ніадкуль, — растлумачвала яна як мага падрабязней.

— Галава ў цябе сухая? — спытала цётка Інгу і правяла па валасах вузлаватай закарэлай рукой. — Ды быццам сухая. Есці будзеце?

— Абавязкова будзем, цёця, — адказала Інга, жадаючы, каб я абавязкова паеў у Косцікаў.

— Што дзяцей пытаць? Даставай лепш з печы сваю «бабку», — сказаў, пазіраючы скрозь акуляры, дзядзька Косцік. — І я заадно паем.

Косціха загрымела засланкай. «Бабкай» звалася цёртая маладая бульба, якая тамілася звычайна ў печцы ў чыгуне. Смачнейшай ежы нельга прыдумаць. Рыхтавалася «бабка» з кавалачкамі старога сала, накшталт скварак, з цыбуляй, смятанай ці каровіным маслам, тушылі «бабку» з бураком і свежай морквай. У каго як

# Уладзімір МАЗГО: «У ШКОЛЕ Ў МЯНЕ БЫЛА МЯНУШКА ПАЭТ»



**Я**к нараджаюцца вершы? Якімі павінны быць першыя крокі ў літаратуры? І ўвогуле, што гэта за прафесія такая — паэт? Калі мяне зацікавілі такія і падобныя пытанні, то я вырашыла шукаць сабе суразмоўцу сярод прафесійных літаратараў. І да каго ж, як не да **Уладзіміра МАЗГО,** лаўрэата многіх прэстыжных прэмій, аўтара многіх кніг, у такім разе звярнуцца, параілі мне дасведчаныя і абазнаныя ў сучаснай беларускай літаратуры чытачы. Так я і зрабіла. Таму наш сённяшні суразмоўца — супрацоўнік часопіса «Вясёлка», лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, ганаровы грамадзянін Зэльвенскага раёна, паэт Уладзімір Мазго.

**— Уладзімір Мінавіч, з якога ўзросту вы пачалі займацца літаратурнай творчасцю? Ці памятаеце свой першы верш?**

— Вучыўся я тады ў шостым класе сярэдняй школы ў Зэльве, на Гродзеншчыне. Пасля летніх вакацый настаўніца дала заданне напісаць сачыненне пра восень. Нешта нічога, як мне падавалася, вартага ў галаву не лезла. І толькі напрыканцы ўрока напісаў некалькі вершаваных радкоў. Іх і здаў замест сачынення. Настаўніца здзівілася і запыталася: «Ці сам напісаў?» Я адказаў, што так, сам. Пасля паэтычных знаходак доўга не было. І толькі ў восьмым класе я напісаў новы верш. Ізноў на восеньскую тэму, так і назваў той твор — «Дары восені». Верш надрукавалі ў зэльвенскай раённай газеце «Праца». Першая публікацыя, увага сур’ёзнай газеты мяне акрыліла. Пачаў пісаць у газету «Піянер Беларусі», цяперашняя «Раніца». Таксама было цікава ўдзельнічаць у розных конкурсах, якія праводзіла рэдакцыя гэтай газеты сярод сваіх чытачоў. У такім вось літаратурным развіцці на самым пачатку мне вельмі дапамагала чытанне. З бібліятэкі літаральна не вылазіў. І ў дзесятым класе ўжо друкаваўся ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», у часопісе «Маладосць». А да трэцяга курса філфака сабралася першая паэтычная кніга.

**— А хто даваў вам свае парады? Ці помніце самую карысную з іх?**

— Дзякую лёсу, што на жыццёвым шляху сустракаліся добрыя людзі. Быў у мяне такі дарадчык — настаўнік беларускай мовы і літаратуры Аляксандр Міхайлавіч Голуб. Калі даведаўся, што я пачаў пісаць, то ён сам прыносіў кнігі, падказваў, якую літаратуру варта прачытаць. Калі я жыў у Зэльве, то меў магчымасць сустракацца з Ларысай Геніюш, выслухоўваў яе падказкі, заўвагі. А ў Мінску моцна пасябраваў з Уладзімірам Міхайлавічам Юрэвічам, які тады вёў радыёклуб «Жывое слова». Дарэчы, школьнікам я актыўна супрацоўнічаў з гэтай перадачай, слаў на радыё вершы, допісы, дзя-

ліўся ўражаннямі ад прачытаных кніг. У «Бярозку» забягаў да Міколы Чарняўскага, якога, пэўна, многія паэты майго пакалення лічаць сваім «хросным бацькам».

**— Была ж яшчэ ў вашы гады і сапраўдная універсітэцкая паэтычная школа… Многія старэйшыя паэты і зараз у сваіх бібліятэках захоўваюць зборнікі тых часоў — «Універсітэт паэтычны», «Вёсны», «Маладыя галасы»…**

— Калі паступіў у Белдзяржуніверсітэт, хадзіў на пасяджэнні літаб'яднання «Узлёт», заняткі якога праводзіў Алег Антонавіч Лойка — творца высокай паэтычнай культуры. І зараз у мяне заўжды навідавоку зборнік, дзе дзякуючы Лойку сабраліся мае сябры-паэты, дзе надрукавана і мая нізка…

**— Вы ўжо згадалі пра «Бярозку»… І калі я рыхтавалася да інтэрв'ю, перагартала старыя падшыўкі, убачыла, што сапраўды вы — адзін з самых актыўных юных паэтаў свайго часу… А ці чытаеце зараз дзіцячы часопіс? Чые публікацыі школьнікаў сённяшніх дзён вам прыйшліся даспадобы?**

— Чытаю яшчэ і таму, што сам працую ў дзіцячым часопісе, няхай сабе і разлічаным на іншы ўзрост… Але ж нешта вылучаю, штосьці параўноўваю. Не буду называць імёны, каб некага не пакрыўдзіць, але заўважу наступнае. Часам сустракаюцца адкрыцці і ў творчасці зусім юных. Не трэба баяцца асвойваць новыя шляхі, не трэба прывязвацца выключна да аднойчы адкрытага, вынайдзенага. Кожны мае права на свае ўласныя адкрыцці. Заўважу і такую дэталь. Сучасным дзіцячым выданням трэба болей і часцей заахвочваць юных аўтараў добрым словам. Мяне ў свой час за супрацоўніцтва ўзнагародзілі Ганаровай граматай Цэнтральнага камітэта камсамола рэспублікі. Гэтая падзея проста акрыліла, настроіла на патрэбу ў новых здабытках і здзяйсненнях.

**— А ўвогуле, марылі ў маленстве стаць пісьменнікам? І што б параілі сённяшнім юным паэтам, якія думаюць пра прафесійныя заняткі літаратурай?**

— У маленстве хацеў стаць мараком. Але прыблізна ў дзесятым класе пачаў думаць, куды ўсё ж варта паступаць. І выбраў філалагічны факультэт. Выбар гэты болей быў звязаны не з настаўніцтвам, а з разуменнем, што паэту патрэбна дасканалае валоданне мовай. У школе ў мяне была мянушка Паэт… Але і тыя, хто яе прыклеіў, і старэйшыя, хто нераўнадушна ставіліся да майго лёсу, думалі, што вось папіша крыху. Задаволіцца, ды кіне. Маўляў, гульні і жартачкі ў пісьменніка, паэта пройдуць. А пасля і ўсе, хто сумняваўся, разгледзелі сур'ёзнасць маіх намераў. І ўжо гаварылі пра мяне як пра паэта без жартаў і кпінаў. І я зразумеў, што трэба расці, падцягвацца згодна свайму статусу, няхай сабе і пайшоў ён ад звычайнай мянушкі. Пасля, як выйшла першая кніга — «Пад спеў крыніц», адчуў яшчэ большую адказнасць. Вось гэтага і хацелася б пажадаць юным, калі яны сур'ёзна вырашылі заняцца літаратурай, — адказнасці за свой выбар.

**— Уладзімір Мінавіч, і ўсё ж такі, чаму вы аддаяце большую перавагу менавіта дзіцячай літаратуры? Хто ўважліва слухае радыё, бывае на канцэртах беларускіх выканаўцаў, ведае вас і як аўтара многіх песень…**

— Сапраўды, пішу ж я не толькі для дзяцей. Выдаў і некалькі кніг, скажам так, «дарослых» вершаў. Але паэзія, адрасаваная дзецям, усё болей і болей бярэ ў палон. Быў час і захаплення песняй. Спярша пазваніў кампазітар Сяргей Герута. І сказаў, што напісаў некалькі песень на мае вершы. А пасля ўжо стаў пісаць і пад гатовую музыку — так званую «рыбу». Песні на мае словы выконвалі Анатоль Ярмоленка, Іна Афанасьева, іншыя знакамітыя выканаўцы. Дарэчы, часта даводзілася чуць, што вельмі падабаецца многім слухачам песня «Варажба» ў выкананні Іны Афанасьевай. І я, прабачце за нясціпласць, душу ўклаў у гэты твор. Пісалі музыку на мае вершы Леанід Захлеўны, Эдуард Ханок, Алег Елісеенкаў — думаю, што ўсе асобы ў беларускай эстрадзе вядомыя. Калі весці

падлік, то песеннай творчасці аддаў недзе каля дзесяці гадоў. Цяпер гэты этап застаўся недзе далёка ў мінулым. Творчасць для дзяцей. Вось што зараз непакоіць, трывожыць, вабіць да пісьмовага стала.

**— З вашых кніг можна скласці цэлую паліцу. А якая з выдадзеных кніг самая для вас дарагая?**

— Кнігі падобныя дзецям. Яшчэ не нарадзілася, а ўжо дарагое, блізкае, сваё, роднае. Стымулюе, канечне ж, жаданне бачыць кожную новую кнігу лепшай за папярэднія. Вось зараз, так лічу сёння, з лепшых — гэта зборнік «Цуда-вуда».

**— Вы часта бываеце ў школах на сустрэчах з чытачамі. Ніколі не ўяўлялі сябе ў ролі настаўніка? Які прадмет гатовы былі б выкладаць?**

— Мне вельмі падабаюцца паходы ў школы, гімназіі, ліцэі, дзіцячыя садкі. Калі б лёс распарадзіўся так, што трэба было б выбіраць настаўніцтва, то, канечне ж, выкладаў бы літаратуру. Спасціжэнне таямніц мовы і літаратуры — працэс бясконцы. Чым болей займаешся, тым, здаецца, дарога даўжэйшая і проста бязмежная.

**— У школьнікаў сярэдніх і нават малодшых класаў папулярнасцю карыстаюцца раманы для дзяўчынак і раманы для хлопчыкаў. Ніколі не ўзнікала жадання напісаць такую кнігу?**

— Па-першае, пісаць прозу не спрабаваў… Па-другое, мяне задавальняе паэтычная прастора, у межах якой магу, здаецца, выкласці ўсё, што заўгодна…

**— Уладзімір Мінавіч, скажыце, калі ласка, а якой будзе кніга, над якой яшчэ толькі пачынаеце працаваць?**

— Здараецца так, што магу не пісаць месяц-два, словам, не прымушаю сябе. А кніга нараджаецца стыхійна, калі прыйдзе нейкая думка, калі за адным вершам пойдзе цэлы цыкл. Бывае, што магу за вечар напісаць некалькі вершаў. Паэзія — гэта яшчэ і пэўная лёгкасць, настраёвасць… А галоўнае, паэзія — гэта тыя празрыстыя, нябачныя, адухоўленыя і разам з тым вельмі трывалыя крылы, якія дапамагаюць вытрымліваць націск побыту, цяжкасці і складанасці жыцця.

*Гутарыла Дар’я ШОЦІК.*

Ягор ВІТЧАНКА

# ВАЛОЖЫНСКІЯ МЫ...

## ЧАМУ ІМЯ ТВАЁ ТАКОЕ, РОДНАЯ ВЁСКА?

Адсюль, з гэтай зямлі, — кранальна-чыстыя, светлыя радкі, што нарадзіліся яшчэ ў 1910 годзе, а калі быць дакладным, то 25 верасня 1910-га, бо пад вершам «Люблю» пазначана дата. Яны міжволі прыгадаліся, калі пачалася наша гаворка з начальнікам аддзела культуры Валожынскага раёна Вікенціем Адамовічам. Усплылі ў памяці радкі з гэтага твора, калі Вікенцій Мікалаевіч пачаў згадваць знакамітых людзей, якія ў розны час нарадзіліся ў тамашніх мясцінах. Хіба ж мог ён не назваць Канстанцыю Буйло, чыю першую кнігу «Курганная кветка», што выйшла ў 1914 годзе, адрэдагаваў Янка Купала? Буйло хоць і родам з Вільні, але ў 1906—1913 гадах жыла ў Вішневе. Памерла ў Маскве ў 1986 годзе, дзе і была пахавана, але праз тры гады урну з яе прахам перазахавалі ў Вішневе. На магіле паставілі помнік. Мясцовая сярэдняя школа носіць імя гэтай слаўнай зямлячкі з купалаўскага асяродка. Вішнева — і радзіма Уладзіславы Луцэвіч, жонкі Янкі Купалы. У гэтай жа вёсцы ў 1963—1991 гадах жыў паэт, перакладчык Пятро Бітэль.

Я ўжо сабраўся працытаваць колькі радкоў з верша Буйло «Люблю», але Адамовіч апярэдзіў мяне.

— Вы толькі ўслухайцеся, як цудоўна гучыць! — і Вікенцій Мікалаевіч пачаў з натхненнем:

Люблю наш край — старонку гэту,
  Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз спазнала шчасце,
  Слязу нядолі праліла.
Люблю народ наш беларускі,
  Хаціны ў зелені садоў,
Залочаныя збожжам нівы,
  Шум нашых гаяў і лясоў.



*Вікенцій Адамовіч.*

Рэдка каму ўдаецца так пранікнёна выказаць любоў да роднай зямлі. Але відавочным для мяне, калі слухаў Адамовіча, стала і іншае: з такім імпэтам, захапленнем, як гэта рабілася, хрэстаматыйны верш К. Буйло «Люблю» мог чытаць толькі чалавек, які...

Вікенцій Мікалаевіч угадаў мае думкі:

— Я і сам валожынскі.

— У Валожыне нарадзіліся? — вырвалася ў мяне.

— У вёсцы Нямоні...

— Як вы сказалі? — перапытаў я. Усё ж назва падалася мне дзіўнай. Ва ўсякім разе, з такой дагэтуль сустракацца не даводзілася, хоць аб'ездзіў нашу краіну, можна сказаць, уздоўж і ўпоперак.

— Нямоні, — паўтарыў Адамовіч і дадаў: — Сапраўды, назва крыху дзіўная. Стараўся даведацца аб яе паходжанні. На жаль, нават у «Кратком топонимическом словаре» Вадзіма Жучкевіча яна не згадваецца. Магчыма, — выказаў меркаванне Вікенцій Мікалаевіч, — вытокі гэтай назвы трэба шукаць у тым, што поруч рака Заходняя Бярэзіна, а яна ўпадае ў Нёман. Тым самым і адбылася трансфармацыя апошняга слова. А магчыма, — працягваў ён, — калісь жыў тут нейкі нямко, які чымсьці людзям запомніўся. — Ён задумаўся: — Хоць, бадай, назоў Нямоні — літоўскага паходжання.

— Адкуль вы гэта ўзялі? — і мне ўжо стала цікава, як з'явілася ў валожынскай вёскі такое імя.

— Знаходзячыся ў 2008 годзе ў Астраўцы, дзе праходзіла свята «Песні памежжа», — патлумачыў Вікенцій Мікалаевіч, — я пазнаёміўся з жанчынамі-літоўкамі. Правільней, — удакладніў ён, — з беларускімі літоўкамі, бо яны даўно жывуць на Беларусі і лічаць яе ўжо сваёй радзімай. Я і запытаўся ў іх, што яны наконт гэтага думаюць. На жаль, нічога пэўнага яны не адказалі, але правялі аналогію. Для прыкладу, ёсць у нас вёска Гіры, а па-літоўску гэтае найменне азначае непраходны лес ці глухую мясцовасць. Солы — востраў. То атрымліваецца, што хутчэй за ўсё літоўскія карані неабходна шукаць і ў паходжанні маёй роднай вёскі. Хочацца спадзявацца, што цягам часу мне гэта ўдасца ўстанавіць.

Я таксама веру, што так і будзе. І таму, што калі бліжэй пазнаёміўся з Вікенціем Мікалаевічам, упэўніўся, што ён з тых людзей, якія, за нешта ўзяўшыся, абавязкова пачатую справу даводзяць да яе лагічнага завяршэння. Спыняцца на паўдарозе не ў іхнім характары. Калі ж нейкія цяжкасці сустракаюцца, то не апускаюць рукі, а толькі становяцца яшчэ больш упэўненымі і рашучымі.

Аднак спадзеў, што ён усё ж раскрые значэнне і паходжанне тапоніма Нямоні, з'явіўся і па іншай прычыне: па прафесіі Адамовіч гісторык. Гісторыкі ж — такія людзі, якім вяртацца ў мінулае заўсёды цікава, а без яго, гэтага мінулага, у дадзеным выпадку не абысціся, бо і значэнне таго ці іншага тапоніма хаваецца дзесьці за смугой стагоддзяў.

## НА ПРЫРОДЗЕ — ЗАЎСЁДЫ Ў ЗГОДЗЕ

Гістарычная адукацыя для Вікенція Мікалаевіча — працяг дарогі да ведаў, што пачалася яшчэ ў Сакаўшчынскай сярэдняй школе.

Сакаўшчына (дарэчы, гэта радзіма выдатнага беларускага крытыка і літаратуразнаўцы Віктара Каваленкі) знаходзіцца ў нейкіх чатырох кіламетрах ад Нямоняў. Нямоні — вёска невялікая, чаго не скажаш пра Сакаўшчыну, таму ў ёй і ёсць сярэдняя школа, у якую ён хадзіў на заняткі. Вучыўся добра, таму што стараўся, а стараўся, бо разумеў, што самому давядзецца выбівацца ў людзі.

У час маёй гаворкі з ім Вікенцій Мікалаевіч неаднаразова падкрэсліваў, што ён з простай сялянскай сям'і. Тым самым даваў зразумець, што ўсяго ў жыцці дабіўся сам. Але адначасова за гэтымі словамі чулася і іншае: гонар за бацькоў, якія, звязаўшы свой лёс з зямлёй, заўсёды былі для яго і маральнымі дарадцамі, і маральнымі суддзямі. Адначасова яны і прывілі сыну любоў да зямлі, да вясковага жыцця.

У Сакаўшчыне цяпер ён і жыве, штодня дабіраецца раніцой у Валожын, а вечарам вяртаецца назад. Балазе, кіраўніцтва раёна пайшло насустрач, выдзеліла службовы транспарт. Затрымацца ж нанач у райцэнтры, калі б і хацеў, то не можа: ужо тры гады Адамовіч адзін выхоўвае сыноў. Старэйшы Алёша сёлета заканчвае школу, марыць паступіць у Беларускі дзяржаўны універсітэт. Цікавіцца камп'ютэрамі, таму і выбар будучай прафесіі адпаведны: хоча стаць праграмістам. Малодшаму Паўліку толькі дванаццаць гадоў. Любоў да сыноў хоць у нейкай ступені змяншае боль па жонцы Таццяне Францаўне, якая так заўчасна пайшла з жыцця. А яшчэ выстаяць дапамагае любімая справа. Дый тое, што пастаянна звязаны з зямлёй.

— У душы, па сваёй натуры я чалавек вясковы, — прызнаецца Вікенцій Мікалаевіч. — Люблю пакапацца ў зямлі, з задавальненнем займаюся садаводствам. Ля бацькоўскай хаты ў Нямонях сад пасадзіў. І каля дома свайго ў Сакаўшчыне, які пабудаваў сам, — таксама. Ведаеце, адкуль любоў у мяне да садаводства? — пытаецца і сам жа адказвае: — У мамінага бацькі, а ў майго

дзядулі быў цудоўны сад. Ігнась Мішковіч арандаваў у пана зямлю, а працы на ёй не цураўся, таму і быў заможным. Таму і быў раскулачаны. Свірны нашы, — уздыхае Адамовіч, — яшчэ стаялі ў тадышнім калгасе «1-ае Мая». А яшчэ дзядуля, — згадвае ён, — іграў у духавым аркестры.

### ВУЧЫЛІШЧА — ШЧАСЛІВЫ ЧАС

Мабыць, дзядулева любоў да музыкі і перадалася яму, паўплывала на тое, што з ранніх гадоў Адамовіч захапіўся музыкай. Бацька Мікалай Барысавіч і маці Францішка Ігнацьеўна не маглі нарадавацца на сына, які спачатку іграў на гармоніку, а потым і за баян узяўся. Калі ж скончыў шэсць класаў, то паступіў у Валожынскую музычную школу па класе баяна. Правучыўся ў ёй тры гады, а потым падаў дакументы ў Маладзечанскае музычнае вучылішча імя М. К. Агінскага.

Гады навучання ў гэтай навучальнай установе ён успамінае з той радасцю, з якой чалавек звычайна прыгадвае сваё першае каханне. Дый сваю будучую жонку напаткаў менавіта ў сценах вучылішча — з Таццянай Шумскай вучыўся ў адным класе. А яшчэ гады вучобы для яго — уваходзіны ў свет музыкі, спасціжэнне праз яе хараство мастацтва ўвогуле.

— Вучылішча — вельмі важны этап майго жыцця, — ажыўляецца Вікенцій Мікалаевіч, вяртаючыся ў тыя гады. — Тады адбывалася станаўленне мяне і як чалавека, і як творчай асобы, — і пачынае згадваць пра тыя чатыры гады (з 1983-га па 1987-ы), якія для яго так шмат значаць.

Першая, пра каго ён гаворыць з прыязнасцю, — Т. Пронченка. Тамара Нікіфараўна цяпер кіруе хорам ветэранаў Палаца культуры ў горадзе Маладзечна. Гэткі ж моцны ўплыў на фарміраванне яго як творчай асобы аказала і З. Русэль. Зоя Францаўна ўзначальвала фальклорны гурт, у якім ён спяваў з вялікім задавальненнем і радасцю. Да ўсяго займаўся ў танцавальным гуртку, выконваў народныя танцы, на якія тады пайшла мода.

Яна ж, мода гэтая, паўплывала і на тое, што Адамовіч і ягоныя творчыя паплечнікі ўпершыню пачалі прымаць удзел у вяселлях, уносячы ў іх сваімі выступленнямі яшчэ большую непаўторнасць. Выступалі і на заводах, прадпрыемствах. І нават у Мінску, у Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Ладзілі таксама лыжныя паходы — з творчымі вечарынкамі, канцэртамі.

Спяваў і ў мужчынскім хоры, які ўзначальвала Таццяна Сяргееўна Грэкава. Калі хор гэты стаў змешаны, таксама не застаўся ўбаку. Маладога, энергічнага Адамовіча на той час ставала і на тое, каб займацца фотасправай. Не толькі для сябе здымкі рабіў, а і з’яўляўся нештатным карэспандэнтам маладзечанскай аб’яднанай газеты. У вучылішчы яму падвал выдзелілі, дзе і размясціў сваю «фоталабараторыю».

### НЕ ТОЛЬКІ КУЛЬТУРА, БО ТАКАЯ НАТУРА

Размеркаванне атрымаў на радзіму, пачаў працаваць у Сакаўшчынскім сельскім клубе. Ды праца гэтая была нядоўгай: прызвалі ў армію. Тым самым для Вікенція Мікалаевіча на два гады скончылася музычнае жыццё. Давялося пабываць і ў Варонежы, дзе правёў паўгода ў сяржанцкай «вучэбцы», і ў Алма-Аце, і ў Ленінакане, і ў Тбілісі, і ў Руставі, і ў Баку... Пра якую музыку магла ісці гаворка! Ды яна пастаянна жыла ў ягоным сэрцы. З нецярпеннем чакаў, калі прыйдзе час звальнення ў запас і можна будзе зноў заняцца любімай справай. Адбылося гэта ў 1989 годзе.

Прыехаўшы ж дамоў, доўга не адпачываў. Вярнуўся на ранейшае месца працы, але адначасова пачаў выкладаць музыку і спевы ў Сакаўшчынскай сярэдняй школе. Тады ж узнікла і жаданне атрымаць вышэйшую адукацыю. Праўда, завочна, бо развітацца з работай не хацелася. Дый на дапамогу бацькоў асабліва разлічваць не хацелася. Выбраў гістарычны факультэт тагачаснага Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага.

Не пашкадаваў, бо па-сапраўднаму захапіўся гісторыяй Беларусі і, не ў апошнюю чаргу, мінулым роднай Валожыншчыны, а таксама мясцін, што прылягаюць да яе. Пасябраваў з дырэктарам Крэўскай сярэдняй школы Смаргонскага раёна Сяргеем Капышам і ягонай жонкай, якая працавала завучам. Дый яшчэ такое супадзенне. У абодвух жонкі Таццяны Францаўны. Хадзілі з вучнямі ў паходы.

— Было ў нас, — расказвае Вікенцій Мікалаевіч, — сваё «залатое кальцо»: Дзесятнікі — Багданава — Гальшаны — Баруны — Крэва... Два-тры дні знаходзіліся ў дарозе. Дзе на перакладных, дзе пехам, але ніхто на стому не скардзіўся. Браў з сабой вучняў старэйшай групы, у асноўным дзесяцікласнікаў.

Не заўважыў Адамовіч, як праляцела 15 гадоў. Увесь час у працы. Апроч работы ў клубе выкладаў у мясцовай сярэдняй школе розныя прадметы: гісторыю, «Чалавек і грамадства», псіхалогію... Нават займаўся з групай падоўжанага дня. Зразумела, не на шкоду культурна-асветніцкай рабоце. Больш за тое, так добра зарэкамендаваў сябе, што пачалі запрашаць у якасці вядучага на раённыя мерапрыемствы. Таму, калі вызвалілася пасада начальніка аддзела культуры, яму і прапанавалі ўзначаліць гэтае падраздзяленне.



*Вікенцій Адамовіч (крайні справа) з калегамі:
Алег Бароўка (Мядзель), Аляксандр Рамановіч (Маладзечна),
Васіль Каткавец (Любань), Канстанцін Ермакоў (Беразіно),
Сяргей Паўлоўскі (Вілейка).*

## НАВУКА ГАСПАДАРАННЯ

6 студзеня гэтага года ўжо споўнілася пяць гадоў, як Адамовіч узначальвае аддзел культуры Валожынскага райвыканкама. Прызнаецца, што пачынаў з нуля. Не ў тым сэнсе, што да ягонага прыходу на гэтую пасаду рабілася мала. Якраз набыткі ў культурнай сферы на Валожыншчыне немалыя. Рэч у іншым: новаму начальніку аддзела неабходна было авалодваць элементамі эканомікі, кіравання. І чым хутчэй, тым лепш.

— Не баюся сказаць гэта, — усміхаецца Вікенцій Мікалаевіч, — але я не ведаў нават, для прыкладу, што такое дэбет, крэдыт.

— А цяпер?

— Канечне, многаму ўжо навучыўся. Але не палічыце гэта пафасным: я вучыўся, вучуся і буду вучыцца.

Шмат дапамаглі яму ў авалоданні навукай гаспадарання ў самым шырокім сэнсе слова галоўны спецыяліст аддзела культуры Валянціна Бацян, эканаміст Ірына Цімаховіч, намеснік галоўнага бухгалтара Валянціна Пракаповіч.

— У культуры, — працягвае разважаць Адамовіч, — мы бачым толькі знешняе. Гэта, так сказаць, глянцавы выгляд. Задаволены тым, што дасягнутае радуе гледача ці слухача. Але, напрыклад, тая ж культурна-гастрольная дзейнасць развіваецца па сваіх правілах, нават па сваіх законах. Не ведаць гэтую адметнасць начальніку аддзела культуры недаравальна. Як шмат і што трэба ведаць іншае. Да ўсяго пастаянна з'яўляюцца новыя нюансы, якія нельга не прымаць пад увагу. Таму працаваць у галіне культуры і лёгка, але адначасова і цяжка.

— Цяжкасці, што тычацца арганізацыйных момантаў, у розных раёнах, бадай, агульныя. А ў чым заключаецца «лёгкасць» на Валожыншчыне? — пытаюся ў Адамовіча.

— Ды ў тым, што наш край надзіва багаты на славутых людзей. На тых, хто нарадзіўся тут ці ўпісаў валожынскую старонку ў свой жыццяпіс. Значным радком пазначана яна, прынамсі, у біяграфіі пісьменніка-дзекабрыста Аляксандра Бястужава-Марлінскага.

## ШТО НІ ЗЯМЛЯК — АСОБА ЗНАКАМІТАЯ

Сапраўды, летам 1821 года Бястужаў-Марлінскі ў чыне паручніка ўдзельнічаў у манеўрах гвардыі ў Віцебскай губерні, а ў кастрычніку таго ж года прыехаў у вёску Выганічы Мінскага павета, а цяперашняга Валожынскага раёна. У сям'і памешчыка Ф. Вайдзевіча ён жыў да студзеня 1822 года. З Выганіч Аляксандр Аляксандравіч неаднаразова выязджаў у Мінск. У лістах жа, што слаў у Пецярбург, дзяліўся сваімі назіраннямі над жыццём беларускіх сялян, апісваў побыт шляхты, выгляд гарадоў. Пра Бястужава-Марлінскага валожынцы не забыліся. На пачатку вёскі, злева ад гасцінца Ракаў — Пярэжары ў 1987 годзе ўстаноўлены мемарыяльны знак у гонар пісьменніка-дзекабрыста. Гэта высокая стэла, на якой размешчаны ягоны партрэт.

Але Выганічы — радзіма яшчэ аднаго выдатнага чалавека. Тут нарадзіўся беларуска-польскі кампазітар Міхал Грушвіцкі, які пахаваны на каталіцкіх могілках у Ракаве. На жаль, лёс да яго не быў літасцівым. У пэўнай ступені гэта віна і самога Грушвіцкага. Ні сам ён не парупіўся, каб штосьці з напісанага выдаць, ні ягоныя сваякі, калі кампазітара не стала. А ён жа напісаў кантаты паводле паэмы Адама Міцкевіча «Дзяды», твораў Уладзіслава Сыракомлі. Сталася так, што не на адзін дзесятак год загубілася і ягоная магіла, якая была адшукана толькі ў 1976 годзе. Дзякуючы ўкладальніку гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць» Валожынскага раёна Язэпу Янушкевічу ў гэтым выданні знайшлося месца і Грушвіцкаму, а той, хто не быў у Ракаве, можа ўявіць сабе месца ягонага вечнага спачыну: «Помнік Грушвіцкаму ўражвае адмысловым мастацкім выкананнем, на ягонай левай грані ажурна высечаны на камені словы з верша Сыракомлі «Лірнік вясковы».

Грушвіцкі да ўсяго з'яўляўся блізкім сябрам Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, які, у сваю чаргу, звязаны з валожынскай зямлёй. З 1840 па 1884 год класік беларускай літаратуры жыў у вёсцы Люцінка, дзе ў 1986 годзе на месцы яго колішняй сядзібы ўстаноўлена стэла з барэльефам драматурга.

Лоская ж базавая школа нездарма насіла імя Сымона Буднага. Перыяд, калі гэты выдатны беларускі філосаф, пісьменнік, багаслоў і друкар правёў у доме вядомага магната Яна Кішкі, які жыў у Лоску, найбольш плённы ў ягонай творчасці. На валожынскай зямлі Будны надрукаваў пераклад Новага Запавету, напісаўшы «Эпіграму на герб Яна Кішкі» і «Прамову да Чытача». Выхад гэтай кнігі паспрыяў таму, што імя Буднага стала вядомым у Англіі, Францыі, Германіі. У Лоску пабачылі свет і такія яго кнігі, як «Аб дзвюх прыродах Хрыста», «Кароткі доказ таго, што Хрыстос не з'яўляецца такім жа Богам, як Бог-Айцец». Жніўнем 1576 года пазначаны найважнейшы ягоны тэалагічны трактат «Аб асноўных артыкулах хрысціянскай веры», таксама надрукаваны ў Лоску. Дый жыццёвы шлях Буднага завяршыўся не дзе-небудзь, а менавіта ў Лоску, дзе ён памёр 13 студзеня 1593 года ў доме шляхціца-пратэстанта Лявона Моклака.

Памяць Буднага ўвекавечана і ў мемарыяльнай дошцы, устаноўленай на будынку цяпер ужо былой школы яшчэ ў 1983 годзе. Дошка нагадвае аб тым, што ў XVI стагоддзі ў Лоску працавала друкарня.

Яшчэ адзін прыцягальны адрас — вёска Багданава. Некалі паблізу ад яе знаходзіўся маёнтак Багданаў, у якім нарадзіўся жывапісец, графік, тэатральны дэкаратар і педагог Фердынанд Рушчыц, а пазней ён жыў тут доўгі час. Ад колішняга маёнтка засталіся толькі старыя дрэвы, а яшчэ магіла Рушчыца.

У вёсцы ж Чартавічы нарадзіўся прататып славутага маёра Віхра. Гэта Аляксей Бацян. Аляксей Міхайлавіч размяняў ужо дзесяты дзесятак гадоў, бо нарадзіўся ў 1917 годзе, але знаходзіць сілы, каб наведацца на радзіму. Ці трэба казаць, як шмат жадаючых пачуць з першых вуснаў, як гэты самы «Віхр» разам з таварышамі ўратаваў у Другую сусветную вайну ад разбурэння горад Кракаў.

Дарэчы, калі вядомы беларускі кінарэжысёр Анатоль Алай здымаў пра Бацяна дакументальны фільм, Валожынскі райвыканкам не застаўся ўбаку ад гэтай важнай справы і выдаткаваў на здымкі пэўныя сродкі.

## ВЯДОМЫ ВА ЎСІМ СВЕЦЕ

Горад Валожын, як і Валожыншчыну ў цэлым, добра ведаюць ва ўсім свеце. Прынамсі, сваім гэты беларускі горад лічаць у Ізраілі, дый амерыканскія яўрэі з пашанай

прамаўляюць ягоную назву. На тое прычыны больш чым важкія.

Менавіта ў Валожыне, на той час мястэчку, у 1866—1892 гадах дзейнічала вышэйшая рэлігійная яўрэйская ўстанова — ешыва. У ёй адначасова вучылася каля 300 слухачоў з Англіі, Егіпта, Сірыі, Аўстраліі, ЗША і іншых краін. 37 выпускнікоў ешывы ў розны час і ў розных краінах з'яўляліся галоўнымі рабінамі. Таму і такая пашана да Валожына, а тамашнюю ешыву ў рэлігійным яўрэйскім асяродку інакай як «Эм а ешыва», што ў перакладзе азначае «Маці ешыва», і не называюць.

Нарэшце, не трэба забываць, што Валожыншчына ўвогуле дала жыццё многім славутым прадстаўнікам яўрэйскага народа.

З Вішнева родам ізраільскі палітычны і грамадскі дзеяч, былы прэм'ер-міністр і міністр абароны Ізраіля, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Шымон Перэс (Шымон Перскі). Хоць ён і развітаўся з бацькоўскім кутом у адзінаццацігадовым узросце, але назаўсёды ў сэрцы захаваў удзячнасць зямлі, якая нарадзіла яго. Таму і наведваўся ў Вішнева, каб прайсціся сцежкамі маленства.

Падобныя прыклады можна доўжыць. Дый цяпер на Валожыншчыне моцная яўрэйская суполка. Ідучы насустрач вернікам, аддзел культуры перадаў ім для сінагогі памяшканне, у якім перад гэтым знаходзіўся Дом культуры. Сам жа Дом культуры пераехаў у будынак былога кінатэатра. Атрымалася аптымальнае выйсце.

## АРГАН... З КЕРАМІКІ

Дынастыі, як вядома, бываюць розныя. У тым ліку і творчыя. Радзей сустракаюцца дынастыі пісьменніцкія, часцей — акцёрскія. Але дынастыю Лямбовічаў, што на Валожыншчыне, наўрад ці яшчэ дзе-небудзь напаткаеш, бо яна унікальная. Праўда, таксама творчая, аднак творчая асаблівага кшталту.

Бярэ ж гэтая дынастыя свой пачатак з канца XIX стагоддзя, калі жыў народны самародак Клімент Лямбовіч. Апантана захоплены музыкай, ён не толькі цудоўна іграў на шмат якіх музычных інструментах, але і сам рабіў некаторыя з іх. У прыватнасці, фізгармоніі і нават арган.

Ужо гэтага дастаткова, каб гаварыць аб Лямбовічу як аб надзвычай таленавітым чалавеку. Калі ж прыняць пад увагу, што арган у яго быў не звычайны, а зроблены... з керамікі, то выпадак рэдкі ўвогуле. Зразумела, такое не праходзіць незаўважаным. На юбілейнай выстаўцы сельскагаспадарчай кустарнай вытворчасці, што ладзілася ў Мінску ў пачатку XX стагоддзя, майстар-самародак атрымаў спецыяльны дыплом-пасведчанне. Вядома ж, за гэты самы арган, а паколькі музычны інструмент — з тых, якіх болей нідзе няма, то і праца Лямбовіча была адзначана адпаведна.

Дыплом-пасведчанне — амаль мятровай шырыні, а ў вышыню мае 70 сантыметраў. У такое і паверыць цяжка, ды гэтая ўзнагарода захавалася. Чаго не скажаш пра самі музычныя інструменты. Праўда, арган і дзве фізгармоніі да вайны захоўваліся ў касцёлах Валожыншчыны, але ў гады акупацыі гэтыя храмы згарэлі. Безумоўна, такі ж незайздросны лёс напаткаў і іншыя арыгінальныя музычныя інструменты.

Не чужой была музыка і сыну Лямбовіча Міхаілу. Міхаіл Кліментавіч, маючы выдатны музычны слых, таксама любіў іграць. Без яго ўдзелу да вайны рэдка абыходзілася якое-небудзь вяселле. Хоць і не меў спецыяльнай адукацыі, у касцёлах Івянца і іншых населеных пунктаў рамантаваў арганы. Умеў і гармонікі рабіць.

У маладыя гады захапляўся музыкай, іграў і ўнук майстра-арганіста, а Міхаіла Кліментавіча сын — Станіслаў, які звязаў свой лёс з зямлёй. Да выхаду на пенсію ён працаваў у калгасе «Рассвет». Ягоны ж брат Эдуард закончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю. Пэўны час выкладаў у ёй, потым — у музычным вучылішчы. Пасля чаго кіраваў самадзейным хорам у Стоўбцах.

## ДА МУЗЫКІ ЗДАТНЫЯ, ДА ПЕСЕНЬ ЧУЙНЫЯ

Асабліва ж годна музычную эстафету дынастыі Лямбовічаў падхапілі дочкі Станіслава Міхайлавіча. Якую з іх ні возьмеш, да музыкі здатная, да песень чуйная. Старэйшая Алеся, па мужу Недапекіна, скончыла Гродзенскае музычна-педагагічнае вучылішча. Настаўнічала ў Выганавіцкай пачатковай школе, спявала ў музычным калектыве Ракава, а потым і ў хоры парафіяльнага касцёла гэтага мястэчка. Цяпер

Алеся Станіславаўна — мастацкі кіраўнік Цэнтра культуры і вольнага часу.

Елізавета Лямбовіч, па мужу Пятроўская — выпускніца Мінскага мастацкага вучылішча імя Глебава. Яшчэ будучы навучэнкай, спявала ў хоры касцёла Святога Роха, што знаходзіцца ў Мінску на Залатой Горцы. Наведвалася таксама на рэпетыцыі фальклорнага гурта «Дзянніца», які ўзначальвала вопытны педагог і чалавек, пасапраўднаму ўлюбёны ў музыку, песню, Ларыса Сімаковіч. Дарэчы, Е. Пятроўская любіць не толькі спяваць, а і маляваць. Гэта паўплывала на тое, што яна некаторы час пасля заканчэння вучылішча выкладала ў школе чарчэнне і маляванне. І адразу ж стала актыўным удзельнікам мастацкай самадзейнасці ў Ракаўскім Доме культуры. Адначасова спявала ў хоры касцёла Маці Боскай Ружанцовай і Святога Дамініка. На сённяшні дзень яна ўзначальвае фальклорны калектыў «Гасцінец» і дзіцячы «Вянок», але па сумяшчальніцтву па-ранейшаму выкладае маляванне і кіруе касцёльным хорам.

Хрысціна ж Лямбовіч у Цэнтры культуры і вольнага часу з’яўляецца рэжысёрам. Стала ім пасля таго, як пачала вучыцца завочна, а перад гэтым на ўвесь Івянец была вядомай закройшчыцай-швачкай. У вольны ж час асвоіла майстэрства макраме і ткацтва паясоў. Без яе не абыходзіўся ніводзін канцэрт мастацкай самадзейнасці ў мясцовым Доме культуры.

Нельга не ўспомніць і Ядвігу, па мужу Бакушаву, якая жыве ў Мінску. З задавальненнем вяжа, вышывае, а раней з’яўлялася салісткай аднаго з самадзейных мастацкіх калектываў.

Міхаіл Лямбовіч па прафесіі слесар, але надараецца вольная хвіліна — з радасцю бярэ ў рукі баян.

Людміла ж (па мужу Таўгень) выкладае ў Валожыне беларускую мову і літаратуру. Праўда, у музыцы сябе не праявіла, але захапляецца паэзіяй, фальклорам, неабыякавая да нацыянальнай даўніны.

## ГАСЦІНЦЫ... АД «ГАСЦІНЦА»

У 50—60-я гады на Валожыншчыне добра ведалі сямейны ансамбль Лямбовічаў. Цяпер жа вядомасць, у тым ліку і за межамі раёна, набылі гурты «Гасцінец» і «Вянок». Абодва яны паважна ставяцца да народнай творчасці, але ў сваёй дзейнасці не абмяжоўваюцца аўтэнтычным фальклорам, ахвотна бяруць у свой рэпертуар і апрацаваныя творы. Галоўная ўмова — каб яны былі высокамастацкімі і, зразумела, падабаліся як самой Елізавеце Станіславаўне, так і выканаўцам.

Затое касцюмы, у якія апранаюцца ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці перад выступленнямі, максімальна набліжаны да аўтэнтычных. Гэта тычыцца не толькі тканіны, што бярэцца для іх вырабу, а і пакрою, а таксама мастацкага аздаблення, якое складаецца з вышыўкі і іншых элементаў.

Цікавая яшчэ такая дэталь. Касцюмы-то аўтэнтычныя, але гэта не значыць, што яны прывязаны менавіта да тамашняй мясцовасці. Гэта ў нечым, як кажуць, не ад добрага жыцця. Так сталася, што да нашых дзён не дайшлі ўзоры валожынскага строю. Яшчэ больш дзіўна тое, што, як ні старалася Елізавета Станіславаўна, ёй не ўдалося адшукаць нават іх апісання. Пры тым, што без асаблівай цяжкасці можна знайсці мясцовыя посцілкі, іншыя вырабы, а таксама вышыўкі.

Аднак гэта асабліва яе і не засмуціла. Калі паставіцца да ўсяго з іншага боку, то, апрануўшы артыстаў у розныя строі, можна выглядаць больш выгадна ў час выступленняў. Скажам, сама кіраўнік ансамбляў заўсёды апранаецца ў слуцкі касцюм. Пры гэтым завязвае квяцістую хустку, акурат такую, якую здаўна насілі жанчыны на Случчыне. Алеся Станіславаўна ўпадабала кобрынскі строй. Юныя ўдзельнікі апранаюцца ў ляхавіцкія касцюмы.

Толькі правільна кажуць: па апратцы сустракаюць, а праводзяць... Ракаўскіх артыстаў сустракаюць па-рознаму. Калі яны выступаюць перад тымі, каго ўжо неаднойчы радавалі сваім майстэрствам, то радаснымі воклічамі і апладысментамі. У новай жа аўдыторыі, асабліва спешчанай заезджымі зоркамі, можа з’явіцца  спачатку і пэўная насцярога. Але так працягваецца літаральна некалькі хвілін.

Першы ж нумар выклікае ў гледачоў захапленне і суправаджаецца дружнымі воплескамі. Дый як устрымацца, каб не выказаць свае эмоцыі, калі выконваюцца, для прыкладу, даўнія танцы, пра якія многія хіба толькі чулі. Тым больш, што кожны з іх

па-свойму адметны і непаўторны. А кракавякаў — дык ажно тры: канечне ж, свой, ракаўскі, а яшчэ — клецкі і любанскі. Вабяць не толькі танцы, а і ўвогуле ўсё тое, што адлюстроўвае традыцыйны побыт беларусаў.

«Гуканне вясны», Купалле, Каляды, гэтаксама як і хрэсьбіны, вяселле, быццам узяты з натуры. Уражанне такое, што ўсё гэта адбываецца ў сапраўднасці. Дарэчы, у час Каляд артысты «Гасцінца» і «Вянка» абыходзяць многія хаты Ракава, дзе іх сустракаюць прыязна, як даўніх знаёмых і, зразумела, шчодра адорваюць рознымі пачастункамі. Пасля абыходу хат свята працягваецца ўжо ў клубе, у вузкім коле. Дзеці частуюцца, ладзяць народныя гульні «Яшчура жаніць», «Ката пячы» і іншыя.

## ПОСПЕХУ ШМАТ НЕ БЫВАЕ

Ансамблю «Гасцінец» прысвоена званне народнага фальклорнага калектыву, ён з'яўляецца лаўрэатам Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Ансамбль жа «Вянок» стаў узорным калектывам. І абодва па-ранейшаму знаходзяцца ў актыўным творчым страі. Асабліва плённа выступае «Гасцінец».

Адно з апошніх ягоных пасяховых выступленняў адбылося ў жніўні мінулага года ў Бабруйску, дзе праходзіў Міжнародны фестываль народнай творчасці «Вянок дружбы». «Гасцінцу», што таксама сведчыць аб ягоным вялікім аўтарытэце, даручылі адкрыццё гэтага свята.

Асабліва ўразіла прысутных вакальна-інструментальная кампазіцыя паводле народных матываў, прысвечаная 65-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Трыумфам жа стаў удзел ракаўскага «Гасцінца» ў фестывалі «Песні роднай краіны». На заключны канцэрт, які прайшоў на сцэне сталічнага Палаца спорту, маглі трапіць толькі тыя, хто перад гэтым вытрымаў адборачныя туры, што праводзіліся ў абласцях, а потым і ў Мінску. Але і ў Палацы спорту давялося нялёгка, бо сабраліся лепшыя з лепшых і кожны з жаданнем абавязкова стаць пераможцам, са спадзяваннем атрымаць Гран-пры.

Аднак гэтай вышэйшай узнагароды ў рэшце рэшт быў удастоены ансамбль «Гасцінец», які прапанаваў праграму «Бітая дарожанька», падрыхтаваную сумесна з рыцарскім клубам «Рох». Як і не перамагчы было, калі майстэрства ім не займаць. А да ўсяго такая маральная падтрымка! Падтрымліваць сваіх артыстаў у Мінск прыехала нямала землякоў. У тым ліку і сам начальнік аддзела культуры. Хіба ж можна было падвесці іх?!

## КУЛЬТ ДАЎНІНЫ І БЕЛАРУСКАСЦІ

Вікенцій Мікалаевіч, калі расказвае пра гэта, радуецца так, быццам толькі што стаў сведкам такой прыемнай перамогі. Радуецца Адамовіч і згадваючы пра тое, што Ракаў, хоць па свайму цяперашняму статусу і з'яўляецца вёскай, але паспяхова развівае тыя багатыя традыцыі (не ў апошнюю чаргу — культурныя), якія развіваліся і фарміраваліся дзесяцігоддзямі. Адбываецца гэта дзякуючы працы сапраўдных падзвіжнікаў. Дзякуючы іхняй нястомнасці і з'явіліся ў Ракаве два музеі.

Адзін з іх стварыў у хаце, у якой нарадзіўся, вядомы беларускі пісьменнік і літаратуразнаўца Вячаслаў Рагойша. Другі ўзнік дзякуючы рупнасці яшчэ аднаго ракаўца — мастака Фелікса Янушкевіча. Гэта ўжо не сціплая хата, а сапраўдны музейны комплекс, у якім пануе культ даўніны, беларускасці, што набывае сваё напаўненне праз цікавыя рэчы, прадметы, творы мастацтва і літаратуры.

## ГЭТАЯ ПРЫЕМНАЯ «ЖУРАВІНКА»

Прадаўжальнікам валожынскай традыцыі ў галіне харавога выканання з'яўляецца і народны агітацыйна-харавы калектыў «Журавінка», ля вытокаў якога стаяў Іосіф Ляшчынскі. Летась Іосіфу Валяр'янавічу споўнілася 85 гадоў. Бадай, таму і дажыў да такога больш чым сталага веку, што заўсёды быў энергічны, прагавіты да дзейнасці.

Яшчэ калі вучыўся ў першым класе, пачаў займацца ў танцавальным гуртку. Пазней скончыў курсы па харэаграфіі пры Мінскім абласным Доме народнай творчасці і рэжысёрскае аддзяленне Мінскага культасветвучылішча. Да гэтага ж працаваў у Казахстане на заводзе сінтэтычнага каў-

чуку і кіраваў самадзейным танцавальным калектывам. Калі вярнуўся ў сярэдзіне 50-х гадоў мінулага стагоддзя ў родны Івянец, таксама не цураўся рабочай прафесіі, узначальваў танцавальны калектыў. Неўзабаве стаў інструктарам Івянецкага Дома культуры, праз год — ягоным дырэктарам, але працягваў кіраваць танцавальным калектывам.

Івянецкія танцоры хутка сталі вядомы і за межамі раёна. Звярнулі на іх увагу ў Мінску. Паспрыяла гэтаму і тое, што ў іх быў арыгінальны рэпертуар, а музыку да трэці танцаў, пастаўленых Ляшчынскім, напісаў выдатны беларускі хормайстар, адзін з заснавальнікаў Дзяржаўнага народнага хору БССР, ураджэнец вёскі Сівіца (у пяці кіламетрах ад Івянца, на ўскрайку Налібоцкай пушчы) Канстанцін Паплаўскі (гэта ягоная дачка Ядвіга Паплаўская сёння адна з самых вядомых беларускіх эстрадных спявачак). Дый нямала дапамог Генадзь Цітовіч.

У 70-х жа гадах мінулага стагоддзя івянецкія танцоры выступалі ў Польшчы, Грузіі, Літве, на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі СССР у Маскве. Яны ўжо насілі ганаровае званне народнага калектыву, а Ляшчынскі з’яўляўся заслужаным дзеячам культуры БССР.

З гэтага калектыву і вырас вакальна-харэаграфічны ансамбль «Журавінка», які апошнім часам крыху змяніў свой профіль. Ды па-ранейшаму планка мастацкасці трымаецца высока. Нашчадкі Ляшчынскага, а менавіта так адзываецца аб гэтых самадзейных артыстах Адамовіч, жаданыя госці ў гледачоў. Любяць яны «журавінкаўцаў» і за тое, што многія нумары іхняй праграмы ўвязваюцца з канкрэтнымі жыццёвымі рэаліямі.

На працягу 15 гадоў узначальвае гэты калектыў дырэктар Івянецкага дома культуры Станіслаў Бурачэўскі. Станіслаў Іванавіч змог згуртаваць людзей ва ўзросце ад 20 да 50 гадоў, якія і спяваць могуць, і танцаваць, дый добрыя дэкламатары. Самі ж ствараюць сюжэты, што кладуць у аснову выступленняў. З найбольшай цікавасцю аўдыторыя ўспрымае прыпеўкі, у якіх перападае выпівохам, лайдакам. Дый іншыя людскія заганы прыкмячаюцца. Выступілі неяк «журавінкаўцы» і ў ролі рэкламшчыкаў, прапагандуючы прадукцыю мясцовага сырзавода. Таксама няблага атрымалася.

## СВАЯКІ ПА ЗАХАПЛЕННЮ

Усяго ж у раёне 13 народных і ўзорных самадзейных калектываў. У шэрагу іх і хор ветэранаў «Спяваючыя сэрцы», створаны пры клубе пажылых людзей «Верас», які працуе ў Валожынскім цэнтры культуры. Калі ў клуб прымаюцца ўсе жадаючыя, то каб трапіць у склад хору, неабходна прайсці



*Народны хор ветэранаў працы «Спяваючыя сэрцы».*



*Народны ансамбль народнай песні «Сваякі».*

строгі адбор, бо конкурс немалы. Затое і аддача вялікая.

— Нашы ветэраны так хараша спяваюць, — не хавае свайго захаплення Вікенцій Мікалаевіч, — што даюць фору многім маладым выканаўцам. «Лявоніха на арбіце» — іначай пра іх і не кажам. Нягледзячы на паважаны ўзрост, яны лёгкія на пад'ём, гатовы пастаянна выступаць. Прыклад жа ім падае кіраўнік хору Яўгенія Харук. Яўгенія Іванаўна некалі спявала ў Дзяржаўным хоры імя Генадзя Цітовіча, чалавек таленавіты, любіць песню.

Ансамбль народнай песні «Сваякі», што таксама працуе пры Валожынскім РЦК, як і відаць з ягонай рэпертуарнай арыентацыі, гэтай самай песні і надае другое дыханне. Сапраўды сабраліся людзі блізкія, вобразна кажучы, сваякі па духу, па захапленню, па ўлюбёнасці ў песенную спадчыну беларускага народа. Дый іншых народаў таксама. Мастацкі ж кіраўнік калектыву Аляксандр Шаўчэнка дзякуючы сваёй добрай прафесіянальнай падрыхтоўцы, належнаму мастацкаму густу, вялікім прыродным здольнасцям (рэдка ў каго ёсць такі голас!) дапамагае ім, каб кожны канцэртны нумар не быў падобны на папярэдні.

## З РОГА ЎСЯГО МНОГА

Вяртанне да вытокаў — гэта далучэнне да духоўнасці. Абсяг жа работы тут шырокі, бо тое, што назапашвалася ў народзе на працягу стагоддзяў, — неацэнны дар, якім чым больш карыстаешся, тым узрастае, павялічваецца ад яго аддача. Пры гэтым неабавязкова адразу замахвацца на штосьці вялікае.

Скажам, пры Адамоўскай сельскай бібліятэцы створаны пакой-музей «Адамоўская святліца». Як быццам нічога новага. Па сутнасці, чарговы раз узноўлены інтэр'ер звычайнай сялянскай хаты — адной з тых, у якіх жылі беларусы, пакуль цывілізацыя не закранула вёску. Але тое, што ёсць у іншых, адамоўцы, прынамсі, маладога веку, не бачылі.

Гэта для старэйшага пакалення звыклыя стары стол, услон, калыска, у якой люлялі немаўля. Для мясцовых жа юнакоў і дзяўчат многае з таго, што знаходзіцца ў гэтай «святліцы», у навіну. Бо дзе яшчэ ўбачыш адзенне, у якое апраналіся вяскоўцы даўней. Тут жа розныя прылады працы. Ёсць серп, якім жанкі жалі збажыну. Цэп — ім, як вядома, малацілі снапы. І нават рэшата і арфа для ачысткі зерня.

Усяго каля 200 экспанатаў, якія з'явіліся, як і сама «Адамоўская святліца», дзякуючы бібліятэкару Людміле Садоўскай, якая прапанавала мясцовым жыхарам прынесці тое, што ў хатах ці сенцах знаходзіцца сёння без запатрабавання, але можа паспрыяць выхаванню ў юнакоў і дзяўчат любові да свайго краю, паважліваму стаўленню да мінулага.

У Падневічах жа ў клубным будынку ствараецца клуб-музей. Таксама штосьці кшталту беларускай хаткі, ды з больш шырокім размахам. Усё будзе абсталявана такім чынам, каб прыезджы мог спыніцца на начлег, павячэраць, а пасля, калі з'явіцца ахвота, пайсці на вечарынку. Што жадаючыя адпачыць падобным чынам знойдуцца, сумнявацца не даводзіцца: Падневічы знаходзяцца на шляху Ракаў — Івянец.

А ўзяць традыцыйныя народныя рамёствы? Толькі чалавек, глухі да прыгажосці, можа быць абыякавым да іх. Але гэтую прыгажосць маладому пакаленню зноў жа трэба прывіць. Праз прапаганду творчасці тых, хто даўно займаецца гэтым, дый праз далучэнне да даўняга майстэрства маладых людзей.

У планах Адамовіча — адкрыццё ў будынку, дзе дагэтуль знаходзілася дзіцячая

бібліятэка, раённага Цэнтра рамёстваў, у якім маглі б працаваць майстры па ткацтву, салома- і лозапляценню, ганчары, тыя, хто тчэ ручнікі. Пакуль што яны, хоць і ўваходзяць у раённае аб’яднанне майстроў «Скарбніца», якое ўзначальвае Таццяна Ланько, «раскіданы» па ўсім раёне, кожны займаецца любімай справай там, дзе жыве. Так, Вітольд Малютка, якому няма роўных па ткацтву ручнікоў, шчыруе ў Камені, Марыя Стасяловіч — у Сакаўшчыне, Хрысціна Лямбовіч — у Ракаве, Наталля Лукашык — у Судніках. Нават цэлыя сем’і, як Аль і Кацура, упадабалі саломапляценне.

Паколькі вырабаў шмат і яны запатрабаваны, то Адамовіч хоча яшчэ адкрыць і спецыялізаваны магазін «Скарбніца». Сувеніры можна будзе набыць і ў клубе-музеі ў Падневічах.

Пакарыстаюцца падобнай магчымасцю і тыя, каго зацікавіць турыстычны маршрут Валожын — Пяршаі — Доры — Ракаў ці Валожын — Пяршаі — Люцінка, які пралягае па так званым малым кальцы. Плата чыста сімвалічная, каб толькі пакрыць транспартныя выдаткі, а карысць вялікая. За адзін дзень можна пазнаёміцца з усімі гістарычнымі мясцінамі, што знаходзяцца тут.

Прыцягальны і Вішнева-Багданава-Лоскаўскі накірунак. Не кажучы пра тое, што Ракаў сам па сабе варты таго, каб з ім бліжэй пазнаёміцца.

## РУНЕЦЬ, КРАСАВАЦЬ, НАЛІВАЦЦА

Добрая прыкмета апошняга часу і тое, што ў пераважнай большасці раёнаў краіны пачалі працаваць літаратурныя аб’яднанні ці іншыя творчыя суполкі падобнага кшталту. Тым самым вяртаецца добрая традыцыя, якая закладвалася ў 20—30-я гады мінулага стагоддзя. Тады ўсё, як вядома, адбывалася на хвалі тых пераўтварэнняў, што адбываліся пры савецкай уладзе і выклікалі надзвычайную актыўнасць народа, у тым ліку і творчую.

Цяпер жа ўздым у чымсьці падобны на ранейшы, бо тымі, хто бярэцца за пяро, гэтаксама рухае жаданне сцвердзіць сябе на шляху нацыянальнага самавыяўлення. Гэта, аднак, не значыць, што ўсе пішуць толькі па-беларуску, але і рускамоўныя аўтары, выказваючы свае думкі і пачуцці, успрымаюць сябе часткай менавіта беларускага народа. З ягонымі традыцыямі, з яго культурай. Часам да паэтаў, празаікаў далучаюцца і самадзейныя кампазітары, мастакі. Так бы мовіць, сем «Я» — адна творчая сям’я.

Такой дружнай сям’ёй успрымаецца літаратурна-мастацкае аб’яднанне «Рунь». Праўда, працуе яно не пры рэдакцыі раённай газеты, як гэта часцей бывае, а пры Валожынскім цэнтры культуры. Ды ад гэтага сутнасць не мяняецца. Наадварот, ёсць яшчэ лепшыя ўмовы для самасцвярджэння і самавыяўлення.

Што такое «Рунь», сведчыць ужо тое, што гэтаму аб’яднанню прысвоена ганаровае званне «народнае». І не ўчора, і не заўчора, а яшчэ ў 1997 годзе. Аднак мала званне атрымаць, яго неабходна яшчэ ўтрымаць. Што ж, рунеўцы здаваць узятыя пазіцыі не збіраюцца і гэтаксама, як і раней, вобразна кажучы, працягваюць рунець, красаваць, наліваца.

Не толькі таму, што разам збіраюцца людзі творча адораныя. Немалаважна і тое, што ўзначальвае іх таленавіты чалавек — паэтэса, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Валянціна Гіруць-Русакевіч, аўтар некалькіх кніг, сярод якіх «Моваю сэрца», выпушчаная колькі гадоў назад выдавецтвам «Мастацкая літаратура». Членам Саюза пісьменнікаў Беларусі з’яўляецца таксама і празаік Міхась Курыла — метадыст аб’яднання «Рунь».

## ШТО НІ ГОД — ВАРТЫЯ НАБЫТКІ

Ёсць рунеўцам на каго раўняцца, ёсць з каго браць прыклад. Дый самі яны ў шапку не спяць, таму што спакой ім толькі сніцца. Не толькі творы пішуць, а і актыўна прапагандуюць літаратуру, праводзячы шматлікія мерапрыемствы, сярод якіх і вечары-ўспаміны, вечары-партрэты, літаратурныя гутаркі, віктарыны...

Было б толькі жаданне, а форму правядзення сустрэч з чытачамі і слухачамі заўсёды можна знайсці. Дый хіба ў форме справа? Галоўнае, каб не згасаў творчы настрой і запал, не пакідала разуменне таго, што творчасць тады набывае сэнс, калі яна даходзіць да таго, каму адрасуецца.

Толькі летась адбылося шмат цікавых мерапрыемстваў. У прыватнасці, год назад у

студзені для вучняў старэйшых класаў школ райцэнтра і навучэнцаў Валожынскага сельскагаспадарчага ліцэя была праведзена гутарка «Вучань беларускага Дудара», пад час якой размова ішла пра жыццё і творчасць пісьменніка пачатку XX стагоддзя Ядвігіна Ш.

Праз месяц школьнікі пазнаёміліся з творчасцю былога настаўніка Івянецкай сярэдняй школы, аўтара трох паэтычных кніг Уладзіміра Градоўкіна («Франтавік, настаўнік, паэт...»).

Не забыліся рунеўцы і пра Сусветны дзень паэзіі. Ды не ў вузкім коле яго адзначылі, а завіталі ў вайсковую часць. На сустрэчы «Госця нябесная», наладжанай для салдат і афіцэраў, гучалі не толькі мастацкія творы, а і песні на словы рунеўцаў у выкананні саміх аўтараў, бо сярод удзельнікаў аб'яднання ёсць людзі, якія праяўляюць сябе ў розных накірунках творчай дзейнасці. Пішуць не толькі вершы, а і музыку да іх, а пасля выступаюць перад слухачамі. Прыцягвае творчасць рунеўцаў увагу і кампазітараў. І не толькі самадзейных, а і прафесіянальных. Такія песні ахвотна ўключаюць у свой рэпертуар салісты раённага цэнтра культуры.

— З гэтых песень і, вядома ж, з нашых вершаў, — расказвае Гіруць-Русакевіч, — атрымалася змястоўная канцэртная праграма. Летась са сваімі канцэртамі мы пабывалі ў Прылуцкім цэнтры народнай творчасці, што ў Мінскім раёне. Выступалі ў Смаргоні, прытым гэтае выступленне было платнае. І, канечне, выступаем у сваім раёне. Толькі апошнім часам канцэрты прайшлі ў Вішнеўскім, Адамоўскім, Забрэзскім СДК. Своеасаблівай жа справаздачай перад землякамі-валожынцамі стаў вялікі канцэрт «Вам нашы вершы, песні, сэрцы!» у канцы кастрычніка мінулага года ў РЦК. Удзельнікі аб'яднання былі запрошаны на Дзень беларускага пісьменства і друку ў Смаргонь, дзе пазнаёмілі прысутных з літаратурна-музычнай кампазіцыяй «Нашчадкі».

Адна з сустрэч летась прайшла і ў клубе пажылых людзей «Верас». Да іх завітала сама В. Гіруць-Русакевіч, а таксама Марыя Шакун, Соф'я Русецкая, Наталля Жылевіч. Гасцямі ж саміх рунеўцаў былі ўдзельнікі народнага клуба самадзейных кампазітараў і паэтаў «Жывіца» Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці. Для іх праводзілася экскурсія па мясцінах, звязаных з жыццём В. Дуніна-Марцінкевіча, а таксама па Валожыне. І, зразумела, госці парадавалі сваім талентам, сваімі набыткамі.

Рэгулярна выступаюць рунеўцы і ў сталіцы. У прыватнасці, у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылася прэзентацыя іхняга калектыўнага зборніка. На ёй выступілі дырэктар выдавецтва «Четыре четверти», што дало жыццё гэтай кнізе, Ліліяна Анцух, землякі-валожынцы Вячаслаў Рагойша, Ганна Запартыка, Тэрэса Голуб, Язэп Янушкевіч і іншыя. Творы тых, хто прадстаўлены ў гэтым зборніку, гучалі ў літаратурна-музычнай кампазіцыі.

Гэта не першая калектыўная кніга рунеўцаў. У згаданым выдавецтве пяць гадоў назад пабачыў свет зборнік вершаў «Зямлі маёй і землякам». У кнізе ж «Люблю наш край...», што папоўніла серыю «Беларусь літаратурная», якую выпускае выдавецтва «Мастацкая літаратура», яе трэці раздзел «Узбор'е» складаюць творы членаў гэтай творчай суполкі. Дый не толькі В. Гіруць-Русакевіч мае ўласныя кнігі. Імі могуць пахваліцца таксама Міхась Курыла, Яўген Зялкоўскі, Марыя Шакун, Мікалай Палякоў, Галіна Марцінкевіч... У раённай газеце «Працоўная слава» рэгулярна з'яўляюцца «Літаратурныя старонкі».

Традыцыйным стаў і раённы конкурс юных творцаў Валожыншчыны «Маладыя галасы». Летась ён праходзіў па дзвюх тэмах: «Зямелька родная мая» (да Года роднай зямлі) і «Вашай памяццю гэта помню я» (да 65-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў). На падвядзенне вынікаў прыязджаў з Мінска вядомы беларускі пісьменнік Мікола Чарняўскі. Лепшыя творы ў кожнай намінацыі былі адзначаны дыпломамі аддзела культуры райвыканкама і падарункамі.

## КАЛІ РУПІШСЯ, ТО І АДДАЧА

На Валожыншчыне працуе 32 бібліятэкі і 23 клубныя ўстановы. У 2008 годзе да іх далучыўся і аўтаклуб, што дазваляе абслугоўваць аддаленыя, а таксама маланаселеныя вёскі. Эстэтычнаму ж выхаванню падрастаючага пакалення шмат спрыяе тое, што ва ўсіх рэгіёнах раёна ёсць музычныя школы альбо школы мастацтваў.

Апроч Валожына яны працуюць у Вішневе, Гародзьках, Дорах, Ракаве, Івянцы.

За выключэннем дзвюх апошніх, усе маюць свае аддзяленні ў іншых населеных пунктах. Вішнеўская — у Сакаўшчыне і Багданаве, Гародзькаўская — у Дубіне і Падбярэзі, Дорская — у Сумваздах і Пяршаях. Пры Валожынскай дзіцячай музычнай школе і Дорскай дзіцячай школе мастацтваў працуюць камерныя залы, у якіх выступаюць вядучыя салісты і калектывы Беларускай дзяржаўнай філармоніі і краін СНД.

— Вікенцій Мікалаевіч, — цікаўлюся ў Адамовіча, — а дзе ж спецыялістаў вы знаходзіце? І для тых жа школ музычных і школ мастацтваў, і для клубаў, бібліятэк неабходны кадры...

— Загадзя клапоцімся. Пачынаем з таго, што вядзём вялікую работу па прафарыентацыі сярод навучэнцаў агульнаадукацыйных устаноў, каб з’яўляліся жадаючыя паступаць у адпаведныя ўстановы культуры і мастацтва. Штогод бываем на размеркаваннях. Гэта спрыяе прыезду ў наш раён выпускнікоў з розных навучальных устаноў. Сёлета прыбыло 11 маладых спецыялістаў, якія скончылі Мінскі каледж мастацтваў, маладзечанскае і мінскае музычныя вучылішчы, а таксама універсітэт культуры і мастацтваў. Для тых, хто працуе ў райцэнтры, ёсць інтэрнат — чатырохпакаёвая кватэра, у кожным пакоі якой жывуць па дзве дзяўчыны. Дзесяць кватэр нашым спецыялістам выдзелена ў кааператыўным доме, які летась пачаў будавацца для работнікаў сацыяльнай сферы, а гэта адукацыя, культура, ахова здароўя. Крэдыт выдаецца на сорак гадоў і складае ўсяго тры працэнты ў месяц.

Вопыт валожынцаў сведчыць: было б жаданне працаваць, выйсце заўсёды можна знайсці. Часам атрымліваецца і так, што тыя, хто жыве ў Валожыне, ездзяць на працу ў які-небудзь іншы населены пункт. Вяскоўцы ж, у сваю чаргу, нярэдка працуюць у раённым цэнтры. Не сказаць, каб гэта было асабліва зручна, аднак калі ёсць любімая справа, дык і забываецца пра гэта.

## БЫЦЬ АДДАЧЫ ЯШЧЭ БОЛЬШАЙ

Безумоўна, зроблена многае, але і перспектывы адкрываюцца немалыя, бо Валожыншчына — надзіва самабытны куток, але, на жаль, ён пакуль што належным чынам не запатрабаваны. Таму хочацца спадзявацца, што ўжо ў бліжэйшы час будуць зроблены канкрэтныя захады ў накірунку таго, каб станавілася больш жадаючых наведацца ў нерушавыя мясціны, дзе можна добра і з карысцю адпачыць, а таксама далучыцца да нацыянальнай гісторыі.

Упэўненасці ў лепшым надае тое, што акурат у Мінскім і Валожынскім раёнах 19 лістапада мінулага года праходзіла выязное пасяджэнне сумесных калегій Міністэрства культуры і Міністэрства спорту і турызму Рэспублікі Беларусь. Пытанне, якое абмяркоўвалася ў час яго, надзіва актуальнае — «Аб эфектыўным выкарыстанні аб’ектаў гісторыка-культурнай спадчыны ў сферы турызму».

Удзельнікі гэтага пасяджэння пабывалі ў шмат якіх населеных пунктах. Не мінулі яны і Івянец, дзе, несумненна, ёсць чаму павучыцца наконт таго, як выкарыстоўваць тое, што ўжо зроблена.

Прынамсі, багатую спажыву для роздуму дало наведванне музея традыцыйнай культуры, багатага сваімі экспанатамі. Цікавасць выклікаў аб’ект «Карчма», што працуе ў старым свірне былой шляхецкай сядзібы. У адноўленай жа кузні кожны ахвочы можа далучыцца да кавальскай справы: раздзьмуць мяхі, узяць у рукі цяжкі молат, каб ім апрацаваць якую-небудзь раскаленую загатоўку.

Чым не экзотыка? Прытым свая, а не замежная і таксама не пазбаўленая экстрыму, што вельмі падабаецца тым, хто хоча чагосьці незвычайнага. Праўда, давялося сутыкнуцца і з іншай «экзотыкай». Непадалёку ад гэтай кузні знаходзяцца руіны палаца, якім валодалі Дарагунцавы. Яны ў такім стане, што і глядзець на іх не хочацца.

Канечне, пакуль аб аднаўленні гэтых пабудоў і гаворкі не можа ісці, бо не стае фінансаў і на больш значныя архітэктурныя помнікі. Тым не менш ужо адно сузіранне руін наштурхоўвае на думку, як шмат трэба зрабіць яшчэ для таго, каб вярнуць гістарычную памяць.

Зразумела, не ў маштабе аднаго раёна. Гэта ўсё наша спадчына, а да спадчыны нельга інакш ставіцца, як з павагай, робячы ўсё магчымае для таго, каб захаваць яе для нашчадкаў.

Зыходзячы з гэтага Адамовіч і прымае захады дзеля надання статуса помніка нематэрыяльнай культуры Купаллю, што спрадвеку святкуецца на старажытных валах у Ракаве, якія самі па сабе ўжо з’яўляюцца архітэктурным помнікам. Несумненна,



*Узорны калектыў «Грацыя».*

купалаўскі абрад традыцыйны, ды падобнага на ракаўскі больш нідзе няма. Таму ў купальскую ноч тут заўсёды так людна. І не толькі мясцовыя збіраюцца, а і з іншых населеных пунктаў. Дый шмат гасцей штогод прыязджае са сталіцы.

На статус нематэрыяльнай каштоўнасці прэтэндуе і спосаб пляцення паясоў, якім карыстаецца Марыя Стасяловіч. Тчэ яна іх з розных нітак, пры гэтым тое, што неўпрыкметку становіцца поясам, трымае на назе.

Перад новым 2010 годам з'явіўся ў валожынцаў свой рэгіянальны Дзед Мароз, які пасяліўся пакуль у дзіцячым лагеры «Налібоцкая пушча». Упадабаў ён гэтае месца невыпадкова. Надта ж любіць Дзед Мароз лясную глухамань, а Налібоцкая пушча, хоць і не роўня Белавежскай, дзе ўжо не адзін год ёсць у яго свая рэзідэнцыя, ды ўсё адно — край нерушавы са сваёй, няхай і неафіцыйнай, сталіцай у Івянцы. К наступнаму Новаму году ў Дзеда Мароза з'явіцца і свая пастаянная рэзідэнцыя, месца для якой пакуль вызначаецца.

Сярод тых, хто нарадзіўся на валожынскай зямлі, ёсць яшчэ два слынныя паэты. Адзін з іх — Хведар Чэрня, — праўда, заўчасна пайшоў у вечнасць, пражыўшы ўсяго 43 гады. Другі — Віктар Шніп — плённа працуе ў літаратуры, з'яўляючыся лаўрэатам Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» за кнігу «Страла кахання, любові крыж» і Літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Маякоўскага, прысуджанай яму некалі Саветам Міністраў Грузінскай ССР.

Абодвух іх, Чэрню і Шніпа, родніць не толькі месца, дзе яны ўпершыню пабачылі свет, а і тое, што, нягледзячы на вялікую розначасць ва ўзросце, у іх былі калі не сяброўскія, то прыязныя адносіны. А яшчэ ў іхняй творчасці надзіва моцна гучыць прызнанне ў любові да бацькоўскага краю, які, безумоўна, успрымаецца самым лепшым на зямлі.

Іначай і не можа быць, калі ты сапраўдны, прытым удзячны, сын яго. Чэрня, як прыгадвае Шніп, пры сустрэчы любіў паўтараць: «Валожынскія мы». Яшчэ пры ягоным жыцці ён прысвяціў Чэрню верш, слухаючы які, Хведар Мікалаевіч плакаў:

Радзімая ваколіца,<br>
Зялёная гара.<br>
А сонца торбай коціцца,<br>
Паўнюткаю дабра.<br>
І нам у шчасце верыцца,<br>
Як верыць нам сяло.<br>
Сарока побач верціцца:<br>
— Вам падзялю дабро.<br>
Вачамі вокан квецяцца<br>
У вішняках дамы:<br>
— Святло у нас не дзеліцца,<br>
Валожынскія мы.

Выраз «Валожынскія мы» тым самым набывае нават не проста глыбокі, а глыбінны сэнс, бо за ім не адна геаграфічная прывязанасць да пэўнага рэгіёна. За ім, калі ўважліва ўнікнуць у сэнс гэтых слоў, — усведамленне таго, што няма лепшага краю на зямлі, чым валожынскі. І гэта не мясцовы патрыятызм, а разуменне таго, што Беларусь будзе квітнеючай і моцнай толькі ў тым выпадку, калі кожны з нас не стане забываць пра свае карані, якія моцна ўвайшлі ў глебу. Дарэчы, невыпадкова ёсць вызначэнне культурны пласт, якое мае на ўвазе той слой глебы, што захаваў у сабе сведчанні дзейнасці чалавека. У дадзеным жа выпадку культурны пласт — гэта той, які ствараецца ў галіне культуры таленавітымі людзьмі Валожыншчыны.



Дар'я ГУШТЫН

Дыскус-клуб «МАЛАДОСЦІ»

# ЯК ПАЧАЦЬ РАЗМАЎЛЯЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ

***Беларускамоўныя людзі выдзяляюцца з натоўпу. Нехта, пачуўшы іх мову, усміхаецца і шчыра дзякуе. Некага перасмыкае. А яны ўсё адно размаўляюць выключна на роднай мове. І з кожным днём іх большае. Перад вамі тры гісторыі розных людзей. Яны не знаёмыя паміж сабой, але беларуская мова — гэта тое, што сапраўды іх аб’ядноўвае.***

## НАСТАЎНІЦА, ЯКАЯ ЗАЦІКАВІЛА МОВАЙ



**Вераніка НЕСЦЕРАВА нарадзілася ў Віцебску. Яе бацькі, якія працуюць ветэрынарнымі дактарамі, ніколі не заводзілі дома размоў пра беларускую мову. Усе ў сям’і размаўлялі па-руску. Але калі Вераніка пайшла ў восьмы клас, у іх школе з’явілася новая настаўніца беларускай мовы.**

— Нашу новую настаўніцу звалі Тамара Раманаўна. На той час яна толькі-толькі скончыла універсітэт і прыйшла выкладаць у нашу школу. Нас здзівіла не толькі тое, што яна заўсёды размаўляла па-беларуску, але і тое, як яна выкладала літаратуру. Яна расказвала вельмі шмат незвычайных гісторый з жыцця літаратараў. У кнігах мы такога не маглі знайсці. У нас увесь час праводзіліся віктарыны, конкурсы, планавыя ўрокі па творчасці самага любімага аўтара пэўнага літаратурнага перыяду. Памятаю, яна нават дазваляла нам самім фармуляваць урокі, прыдумваць заданні. На адным з урокаў у нас зайшла гаворка пра тое, чаму беларусы не шануюць сваю мову, чаму мы яе забываем, не размаўляем па-беларуску. У прынцыпе, такія размовы ў нас заводзіліся і раней, з іншымі настаўнікамі. Але неяк нікога гэта не кранала насамрэч: ні нас, ні нашых выкладчыкаў. А тут Тамара Раманаўна пачала задаваць вельмі вострыя пытанні: «Калі мы не ведаем сваёй мовы — хто мы?», «Калі ў народа няма сваёй мовы, то што яго чакае?», «Чым мы адрозніваемся ад рускіх людзей, калі гаворым на іх мове?», «Якія перспектывы ў нашай літаратуры і культуры ўвогуле, калі беларуская мова знікае?» Памятаю, наколькі гарачыя тады разгарэліся дэбаты. У сярэдзіне заняткаў мы перакрыквалі адно аднаго, ледзь з-за партаў не выскоквалі. Меркаванні падзяліліся: былі вучні, якіх асабліва не кранала тое, што мова знікне, але былі і іншыя, каму было неабыякавае гэтае пытанне. У той дзень я ўпершыню сур’ёзна задумалася наконт мовы. І, ведаеце, мне тады стала сорамна, што я зусім не ведаю сваёй мовы, што я элементарныя рэчы без памылак назваць не магу. У такія моманты, даруйце, адчуваеш сябе абмежаванай. Калі ўлетку да мяне пры-

язджала сястра з Украіны, яна часам прасіла, каб я па-беларуску з ёй пагаварыла, каб пачуць мову. А я нават пра сябе расказаць добра не магла, каб гэта было натуральна, без памылак. Вось з класа восьмага, бадай, я і пачала задумвацца наконт сваёй беларускасці. Мне спатрэбілася чатыры гады, каб канчаткова перайсці на родную мову.

## ДАСПАДОБЫ ТОЛЬКІ БЕЛАРУСКАМОЎНЫЯ…



**Праграміст Алег НІКАЛАЕЎ пераехаў з бацькамі з Расіі ў Беларусь, калі яму было 8 гадоў. Першы час яму падавалася дзіўным вымаўленне некаторых слоў мясцовымі людзьмі.**

— Мая бабуля, да якой мы часта прыязджалі, жыве ў Пінскім раёне. Людзі ў вёсцы да гэтага часу размаўляюць на нейкай сваёй мове, якая і беларускаму чалавеку не заўсёды зразумелая, а чалавеку, які нарадзіўся ў Саратаве, дзіцяці, які збольшага толькі рускую мову і чуў, камунікаваць з мясцовымі хлапчукамі было не так проста. Мяне ў дзяцінстве нават злавала, што яны не могуць гаварыць «нармальна». Я бабулі казаў: «Говори со мной на русском! Я не понимаю тебя!» Але праз некалькі год усё стала зразумелым, і тады ўжо мае рускія сваякі, якія да мяне прыязджалі ў госці, прасілі сёе-тое перакласці ці растлумачыць. Пра тое, што я буду размаўляць па-беларуску, я і падумаць не мог. І калі б мне пра гэта сказалі год дзесяць таму, я б проста засмяяўся і не паверыў. Але на першым курсе я пазнаёміўся з беларускамоўнай кампаніяй. Мы вучыліся разам, у адным універсітэце. Праўда, на розных факультэтах. Я выпадкова трапіў на святкаванне Новага года ў гэтую кампанію. За сталом сядзела каля 15 чалавек, па-руску размаўлялі хіба толькі трое. Я тады ўпершыню ўбачыў такую канцэнтрацыю беларускасці на такой маленькай плошчы (усміхаецца). І мне неяк спадабалася з гэтымі людзьмі, мы пачалі кантактаваць. Мне парэкамендавалі беларускую музыку, кнігі. Шмат што мяне зацікавіла. Хоць беларуская мова і літаратура ў школе былі маімі, бадай, самымі нелюбімымі ўрокамі. Новыя сябры пакрысе вучылі мяне мове, але ненавязліва. Паказалі слоўнік слэнгу. Некаторыя словы мне вельмі спадабаліся: цішотка, дзвіж, гастрык. Аднойчы я прыйшоў на дзень нараджэння да свайго беларускамоўнага сябра Антося. Там пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Таццянай. Я пачаў праяўляць да яе сімпатыю, а яна амаль адразу сказала: «Ты, Алег, канечне, хлопец добры, але мне даспадобы беларускамоўныя…» Памятаю, мяне гэта вельмі абурыла! Некалькі месяцаў я не тэлефанаваў, не прыязджаў да яе. А пасля неяк выпадкова мы ўбачыліся, і я зразумеў, што гэта ўсё адно мой лёс. На беларускую мову я перайшоў паступова. Не шкадую ні кроплі, бо каб мова мне не падабалася, я б ніколі не змог на ёй размаўляць, а на той момант для мяне беларуская мова ўжо мела вельмі пазітыўны імідж, як зараз любяць казаць. Таццяна, праўда, прызналася пасля, што проста правярала мяне, ці змагу я для яе зрабіць што-небудзь сапраўды істотнае, гераічнае. Усе гэтыя месяцы яна сумавала па мне і ўжо хацела тэлефанаваць, прасіць прабачэння і адмаўляцца ад надуманага прынцыпу.

## МОВА МОВУ ЧУЕ



**Сёння Настасся ЗАНЬКО працуе ў беларускамоўнай газеце «Звязда». Але размаўляць па-беларуску яна пачала толькі тры гады таму. І змяніць сваю мову, змяніць сябе было не так проста…**

— Разважаць наконт моўнага пытання я пачала ў 10 класе. Я тады перапісвалася з хлопчыкам Андрэем з Мінска. Памятаю, ён пераконваў мяне, што калі хоць некалькі чалавек размаўляюць па-беларуску, значыць, гэта мова ўжо патрэбная і мае права на жыццё. Ён быў малодшы за мяне на два гады, але яго словы

тады ўзрушылі мяне… Я паступіла на журфак, дзе было шмат людзей, якім падабаецца і мова беларуская, і наша культура. Аднак па-беларуску размаўлялі адзінкі. І тады мой аднакурснік Павел Пяцько прапанаваў такую «акцыю» — кожны трэці дзень месяца цалкам размаўляць па-беларуску. І трэба сказаць, што гэта падзейнічала. Людзі насамрэч размаўлялі! Праўда, хтосьці — усяго адзін дзень, але некаторыя з таго дня, як пачалі размаўляць на роднай мове, вось ужо чацвёрты год працягваюць. Вельмі важна адчуваць падтрымку сяброў, сваякоў. Зараз у Інтэрнеце шмат суполак, дзе беларускамоўныя людзі могуць абменьвацца думкамі, прасіць параду, нешта раіць адно аднаму. Бо людзі навокал досыць часта неадэкватна рэагуюць на беларускамоўнасць. Пытаюць, навошта я так размаўляю, каму я хачу даказаць што… Але ёсць і пазітыўныя моманты. Я вось калі ў транспарце чую, што хтонебудзь па-беларуску размаўляе, дык таксама стараюся сказаць штосьці гучна, каб гэты чалавек пачуў, убачыў, што ён не адзін такі. І часам можа нават дыялог атрымацца. Аднойчы мой тата сказаў, што недзе вычытаў, што беларускамоўныя дзяўчаты вельмі падабаюцца нашым мужчынам. Трэба сказаць, спачатку тата не ўзрадаваўся маім зменам, але праз некаторы час ён зразумеў, наколькі для мяне гэта важна. І цяпер ён мяне толькі хваліць за маю беларускамоўнасць. Так што трэба бачыць ва ўсім плюсы, гэта дапамагае дасягнуць сваёй мэты.

### КАЛІ ВЫ ВЫРАШЫЛІ РАЗМАЎЛЯЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ…

***ДЛЯ ПАЧАТКУ скажыце сабе гучна, што гэта назаўжды, і — наперад.***

**1. Па першым часе, хутчэй за ўсё, вы будзеце думаць па-руску, таму ваша мова будзе няскладнай, непрыгожай і падобнай да «трасянкі». Цурацца гэтага не трэба. Нават у лепшых кухараў першы блін — сабаку.**

**2. Знайдзіце сабе кола сяброў, якія будуць размаўляць з вамі па-беларуску. Разам і смялей і весялей. Знайсці аднадумцаў можаце ў розных клубах, на форумах.**

**3. Слухайце больш беларускай музыкі. Тут усё залежыць ад густу: не толькі Зміцер Вайцюшкевіч спявае па-беларуску, але нават гурт «Краски».**

**4. Чытайце як мага больш беларускай літаратуры розных жанраў, розных стыляў і эпох, не менш як 30—40 хвілін штодзень перад сном.**

**5. Вывучыце 2—3 фразы (альбо прыдумляйце кожны раз новыя!), якімі б вы маглі адбіцца ад вельмі надакучлівых людзей, якія будуць вас пераконваць, што «беларуская мова не самастойная мова» і што «ніхто цяпер на ёй не размаўляе».**

### ДАРЭЧЫ

*21 лютага па ўсім свеце адзначаюць Дзень роднай мовы. У гэты дзень у 1952 годзе загінулі пяць студэнтаў, якія выступалі за тое, каб мове бангла надалі статус дзяржаўнай у тагачасным Пакістане, усходняя частка якога пасля стала дзяржавай Бангладэш. Свята гэтае накіравана на тое, каб звярнуць увагу грамадскасці на выміранне моў і такім чынам паспрыяць адраджэнню родных моў ва ўсім свеце. Вы таксама можаце дапамагчы сваёй роднай мове. Найлепшы спосаб — пачаць размаўляць на ёй! І тут усё залежыць толькі ад вас.*






# «Я КУПЕЦ, СА МНОЙ МОЙ ВЯНЕЦ...», або ПРАФЕСІЯ ДЛЯ ЦЯРПЛІВЫХ І КАМУНІКАБЕЛЬНЫХ

***У** савецкія часы прафесія прадаўца, з аднаго боку, лічылася прэстыжнай. Шмат хто ім зайздросціў: яны мелі доступ да дэфіцытных тавараў. З іншага боку, іх не любілі. У літаратуры і фільмах тых часоў выведзены вобраз змрочнай, нязветлівай, а часам і грубай прадаўшчыцы, якой пакупнікі перашкаджаюць сумаваць каля паўпустых прылаўкаў. Пры ўвядзенні рыначных механізмаў знік дэфіцыт, пачалі мяняцца і адносіны да прафесіі. Сёння прадавец — адна з найбольш запатрабаваных спецыяльнасцей на рынку працы. Прафесіяналізм — іншымі словамі, уменне прадаць як мага больш і лепш — выйшаў на першае месца.*

*А ўзнікла гэтая прафесія вельмі даўно — са з'яўленнем таварна-грашовых адносін. Мінулі стагоддзі, і многае змянілася: замест гандлёвых радоў у Беларусі адчыніліся дзесяткі супер- і гіпермаркетаў, гандлёвых дамоў, буцікаў і крамаў. Ды і тавараў у іх з кожным днём паяўляецца ўсё больш і больш. Каб пералічыць усе, спатрэбіцца некалькі важкіх тамоў. Замест купцоў і прыказчыкаў, якім дастаткова было умець лічыць на «костачках» і з дапамогай няхітрага гандлёвага інвентара абслугоўваць пакупніка, сёння мы бачым сучасных прадаўцоў — высокакваліфікаваных спецыялістаў і нашых з вамі дарадчыкаў. Цяперашні прадавец павінен быць адначасова і менеджэрам, і спецыялістам па*



*продажах, і гандляром-кансультантам, ён мусіць валодаць поўнай інфармацыяй па таварах, якія рэалізоўвае. Пры гэтым ён павінен карэктна і ветліва абыходзіцца з пакупнікамі, каб у наступны раз яны прыйшлі за чарговай пакупкай менавіта ў гэтую краму.*

*А дзе рыхтуюць такіх спецыялістаў?*

*У нашыя дні атрымаць прафесію прадаўца можна ў сярэдніх спецыяльных, прафесійна-тэхнічных навучальных установах, каледжах і гандлёвых тэхнікумах. Пра адну з такіх навучальных устаноў мы і раскажам вам сёння. І лепш за іншых ведае сваю гаспадарку яе кіраўнік! На пытанні часопіса «Маладосць» адказвае дырэктар Мінскага дзяржаўнага прафесійна-тэхнічнага каледжа гандлю Уладзімір Аляксандравіч ГАПОНЕНКА.*

**— Уладзімір Аляксандравіч, тое, што вы цяпер узначальваеце ПТК гандлю — гэта заканамерны вынік вашай працоўнай біяграфіі ці ў пэўнай ступені выпадковасць?**

— Пасля заканчэння школы першапачаткова збіраўся стаць вайсковым лётчыкам. Нават пастулаў у вышэйшае авіяцыйнае вучылішча, але не прайшоў медкамісію, «не дацягнуў» мой вестыбулярны апарат. Сярод грамадзянскіх прафесій найбольш прывабнай падалася прафесія педагога. Ды і побач быў жывы прыклад маіх настаўнікаў, сямейнай пары Новікавых: настаўніка чарчэння — Рыгора Адамавіча і настаўніка матэматыкі — Соф'і Адамаўны. Цяпер я думаю, што гэта менавіта яны вызначылі мой жыццёвы шлях, пра што я ніколі не пашкадаваў. Так атрымалася, што ўся мая працоўная дзейнасць звязана з адукацыяй, нават калі я знаходзіўся на службе ў Кантрольнай дзяржаўнай камісіі і займаўся пытаннямі кантролю дзейнасці органаў адукацыі і навукі. Так што цяперашняя пасада дырэктара каледжа для мяне хутчэй заканамернасць. Мне заўсёды была сімпатычная педагагічная праца, магчымасць кантактаваць з дзецьмі, вырашаць іх праблемы. А той факт, што гэта каледж гандлю або будаўнікоў, на мой погляд, ролі не адыгрывае. Установу адукацыі павінен узначальваць педагог, а прафесіяналы ў ім — вырашаць канкрэтную задачу фарміравання ў моладзі пэўных ведаў, здольнасцей і досведу.

**— Ваш каледж адзін з многіх у краіне? Ці існуе пэўная унікальнасць?**

— Гісторыя каледжа налічвае больш за 60 гадоў. Пачалася яна ў 1945 годзе з Мінскай школы гандлёвага навучання. З тых часоў і па сённяшні дзень склаліся пэўныя традыцыі, наша навучальная ўстанова набыла свае адметнасці і непаўторныя асаблівасці. Цяпер каледж ажыццяўляе падрыхтоўку рабочых масавых прафесій і спецыялістаў для гандлю па двух узроўнях адукацыі: прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай. На першы ўзровень вучыцца прыходзяць ва ўзросце 15—16 гадоў на аснове базавай адукацыі і конкурснага адбору — залічваем на падставе сярэдняга бала дакументаў аб адукацыі. А на другі ўзровень — у 17—18 гадоў на аснове сярэдняй адукацыі і выніку ўступных іспытаў па спецыяльных дысцыплінах. На першым узроўні пасля навучання на працягу двух гадоў і дзесяці месяцаў нашы навучэнцы атрымоўваюць дыплом аб прысваенні ім кваліфікацыі «прадавец». Пасля чаго маюць два варыянты: або пайсці працаваць, або паступіць на другі ўзровень і атрымаць сярэднюю спецыяльную адукацыю і спецыяльнасць «таваразнаўца». Для гэтага ім трэба правучыцца яшчэ год і пяць месяцаў.

Як правіла, навучанне ў каледжы на ўзроўні прафесійна-тэхнічнай адукацыі ажыццяўляецца толькі за кошт бюджэтных сродкаў. Гэта абумоўлена і тым, што сістэма адукацыі актыўна выконвае і сацыяльную функцыю. Большасць нашых навучэнцаў — дзеці з малазабяспечаных сем'яў. Яны проста не мелі б магчымасці атрымаць прафесію, калі б ім давялося яшчэ і аплачваць сваё навучанне. На ўзроўні сярэдняй спецыяльнай адукацыі існуюць як бюджэтныя групы, так і платныя. Але аплата невялікая, недзе каля 200 тысяч рублёў у месяц. Апроч гэтага навучэнцы платных груп другога ўзроўню, каб аплачваць сваё далейшае навучанне ў каледжы, могуць працаваць няпоўны працоўны дзень, яны ўжо маюць прафесію прадаўца і кантралёра-касіра. Ды й і заняткі ў каледжы дазваляюць ім гэта. У 15.00 нашы навучэнцы ўжо вольныя, і палова дня ў іх распараджэнні.

І яшчэ. Пасля заканчэння другога ўзроўню большасць выпускнікоў спалучаюць работу па спецыяльнасці з завочным навучаннем у ВНУ. У нас заключаны дамовы пра сацыяльнае партнёрства з тымі ВНУ, куды ў асноўным і паступаюць нашы выпускнікі. Гэта Беларускі гандлёва-эканамічны універсітэт спажывецкай кааперацыі, Інстытут прадпрымальніцкай дзейнасці. На стадыі заключэння дамовы — Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт. Нашы выпускнікі могуць паступаць туды вучыцца на скарочаныя тэрміны навучання. І зноў жа, ім не трэба здаваць шматлікія агульнаадукацыйныя прадметы, а толькі адну дзяржаўную мову і два прадметы па спецыяльнасці.

**— Хто вашыя навучэнцы — мінчане ці іншагароднія, дзяўчаты або хлопцы?**

— У нас вучацца ў асноўным мінчане. Гэта звязана з тым, што пасля заканчэння навучальнай установы нашы выпускнікі

размяркоўваюцца на гандлёвыя прадпрыемствы сталіцы. Асноўны кантынгент складаюць дзяўчаты. Многія з нашых навучэнцаў выбралі менавіта каледж гандлю таму, што склаліся пэўныя сямейныя традыцыі — ісці па шляху сваіх бацькоў, якія таксама гандлёвыя работнікі, таксама выпускнікі нашага каледжа. У дадатак мы штогод праводзім шырокую прафесійна арыентаваную работу з навучэнцамі школ і іх бацькамі. Наш каледж дастаткова папулярны сярод іх.

**— Як складаўся працоўны калектыў каледжа?**

— Кадры выкладчыкаў агульнаадукацыйных і спецыяльных дысцыплін рыхтуюць ВНУ нашай краіны. Да нас прыходзяць выкладчыкі, якія маюць досвед работы ў школах, гімназіях або іншых каледжах. А майстроў вытворчага навучання рыхтуем для сябе самі. Так, з цяперашніх 46 майстроў 19 чалавек у мінулыя гады скончылі наш каледж. Апроч таго, прапануем работу вопытным вытворцам, якія маюць досвед практычнай работы ў гандлі. Адміністрацыяй каледжа праводзіцца мэтанакіраваная работа па павышэнні кваліфікацыі педагагічных работнікаў. Большасць з іх прайшлі падрыхтоўку па тэме «Работа педагога з адоранымі асобамі» і ўдзельнічалі ў семінарах падобнага плана. За шматгадовую паспяховую падрыхтоўку кадраў і выхаванне навучэнцаў калектыў узнагароджаны Ганаровымі граматамі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь і Мінскага гарадскога савета дэпутатаў. Традыцыйнымі сталі конкурсы «Лепшы выкладчык», «Лепшы майстра вытворчага навучання», выстава «Кар’ера і адукацыя», сустрэчы з ветэранамі педагагічнай працы.

Я ўдзячны ўсяму нашаму педагагічнаму калектыву, які славіцца сваімі поспехамі і дасягненнямі і дзякуючы якому нашы выпускнікі паспяхова працуюць на ўсіх прадпрыемствах гандлю сталіцы і краіны. Але асабліва хацеў бы адзначыць намесніка дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце **Людмілу Раманаўну Грыневіч.** Без досведу працы гэтага захопленага, глыбока прафесійнага педагога, таленавітага кіраўніка, цікавага чалавека поспехі нашага калектыву не былі б такімі заўважнымі і значнымі. Адразу пасля заканчэння Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута яна вось ужо 25 год працуе ў сістэме прафесійнай адукацыі. У каледжы Людміла Раманаўна працуе з 1985 года, што сведчыць пра вартую павагі адданасць сваёй прафесіі.

Патрыятычнае выхаванне ў каледжы таксама адно з прыярытэтных у канцэпцыі выхаваўчай працы. Каардынацыйным цэнтрам у гэтым накірунку з’яўляецца клуб «Патрыёт», які ўзначальвае **Іна Іванаўна Бурло.** Выхаванне на гераічным мінулым нашага народа — адно з найважнейшых напрамкаў дзейнасці клуба. Цэнтрам экалагічнай адукацыі і выхавання з’яўляецца клуб «Эколаг». Ён аб’ядноўвае тых, каму дарагія прырода, гісторыя, традыцыі і культура роднай краіны. Кіруе клубам **Алена Ігараўна Кудзелка,** старшыня прафкама, куратар вучэбнай групы. Асобая роля ў дзейнасці клуба адводзіцца краязнаўчым экспедыцыям «Па родным краі». Можна і надалей называць імёны таленавітых педагогаў і выхавацеляў. Усе яны садзейнічаюць паляпшэнню маральна-псіхалагічнага клімату ў каледжы і ствараюць спрыяльны асяродак для развіцця асобы падлетка.

**— Прадавец — гэта заўсёды псіхолаг, ён не мае права на кепскі настрой. Ці вучаць у каледжы псіхалогіі паводзін?**

— Абавязкова. Ёсць спецыяльны прадмет: псіхалогія і этыка дзелавых адносін. Сённяшні прадавец павінен валодаць такімі якасцямі, як стрыманасць, тактоўнасць, цярпенне, уменне саступаць у спрэчках або канфліктных сітуацыях, уменне валодаць сабою, сваім настроем, паводзінамі і мовай. Атмасфера гандлёвай залы і паводзіны прадаўца павінны запэўніць пакупніка ў тым, што ён зрабіў патрэбную яму пакупку. Адсюль і кодэкс паводзін прадаўца, класічны стыль яго адзення, выраз твару і кантроль эмоцый. Старажытная кітайская прымаўка кажа: «Калі вы не пасміхаецеся, лепш не распачынайце гандаль» («Хочаш прадаць — умей пасміхнуцца»).

Асаблівая ўвага ў каледжы надаецца і перападрыхтоўцы выкладчыкаў з мэтай атрымання імі дыплома педагога-псіхолага. Штогод такія дыпломы атрымоўваюць пяць чалавек. Хацелася б адзначыць паспяховую працу ў гэтай галіне нашага педагога-псіхо-



*Педагог-псіхолаг Л. В. Астаповіч.*

лага **Людмілы Васільеўны Астаповіч,** якая пасля заканчэння БДУ і атрымання дыплома філолага скончыла яшчэ і Мінскі дзяржаўны інстытут развіцця адукацыі. Нягледзячы на свой малады ўзрост, Людміла Васільеўна аўтар некалькіх кніг па практычнай псіхалогіі, пераможца гарадскога конкурсу 2007 года «Сталічны настаўнік — сталічнай адукацыі» ў намінацыі «педагог-псіхолаг». За высокія дасягненні ў працы яна двойчы атрымлівала прэміі і гранты Мінгарвыканкама, удзельнічала ў рэспубліканскім конкурсе «Псіхолаг года». Не менш паспяховую працу вядзе і наш сацыяльны педагог **Анастасія Алегаўна Мінкевіч.** Яна фіналіст, а таксама пераможца вышэйзгаданага рэспубліканскага конкурсу «Сталічны настаўнік — сталічнай адукацыі» ў намінацыі «сацыяльны педагог», але ўжо сёлетняга.

Праца сацыяльных педагогаў і педагогаў-псіхолагаў вельмі важная і патрэбная. У нас даволі шмат так званых сацыяльна неабароненых навучэнцаў: выхаванцаў дзіцячых дамоў, дзяцей-сірот, тых дзяцей, якія прыйшлі да нас з няпоўных сем'яў. Па беларускаму заканадаўству мы не маем права адмовіць ім у навучанні ў каледжы, таму бяром іх фактычна без конкурсу. Усім вядома, што такіх дзяцей вельмі цяжка адаптаваць да сучасных умоў навучання, а потым і да працы ў гандлі. З-за таго, што першапачаткова яны былі пакрыўджаны грамадствам, такія дзеці вельмі замкнёныя і засяроджваюцца на сваіх нялёгкіх праблемах. Ім здаецца, што ўвесь свет абавязаны вырашаць іх лёс. Таму нашым педагогам неверагодна цяжка і складана знайсці правільны падыход да іх сэрцаў, выклікаць у іх станоўчыя эмоцыі. Тут патрэбна вельмі тонкая і далікатная выхаваўчая праца, якая і выконваецца з'яднаным і вопытным калектывам прафесійных педагогаў каледжа.

**— А як з творчымі дасягненнямі вашых навучэнцаў?**

— Работа прадаўца прадугледжвае актыўнасць і творчасць у працы, жыцці, наяўнасць добрага густу. Таму нашы навучэнцы маюць магчымасць займацца ў шматлікіх гуртках мастацкай і тэхнічнай творчасці. Гэта калектывы народнага і эстраднага танца, вакальныя студыі, «Джаз-бэнд», гурток цымбалістаў, гурткі студыі «Фітадызайн». Дзякуючы старанням нашых навучэнцаў і кіраўнікоў гурткоў каледж штогод займае першыя месцы ў гарадскіх і рэспубліканскіх конкурсах мастацкай самадзейнасці і аглядах дэкаратыўнай і мастацка-прыкладной творчасці. Традыцыйнымі сталі выступленні на конкурсах мастацкай самадзейнасці «Юнацтва», «Арт-вакацыі», «Беларускі вянок». Яны прыносяць нашым навучэнцам вядомасць не толькі на ўзроўні горада, а і на рэспубліканскім узроўні.

Апроч таго, нашы дзеці з'яўляюцца пастаяннымі ўдзельнікамі алімпіяд, вучэбна-практычных канферэнцый. Так, на II гарадской вучэбна-практычнай канферэнцыі навучэнцаў сярод устаноў прафесійна-тэхнічнай адукацыі «Свет і чалавек» лепшай даследчай работай, якая атрымала найбольшую колькасць балаў, была прызнана праца навучэнкі **Кацярыны Талашавай** «Мянушкі як кампанент анамастычнай прасторы мастацкага тэксту». Кіраўніком даследчай работы з'яўляецца выкладчыца беларускай мовы і літаратуры **Ірына Яўгенаўна Паючэнка.**

Спартыўнае жыццё ў каледжы не менш насычанае. У нас працуюць секцыі па валейболу і баскетболу, настольнаму тэнісу, аэробіцы і агульнай фізічнай падрыхтоўцы. Навучэнцы каледжа з'яўляюцца пераможцамі спартакіяд, гарадскіх і рэспубліканскіх спаборніцтваў.

**— Кожную навучальную ўстанову ўзбагачае міжнароднае супрацоўніцтва. Досвед замежных калег ніколі не бывае лішнім. Ці маеце вы кантакты з партнёрамі з іншых краін?**

— У рамках дамовы пра партнёрства мы падтрымліваем цесныя сувязі з замежнымі аднапрофільнымі навучальнымі установамі — Эканамічным прафесійным цэнтрам нямецкага горада Пірна і Вільнюскім вучылішчам турызму і камерцыі. У працэсе ўзаемных кантактаў мы абменьваемся дэлегацыямі педагогаў і навучэнцаў, удзельнічаем у міжнародных праектах, праводзім сумесныя конкурсы прафесійнага майстэрства.

Усе замежныя кантакты праходзяць на базе клуба «Мы — дзеці Зямлі», якім кіруе выкладчыца замежнай мовы **Іна Уладзіміраўна Макарэвіч.** Так, дзякуючы клубу і нямецкаму фонду «Успаміны, адказнасць і будучыня» зладзілі ўжо дзве сустрэчы: адну — у Германіі, другую — на беларускай зямлі. Сустрэчы адбываліся ў межах праекта «Мір для Еўропы — Еўропа для міру», падчас якога яго ўдзельнікі сустрэліся са сведкамі і ветэранамі Другой сусветнай вайны, пазнаёміліся з гісторыяй і традыцыямі дзвюх краін, атрымалі магчымасць кантакту з носьбітамі нямецкай мовы. Незабыўнае ўражанне атрымалі нашы дзеці пасля наведвання Дрэздэнскай галерэі і Каляднага кірмашу. А сумесныя вечары адпачынку паспрыялі ўзаемаразуменню і сяброўскім сувязям паміж аднагодкамі з Германіі і Беларусі.

**— Сённяшні свет імкліва мяняецца. Адны прафесіі робяцца больш запатрабаванымі, другія — менш. Якія перспектывы ў вашых выпускнікоў?**

— У першую чаргу мы задавальняем запатрабаванасць у працоўных кадрах і спецыялістах сваіх базавых арганізацый, з якімі ў нас заключаны дамовы пра ўзаемадзейнасць. Гэта ГУМ, універмаг «Беларусь», Гандлёвы дом «На Нямізе», універсам «Першамайскі», «Завадскі райхарчгандаль» і іншыя. Варта адзначыць, што, нягледзячы на складаную фінансава-эканамічную сітуацыю, нашы выпускнікі запатрабаваны на сталічным рынку працы. І мы на працягу апошніх трох гадоў пры размеркаванні не ў стане задаволіць усе заяўкі на гандлёвых работнікаў.



*Выкладчыца беларускай мовы і літаратуры І. Я. Паючэнка.*

**— Ці магчыма параўнаць часы вашай вучобы ў маладосці з сённяшнім жыццём і вучобай навучэнцаў каледжа? Што страчана, а што набыта?**

— У часы маёй маладосці былі толькі дзяржаўныя навучальныя ўстановы, з абмежаваным наборам студэнтаў і з конкурсамі нашмат большымі, чым цяпер. У гэтых навучальных установах не было платных месцаў. І калі ты не прайшоў па конкурсу — шукай працу і рыхтуйся самастойна. Маё навучанне ў Мазырскім педагагічным інстытуце запомнілася на ўсё жыццё, але праляцела вельмі хутка. Студэнты тых часоў былі вельмі актыўнымі і мэтанакіраванымі, да вучобы ставіліся адказна. Вольнага часу амаль не было — апроч лекцый, семінараў, студэнцкіх навуковых канферэнцый, іспытаў былі занятыя спортам, удзельнічалі ў будатрадах. Шмат хто сам зарабляў сабе на жыццё: падпрацоўвалі па начах на мясакамбінаце, разгружалі вагоны, удзельнічалі ў масоўках на здымках фільмаў, часам выкладалі ў школах. Гэта ўсё і дазволіла мне не толькі выдатна скончыць інстытут, але і выканаць нарматыў кандыдата ў майстры спорту па лёгкай атлетыцы, атрымаць вадзіцельскія правы, кваліфікацыйныя разрады па трох працоўных прафесіях.

На маю думку, сённяшняя моладзь, на жаль, не прывучана да актыўнай працы,



*Калектыў народнага танца.*

іх найперш хвалююць праблемы вольнага часу… Яны больш разлічваюць на дапамогу бацькоў, не толькі цягам навучання, але і ў далейшым, ужо дарослым, жыцці. Мне падаецца, мы ў свой час былі больш адказнымі і самастойнымі. І зноў жа, я не хачу абагульняць усё маладое пакаленне. Сярод моладзі шмат таленавітых і здольных праявіць сябе не толькі ў вучобе, але і ў спорце, самадзейнасці, мастацкай творчасці. Мы намагаемся ў кожным са сваіх навучэнцаў убачыць асобу, даць магчымасць рэалізаваць сябе. Шмат каму з дзяўчат і хлопцаў гэта ўдаецца. Пра іх дасягненні мы казалі вышэй.

**— Уладзімір Аляксандравіч, вашы асабістыя пажаданні, а магчыма, і перасцярогі тым, хто збіраецца паступаць у Мінскі дзяржаўны ПТК гандлю?**

— Галоўнае патрабаванне, ды і пажаданне адначасова да асобы будучага гандлёвага работніка — камунікабельнасць, карэктнасць, вытрымка, цярпенне і любоў да працы. Не варта паступаць у каледж гандлю тым, каму цяжка кантактаваць з людзьмі.

У той жа час мы ўпэўнены, што кожны, хто паступіць да нас у каледж, адчуе, як творча падыходзіць да сваёй справы наш калектыў. А гады вучобы ў ім назаўсёды застануцца ў памяці. Выпускнікі каледжа высока ацэньваюцца на рынку працы. Шмат хто з іх дасягнуў поспехаў у кар'еры. Так што шчыра запрашаем у Мінскі дзяржаўны прафесійна-тэхнічны каледж гандлю — лепшую навучальную ўстанову Беларусі для атрымання прафесій прадаўца, кантралёра-касіра, таваразнаўцы.

**P. S.** ***Вядома, што ў такой старажытнай культуры, як кітайская, існавалі свае выслоўі і правілы, звязаныя з не менш старажытнай з'явай — гандлем і прадаўцамі. Але наша культура таксама дастаткова старажытная, і яна таксама захавала некаторыя прымхі і забабоны на гэты конт. Да прыкладу, перад тым як распачынаць гандаль старадаўні гандляр-купец меўся прачытаць замову: «Зорак не сасчытаць, пахату рукамі не размяць, слова маё з мяне не зняць. Я купец, са мной мой вянец. Як пчолы на мёд ляцяць, так усе на мой тавар глядзяць. Забраць хацяць. Амінь». Пры гэтым купец мыў твар і абціраўся хустачкай, якую потым браў з сабою на гандаль.***

***З гандлёвымі людзьмі, гандлем звязаны шэраг магічных паняццяў. Вядома, што славянскі бог нябеснага святла і ўвасаблення Сонца Светавіт быў апекуном мастацтва і гандлю. Кожны купец не мог карыстацца сваім правам гандлю, не заплаціўшы боству ахвяры. Арабскі пісьменнік-падарожнік Ібн-Фацлану пакінуў апісанне такой ахвяры на славянскіх землях: каб атрымаць багатага пакупніка, перад пачаткам гандлю купец прыносіў Светавіту ў дар хлеб, мяса, малако, хмельны напой. У выпадку ўдачы купец-гандляр прыносіў яшчэ і падзячную ахвяру.***

***Вось так. Мо і насамрэч шанцавала?***

***Гутарку вяла ІРЫНА КЛІМКОВІЧ.***

# УБАЧЫЦЬ ЗОРКАПАД!..



Яшчэ зусім нядаўна знаходзіліся скептыкі, якія маглі натхнёна спрачацца на тэму: «Якая карысць з таго, што нехта назірае за начным небам?!» Мо нават і сёння яшчэ ёсць такія, хто заяўляе: маўляў, законы фізікі дапамагаюць будаваць механізмы. А механізмы аблягчаюць працу. Ёсць шмат вартасцей нават у матэматыкі. Што ўжо казаць пра хімію, біялогію ды іншыя «канкрэтныя» навукі!.. Але ж без астраноміі людзі не маглі б арыентавацца на мясцовасці. А значыць — не трымалі б у памяці і не маглі б паведаміць сябрам, знаёмым свае адрасы. Як жа без астранамічных ведаў вызначыць дні тыдня?! Так бы і любімыя выхадныя — суботу і нядзелю — прапусцілі. Без астраноміі не ведалі б, якая гадзіна ў той ці іншы момант.

Словам, астраномія была надзвычай запатрабавана. І калі ж яе ў такім разе прыдумалі?.. Тысячы і тысячы гадоў назад. Адвечнай спадарожніцай астраноміі была астралогія. А калі астраномія пачала развівацца ўсе шырэй, бо ў яе з'явіліся адгалінаванні, дысцыпліны ўскоснага характару? Прыкладам, астрабатаніку прыдумаў наш зямляк — ураджэнец Смалявіч, што знаходзяцца на Міншчыне, **Гаўрыла Андрыянавіч ЦІХАЎ** (1875—1960). Дарэчы, што такое астрабатаніка? Раздзел астрабіялогіі, які прысвечаны даследаванню мяркуемай расліннасці на планетах Сонечнай сістэмы. У асноўным — на Марсе. Галоўным пацверджаннем наяўнасці расліннасці на Марсе лічыліся сезонныя змены. У тым ліку і знікненне палярных шапак, а таксама пацямненне некаторых участкаў планеты. І гэтыя акалічнасці былі галоўнымі ў перакананні, што на Марсе павінна быць расліннасць. Адрозненні ж аптычных уласцівасцей цёмных абласцей гэтай планеты ад аптычных уласцівасцей зямной расліннасці (адсутнасць у спектры паласы насычэння хларафілу, малая здольнасць адлюстравання ў чырвонай вобласці спектра) разглядаліся як вынік прыстасавання да надзвычай суровых марсіянскіх умоў. Часткова гэта назіраецца і на Зямлі — на Паміры, у Паўночнай Сібіры і іншых падобных мясцінах. Праўда, прамых доказаў існавання расліннасці на Марсе і другіх планетах метады астрабатанікі, шматгадовыя назіранні Гаўрыіла Ціхава не далі. Пакуль што не далі... Дзеля чаго ў такім разе трэба было гадамі, дзесяцігоддзямі праседжваць начамі ля тэле-

скопа?.. Наш зямляк прыдумаў не толькі астрабатаніку. Але ж аб усім па парадку. Нарадзіўся Гаўрыла ў сям'і чыгуначнага службоўца. Што ўяўлялі ў 1875 годзе Смалявічы?.. Калі ў 1850-я гады ў мястэчку пражывала каля 800 жыхароў, то ў 1897-м — ужо 2757... Развіццё паселішча напрамую было звязана з будаўніцтвам чыгункі. Станцыю ў мястэчку, праз якое пралегла Маскоўска-Брэсцкая чыгуначная лінія, назвалі Вітгенштэйнаўскай. І такую назву яна насіла да 1830 года. У мястэчку мелася валасная ўправа. Працавалі дзве царквы. У 1863 годзе было адчынена земскае народнае вучылішча. Працавалі бровар, рамесныя майстэрні па вырабе адзення і абутку, 8 кухняў. Да паслуг местачкоўцаў і жыхароў ваколіц мелася паштова-тэлеграфнае аддзяленне.

У 1897 годзе Гаўрыла Ціхаў заканчвае Маскоўскі універсітэт. Наступныя некалькі гадоў праводзіць у Сарбоне. І працаваў практыкантам у Мядонскай абсерваторыі пад кіраўніцтвам прафесара П. Ж. С. Жанслена. Вярнуўшыся ў Маскву, атрымаў ступень магістра. Затым два гады выкладаў у Маскве і Екацярынаслаўлі. Як толькі ў 1912 годзе ў рускім таварыстве аматараў светлазнаўства была ўсталявана астранамічная секцыя, стаў яе старшынёю.

І ўсе гэтыя гады малады чалавек настойліва займаецца навуковай работай. У 1898—1908 гадах Гаўрыла Ціхаў прапаноўвае два метады пошуку дысперсіі святла ў міжзоркавым асяродку — па рознасці фаз промневых хуткасцей спектральнадвайных зорак і па рознасці фаз крывых бляску пераменных зорак, атрыманых па назіраннях у розных участках спектра. Адным з першых наш зямляк пачаў прымяняць метад светлавых фільтраў у астраноміі.

У 1906 годзе Ціхаў пачынае свае назіранні за зоркамі ў Пулкаўскай абсерваторыі. Атрымлівае першыя фотаздымкі Марса ў розных участках спектра. Знайшоў рознасць памераў і яскравасці яго палярных шапак у розных абласцях спектра. Устанавіў існаванне блакітнай дымкі ў атмасферы гэтай планеты. Ужо з пачатку навуковай працы Ціхаў вылучаўся і як вучоны-практык. Таму ў пярэдадзень Першай сусветнай вайны рыхтуе і выдае кнігу «Паляпшэнне фатаграфічнай і візуальнай паветранай разведкі». І ўсё ж галоўная ўвага — планетам, далёкім і загадкавым.

Марс як самая старая планета захапляе, бярэ ў палон маладога, але ўжо вопытнага астранома. Загадкі Марса ўваходзяць у свядомасць чалавецтва з адкрыцця Скіяпарэлі. Якраз падчас аднаго з набліжэнняў планеты, якую яшчэ называюць Богам вайны, італьянскі астраном заўважыў на паверхні далёкай «зоркі» (усяго на адлегласці 55 мільёнаў кіламетраў) цэлую сетку роўных прамых ліній. А тады якраз самай вялікай навіной на Зямлі было будаўніцтва і праектаванне каналаў: Суэцкі, Панамскі, Кільскі… Пройдзе час, і пісьменніца В. Жураўлёва правядзе цікавае параўнанне гістарычных падзей з сенсацыйнымі адкрыццямі на Марсе: «...Пазней высветлілася, што амаль за сто гадоў да Скіяпарэлі розныя назіральнікі нанеслі на карты Марса каля 60 «каналаў». Але ніхто не агучыў самога слова «каналы» і ніхто не выказаў гіпотэзы пра іх штучнае паходжанне. Давялося чакаць, пакуль на Зямлі пачнецца эпоха будаўніцтва вялікіх каналаў. Толькі тады ў цёмных прамых лініях, якія прарэзваюць марсіянскія мацерыкі, вучоныя ўбачылі каналы!»

Выходзіць, што такія яны ўжо фантазёры — шукальнікі зор?! Але ж, пэўна, без фантазій, без вобразнага мыслення наўрад ці Гаўрыла Андрыянавіч прыдумаў бы гіпатэтычную навуку астрабатаніку. У 1949 годзе Ціхаў нават і кнігу выдасць — «Астрабатаніка». Але ж не толькі Марс вабіў уважлівага назіральніка за зоркамі. У 1909—1911 гадах наш зямляк выконвае колераметрычныя даследаванні Сатурна, адной з найпрыгажэйшых планет нашай сістэмы. У 1922 годзе Ціхаў даследуе Уран і Няптун. Багаты матэрыял, які назапашваецца гадамі, прымушае да ўважлівага аналізу, падштурхоўвае да навукова-публіцыстычнай дзейнасці. Менавіта Ціхаў з назіранняў попельнага святла Месяца ўпершыню ўстанавіў, што Зямля пры назіранні з космасу павінна мець блакітнаватае адценне. А да першага палёту ў космас

заставалася яшчэ 47 гадоў... У 1937 і 1951 гадах Ціхаў выдае каталогі колераў каля 18 000 зорак у выбраных пляцоўках Каптэйна. Гаўрыла Андрыянавіч праявіў сябе як адмысловы вынаходнік у астранамічнай галіне. Яшчэ ў 1912 годзе прапанаваў канструкцыю прыбора для рэгістрацыі і ўзнаўлення мярцання зорак. У 1917 годзе Ціхава прызываюць у войска. Астраном займаецца праблемамі аэрафотаздымкі. Распрацоўвае тэхніку фатаграфічнага працэсу. Шукае метады змяншэння ўплываў паветранай дымкі. Праводзіць аптычныя даследаванні прыроднага ландшафту. А ў 1936 годзе адкрыў анамальную дысперсію святла ў атмасферы, а яшчэ распрацаваў арыгінальны прыбор («сапфірны цыянаметр») для вывучэння святла дзённага неба.

Навуковая слава Ціхава ўсё болей і болей шырылася. Па маштабах зробленага ён нагадваў старэйшага свайго земляка — ураджэнца Слуцка, легендарнага рускага і савецкага астранома Вітольда Карлавіча Цэсарскага (нарадзіўся ў 1849 годзе). Гаўрыла Андрыянавіч — нястомны ўдзельнік многіх навуковых экспедыцый. У тым ліку — і 5 экспедыцый для назірання за поўнымі сонечнымі зацьменнямі (у 1914, 1927, 1936, 1941, 1945 гадах).

З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны Гаўрыла Андрыянавіч пакідае Ленінград. У эвакуацыі знаходзіцца ў Алма-Аце. Дарэчы, ехаў сюды спярша, каб толькі правесці назіранні за сонечным зацьменнем 21 верасня 1941 года. На той час Ціхаў ужо быў членам-карэспандэнтам Акадэміі навук СССР (1927). А ў Казахстане востра стаяла пытанне стварэння рэспубліканскай Акадэміі навук. Разам з вучонымі К. Сатпаевым, У. Фясенкавым і другімі Гаўрыла Андрыянавіч займаецца і гэтым клопатам. У 1946 годзе Ціхава выбіраюць акадэмікам Акадэміі навук Казахстана. І ўсё далейшае жыццё нашага земляка звязана з Алма-Атой, Казахстанам. У Алма-Аце выходзяць і «Асноўныя працы» Г. Ціхава ў 5 тамах. Да ранейшых кніг і публікацый дадаюцца «Астрабіялогія» (1953), грунтоўны том успамінаў «Шэсцьдзесят гадоў ля тэлескопа» (1959). З 1946 года і да канца жыцця (памёр вучоны ў 1960 годзе) акадэмік узначальваў арганізаваны ім сектар астрабатанікі пры АН Казахскай ССР. Навуковыя здабыткі Гаўрылы Андрыянавіча адзначаны ордэнамі Леніна, Працоўнага Чырвонага Сцяга, прэміяй Парыжскай акадэміі навук, двойчы — прэміямі Рускага астранамічнага таварыства. Імем Г. Ціхава названы кратэры на Марсе і Месяцы, а таксама малая планета 2251, якая адкрыта астраномам Н. Чарных 19 верасня 1977 года ў Крымскай астрафізічнай абсерваторыі.

Жыццё славутага астранома завяршалася, калі жыхары планеты Зямля пачыналі асвойваць космас. Да астраноміі вядомай, традыцыйнай пачалі дадавацца новыя адгалінаванні. Хуткасць плённых даследаванняў і адкрыццяў пачала істотна павялічвацца. І ўсё ж зробленае, знойдзенае, а найперш падгледжанае на начным небе шукальнікам зорак Гаўрылам Ціхавым з’яўляецца фундаментам на доўгія стагоддзі ў развіцці астраноміі.

***Кастусь ЛАДУЦЬКА***

Мікола МІРШЧЫНА

# ДУША АДКРЫТАЯ...


Акуліна Андрэеўна Барадуліна.
Сакавік 1970 года.

***Памятаю, якімі ўражлівымі аказаліся для мяне асабіста публікацыі пісьмаў Віктара Астаф'ева, адрасаваныя маці. Калі такое выносіцца на людзі — заўжды адчуваеш сябе і адказным чытачом... Размова сына з маці, успамін пра маці — гэта перажыванні, асэнсаванні надзвычай эмацыянальнага характару, пражыванне яшчэ аднаго жыцця, некалі ўжо адкрытага... «Паслаў бы табе душу...» — так назваў паэт Рыгор Барадулін кнігу, у якую ўклаў ліставанне з мамай, Акулінай Андрэеўнай Барадулінай (1954—1971)... Што ў ёй паэзія, што проза... другі паэт, які напісаў прадмову да кнігі, заўважыў і такое: «Калі й не хапала ў беларускім прыгожым пісьменстве нейкай кнігі, дык такой. Гэтую кнігу ліставанняў Маці і Сына будуць чытаць, патанаючы ў глыбінях пачуццяў, выяўленых з такой шчырасцю, якая толькі магчымая ў чалавеку. Сын у сваіх лістах, каб выглядаць шчаслівейшым і багацейшым, часам спрабуе ў нечым схітрыць і нават спытаць, хітруючы: «Што табе яшчэ зманіць?..» А ў маці ніякіх хітрыкаў, ніякай маны ні ў чым ніколі: «Жду тибе, мой сынок, хочацца тибе відеть, раказаць усё сваё гора и роскаш...»***

***Ёй выглядаць не трэба, навыглядалася...***

***Шчымлівае чытво... І шмат у чым (калі нібыта, як цябе самога, спазнаў чалавека, побач з якім пражыў паўжыцця) нечаканае. Чытаеш — і яшчэ раз пераконваешся: не ведаем мы адзін аднаго (усе ўсіх), якія мы ні ёсць блізкія. Так, не зведаўшы, і развітваемся навечна. Калі выпадкова (як праз гэтыя лісты) не зазірнём у спраты, у схновы сваіх сяброў, дзяцей, бацькоў...» Чытаеш лісты маці Акуліны Андрэеўны, чытаеш лісты сына — народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна, пры жыцці стаўшага класікам айчыннай літаратуры, і бачыш адкрытае насцеж жыццё, бачыш падстаўленыя вятрам нягод і***

***трывог пачуцці, сардэчныя перажыванні. І, канечне ж, думаеш пра сваё, уласнае, а гэта ўжо — адзнака сапраўднага мастацтва, сапраўднай паэзіі... І сцелюцца перад вачыма эпісталярныя літаркі, бы верлібры, здольныя пранікнуць у самыя глыбокія цянёты падсвядомасці.***

***Такое, што сабралася і ўклалася ў гарачую, пякучую да сарамлівасці кнігу, не прыдумаеш... Адкрыйце старонкі сыноўняй шчырасці, мацярынскай любові — і вы станеце на адно сэрца багацейшымі, задумаецеся, дзеля чаго і ў імя чаго ўсе жыццёвыя мітрэнгі, навошта многія пустыя памкненні і як увогуле жыць, дыхаць далей, ведаючы, дзе твой род, дзе твае вытокі...***

[31 снежня 1960 г.]

*Дарагая, любая мамачка!*

*Даўно не пісаў табе, даўно не пытаў, як кукуе адна мая зязюлька баравая, шэрая?*

*Родная мамачка, хацеў, каб Новы год прайшоў дужа добра, але не заўсёды тое бывае, што хочаш. Мамуленька, рэдкай госцяй ты бываеш у мяне, а добра прыняць цябе не магу. Пачакай, родная, будзе свая кватэра ў мяне — інакш усё пойдзе. Будзе вавёрка, будзе і свісток! Як я да цябе прыязджаю — мне хараша, добра, а як ты да мяне — усё не так атрымліваецца, як хочаш. Прабач, мая дарагая, залатая, палавіна серабра, калі што не так сказаў, калі што не так зрабіў. Забегаўся, замітусіўся. Паехала ты, і мне неяк стала сумна, нечага стала не хапаць, і такое адчуванне, што ты пакрыўдзілася на мяне. Даруй, дарагая Акуліна Андрэеўна, за ўсё дрэннае, за ўсё непрыемнае, што ты бачыла ад мяне.*

*Вельмі хочацца дадому, вельмі хочацца да цябе. Вось разлічуся з усімі зборнікамі, перакладамі, здам усе матэрыялы ў нумар і да мамачкі паеду — ту-ту. Сустракай, Андрэеўна, Інюка злога. Сёння Новы год, віншую цябе. Хацелася б дужа паскакаць дома каля ёлкі. Мамачка, у мяне ўсё дужа добра. Работы многа, але я патроху раблю. Ем дужа-дужа добра, ем цукар, кавы з каньяком болей не п'ю, не варта табе хвалявацца. Ты хацела, каб я не мёрз, дык купіў сабе дзве пары цёплай-цёплай бялізны, тоўстая — у палец — з такім начэсам касматым. Цяпер твайму сыну і на Паўночны полюс не страшна ехаць.*

*Мама, напішу, што я раблю.Канчаю пераклады ў тую кніжку з яўрэйскага, здаю свой новы зборнік, пераклаў вельмі хуткімі тэмпамі для «Полымя» адзін доўгі верш украінскага паэта*[1]*, напісаў вершы для свайго часопіса*[2]*, пісаў рэцэнзію, падрыхтаваў некалькі вершаў для «Огонька» — вядомага рускага маскоўскага часопіса. Як бачыш — спраў, як у земскага.*

*Мамуленечка, пасля 20[-га] чысла ці сам прывязу, ці прышлю табе трошку грошай — каб ты глядзела сябе, шанавала сябе, — ты ж у мяне адна, мая залатая мамачка, зязюлька баравая, дарагая Акуліна Андрэеўна, якая чакае мяне, якая помніць пра мяне, якая мне жадае столькі добрага, як ніхто ніколі не будзе.*

*Рукі твае, галаву тваю цалую.*

***Рыгорка.***

[1] Тычына П. У Чарнобылі: З дзённіка (Полымя, 1961, № 3).

[2] Металалом — не пад сталом; Брат; Казка пра падказку (Бярозка, 1961, № 2).

[Студзень 1961 г.]

## *Добрага здаровья майму сыночку!*

*Палучыла тваё дужа тёплае письмо. Бальшое спасиба, сыночак, за всё тваё, табе не нада так и думать, што мне у тибе дрэнна было ти не так сказав, ти не так праважав. Усё ты делав, як тольки мог, мог для мене, як самый лучший сынок для мамы. Ты у мене тольки адин такий, ни у каго таких нет сынков, гэта бог мне тибе дав, на маё гора узглянув. Як успомню, як служила, гаравала и удавой асталась, як робила: и страителем была, и мулярам, и столерам, и касцом, и жнеёй. Сама касу била, сама пилу тачыла, на сваих плечах усё вазила, и каго тольки не абшила, и скольки тольки грази вымыла и николи не думала, што гэтаму канец будеть. А всё ж прышов канец майму труду. А за ким же гэта стала мне так жить? Усё ж за табой, мой сыночак, мой каласочак, мая слёзка гарачая, маё совненька яснае. За табой я выспалась, за табой руки стали не балеть и на руки стали пахожи, а то были як грабли. И надета, и абута, и пад'евшы, и грошы есть, а всё ж, сыночак, за табой. Спасиба, спасиба, спасиба, сыночак мой любый.*

*Сегодни перадавали па радиву 2 верши тваих: каб дождь агурочки маи палив*[1]*, а другий: як на каланче увесь свет видев, а на самай справе большиий свет, як на каланче*[2]*. Детачка маё любая, усё-тки ты дужа многа працуеш. Сынок мой, як мне б хателася, каб ты па силе працавав, каб сваю галовачку прашанавав. Детачка, паменьш грошы прысылай, гляди сибе, у мине грошы ёсть. Як я рада, што ты купив сабе тёплае бельё, гляди, сыночак, наси, типер мароз, шануй сибе, не закаляй сибе у халады.*

*Можа, як справисся з работай, прыедь. Мой каласочак, выберы пагоду, каб не дужа халодная была, каб не прастыв. Дужа мне хателась, каб ты прыехав, пакармить тибе калбаскай, трыбушок налить крупками и пажарыть, холоднага зварыть, клёцачак, поливачки, рабрынак пажарыть, а не — так зварыть. Во, мой сыночак, скольки у мине табе миню прыгатовлена. Тольки усю гразную адежу вези мыть.*

*Ну, сыночак, живи шчаслив, здаров, весёлым. Цалую галовачку, шийку, бародку.*

***Мама.***

*Прывет малой и усего добрага. Як ена там с учобай, можа, не загардица, прыедет?*

---

[1] «Паштоўка да маці».

[2] «Каланча».

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## Валожынскі раён

**Музей Буднага Сымона.** Адзіны ў сваім родзе музей С. Буднага адкрыты ў кастрычніку 1984 г. пры мясцовай 8-гадовай школе. Заснаваны намаганнямі В. Канановіча, настаўніка гісторыі. Музейны фонд складае прыкладна 500 экспанатаў, у тым ліку больш за 200 арыгінальных. Сярод іх — каляровы партрэт С. Буднага, намаляваны самадзейным мастаком Уладзімірам Дурко. На школе — мемарыяльная дошка (устаноўлена ў 1983 г.).

**Буднага Беняша,** дзеяча беларускай культуры XVI—XVII стст., пісьменніка, перакладчыка, верагоднае месца нараджэння. Скончыў Кёнігсбергскі (Каралявецкі) пратэстанцкі універсітэт. Да 1594 г. жыў пры двары беларускіх магнатаў Ф. Скуміна, А. Храптовіча, потым служыў у М.-К. Радзівіла. Яго асноўны твор «Кароткія і ясныя аповесці», якія па-грэчаску называюцца «Апафегматы» (Вільня, 1599), у XVII ст. вытрымаў 11 выданняў, у 1711 г. па загаду Пятра I перакладзены на рускую мову і надрукаваны ў Маскве. Пераклаў трактаты Цыцэрона «Аб старасці» (1596), «Аб дружбе» (1603).

**Лойка Алег,** паэт, прысвяціў Лоску верш «На гарадзішчы ў Лоску».

Хто ўздымаўся сюды, не загіне.
І, не верачы, веру ў цуды:
Крок ступлю і ўбачу Скарыну,
Крок яшчэ, і сустрэнецца Будны!..

**Вёска Люціна** Яршэвіцкага сельсавета

На хутары гэтай вёскі нарадзіўся (2.1.1945) паэт **Банецкі Іван**. Рос без бацькі. Пасля васьмігодкі закончыў Мінскае будаўнічае вучылішча № 25. Разам з усёй групай размеркаваны на Валагодчыну. Будаваў Волга-Балтыйскі канал. Закончыўшы вячэрняе аддзяленне юрфака БДУ (1974), стаў кандыдатам, затым доктарам юрыдычных навук, прафесарам, заслужаным юрыстам рэспублікі, намеснікам начальніка Акадэміі МУС па навуковай рабоце (з 1988 г.). Піша па-беларуску і па-руску. Аўтар зборнікаў «Мой лёс», «Бліжэйшы круг», «Спадзяюся, веру і люблю!». Родным мясцінам прысвяціў верш «Каля вёскі Люціны».

**Вёска Люцынка,** побач з ёй быў фальварак В. Дуніна-Марцінкевіча, дом знаходзіўся (да 1950 г.) у Пяршайскім сельсавеце.

Выйшаўшы ў адстаўку, 8 красавіка 1840 г., папярэдне ўзяўшы буйныя пазыкі, Дунін-Марцінкевіч Вінцэнт купіў у межавога суддзі Алойзія Сялявы невялікі фальварак Люцынка разам з 11 валокамі зямлі і жыў тут да канца сваіх дзён. Толькі тут, ужо амаль у 40-гадовым узросце, Марцінкевіч усур’ёз займаецца літаратурнай творчасцю, піша тэксты да музычных вадэвіляў, лібрэта першай беларускай оперы «Ідылія», вершаваныя аповесці, фарсы-вадэві-

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1 за 2010 г.

лі, гістарычныя паэмы, лірычныя вершы, «Пінскую шляхту». У сваім пасланні беларускаму этнографу, археолагу, публіцысту А. Кіркору пісьменнік тлумачыў, як з Ашмян праехаць да яго ў Люцынку: «...Гэта ж не вельмі далёка — праз Лебедзева, Хожава, Ізабелін да Гарадка, а адтуль дарогай у Люцынку Марцінкевіча». У аснову гістарычнай паэмы «Люцынка, альбо Шведы на Літве» (1857) пакладзена легенда, пачутая пісьменнікам у наваколлях вёскі:

Дом стаіць на пагорку — лес вакол, алешнік,
Сад за домам, а ў садзе — ігрушы, чарэшні.
З ганка ступіш і бачыш — лес воддаль, яліны...
Дзеліць лес напалам стужка сіняй Люцыны...
Невялікая рэчка, ды рыбы ў ёй поўна,
А пры рэчцы — крыніца з вадою цудоўнай...»

У «доме на пагорку» быў самадзейны музычны тэатр, дзе сваімі сіламі, пры ўдзеле музычна адораных дзяцей пісьменніка, а таксама сяброў, суседзяў выконваліся жартоўныя п’есы, вадэвілі, опера «Ідылія», музыку да якой напісалі сябар Марцінкевіча Станіслаў Манюшка і мінскі музыкант Крыжаноўскі.

Дамок мой любы! — бачу з кожнай хвілінай,
Што нашы дні жыцця ідуць к зямлі няспынна.
Мы разам пастарэлі, час той недалёкі,
Калі ахопяць нас з табой нябыту змрокі.
Як той марак, які з надзеяй на нябёсы
Стыхіям здрадным часта давярае лёсы,
Сваім гандлёвым справам поўнасцю адданы,
І смела сустракае буры й ураганы, —
Так мы з табой тут розныя сустрэлі часы,
Былі ў нас буры і дні майскае акрасы,
А ўсё мінулае, як быццам воч імгненне,
Як сноў прыемных ці нядобрых летуценне.
Так любы мне тут кожны кут між сцен пахілых,
Што шмат ён памятак гадуе сэрцу мілых.

***[Паэма «З-над Іслачы, або Лекі на сон» (1868), пераклад П. Бітэля.]***

Нягледзячы на паліцэйскі нагляд, у Люцынцы была «прыватная школка», арганізаваная дочкамі Марцінкевіча для дзяцей сялян і рамеснікаў. У артыкуле «В. Марцінкевіч у прыватным жыцці», апублікаваным у 1910 г. у «Нашай ніве», **Ядвігін Ш**. (сапр. Лявіцкі Антон), пісьменнік, ураджэнец в. *Добасна* Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл., пісаў: «У 1877—1878 гадах давялося мне жыць пад страхой нашага песняра: дачка яго вучыла невялікую грамаду дзяцей». Адным з шасці вучняў Люцынскай школы быў будучы пісьменнік, публіцыст Антон Лявіцкі. «Антон, 7 гадоў, сын адстаўнога паручніка Івана Пятрова Лявіцкага, які служыць лоўчым у маёнтку Пяршаі графа Венядзікта Міхайлова Тышкевіча, а пражывае ва ўрочышчы Раман за 6 вёрстаў ад Люцынкі», чытаем у «Сакрэтнай справе канцылярыі папячыцеля Віленскай навучальнай акругі аб закрыцці тайнай школы ў маёнтку Люцынцы...»

«Неўзабаве пасля смерці Дуніна-Марцінкевіча люцынскі дом згарэў, пайшла з дымам і большая частка працы гэтага заслужанага для нашай Бацькаўшчыны чалавека» (Ядвігін Ш.). Але амаль на тым жа падмурку нашчадкі пісьменніка пабудавалі новы дом, у якім Ядвігін Ш. пабываў у 1910 г. ужо ва ўнучак песняра. Гэты новы дом прастаяў да 1950 г. Праўнучка Марцінкевіча выехала з Люцынкі, пусты дом быў разабраны і перавезены ў суседнюю вёску пад школу.

Цяпер ад дома застаўся каменны фундамент, тры ступенькі ад былога ганка. Растуць старыя яблыні, клёны з ранейшых часоў. Доўгі час расла ліпа, узрост якой вызначалі ў 200 гадоў (павалілася ў 1985 г.). Паводле падання, пад ёй была напісана «Пінская шляхта». Цяпер на месцы старога дрэва расце маладая ліпа.

13.7.1986 г. каля былой хаты Дуніна-Марцінкевіча, на ўзгорку, адкрыты памятны камень з барэльефам драматурга (аўтар Якавенка) і надпісам: «На гэтым месцы стаяў дом, у якім з 1840 па 1884 год жыў вядомы беларускі паэт, драматург, тэатральны дзеяч і асветнік Вінцэнты Дунін-Марцінкевіч». У Мінску з’явілася Люцынская вуліца.

**Законнікаў Сяргей,** паэт, ураджэнец в. *Слабада* Бешанковіцкага р-на Віцебскай вобл., прысвяціў гэтым мясцінам верш «Ліпа Дуніна-Марцінкевіча» (Літаратура і мастацтва, 1988, 18 сак.)

**Вёска Лягезы** Ракаўскага сельсавета

**Шніп Віктар**, паэт, ураджэнец в. *Пугачы* гэтага ж раёна, прысвяціў вёсцы вершы «Вёска Лягезы», «Мая вёска».

**Вёска Малая Люцінка** Пяршайскага сельсавета

**Кужоўнік Ядвігі** (н. 21.6.1970), паэтэсы, радзіма. Скончыла Пяршайскую СШ, дзе і працуе цяпер настаўніцай беларускай мовы. Аўтар паэтычнага зборніка «Абмыта чэрвеньскім дажджом» (2004).

**Вёска Новы Двор** Залескага сельсавета

Тут бываў **Купала Янка** ў Рыгора Грычана — каваля панскага бровара («Каваль Грэгуж»). Тут дзеці Грычана ўпершыню чыталі «Жалейку» Купалы, якую спачатку прыносіла ў дом гувернантка панскіх дзяцей, а пазней гэтую ж кнігу з гордасцю вазіў з сабою дзядзька Антоні, бо яна была з аўтарскім надпісам.

Янка Купала паспрабаваў уладкавацца памочнікам вінакура на бровар да навадворскага пана Валатковіча. Падцягнуты, інтэлігентнага выгляду малады чалавек (а пасада памочніка вінакура зводзілася да фізічнай работы) не даспадобы прыйшоўся пану, і ён адмовіў словамі: «Ды пан больш да полькі, чым да заціркі».

**Вёска Падневічы** Пральніцкага сельсавета

На вясковых могілках пахаваны **Дунін-Марцінкевіч Вінцэнт**.

**Вёска Паплаўшчына** Пяршайскага сельсавета

Тут, у маёнтку графа Тышкевіча, жылі бацькі **Ядвігіна Ш**. (Антона Лявіцкага), прайшлі дзіцячыя гады будучага пісьменніка. Адсюль ён хадзіў у школку В. Дуніна-Марцінкевіча ў *Люцынцы*. Дом добра захаваўся. У ім цяпер Пяршайскае лясніцтва.

**Вёска Паморшчына** Ракаўскага сельсавета

Бацька **Купалы Янкі**, Дамінік Луцэвіч, у 1880 г. паступіў служыць на Паморшчынскі спіртзавод да Эдмунда Здзяхоўскага. Сям'я пакінула Паморшчыну і пераехала ў *Вязынку* (цяпер Маладзечанскі р-н) за шэсць месяцаў да нараджэння паэта. Будынак спіртзавода захаваўся.

**Пас. Першамайскі** Бабровіцкага сельсавета

**Глінская Людміла** (н. 22.2.1961), паэтэса, літаратуразнавец, родам з гэтага пасёлка. Скончыла Ракаўскую СШ, філфак і аспірантуру БДПУ імя М. Танка, дзе выкладае цяпер беларускую літаратуру. Аўтар зборніка вершаў «Летуценні» (2001). Напісала «Песню пра Ракаў».

**Вёска Пральнікі** Падневіцкага сельсавета

Бібліятэка імя **Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча**.

**Вёска Пугачы** Залескага сельсавета

**Шніпа Віктара** (н. 26.3.1960), паэта, перакладчыка, радзіма. Дзяцінства прайшло ў недалёкай вёсачцы *Лягезы*, на беразе Яршоўкі. Закончыў Пугачоўскую васьмігодку, тады ж атрымаў са «Звязды», ад Міколы Гамолкі і Алеся Траяноўскага, «першы сур'ёзны водгук»

на свае вершы, пасланыя туды. Вучыўся ў Мінскім архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме. Працаваў літкансультантам часопіса «Нёман». Закончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1987). З таго ж года — у часопісе «Беларусь». З 1991 г. — адказны сакратар газеты «Наша слова». З 1995 г. па 2004 г. — намеснік галоўнага рэдактара, галоўны рэдактар штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». З 2004 г. — намеснік, галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура». Друкуецца з 1977 г. Аўтар кніг паэзіі «Гронка святла» (1983), «На рэштках храма» (1994), «Выкраданне Еўропы» (1996), «Воўчы вецер» (2001), «Інквізіцыя» (2002), «Выратаванне атрутай» (2003) і інш., кніг для дзяцей «Сунічкі для Веранічкі» (1995), «Наш Максім гаворыць: «Гу!» (1999). Лаўрэат прэміі імя Уладзіміра Маякоўскага (1987), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2007), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2008) за выдатныя творчыя дасягненні, кнігу паэзіі і прозы «Страла кахання, любові крыж». Родным мясцінам, Пугачам і Лягезам, прысвяціў некалькі вершаў. Муж пісьменніцы **Рублеўскай Людмілы**, якая нарадзілася ў *Мінску*.

**Вёска Пяршаі**, цэнтр сельсавета

У Пяршайскай СШ у верасні 1961 г. адкрыты музей **Дуніна-Марцінкевіча Вінцэнта**. У фондах больш за 1,5 тыс. экспанатаў, у т. л. каля 1 тыс. арыгінальных.

У вёсцы летам 1910 г. пабываў **Ядвігін Ш**. (сапр. Лявіцкі Антон), пісьменнік, ураджэнец в. *Добасна* Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл., апісаў іх у «Лістах з дарогі» («хаткі вясёленькія», «мова беларуская трымаецца яшчэ добра»).

**Вёска Пярэжары** Ракаўскага сельсавета

Тут нарадзіліся паэты і публіцысты **Рагойша Кастусь** (1921 — відаць, 15.10.1964, Ангарск у Сібіры) і **Антось** (25.1.1925—18.3.2007, Гродна), якія працавалі педагогамі. Іх брат Пётр — бацька літаратуразнаўцы **Рагойшы Вячаслава**, ураджэнца в. *Ракаў*. Апошні выдаў іх спадчыну ў кн. «Нам сняцца сны пра Беларусь» (Мінск, 2008).

**Стахоўскага Кастуся** (1885 — каля 1950), рускага пісьменніка, радзіма. Скончыў у Ракаве царкоўнапрыходскую школу і рамеснае вучылішча. У Вільні перакваліфікаваўся на машыніста. Працаваў у Вільні на Лібава-Роменскай чыгунцы. Уступіў у сацыял-дэмакратычную партыю. Удзельнік рэвалюцыі 1905—1907 гг. Быў арыштаваны і высланы ў в. *Пярэжары* пад нагляд паліцыі. Уцёкшы ў 1907 г., эмігрыраваў у ЗША. Тройчы прыязджаў на радзіму — у 1928, 1935, 1938 гг. Аўтар кніг «Аповесць амерыканскага халасцяка» (1936) і «Моль худая і моль тлустая» (1939).

**Вёска Ракаў**, цэнтр сельсавета

14—18 жніўня 1908 г. **Ажэшка Эліза** разам з Т. Бохвіцам і М. Абрэмскай была ў Ракаве ў Здзяхоўскіх. Там яе чакалі разам з гаспадарамі К. Скірмунт, Г. Друцкі-Любецкі і інш. як ідэолага «шляхетчыны». Самым моцным уражаннем ад гэтай паездкі ў Ажэшкі застаўся сам Ракаў, які пісьменніца назвала «літоўскімі Афінамі», ды яшчэ букет незабудак, што сабраў для яе на дарозе пан Тадэвуш.

**Гарадніцкага Яўгена** (н. 20.7.1951), літаратуразнаўца, радзіма. З сям'і служачых, якая жыла на Радашкоўскай (цяпер Чырвонаармейскай) вуліцы па суседству з *Уры Фінкелем*. Скончыў Ракаўскую СШ (1968) і філфак БДУ (1977). У прамежку служыў у арміі. З 1978 г. у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар кніг «Думка і вобраз» (1986), «Сучасная паэзія і фальклор» (1988, у сааўтарстве), «Мастацкі свет беларускай літаратуры XX ст.» (2005). Жонкай Я. Гарадніцкага была літаратуразнавец **Чабан Тамара,** ураджэнка в. *Чарневічы* Глыбоцкага р-на Віцебскай вобл., якая пахавана ў Ракаве.

**Здзяхоўскага Казіміра** [псеўд. Уладзімір Здора; 14(26).3.1878—4.8.1942], польскага пісьменніка, радзіма. Скончыў Мінскую гімназію і Маскоўскі універсітэт. Жыў і працаваў у Ракаве. Аўтар раманаў «Перамены» (1906), «Зарыва» (1908), «Апора» (1912), «Крэсы» (1920), «Злачынства» (1922). Загінуў у Асвенціме.

**Здзяхоўскага Мар'яна** [30.4(12.5).1861—5.10.1938], польскага літаратуразнаўца, філосафа, палітолага, публіцыста, радзіма. Вучыўся ў Пецярбургскім і Дэрпцкім універсітэтах (1879—1883), стажыраваўся ў Заграбе і Жэневе (1883—1884). Прафесар Ягелонскага (1899—1919) у Кракаве, прафесар (1920—1931) і рэктар (1925—1927) Віленскага універсітэтаў, сябар Польскай (з 1902) і Венгерскай (з 1928) акадэмій навук. Заснавальнік і старшыня Славянскага клуба ў Кракаве (1901—1912). Аўтар больш як 20 манаграфій, прысвечаных польскай, рускай, заходнееўрапейскай літаратурам, сувязям польскай культуры з усходне- і паўднёваславянскімі культурамі. Перапісваўся з **Талстым Львом.** Паслаў 9 лістоў, на 4 з іх месцам адпраўкі пазначаны Ракаў Мінскай губерніі. Перапіска з перапынкамі працягвалася да 1908 г. Некаторыя лісты змешчаны ў зб. «Люблю наш край…» (2006).

**Пясецкі Сяргей**, польскі празаік, ураджэнец г. *Ляхавічы* Брэсцкай вобл., прысвяціў Ракаву прыгодніцкі раман пра кантрабандыстаў «Каханак Вялікай Мядзведзіцы», які вылучаўся на Нобелеўскую прэмію.

**Рагойшы Вячаслава** (н. 5.6.1942), крытыка, літаратуразнаўца, паэта, перакладчыка, радзіма. Доктар філалагічных навук, прафесар, акадэмік Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі. Скончыў БДУ (1963). З 1967 г. — на кафедры беларускай літаратуры БДУ. З 1988 г. — у Інстытуце паліталогіі і сацыяльнага кіравання, у 1991—1994 гг. — намеснік дырэктара ННАЦ імя Ф. Скарыны. З 1994 г. — у БДУ, загадвае кафедрай тэорыі літаратуры на філфаку. Аўтар бібліяграфічнага даведніка «Працы кафедры беларускай літаратуры БДУ» (1968), складальнік (з А. Лойкам і С. Александровічам) хрэстаматыі «Беларуская літаратура XIX ст.» (1971), анталогіі «Люблю наш край...: Валожыншчына літаратурная» (2006), даследаванняў «Паэтыка Максіма Танка» (1968), «Карані дружбы. Беларуска-ўкраінскія літаратурныя ўзаемасувязі пачатку XX ст.» (1976), «Паэтычны слоўнік» (1979, 1987, 2004), «Пераклаў Якуб Колас...» (1971), «Напісана рукой Купалы» (1981), «Кантакты» (1982), «Слядамі знічкі: Пра Сяргея Палуяна» (1990), «Вяршыні...» (1991), «Там, дзе бруіцца Іслач...» (1991), «Слоўнік-мінімум па літаратуразнаўству» (2000), «Тэорыя літаратуры ў тэрмінах» (2001), кнігі вершаў «Полюс цяпла» (2007) і інш. Уклаў кнігі «Год беларуса «Старога Уласа» (1990), анталогію «Люблю наш край...: Валожыншчына літаратурная» (2006). У сваёй хаце ў Ракаве разам з жонкай *Кабржыцкай Таццянай*, кандыдатам філалагічных навук, якая нарадзілася ў 1941 г. у Кіеве, сталела ў Львове, а працуе ў Мінску, стварыў Музей поліэтнічнай культуры Ракаўшчыны, дзе шырока прадстаўлена літаратура Валожыншчыны, беларуска-ўкраінскія сувязі, праводзіць краязнаўчыя канферэнцыі «Ракаўскія чытанні» (з 1996 г.), выдае газету «Ракаўскі шлях» (з 2000 г.). Лаўрэат Міжнароднай літаратурнай прэміі імя Івана Франко (2000). Узнагароджаны медалём Францыска Скарыны, ганаровым знакам «Выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь». Кіраўнік Міжнароднага фонду Янкі Купалы і іншых навуковых і грамадскіх арганізацый. Дзядзькамі В. Рагойшы з'яўляюцца паэт *Рагойша Кастусь* і эсэіст *Рагойша Антось*, родам з *Пярэжараў*, чые творы ён выдаў у кнізе «Нам сняцца сны пра Беларусь» (2008).

**Рыч Вера**, англійская паэтэса, удзельніца «Ракаўскіх чытанняў» (1998), прысвяціла свой акраверш Ракаву.

**Фінкеля Уры** (8.10.1896—5.12.1957), крытыка, літаратуразнаўца, класіка яўрэйскай літаратуры, радзіма. Нарадзіўся ў сям'і рэзніка. Вучыўся ў політэхнічным вучылішчы ў Харкаве (1915—1917), на філфаку Маскоўскага універсітэта (1918—1919). Працаваў інструктарам у Наркамасветы РСФСР. У 1920 г. удзельнічаў у грамадзянскай вайне як ваенны журналіст. З 1921 г. — літработнік выдавецкага аддзела Наркамасветы БССР, з 1922 г. — у рэдакцыях газет у Мінску. У 1926 г. здаў экстэрнам экзамены за літаратурна-лінгвістыч-

нае аддзяленне БДУ, у 1931 г. скончыў аспірантуру пры АН БССР. Выкладаў у Мінскім педагагічным інстытуце (1930—1938). Друкаваўся з 1918 г. Пісаў пераважна на яўрэйскай мове. Аўтар біяграфічных кніг пра класікаў яўрэйскай літаратуры: «А. Гольдфадэм» (1926, разам з Н. Айслендарам), «Мендэле Мойхер-Сфорым» (1937, на бел. мове ў 1940), «Шалом-Алейхем» (1938, на бел. мове ў 1939). Тыраж кніжкі пра М. Гордана знішчаны ў 1941 г. фашыстамі. Аўтар артыкулаў пра М. Дабралюбава, В. Бялінскага, Я. Купалу, Я. Коласа, З. Бядулю, гісторыка-этнаграфічных нарысаў пра П. Шэйна, М. Нікольскага і інш.

**Янушкевіч Язэп** (н. 7.3.1959), літаратуразнавец, нарадзіўся ў Ракаве ў сям'і служачых. Кандыдат філалагічных навук. Вялікі ўплыў на фарміраванне асобы Я. Янушкевіча аказаў яго старэйшы брат Фелікс, цяпер вядомы беларускі мастак — іх намаганнямі ў бацькоўскім доме быў створаны музей. Маці будучага літаратуразнаўца навучыла яго чытаць у арыгінале творы польскіх класікаў. Закончыўшы Ракаўскую СШ, вучыўся на беларускім аддзяленні філфака БДУ (1976—1981). З 1985 г. — навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры НАН Беларусі. Працаваў у архіўнай службе. Праводзіў пошукі ў бібліятэках Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны. Апублікаваў арыгінал «Пінскай шляхты» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, адзін з ініцыятараў правядзення яго года (2008). Аўтар кніг «Беларускі Дудар: Праблемы славянскіх традыцый і ўплываў у творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча» (1991), «У прадчуванні знаходак» (1994), «За архіўным парогам: Бел. літ. XIX—XX ст. у святле арх. пошукаў» (2002), «Дыярыюш з XIX стагоддзя: Дзённікі М. Галубовіча як гіст. крыніца: Да 200-годдзя з дня нараджэння В. Дуніна-Марцінкевіча (1808—1884)» (2003), «Святыня над Ісláччу: Ракаўскі касцёл Маці Божай Ружанцовай: гісторыя, дакументы» (2004), «Зямля ксенатафаў» (2003).

* * *

За 1,5 км ад Ракава (налева ад дарогі на Душкава) ў засценку жыў **Асінскі Марцыян** (памёр у 1960 г.), які сустракаўся і перапісваўся з **Талстым Львом.** Адзін ліст захаваўся ў яго ўдавы.

**Дом творчасці «Іслач» імя В. Дуніна-Марцінкевіча пад Ракавам**

Адчынены ў канцы 1986 г. (архітэктар — Сяргей Ключановіч). Рашэнне прэзідыума СП БССР аб наданні імя **Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча** было прынята ў ліпені 1987 г. Тут адпачывалі многія беларускія і замежныя пісьменнікі, якія прысвяцілі «Іслачы» свае творы. А **Рагойша Вячаслаў** выдаў пра гэты Дом творчасці кніжку. Цяпер Дом творчасці перайшоў у прыватныя рукі.

**Вітка Васіль**, паэт, ураджэнец в. *Еўлічы* (цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл.), прысвяціў гэтаму месцу вершы «Над Іслаччу ў соснах» і «Іслач».

**Каржанеўская Галіна** напісала пра Дом творчасці верш «Ракаў» (Полымя, 1988, № 9).

**Сачанка Святлана**, паэтэса, прысвяціла Дому творчасці верш «Іслач» (Маладосць, 1990, № 10.)

**Скарынкін Уладзімір**, паэт, ураджэнец г. *Віцебска,* прысвяціў верш «На Іслачы». (Гл. зборнік «Выратавальны плыт». — Мінск, 1988. — С. 81).

***Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС***

***Працяг у наступным нумары.***